# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ ПОЛІТЫКІ ЭКОНОМІКІ ГІСТОРЫІ КРЫТЫКІ

№ 1
1929



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА



УЛАДЗІМЕР ІЛЬЛІЧ УЛЬЛЯНАЎ-ЛЕНІН
(1870—1924)

*В. СЭРБЭНТА*

# НАШ СЬЦЯГ—ЛЕНІНІЗМ

*(Да 5 гадавіны з дня сьмерці Леніна)*

Найвялікшы чалавек эпохі пролетарскіх рэволюцый, геніяльны правадыр гэтай эпохі—Ленін пакінуў нам і наступным пакаленьням у спадчыну наймагутнейшую зброю рэволюцыйнага ператварэньня ўсёй грамадзкай структуры мінулага ў новы соцыялістычны строй. Гэтай зброяй зьяўляецца рэволюцыйная тэорыя пролетарыяту—ленінізм.

5 год ужо як Леніна няма. Але праз яго няўміручыя творы Ленін і сёньня, як жывы, зьяўляецца лепшым паказчыкам і ўказчыкам у асноўных пытаньнях нашага сёнешняга штодзеннага змаганьня і творчасьці. Больш за гэта. За апошнія гады соцыялістычнага будаўніцтва наша краіна, ідучы па заветах У. І. Леніна, надзвычай вырасла. Вырасьлі і сталі больш складанымі тыя задачы, што перад намі стаяць. Паявіліся новыя пытаньні і задачы. У асноўных сваіх рысах, яны ўсе, часта-густа нават у сваіх дробязях і часнасьцях, прадбачаны Леніным. У гэтым геніяльнасьць вялікага правадыра. Літаральна ніводнай галіны грамадзкай дзейнасьці ня было, дзе-б Ленін ня даў нам свайго ўказаньня. І іменна такога ўказаньня, якое, быццам магутны прамень вялікага прожэктару, кідае сьвятло далёка ў будучыню. Пры кожным павароце ў соцыяльных адносінах ён асьвятляе іх з новай сілай, дзейлівасьці якой мы дагэтуль не заўважалі ў вялікай спадчыне правадыра. Чытаньне і перачытваньне ленінскіх артыкулаў кожны раз, колькі-б мы іх ня чыталі, узбуджае ў нас новыя найкаштоўнейшыя мысьлі і з новай сілай падахвочвае да дзейнасьці, да змаганьня.

У пакінутай Леніным спадчыне закрануты, распрацованы, асьветлены ўсе грунтоўнейшыя пытаньні пролетарскай тэорыі. Грунтоўнейшыя і самыя глыбокія пытаньні філёзофіі, гісторыі, экономікі, організацыі, тактыкі і стратэгіі сусьветнай пролетарскай рэволюцыі ніводны вучоны, ніводны профэсар ці акадэмік, больш за гэта, усе яны разам не распрацавалі з такой глыбокай навуковасьцю, як гэта зрабіў Ленін.

Вялікі правадыр дасканала ўсьведамляў і паказаў, што толькі веданьне законаў грамадзкага разьвіцьця, разам з майстэрскім іх ужываньнем, дасьць магчымасьць пролетарыяту, які мае на чале жалезнага кіраўніка — добра зорганізаваную, дысцыплінаваную, згуртаваную партыю

зрабіць пролетарскую рэволюцыю, замацаваць яе і пабудаваць соцыялізм. Без рэволюцыйнай тэорыі, без вялікай клясавай сьвядомасьці пролетарскіх мас нельга ні зрабіць рэволюцыі, ні весьці краіну да перамогі соцыялізму.

Таму так упарта, так востра ставіў Ленін пытаньне аб павышэньні клясавай сьвядомасьці пролетарыяту, аб культурным тэорэтычным пад'ёме працоўных мас.

Самую клясавую сьвядомасьць пролетарыяту Ленін разумеў як сродак прыйсьці да дыктатуры пролетарыяту і праводзіць соцыялістычнае будаўніцтва, ідучы на чале ўсіх працоўных, усіх прыгнечаных і, у першую чаргу, на чале сялянства.

Проблема гегемоніі пролетарыяту так глыбока, як ніколі і нікім іншым, распрацована Леніным. „Хто зварачае ўвагу, наглядальнасьць і сьвядомасьць рабочай клясы выключна, ці хоць-бы пераважна, на яе-ж, той не соцыял-дэмократ",—пісаў Ленін у „Што рабіць?"

Кляса, якая ставіць перад сабой задачу рэволюцыйнага ператварэньня грамадзтва, ня можа замыкацца ў сабе. Яна павінна стаць авангардам, гегемонам, правадыром у адносінах да іншых соцыяльных груп, яна павінна ўмець перацягнуць на бок рэволюцыі адных, выкрыць, расслаіць другіх, адстараніць загадзя тых, хто на рэволюцыйным шляху акажацца клясавым ворагам. Адсюль ленінскае разуменьне сьвядомасьці пролетарыяту, як разуменьне клясавых суадносін, зьменлівых на кожным новым гістарычным этапе. „Самапазнаньне рабочай клясы неразрыўна зьвязана з поўнай выразнасьцю ня толькі тэорэтычных... вярней нават сказаць: ня столькі тэорэтычных, колькі па практыцы політычнага жыцьця выпрацаваных прадстаўленьняў аб узаемаадносінах *усіх* (курсыў Леніна) кляс сучаснага грамадзтва". Ленінская пастаноўка пытаньня аб сьвядомасьці пролетарыяту выходзіць ня толькі з усьведамленьня інтарэсаў сваёй уласнай клясы. Абмежаваньне сьвядомасьці пролетарыяту *толькі* ўсьведамленьнем сваіх уласных інтарэсаў „глыбока шкодна і глыбока рэакцыйна па сваім практычным значэньні",—кажа Ленін, налягаючы на гэта „толькі". „Сьвядомасьць рабочых мас ня можа быць *сапраўды клясавай* (курсыў наш. *В. С.*) сьвядомасьцю, калі рабочыя на конкрэтных і прытым канечна надзенных (актуальных) політычных фактах і падзеях не навучацца наглядаць кожную з іншых грамадзкіх кляс *ва ўсіх праявах разумовага, моральнага і політычнага жыцьця гэтых кляс*" (курсыў наш. *В. С.*). І далей Ленін піша, што сьвядомы рабочы, член партыі „павінен ясна прадстаўляць сабе экономічную прыроду і соцыяльна-політычнае аблічча памешчыка і папа, саноўніка і селяніна, студэнта і басяка, ведаць іх моцныя і слабыя бакі, умець разьбірацца ў тых хадзячых фразах і ўсіх магчымых софізмах, якімі *прыкрывае* (курсыў Леніна) кожная кляса і кожны пласт свае эгоістычныя папаўзьненьні і сваё сапраўднае „нутро", умець разьбірацца ў тым, якія ўстановы і законы адбіваюць і як іменна адбіваюць тыя ці іншыя інтарэсы" (Ленін. Збор твораў, т. III, стар. 146—147).

Полымя 1929 № 1



Гэтыя задачы, якія Ленін ставіў перад сьвядомым рабочым, перад партыяй бальшавікоў і кожным яе паасобным членам пры закладаньні фундаманту партыі, застаюцца ў поўнай сіле і сёньня, калі мы ўжо 5 год бяз Леніна робім яго вялікую справу. Мы ідзем пад сьцягам ленінскай тэорыі. Ленінізм стаў ядына правільнай навукай соцыялістычнага будаўніцтва і сусьветнай пролетарскай рэволюцыі. Гэту навуку мы „павінны *вывучаць*", пад яе сьцягам падыходзіць да ўсіх надзенных практычных задач. Кожны сьвядомы будаўнік соцыялістычнага ладу ў 5 гадавіну сьмерці правадыра павінен падвесьці агулы выкананьня ленінскіх заветаў, павінен паставіць сабе пытаньне, як нёс ён ленінскі сьцяг, павінен уясьніць сабе тое асноўнае, на што цяпер трэба зьвярнуць больш за ўсё ўвагі надалей. Павінен стаць паленінску сьвядомым, г. зн. улічыць усе тыя зьмены ў клясавых суадносінах, што адбыліся за 5 год бяз Леніна, усе тыя зьмены ў экономіцы і палітычных умовах, каб знайсьці „тое зьвяно, за якое трэба ўчапіцца" для пераходу да вышэйшай ступені.

За 5 год бяз Леніна дыктатура пролетарыяту—гэта аснова асноў пролетарскай рэволюцыі—узмоцнілася далей па ўсіх лініях як ва ўсім СССР, так і ў БССР.

Адзін з вялікіх дапаможнікаў пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыяту—правільнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня. Соцыялісты вялікадзяржаўнай нацыі, які не бароніць „права прыгнечаных нацый на самавызначэньне, і іменна ў палітычным сэнсе слова, г. зн. права на палітычнае аддзяленьне",—пісаў Ленін у 1915 годзе,— „ёсьць шовіністы". З другога боку, „соцыялістыя *прыгнечаных* нацый", піша далей Ленін, „у сваю чаргу, павінны бязумоўна змагацца за поўнае адзінства *рабочых* прыгнечаных і прыгнятаючых народаў. Ідэя аддзяленьня аднэй нацыі ад другой ёсьць рэакцыйная ідэя" (т. XIII, I выд., стар. 108—109). Абарона гэткага вырашэньня нацыянальнага пытаньня з боку адных і другіх даводзіць да „болей выгодных для масы і больш адпавядаючых *экономічнаму разьвіцьцю* (кусыў наш. *В. С.*) „саюзаў паміж дзяржавамі", атрымаўшымі магчымасьць у пролетарскай рэволюцыі палітычна аддзяліцца. Ленінскае вырашэньне нацыянальнага пытаньня выходзіць, у першую чаргу, з інтарэсаў працоўных мас і для гэтых мас. Ленін выступаў супроць нацыянальна-культурнай аўтономіі, як рэакцыйнай ідэі. Затое з вялікім націскам ён зазначыў на патрэбнасьць дапамагчы больш адсталым народам падняцца экономічна. 5 год бяз Леніна ў БССР паказваюць ленінскую пастаноўку і ленінскі шлях у гэтым пытаньні. У БССР за апошнія гады разьвіцьцё соцыялістычнага сэктару прамысловасьці ідзе хутчэй, чым ва ўсім СССР. Валавая продукцыя прамысловасьці за 1927—28 год дала павышэньне на 20,9%, тады як у СССР мы маем 16,5%.

Колькасьць электрычных установак, Асінбуд, капітальныя ўклады ў прамысловасьць ставяць перад сабою задачу падняць прамысловасьць

Беларусі пры дапамозе Савецкага Саюзу да агульнага экономічнага ўзроўню з ўсімі іншымі братнімі рэспублікамі. І ў гэтым экономічным фундаманце для культурнага жыцьця і разьвіцьця пролетарыяту і працоўных мас Беларусі заключаецца асаблівасьць ленінскага разуменьня вырашэньня нацыянальнага пытаньня.

Быстры наступ соцыялістычнага будаўніцтва на капіталістычныя элемэнты ў вёсцы і ў горадзе, узрост колгасаў за апошняе пяцігодзьдзе амаль у 3 разы, значнае павышэньне таварнага абароту і яго ўдзельнай вагі па лініі коопэрацыі, па лініі дзяржаўнага гандлю разам з узростам таварнай часьці сельскай гаспадаркі паказвае на быстры тэмп соцыялістычнай рэконструкцыі пакуль яшчэ пераважна сельска-гаспадарчай Беларусі. Капіталістычныя элемэнты, якія балюча адчуваюць гэты наступ соцыялізму, кідаюцца ў апошні адчайны бой. Разгортваецца клясавае змаганьне па ўсёй лініі, і з асаблівай упартасьцю паміж кулаком ды беднатой, якая ідзе разам з пролетарыятам. Працоўнае сялянства об'ектыўна зацікаўлена ў тым, кабісьці за пролетарыятам у цесным саюзе.

Пролетарыят і яго авангард—комуністычная партыя—ніколі не баяліся клясавага змаганьня. Яго пролетарыят абвяшчаў адкрыта. З клясавага змаганьня сьвядомы пролетарыят чэрпаў свае сілы. Праз адкрытае змаганьне са сваімі клясавымі ворагамі партыя і пролетарыят заўсёды адваёўваў сабе прыяцеляў і саюзьнікаў сярод тых пластоў працоўных, якім капіталізм, буржуазія ня могуць прынесьці нічога, акрамя прыгнечаньня і зруйнаваньня.

У 5 гадавіну сьмерці правадыра, калі соцыялістычнае будаўніцтва і яго цяжкасьці выклікалі асабліва ўпартае супраціўленьне рэштак варожых соцыялізму кляс, мы павінны яшчэ больш ясна ўсьвядоміць завет Леніна: „рэволюцыйная кляса для ажыцьцяўленьня сваёй задачы павінна аўладаць *усімі* без наймалейшага вынятку, формамі ці бакамі грамадзкай дзейнасьці". А гэта зрабіць нельга без адчайнага клясавага змаганьня і, перш за ўсё, без вялікай клясавай сьвядомасьці клясы-гегемона—пролетарыяту. Гэтую-ж сьвядомасьць трэба разумець па-ленінску, г. зн. як дасканалае веданьне ўсіх кляс, і, у першую чаргу, сялянства. Рознымі, часамі зусім няпрыметнымі, шляхамі гэтыя клясы робяць уплыў на пролетарыят, адхіляюць яго часьці, паасобныя часьці яго партыі ад правільнага ленінскага шляху. Уменьне пад данай конкрэтнай формай пастаноўкі экономічных, політычных, у нас таксама культурных і нацыянальных пытаньняў, выявіць *сапраўдную* клясавую існасьць, „клясавы эгоізм", хістаньне дробнай буржуазіі, якая бывае і рэволюцыйнай і рэакцыйнай, і часьцей рэакцыйнай, чым рэволюцыйнай,—вось гэтае ўменьне, поўнае аўладаньне гэтым уменьнем і дзеяньне ў яе выніку—гэта тая вялікая задача, якую мы павінны выканаць, ідучы па шляху ленінскіх заветаў, пад сьцягам ленінізму.

Творы Леніна ёсьць найлепшая крыніца для гэтага.

ТАРАС ГУШЧА

# НА „СЬВЯТОЙ ЗЯМЛІ“

## I

Нічога добрага не спадзяецца Мар'янка, зачуўшы няроўны, перарывісты шум старога лесу. І здаецца, нічога асаблівага няма ў гэтым шуме. Проста гудзе лес, гудзе працяжна і густа, то заціхаючы, то ўзьнімаючыся ў сваіх грозных тонах. Але Мар'янчына вуха ловіць у гэтым шуме цэлую сымфонію рознастайных галасоў, поўных глыбокага сэнсу і значэньня. Яна толькі ня можа зразумець гэтага сэнсу, растлумачыць яго прытоеную існасьць, і ад гэтага ў яе сэрцы ўзьнікае непакой і трывога. Праўда, яе сэрца даўно ня ведае ні радасьці, ні таго, што людзі звычайна называюць шчасьцем, і душа яе ўстрывожана, прыгнечана, як-бы туды зышоў мрок. А калі задзьме гэты вецер з-за Круглага лесу і загудуць старадрэвіны-хвоі, прыгнуўшыся і працягнуўшы рукі-галіны, як-бы просячы ратунку, то непакой і нават страх яшчэ з большаю сілаю апаноўваюць Мар'янку. Была нейкая залежнасьць паміж гэтым бушаваньнем ветру і тымі падзеямі, што шлі за ім сьледам. Так прынамсі здавалася Мар'янцы.

Глядзіць Мар'янка, як мітусяцца хвоі, прыслухоўваецца да шуму, што ідзе з лесу. Часамі да гэтага шуму далучаецца глухое, здушанае бухканьне вады на рэчцы каля млына, дзе жыла раней Мар'янка.

Джу-джу-джу!

Прагрыміць у стаўку і заціхне, бо вецер, абагнуўшы крыло лесу, забягае лагчынкамі паміж узгоркаў на млын, падхопіць гэты шум вады і са злосьцю кідае на балота, каб пахаваць у густым хмызе. Тады Мар'янцы робіцца яшчэ цяжэй, бо шум вады каля млына болем праходзіць па яе душы, як нейкая дарагая страта.

Яна ўздыхае і пераводзіць вочы на свой хутар і на гэтую „Сьвятую Зямлю“, дзе хутар стаіць.

„Сьвятая Зямля!“.

Здаецца, горшай насьмешкі і прыдумаць нельга, бо на гэтай „Сьвятой Зямлі“ адбываюцца далёка не сьвятыя справы, і яны не даюць Мар'янцы ні жыцьця, ні спакою, лёгшы непраходным рубяжом паміж ёю і Амяльлянам. Яны разьбіваюць яе надзеі на людзкое жыцьцё і на нескладанае сялянскае шчасьце. Але Мар'янка яшчэ ня траціць веры, што Амяльлян адумаецца, паслухае яе і ня будзе рабіць таго, што

робіць, тулячыся ад людзей. Эх, каб ён слухаў яе, а не свайго бацьку! Цёмны чалавек Сьвірыд, яе сьвёкар, і яна так баіцца яго.

Сьвірыд, Амяльлянаў бацька,—хурман па профэсіі, і ня просты хурман, а панскі. У яго нават і постаць панская: паважны, з доўгімі вусамі, спушчанымі крыху ўніз. Ходзіць унурыўшыся, гаворыць мала, усё нешта мяркуе, думае. І погляд яго жорсткі, ня добры.

З гэтага хутарка відаць той маёнтак, дзе жыў раней Сьвірыд. Сьвірыдавага пана цяпер там няма. У адну позьнюю восень пранёсься такі вецер, што пазьдзімаў адгэтуль паноў, як пыл з дарогі ў засушлівае лета, і пагнаў іх на захад. І Сьвірыдаў пан мусіў кінуць свой маёнтак. Але час ужо быў небясьпечны. Ды Сьвірыд не пакінуў пана ў бядзе—памог яму перабрацца туды, дзе паном яшчэ жывецца вольна і выгодна а сам астаўся тут і астаўся ня з пустымі рукамі, бо Сьвірыд—чалавек ня дурны, і нюх у яго добры. Панюхаў ён гэты вецер і дазнаўся, што вецер ня шкодны і яму якраз на руку, у сьпіну яго падганяе. Панюхаўшы, вызначыў сабе адпаведную соцыяльную катэгорыю і з гэтай катэгорыяй пайшоў шукаць новага месца на сьвеце. Доўга шукаць ня трэба было: калі з хутара на „Сьвятой Зямлі“ відаць маёнтак, то з маёнтку відаць таксама і хутар. І ўбачыць яго лёгка: хутар стаіць на горцы, а каля хаты растуць высокія ліпы. Сам-жа хутар і зямля каля хутара належаць да касьцёлу. Вось чаму і называецца яна „Сьвятою Зямлёю“. На гэтым хутары і спыніўся Сьвірыд. У Сьвірыда ёсьць і знаёмства сярод асоб касьцельнага круга. І гэтыя асобы—людзі спрытныя і таксама з добрымі насамі. Яшчэ не пасьпела, як мае быць сформавацца новая ўлада, а яны ўжо патрапілі організаваць касьцельны камітэт, каб замацаваць „сьвятую“ зямлю за „сьвятою“ комунаю. Сьвірыдава соцыяльная катэгорыя памагла яму асталявацца на „Сьвятой Зямлі“. А к таму часу яго сын Амяльлян ажаніўся з Мар‘янкаю.

Мар‘янка—дачка мельніка. Была яна дзяўчына рухавая, з прыгожымі, як ільняны цьвет, вачамі і з чорнымі брывямі. Працавала ў бацькі на гаспадарцы і з дзявочым замілаваньнем хадзіла каля кветак у гародчыку пад вокнамі хаты. Выходзячы замуж за хутараніна, радавалася, што будзе гаспадыняю на сваёй гаспадарцы. Ды ня вышлася так, як думалася.

У першае-ж лета, калі Сьвірыд пачаў гаспадарыць на зямлі, ён пабачыў, што дзяржаць у руках плуг зусім ня тое, што дзяржаць лейцы, седзячы на панскай брычцы, і махаць касою аказалася шмат цяжэй, чым пугаю, з шыкам вязучы пана.

Адвёў тады Сьвірыд вочы ад „Сьвятой Зямлі“ і стаў аглядаць яе цёмныя закуткі. Такіх закуткаў знайшлося тут ня мала. З аднаго боку лес, малады і стары, з другога—поле, парэзанае на вузкія палоскі. За полем ізноў лес, пануры, яловы. А рэшта „Сьвятой Зямлі“ агортавалася балотамі з вывернутымі карчамі, выглядаўшымі нячыстаю сілаю, з густым хмызам, лам‘ём, бярэзьнікам і лазьняком. Месца зацішнае, глухое, прыхаванае ад людзкога вока.

## II

— Слухай, Амяльлян,—гаворыць да сына Сьвірыд, а сам на яго не глядзіць:—зьбярыся вечарам, ідзі да Броніся Гамыры. Толькі як добра сьцямнее.

Па бацькаваму твару Амяльлян бачыць, што справа тут на палавіну зроблена.

Бацька і сын стаяць у ямцы за клуняю пад аховаю маладой дзікай грушы. Перад імі ляжыць балота з густымі зарасьлямі. З балота пазіраюць на іх карчы цёмнымі плямамі, узьняўшы лапы і раскінуўшы доўгія хвасты-карэньні. І погляд іх, здаецца, надзвычайна ўважлівы, як-бы прыслухваюцца да гаворкі Сьвірыда і Амяльляна. Можа ім цікава пачуць ад людзей тую гаворку, якой даўно чакаюць ад іх нашы балоты. Але Сьвірыд і Амяльлян гавораць ціха... Не, ня тая гэта іх гаворка! І балота глядзіць маркотна-панура.

— „Скакалу“ перапраўляць?—пытае Амяльлян.

— Шарганулі гладка, і сок не пацёк,—гаворыць Сьвірыд.

— А на колькі тавар?—цікавіцца Амяльлян.

— Як на царскія, рублёў пяцьдзесят ды яшчэ дзьвесьці.

— Ну?—радасьць і зьдзіўленьне Амяльлянава чуваць у гэтым „ну“.

— Ты толькі глядзі, каб не засыпацца. А Калюгу лепей абмінуць.

— Праз Доўгі Брадок сьвісьнем.

— Во, во!

Гавораць яны ня зусім зразумела, але разумеюць адзін другога вельмі добра.

— Да з гэтаю сваёю разьмазьнёю гавары меней,—перасьцерагае Сьвірыд сына. Нічога не адказвае на гэта Амяльлян, толькі па чарзе высморквае ноздры. З жонкаю, прызнацца, ёсьць такі клопат. Прыходзіцца таіцца ад яе, лгаць ёй, але гэта яшчэ не такая бяда—цяжэй лгаць так, каб яна не падкапалася, каб гэтае лганьнё было падобна на праўду. І нарэшце ўсё гэтае хітраваньне яму абрыдла, і ён сьледам за бацькам абрываў яе злосна і груба, калі яна пачне дапытвацца і дахадзіць праўды.

З некаторага часу Мар'янка заўважыла, што яе сьвёкар і Амяльлян аб чымся шушукаюцца, стараючыся схавацца ад яе. А тут яшчэ пачалі даведвацца сюды розныя людзі, малазнаёмыя і няпэўныя, а калі Мар'янка і знала каго, то знала, як людзей, з якімі лепей зусім ня знацца, як і вось гэты самы Гамыра—ліхі чалавек. Зьвяжыся з ім—дабра ня будзе. Мар'янка чуе адзіноту сярод усяе гэтае кампаніі. Яна ведае, што яна лішняя і непатрэбная тут і што дарогі іх зусім розныя.

Амяльлян уваходзіць у хату. Мар'янцы нічога не гаворыць, толькі зрэдка зьвернецца з запытаньнем, дзе тая ці іншая патрэбная рэч. І ў той-жа час ён адчувае на сабе жончын погляд. Ад гэтага погляду яму робіцца не па сабе.

— Чаго ты так глядзіш на мяне, як-бы я ўкраў у цябе што?—ня выцерплівае Амяльлян.

— Ня добра ты робіш, Амяльлян!

Мар'янка цяжка ўздыхае. У яе голасе чуваць затоены боль.

— А што я раблю?—Амяльлян крута паварочваецца да жонкі і глядзіць на яе ў упор.

Ён ведае, што гэты грозны погляд яго наводзіць на яе страх і змушае замаўчаць. На гэты-ж раз яна ня змоўчвае.

— Амяльлянка, міленькі, залаценькі! Адумайся ты! Што ты робіш? На што наважыўся ты? Жыві, як людзі... Ці табе работы няма на гаспадарцы? Куды ходзіш ты і дзе прападаеш?.. Не ганяйся ты за лёгкім хлебам і ня рэж ты мне сэрца!.. Паслухай мяне, адступіся ты ад гэтае шайкі!

І хватае яго за рукі, як-бы за тым, каб не дапусьціць іх да злачынства.

Амяльлян ад нечаканасьці прыходзіць у замяшаньне. Ён нейк зразу заціхае, як-бы ашаломлены. Яму нават шкода стала Мар'янкі, а разам з гэтым яму робіцца чагось страшна. Цэлы клубок усялякіх пачуцьцяў варушыцца ў ім. Нарэшце яго пашыбае злосьць.

— Адстань, зараза,—уб'ю!

І вырывае рукі з яе рук.

— Ня пушчу! Ня пушчу! Забі мяне, ня пушчу!

Сьвірыд чуе з двара крык у хаце. Зразу дагадваецца, у чым там справа, і злосна ідзе ў хату, спыняецца на парозе. Бачыць гэтае валтужаньне. Сьвірыд шчэмлівае зубы, згортвае кулакі і зьверам налятае на нявестку. У шалёнай злосьці кідае яе аб зямлю, таўчэ нагою, раз, другі.

— Пікні толькі мне, скажы хоць слова—задушу!—хрыпіць Сьвірыд, нахіліўшыся над маладзіцаю і прабіваючы яе дзікім зьвярыным зрокам.

Амяльлян адцягае разьюшанага бацьку. Мар'янка борзда ўстае і кідае сьвёкару:

— Душагуб, злодзей!

— Мар'янка, маўчы!—перасьцерагае яе Амяльлян.

— Ня буду маўчаць! Усім скажу, што ён душагуб і злодзей і цябе на зладзейства падвучае.

І кідаецца ў дзьверы.

— Куды, гадзіна?!—скрыгіча зубамі Сьвірыд і шпурляе нявестку ў другі кут хаты. Яна падае ў барахло дзесь каля ложка.

— Мар'янка, маўчы!—грозіць ёй ізноў Амяльлян:—не станавіся мне ўпоперак дарогі, не тваё гэта дзела, іначай—тут табе магіла!

— Ідзі, Амяльлян! я тут яе дагляджу.

Мар'янка кідаецца тварам у падушкі. Здушаны плач трасе яе ўсю.

Амяльлян борзда зьбіраецца, выходзіць з хаты. За ім ідзе і Сьвірыд. Абодва ўзрушаны і пануры.

— Плюнь на гэта,—адзываецца нарэшце Сьвірыд:—а правучыць яе ня шкодзіць.

— Не чапай яе болей,—панура адказвае Амяльлян.

Яны перастаюць гаварыць аб Мар'янцы і абмяркоўваюць свае справы.

Паволі падыходзіць вечар. Бясшумна засьцілаецца балота чорным покрывам цені. Заціхае лес, нібы да чагось прыслухоўваючыся, а гэтыя сем хвояў з краю лесу тояць нейкую многазначную ўсьмешку.

Амяльлян спускаецца з горкі, ідзе лагчынкаю, тулячыся поміж нізкіх бярозак і кустоў.

III

Лясьнымі дарожкамі, глухімі і цьмянымі, сунецца Амяльлян адзін, як воўк. Ён ідзе на Гамыраў хутарок. І розныя думкі лезуць яму ў галаву. У яго вачох стаіць Мар'янка ў розных постацях. Бачыць яе, як плача яна, заціснуўшы галаву ў падушкі. Яму неяк няпрыемна, і жаль да яе варушыцца ў яго сэрцы. Як-бы хтось збоку шэпча яму, што Мар'янка добрая жанчына і трэба яе паслухаць. Але Амяльлян не зважае на гэты голас. Ён стараецца давесьці сабе, што Мар'янка вінавата сама, бо яна дурная. Другая памагала-б табе, а яна толькі перашкоды робіць і замінае. Занадта ўжо законьніца вялікая... Ды што возьмеш з яе, калі апроч млына і мяшкоў з мукою нічога ня бачыла яна? Пабыла-б на вайне або паглядзела-б, як буржуёў гэтых трыбушылі, то іначай пазірала-б на рэчы. І які дурань жыве па закону? І што такое закон? Праўда, што яго прыдумалі хітрыя і дужыя, каб стрыгчы дурных і слабых.

Амяльлян пачынае разважаць, каб апраўдаць тую справу, за якую нядаўна яны ўзяліся. Ён ведае многа прыкладаў, як борзда людзі багацеюць, калі толькі яны ня сьпяць у шапку і прасьцей глядзяць на рэчы, адкінуўшы гэты дурны страх.

Амяльлян выходзіць на край лесу. Каля бітай дарогі стаіць вялізны пусты дом, даўно закінутая дача з цагляным падвалам. У гэтым падвале ня так даўно знойдзены трупы і людзкія косьці. Чые гэта трупы і як яны папалі сюды, ня ведае ніхто. Раз толькі ўночы, калі праходзіў па чыгунцы будачнік, чуў ён крык у гэтым цёмным падвале, а на Гамыравым хутарку заліваўся брэхам сабака.

Амяльлян мінае гэты дом.

Па другі бок дарогі ў лагчынцы пры лесе мільгае ў вокнах агоньчык. Тут і ёсьць Гамыраў хутар. Амяльлян аглядаецца і асьцярожна прабіраецца да хутарка.

Хрыплы і заядлы сабачы брэх сустрачае Амяльляна. Амяльлян чуе сьвіст, сабака перастае брахаць і толькі скавыча, круцячыся каля гаспадара.

Гамыра—чалавек ужо не малады, гадоў за пяцьдзесят, прысадзісты і карчавіты. Некалькі разоў яшчэ да вайны судзіўся за канакрадзтва.

Два разы яго моцна зьбілі сяляне, і гадоў дзесяць пасьля таго сядзеў ён ціха. А як пачалася разруха, ізноў выступіў на арэну і ня грэбаваў ніякімі спосабамі, дзе пахла пажываю. Наўперад трохі займаўся самагонам, але самагон мала цікавіў яго: папершае, было многа конкурэнтаў, а падругое, самагон занадта прымітыўны спосаб і мала выгодны. Ад самагону перайшоў да контрабанды, насіў з-пад граніцы польскі сьпірытус „Злоты клос". У яловым лесе быў у яго паграбок, дзе і хаваўся сьпірытус. Разам з гэтым займаўся і бандыцтвам, выходзячы на дарогу. Аграбіў аднаго доктара, абманам заклікаўшы яго да „хварога", і невядомага падарожнага адправіў на той сьвет. А калі бандытаў сталі лавіць і вынішчаць, Гамыра прыціх, а потым зноў вярнуўся да свае старое профэсіі, да канакрадзтва, організаваўшы яго належным парадкам і падабраўшы адпаведную кампанію.

Амяльлян і Гамыра сталіся каля хлява пад застрэшкам і ціханька абмяркоўваюць плян работы на гэтую ноч. Самае важнае ў гэтай рабоце—адвесьці каня пад граніцу, дзе Гамыра меў „пэўнага чалавека". Гэты „пэўны чалавек" і заплаціць ім грошы.

— Я пакажу табе, сынку, дзе конь, а ты яго павядзеш. Я буду чакаць цябе ў ляску каля Мураванага слупа. Там і грошы возьмем.

Яны ціха выходзяць з двара.

У лесе прыпыніліся, пасядзелі, бо яшчэ было трохі рана.

— Ну, пойдзем!

Некаторы час ідуць краем лесу, а потым зварочваюць на сьцежачку, ідуць без дарогі; Гамыра—папераде, Амяльлян—у двух кроках за ім, угнуўшы галаву і адводзячы рукамі галінкі, каб ня білі па твары. Праз поўгадзіны Гамыра спыняецца, глядзіць у цёмны ельнік, як-бы прыслухоўваецца ці разглядае месца. Амяльлян таксама глядзіць у ельнік, а потым пераводзіць вочы на Гамыру. „Няўжо нешта зьнюхаў, стары крумкач?—думае Амяльлян і мімаволі паддаецца страху.—Можа сяляне каравуляць іх тут, знашоўшы каня?"

Але думкі яго перабівае Гамыра.

— Тут,—гаворыць ён ціха і сунецца ў гушчар.

Ступаюць яшчэ колькі крокаў. Гамыра чыркае запалку.

У лесе ціха. Запалка гарыць спакойным агоньчыкам. У яго бляску на момант вынікаюць постаці злачынцаў, іх панура-суровыя твары, загнуты Гамыраў нос і срэбра жорсткай шчаціны на вусах і нябрытых шчоках, а навокала зьвешваюцца густыя яловыя галіны. Гамыра паднімае запалку вышэй і перад ім вынікае з мроку постаць ладнага каня і зараз-жа зьнікае ў цемры ночы і густых елак. Амяльлян заўважыў толькі масьць і высока задраную ўгару галаву каня, каб ня мог заіржаць і падаць аб сабе голасу.

Гамыра адвязаў каня, пагладзіў па крутой і пругкай шыі рукою знатака.

— Трыста рублёў на золата,—гаворыць Амяльляну, аддаючы яму каня.

— Вядзі, сынку!

Яшчэ прыпыніліся на кароткі час, і нарэшце Гамыра сказаў:

— Счакай трошкі, сынку, тут, няхай добра аціхне. Я пайду памаленьку і буду чакаць. Калі там што няладна, падам знак, а ты ўжо ведай, што рабіць.

— Ну, годзі ўжо!—сярдзіта гаворыць Амяльлян і адыходзіць з канём.

Гамыра сунецца ў мрок і зьнікае.

Жутка нейк зрабілася Амяльляну, калі астаўся з канём адзін у лесе. Застаяўшыся на месцы, конь нецярпліва кудысь памыкаўся, можа каб разьмяць сваё занямелае цела, а мо' каб вырвацца ад няпрошаных гаспадароў. Амяльлян супакойвае і гладзіць каня з лагодным шэпатам і сунецца з ім на лясную дарожку, мяркуючы дзе-б папасьвіць каня, каб прабавіць час у зацішным месьце. А сабакі на хутарох брэшуць так жудасна, што Амяльлянаў страх узрастае яшчэ болей.

IV

Чым больш глушэла ноч і заціхала зямля, тым спакайней станавілася Амяльляну. Ды чаго баяцца? Калі-б яго і сталі лавіць, то ўночы ён лёгка ўцячэ, а ногі ў яго шпаркія.

Покі дарожка вывівалася лесам, ён вёў каня на павадку. Бедная жывёліна паслушна ішла за ім, хватаючы на хаду траву, і лісьце арэшніку.

— Скнара, падла: і корму ня прынёс, а конь галодны стаяў.

Гэта ён так думаў аб Гамыру.

Вышаўшы з лесу, пусьціў каня ў авёс. Конь прагавіта хрумстаў збажынку, а Амяльлян разглядаўся і прыслухоўваўся.

З поўгадзіну папасьвіў каня, а потым выводзіць яго на дарогу, садзіцца вярхом і едзе.

Запусьціў каня рысьсю. Конь паслушны і лёгкі.

— З табою, брат, не прападзеш,—сам сабе пасьміхаецца Амяльлян і трэпле каня па пругкай крутой шыі.

Амяльлян агібае хутаркі і пасёлкі, выбірае глухія дарожкі і сьцежкі. Едучы, думае, ці зашоў на месца Гамыра, ці ўсё там добра.

Не даяжджаючы сажаняў сто да Мураванага слупа, Амяльлян злазіць з каня, вядзе яго ў кусты, прывязвае, а сам выходзіць на дарогу, разглядаючыся і прыслухоўваючыся. Ён чуе як-бы чыесь галасы, прыцішаныя, нясьмелыя.

— Фіў!—сьвіснуў Амяльлян.

— Фіў!—пачуўся адказны сьвіст у бок Мураванага слупа, і зараз-жа затухкалі чыесь крокі. Амяльлян стуліўся за бярозаю, углядаецца ў той бок.

— Гэ!—адрывіста і ціха гукае Амяльлян.

— Гэ, гэ!—яшчэ цішэй адказвае Гамыра.

Дзьве цёмныя постаці сунуцца па дарозе. Амяльлян выходзіць насустрэч. Усе трое спыняюцца.

— Ну?—пытае Гамыра.

Амяльлян паказвае ў кусты.

— Там.

— Нічога ня было ў дарозе?

— Ні бога, ні лысага чорта.

Амяльлян да некаторай ступені адчувае сябе героем і таму гаворыць з адценьнем заліхвацкасьці.

— З лысым чортам, сынку, не вытыркайся,—строга заўважае Гамыра:—добра, і дзякуй богу.—Ну, пойдзем.

— Ня будзем траціць часу, бо скора і разьвідніцца,—падганяе незнаёмы чалавек.

Амяльлян прыглядаецца да яго: ці ня Калман гэта, што да вайны трымаў крамку і меў патайны шынок?

— Здаецца, Калман?

— Ну?—адзываецца той.

— Нічога... Спрытны ты чалавек.

— Пхэ!—адказвае Калман і змаўкае, бо што сказаць на гэтую пустую заўвагу? А што Калман чалавек спрытны, то хіба гэтым будзе ён хваліцца? Каб і не хацеў, то спрытным зробішся тут.

Калман абыходзіць каня. Напрактыкаваным вокам акідае ўсю яго постаць. Потым бярэ за грэбень, пробуе зрушыць каня з месца. Конь стаіць, як укопаны.

— Конь—на дзіва! А бяжыць—пяруном смаліць! Вецер па завушшу сьвішча!—натхненна гаворыць Амяльлян.

— Го, конь! на заказ, браце, конь! Каму ня трэба—трыста рублёў на золата!

— Пхэ!—ківае галавою Калман.

Гэтае нявыразнае „пхэ“ можна тлумачыць і так і сяк.

— Што ты пхэкаеш? Гэты конь няварты трыста рублёў?—наступае Амяльлян.

— Выведзі на кірмаш, можа табе дадуць і чатырыста, — іранічна заўважае Калман.

— Па кірмашавай часьці гэта ўжо ты спэцыялісты.

— Мы-ж на трыста рублёх не стаімо,—заўважае Гамыра,—але-ж меркавацца трэба па тавару.

— Ой, браткі мае! цяпер гэтая справа так небясьпечна, так небясьпечна!—уздыхае Калман:—куды ні павярніся—і вочы іх і вушы іх!..

— Колькі-ж даеш!—пытае Амяльлян.

— Цана вядомая: пяць рублёў ад капыта.

— Гэта што-ж? выходзіць на брата дзесяць рублёў?

Выяўнае нездаваленьне чуваць у Амяльлянавым голасе.

— А дзесяць рублёў дзе валяюцца?

— Ну, гэта ты, васпане Калман, так сабе сказаў. Дзе-ж бачыў? трэба-ж такі і на тавар зважаць,—трохі крыўдзіцца Гамыра.

— Па дзесяць рублёў?!—шыпіць Амяльлян і насядае на Калмана.

— А на маю долю колькі прыдзецца?— у сваю чаргу пытае Калман:—вы-ж думаеце, што гэта лёгкая і простая справа? Палажыў у кішэню і пайшоў? Сьпірытусу бутэлька і з тою трэба хавацца, а то цэлы конь!

Калман горача гаворыць аб труднасьцях і небясьпецы.

— Дзесяць рублёў?!—перапыняе яго Амяльлян, павышаючы голас.

— Дзесяць рублёў,—стаіць на сваім Калман.

— На чорта-ж нам было трусіцца, ня спаць ночы?.. Дзесяць рублёў за такога каня! Як-жа цябе пасьля гэтага назваць? За што-ж мы кроў пралівалі? Буржавідзела ты сьвінячае! эксплёататар!—гарачыцца Амяльлян,

— Ну, як сабе хочаце.

І гэтыя страшныя словы не кранулі Калмана.

Нарэшце ўсё-ж такі вытаргавалі ў Калмана дзесяць рублёў золатам і невялікую надбаўку: бутэльку сьпірытусу на двух, а Амяльлян вымучыў яшчэ загранічны шарф—ён успомніў пра Мар'янку, а правесьці каня таксама рэч рызыкоўная.

## V

Шмат чаго перадумала Мар'янка за гэтую кароткую ноч, толькі-ж ня было з кім падзяліцца сваімі думкамі, бо яна тут адна, зусім адна. Асабліва адзіноцтва гэтае адчулася востра пасьля дзікай расправы з ёю ўчора вечарам. Застаецца адно з двух: або маўчаць, заціяўшы зубы, і аставацца тут, або кідаць усё ды ісьці, куды вочы глядзяць. Наняцца хоць за наймічку да чужых людзей: ніхто ўжо больш не пакрыўдзіць яе так, як пакрыўджана яна тут.

Ні да чога пэўнага ня прышла, аднак, Мар'янка ў сваіх думак, бо калі пачнеш думаць-гадаць, то заўсёды знойдзецца гібель перашкод... Эх, прасторны і шырокі сьвет, а чалавеку ў ім цесна!

Раненька паднялася Мар'янка і вышла на двор. Амяльлян яшчэ не вярнуўся, а Сьвірыд стаяў на горцы каля дзікае грушы і паглядаў на дарогу ў бок Круглага лесу. Угледзіўшы сьвёкра, Мар'янка бордзенька адвярнулася ў другі бок, каб ня бачыць гэтай ненавіснай постаці. Сьвірыд-жа, заўважыўшы нявестку, таксама, відаць, пачуў няпрыязьнь да яе і накіраваўся ў хмызьняк на балота. На хутары асталася адна Мар'янка. Яна ўздыхнула крыху вальней.

Сонца толькі-толькі выкочвалася з-за краю зямлі, утыкаючы агнявыя пучкі стрэл у проразі лесу. Хмызьняк на балоце, акроплены буйною расою і агорнуты цяністаю прохладзьдзю раніцы, яшчэ больш выдаваўся сваёю гушчынёю і поўнацеласьцю. З рэдзенькага ляска на тым-жа балоце даносілася маркотна-тужлівае кукаваньне зязюлькі. І поле, і лес, і балота, і празрыстыя прасторы надзем'я зьвінелі птушынымі галасамі, а ў гэтым звоне чулася сумятлівая паўната жыцьця.

Мар'янка стаяла, як прычарованая, атупелая і чужая гэтаму вясеньняму дню і гэтай шумнай радасьці зямлі, дзе на кожным пункце і ў кожны

момант біўся пульс жыцьця. Далёка за рэчкаю купаліся ў золаце праменьняў прыгожыя ўзгоркі, а з-за іх выбіваліся чубатыя голавы старых бяроз на Віленскім шляху.

Мар'янка ня ведала, за што ёй узяцца і што рабіць. Яна нават і ня думала аб гэтым. Па прывычцы ўзяла вядро і пашла пад калодзеж. Чарада кур, згледзіўшы гаспадыню і спадзяючыся пажывіцца каля яе, кінулася да яе з усіх канцоў двара, сакочучы на розныя галасы. Мар'янка як-бы крыху ачулася, паставіла вядро на дол і вярнулася ў хату, каб вынесьці курам з рэштак ад учарашняй вячэры. Пастаяла, покі куры падбіралі крошкі хлеба і бульбы.

З суседніх хутароў выганялі кароў на пашу. Мар'янка пашла ў хлеў, а пустое вядро так і засталося стаяць на дарозе да калодзежа. Яна хадзіла, варушылася, пынячы сякія-такія гаспадарскія справы, мысьлі-ж яе былі далёка і ад гэтага хутарка і ад гэтае работы. Пастушок Міхалка, з суседняе вёскі, дзе была замужам Мар'янчына сястра, стаяў каля варот, чакаючы, калі Мар'янка падоіць карову, і паглядаў на гаспадыню, зьдзіўлены яе засмучаным тварам.

— Дзе-ж, Міхалка, будзеш ты пасьвіць?—запытала, каб сказаць хоць што-небудзь і пачуць людзкі голас.

— Паганю ў алешнікі,—адказаў Міхалка і хвасянуў лёгенька разы два пугаю.

Пакарміўшы сьвіней і загатаваўшы ім зельля, Мар'янка зачыніла хату, павесіла замок на дзьверы, а сама вышла на сьценку, што цягнулася полем у бок тае вёсачкі, дзе жыла Мар'янчына сястра. Паліць-жа ў печы ня будзе: усё роўна ладу ў іх жыцьці няма. Яны жывуць па сабе, і да Мар'янкі ім няма ніякага дзела. Яна лепш сходзіць да сястры Каці, бо больш блізкага чалавека ў яе няма. Яе агарнуў такі горкі жаль, што яна прысела на мяжу і залілася сьлязьмі, закрыўшы рукамі твар, і цела яе траслося ад здушанага плачу.

Чаго яна плакала? Плакала, бо няма ёй тут месца, няма ёй долі, і ніякай прасьветліны ня відаць у яе жыцьці. Каму яна міла? каму патрэбна? І за чалавека тут ня маюць яе... Прапала жыцьцё, марна загублена маладасьць.

— Мар'янка!—пачула яна каля сябе знаёмы голас.

Яна ўся здрыганулася, але нічым ня выказала свайго хваляваньня: каля яе стаяў Амяльлян, а рука яго мякка апусьцілася на яе плячо.

— Чаго ты плачаш, дурная?

Ён прыблізіў свой твар да яе твару. Ад яго несла гарэлкаю. Мар'янка не парушылася, не аднімала рук ад твару.

— Ну, годзі, ня плач!

Амяльлян падсеў да яе і абняў яе за плячо.

— Адстань, Амяльлян!—ускінула рэзка плячом Мар'янка. Амяльлян памаўчаў.

Такія мінуты прымірэньня Мар'янцы вядомы. Яна кожны раз уступала Амяльляну, паддаючыся яго кароткім мужчынскім ласкам, каб потым зноў цярпець горкую крыўду і зьнявагу. Не, цяпер яна ня будзе ўступаць. Трэба так ці іначай выйсьці з гэтага тупіка, зрабіць нейкую зьмену ў жыцьці і адносінах да Амяльляна.

Амяльлян сядзеў колькі хвілін моўчкі. Маўчала і Мар'янка.

— Ты паглядзі, Мар'янка, што я табе прынёс. Думаеш я аб табе ня думаю?

Амяльлян дастаў з-за пазухі шарф і разгарнуў яго перад жонкаю.

Мар'янка глядзіць на шарф, але не бярэ яго. Твар яе спакойны і строгі. Ні сьледу радасьці.

Амяльлян абражан, але не паказвае гэтага.

— Гэта я табе прынёс. Паглядзі, які ён, вазьмі ў рукі—ня ўкусіць цябе.

— Дзе ты ўзяў яго?

— Дзе ўзяў, то ўзяў, але прынёс табе.

Мар'янка ўсьміхнулася.

— Мусіць лёгка дастаўся, што даруеш мне.

А потым дадала:

— І ў рукі яго не вазьму і насіць яго ня буду: ня трэба мне яго.

І Мар'янка адводзіць вочы ад шарфа.

Амяльлян глядзіць на жонку, вочы становяцца злымі.

— А што-ж табе трэба?

Гнеў чуваць у голасе Амяльляна.

— Мне трэба каб ты быў чалавекам, і мяне каб меў за чалавека, ды каб начамі не прападаў там, куды ня ходзяць добрыя людзі.

— А ты ведаш, дзе я прападаў?

— Ведаю.

— Дык шарфа не бярэш?

— Не, не хачу, ня трэба.

Амяльлян хватае шарф, камечыць яго і хоча рваць. Спыняецца, мяняе тон.

— Знойдзецца такая, што пryme і падзякуе.

Мар'янка нічога не гаворыць, устае і моўчкі ідзе сьценкаю ў бок чыгункі.

— Вернешся. Нідзе цябе чэрці ня дзенуць.

І Амяльлян ідзе на свой хутар.

## VI

Перш чым схаваць дзьве залатыя пяцёркі, Гамыра яшчэ раз паглядзеў на іх, нават лёгенька пашараваў іх адну аб другую і пагоцкаў у руцэ. Вось ліха ім—і малыя, падлы, а важкія. І ёсьць у іх нейкая сіла: глядзеў-бы і глядзеў на іх, проста вачэй не адводзіў-бы. І што цікава: іх вага павялічвае тваю ўласную вагу і прыводзіць у добры гумар.





І сапраўды, Гамыра адчуваў сябе вельмі добра: каня сплавілі гладка, выпілі таксама ня кепска. Гэтая ўдача і гэтыя залатыя кружкі прывялі Гамыру ў добры настрой. Некалькі разоў за гэты час жорсткая шчаціна яго нябрытых шчок ад'яжджала ў два бакі ад носа на крыльлях усьмешкі. Гэта былі мінуты адпачынку, мінуты ўзнагароды пасьля цяжкіх і небясьпечных турбот. Але няпрыметна гэтыя шчасьлівыя хвіліны скончыліся (ня век-жа і цягнуцца ім), і Гамыра ўвайшоў у звычайную каляіну свайго авантурніцкага жыцьця.

У Гамыры ўжо была, наўперад няясная, а потым больш выразная думка аб тым, што каб ён управіўся з канём адзін, то ў яго цяпер былі-б ня дзьве, а чатыры залатыя пяцёркі. Ды ўжо-ж гэтага ня вернеш. Але ў Гамыры ёсьць адна комбінацыя, дзе ён здолее абыйсьціся без памагатараў. Яго даўно ўжо цягнулі Папоўскія хутары, восемнаццаць вёрст адгэтуль. Ёсьць там добрыя коні. Над гэтаю комбінацыяй ён ужо трохі памазоліў галаву і зрабіў належную разьведку. Ён абмеркаваў і самы плян свайго паходу, абмазгаваў усе выпадкі, што маглі налучыцца яму ў гэтай справе.

Гадзіны за тры да заходу сонца цянькамі накіраваўся Гамыра на Папоўскія хутары, а апоўначы быў ужо на засадзе, вартуючы выганы і папары.

Ноч была цёмная, зорная і ціхая. Кожны гук далёка нёсься ў вільготным паветры, гулка аддаючыся ў Гамыравых вушах. Гукаў-жа гэтых, як сумыслу, было многа. Дзесь далёка сьвяціўся ў лесе агоньчык, і бляск яго то прабіваўся, то нікнуў у густой цемнаце. Відаць, каля агню мітусіліся людзі і засланялі яго сабою. „Напэўна які-небудзь гаспадар з хутара гоніць самагон“, дагадваецца Гамыра. Часамі адтуль даляталі прыцішаныя галасы. Злыя хутарскія сабакі пераклікаліся заядлым брэхам, жудасным і трывожным. Гамыра напружана ловіць гэтыя гукі і поўныя нейкай пагрозы шолахі ночы. Ужо некалькі разоў памыкаецца ён зрушыць з месца і прыступіць да справы. Яго ўвагу займае конскі храп і пазвоньваньне жалезнага пута. Напэўна-ж конь не благі, калі гаспадар спутаў яго жалезным путам. Гамыра намацвае ў кішэні напільнік, яшчэ раз аглядаецца, слухае. Час як-раз зручны. Конь наставіў вушы, высока падняў галаву, але зараз-жа заспакоіўся і захрумстаў траву. Трымаючы ў руцэ пута, каб ня так зьвінела, Гамыра напружана зашоргаў напільнікам. Работа была трудная, а рукі трасьліся ад страху. Конь не стаяў на месцы і падаваўся наперад, згрызаючы траву. Час ад часу Гамыра прыпыняў работу, слухаў. Пот з яго ліўся градам. Нарэшце жалезныя зьвеньні распаліся, і ногі каня былі вызвалены ад гэтых конскіх кайданоў.

Глухімі воўчымі сьцежкамі адыходзіўся Гамыра з канём, тулячыся ў кустох пры кожным падазрэнным шуме.

Ужо разьвіднілася, калі Гамыра адышоўся вёрст за пяць ад Папоўскіх хутароў. Цяпер Гамыра ехаў па бітай дарозе, напусьціўшы на сябе від

спакойнага чалавека. Часамі прыпыняўся, азіраўся і слухаў. Раз яму здалося, як-бы дзесь за ім ззаду затухкалі конскія капыты. Гамыра пагнаў каня. Зноў пачулася тухканьне цяпер шмат бліжэй. Азірнуўся Гамыра і задрыжэў ад страху: селянін бяз шапкі з ускудлачанымі валасамі віхрам імчаўся на шпаркім кані.

Уперадзе, трохі збоку, стралою нёсься кудлаты сабака!

— Злодзей! Злодзей! Канакрад! Вось ён! Дзяржы яго!—дзікім голасам крычаў селянін, малоцячы нагамі конскія бакі.

Сьцебануў тады Гамыра каня, каб задаць драла. Конь пад ім быў занадта грузкі і для верхавой язды не падаваўся. З кожным момантам пагоня была бліжэй. Бачыць Гамыра, што яго насьцігаюць, махнуў ён з каня і кінуўся ў лес, у кусты. „Покі будзе лавіць каня, я тым часам схаваюся“, мяркуе Гамыра. А з таго месца пачуліся яшчэ галасы. „Будуць лавіць!“ І дзікі страх ахваціў старога канакрада, і ён бег, на колькі хватала сілы. Сэрца яго калацілася моцна, ён увесь упарыўся, у горле перасохла. Прыслухаўся—кроках у сто ад яго загаўкаў сабака, як відаць, гонячыся па сьлядох.

— Кусі яго! кусі!—чуўся той-жа дзікі голас.

Гамыра зноў бяжыць, ды бегчы ўжо няма куды: яго нагнаў кудлаты сабака і пераняў яму дарогу. Адбіваючыся ад сабакі, Гамыра шыўся глыбей у хмыз. Азірнуўся—той самы селянін з ускудлачанымі валасамі як бура наганяе яго.

— Стой!

Гамыра зьмерыў яго вачамі: вораг яго шчуплы і кволы на від чалавек.

— Я стаю,—адказвае Гамыра і скаліць зубы. „Даць яму так, каб і не падняўся“, думае Гамыра і рыхтуецца сустрэць ворага. Момант, і Гамыра пачуў, што ён—малое дзіця ў руках гэтага шчуплага чалавечка. Жалезным абручом здушыў ён Гамыру, ускінуў яго на вышыню плячэй ды так гвазнуў аб зямлю, што ў Гамыры ўсё пацямнела ў вачох, і ён ня мог паварушыцца.

Ачнуўся Гамыра—каля яго злыя твары сялян. Яму кінулася ў вочы перарэзанае пута і напільнік, знойдзены ў яго кішэні.

— Браткі! пусьцеце, даруйце!

— Зладзюга!—зашыпеў каля яго злосны голас, і чыясь нага з усёй сілы таўканула яго ў твар.

Закружылася і мільгатнула неба ў яго вачох, і на яго глянулі страшныя вочы доктара, таго самага, што абманам завабіў у лес...

У газэтнай хроніцы таго часу было напісана:

„...знойдзен труп пажылога чалавека з усімі адзнакамі дзікага самасуду.

На шыі забітага знойдзена перапілованае жалезнае пута...“

## VII

— Чуў? на Папоўшчыне знайшлі забітага чалавека, а на шыі—перапілованае жалезнае пута.

Стары Сьвірыд здрыгануўся.

— І ведаеш хто гэта?—пытае Амяльлян, пазіраючы бацьку ў вочы.

— Гамыра?

— Гамыра.

Бацька і сын з хвіліну маўчаць.

— Дасьціпны быў чалавек.

— Дасьціпны, сынку. Залішне дасьціпны.

Аддаўшы гэты падатак памяці нябожчыка, Сьвірыд і Амяльлян завялі гутарку аб другім.

— Ну, а для нас можа і ляпей, што яго так укаюкалі, прынамсі, ніякага ня было сьледзтва,—заўважае Сьвірыд.

— Ну, гэта яшчэ невядома: ня можа быць, каб не запыталі аб яго компанейцах.

— Ты так мяркуеш?

— Да ўжо-ж без гэтага не абышлося.

— І пагналі-ж яго чэрці туды, каб яму зямля калом! Пасядзеў-бы, гад, трохі ціха.

Вестка аб сьмерці Гамыры моцна ўскалыхнула Сьвірыда і Амяльляна. Яна была для іх грознаю перасьцярогаю. Яны адразу прыціхлі і павярнуліся тварам да зямлі, да сваёй гаспадаркі. Цэлыя дні капаліся і соваліся каля дому, як самыя заўзятыя гаспадары. Але на душы ў іх было неспакойна, толькі аб гэтым гаварылі яны мала. Для іх было невядома, пры якіх абставінах забілі Гамыру і ці выказаў ён сваіх хаўрусьнікаў. І ўсе гэтыя першыя дні над імі вісеў страх і пагроза, што ў кожны час да іх завітае міліцыя.

— Калі, сьцеражы божа чаго, дапрос які будзе, ты, Амяльлян, ведай адно: знаць нічога ня знаю!

— Да ўжо-ж, вядома, хваліцца ня стану,—адказвае Амяльлян.

— Да слухай яшчэ: баюся гэтае твае кралі: не да нашага двара яна.

У Амяльляна былі і свае прычыны непакоіцца з-за жонкі, але ён ня выказаў іх і толькі заўважыў:

— Ну, чаго там баяцца бабы?

— Не сабака страшан воўку, а яго зьвяга. Разумееш, сынку?

І дадаў:

— Нешта цягацца пачала, дома не сядзіцца... Глядзі, Амяльлян, каб носа табе не нацягнула. Ня спускай ты яе з вока.

Амяльлян нічога не сказаў на гэта, але бацька заўважыў, што страла папала ў цэль.

Мар'янка-ж толькі што вярнулася на хутар. Амяльлян не пабег, ня кінуўся да яе, ня выказаў і цені радасьці, хоць яму і прыемна было адчуваць, што верх узяў ён і што Мар'янка ўсё-ж такі вярнулася. Не, Амяльлян не такі чалавек, каб падаць за бабаю—няхай бабы падаюць за ім: гэтага дабра на сьвеце не бракуе. У Амяльляна-ж і гонар ёсьць: Мар'янка абразіла яго тым, што адмовілася ад шарфа. Можа яна і добра зрабіла, што не ўзяла яго, бо загранічны шарф у хаце мог-бы нарабіць ня мала клопату ў такі час, калі кожны момант можна спадзявацца вобыску.

Мар'янка таксама нічым ня выказала таго, што было ў яе на душы. Наадварот, Амяльляну паказалася нават, што Мар'янка вышай задзірае нос і ніколечкі не зважае яго, Амяльляна. Што гэта значыць? Напэўна-ж ёсьць тут нейкая прычына? Ці завяла ўжо дружбу з кім? О, гэтыя бабы: сьцеражыся іх, як агню! Пад'едуць з такога боку, што толькі ахнеш.

Амяльляна пачынала забіраць злосьць і нецярпеньне. Яму хацелася як-небудзь завязаць з жонкаю гутарку. Некалькі разоў прайшоўся ён па тых сьцежках, дзе можна было зьнячэўку спаткацца з ёю. Падыйсьці-ж проста да яе было нейк нязручна, бо гэта значыла-б паказаць, што ён уступае, прызнае сябе вінным і хоча з ёю пагадзіцца. Супроць таго, каб пагадзіцца з жонкаю, ён ня мае нічога, асабліва цяпер, калі набралася столькі ўсялякіх сумненьняў і калі Мар'янка выяўна не зважае яго.

Як ні злаўчаўся Амяльлян, яму ніяк не ўдавалася зачапіць жонку так, каб не паступіцца сваім гонарам. Мар'янка нібы ведала яго патайныя думкі і ня йшла ім на спатканьне.

Тады Амяльлян зьмяніў сваю тактыку: хіба ён ня мае права запытаць сваю жонку, як грозны муж, дзе прападала яна гэты час? Хіба няма ў яго падставы прыцягнуць яе да адказу?

Наставіўшыся на такі лад, Амяльлян падкараўуліў Мар'янку і з выглядам грознага і пакрыўджанага мужа падыходзіць да яе.

— А я думаў, што ты ўжо ня вернешся, аж вышла на маё.

У Амяльлянавым голасе чуваць насьмешка. Ён загадзя абдумаў сваю гутарку. Наўперад ён пасьмяецца з яе, каб прынізіць яе і падняць свой гонар на належную вышыню. Няхай ня думае, што ён першы ідзе на ўступкі.

— Ну, гэта яшчэ невядома, як выйдзе на тваё,—адказвае Мар'янка, не падымаючы вачэй. Голас яе цьвёрды і спакойны. Яе адказ укалоў яго моцна.

— Дзе-ж гэта набралася такой фанабэрыі?

Амяльлян зразу адступае ад праграмы свае гутаркі.

— А ты хацеў-бы, каб я лістам слалася перад табою?

— Дзе цягалася? Гавары!—Амяльлян робіцца злым і зьвярынымі вачамі глядзіць на Мар'янку.

— А ты кажаш мне, дзе сам цягаешся? Дзе хацела, там і была, у цябе ня пытала.

— Ты нешта занадта паразумнела...

Далей Амяльлян ня вытрымлівае.

— З кім зьнюхалася?—і чырванее ад злосьці, гатовы разарваць жонку. Мар'янка спакойна вытрымлівае характар—годзі гнуцца і цярпець,—хоць там, у нутрах, усё кіпіць і калоціцца ад крыўды. Каб яшчэ балючай укалоць Амяльляна, усьміхаецца і кажа:

— Да ўжо-ж не з Гамырам!

Амяльлян раптам бляднее, зьбіваецца з тону і не знаходзіць, што казаць далей.

— Задушы гэтую гадзіну!—крычыць з-за дзьвярэй Сьвірыд і ўрываецца ў хату. Амяльлян перагараджвае бацьку дарогу. Бацька і сын момант валтузяцца і раптам палохаюцца, апускаюць рукі, нямеюць: на дварэ голасна забрахаў сабака і кінуўся к варотам.

## VIII

Нізенькі чалавечак сярэдніх гадоў, з чырвонаю бародкаю, з маленькімі цёмнымі вочкамі стаіць каля варот, стуліўшыся за шулам. Відаць, ня хоча заходзіць у двор, каб не папасьціся каму на вочы, але робіць від, што баіцца сабакі. Гэты маленькі чалавечак—Макар Гудзілка, адзін з хаўрусьнікаў Гамыры, заядлы контрабандысты і канакрад. Зачуўшы трывогу, ён прывалок сюды, каб схаваць у хмызе, цэлы пак заграничных скурак.

Сьвірыд адагнаў сабаку. Гудзілка быстра ўскідае неспакойныя вочкі, як-бы шчупае Сьвірыдавы мысьлі і стан яго душы.

— Здаецца, напалі на сьлед,—са страхам і таемнасьцю ў голасе гаворыць ён.

— Нядобра, Гудзілка, гудзеш,—заўважае Сьвірыд, і твар яго выцягваецца.

— Гуў-бы лепш, да няма чым. Даказаў хтось, няйначай... Чуў? Калмана забралі.

Сьвірыдаў твар выцягваецца яшчэ болей.

— Калі?—пытае апаўшым голасам.

— Вот у гэтую ноч.

— Гамырава работа, каб яго лепей былі пяруны забілі малога!

— Не, Сьвірыд, не кляплі на нябожчыка. Гамыра быў цьвёрды чалавек. Ды і ня было калі яму спавядацца: тым-жа таксама трэба хаваць канцы. Што-ж, пойдуць яны хваліцца: вось, моў, забілі мы злодзея, канакрада, ён у падзяку нам за сваю сьмерць выказаў Калмана, Гудзілку, Сьвірыда і Лыскуна? Не, браце, тут справа ня так стаіць, бо з усіх канцоў крумкачы ляцяць: заварушыліся мілітоны, як ганчакі, лётаюць пагранічнікі. Пашла такая катавасія, што хоць ты пад кіпець залезь. А што пачалі з Калмана, то гэта толькі даводзіць, што папалі ў самую цэнтру.

— А-а-а-х! заварваецца каша,—дзярэ патыліцу Сьвірыд. Жорсткія праклёны і град лаянкі сыплюцца з яго языка.

— Калі ўжо да Калмана дабраліся, то пішы прапала. Пераловяць усіх, як вераб'ёў на гнязьдзе... Як ты мяркуеш, Макар?

— Як ні мяркуй, а справа—дрэнь,—безнадзейным тонам адзываецца Гудзілка:—і трэба нам пагаварыць, каб трымацца аднаго хронту і не кляпаць адзін на аднаго... Бачыш ты, Сьвірыд: я ўсё думаю, што тут нехта свой капае яму, хтось такі, што ведае нашу хэўру, бо іначай і і быць ня можа.

„Мар'янка!" Як агонь, праносіцца ў Сьвірыдавай галаве, і ён ня чуе, што гаворыць Гудзілка. Яму робіцца горача. І як гэта яму, старому дурню, ня прышло ў галаву?!

—... К прыкладу, мяне спытаюць: „Судзіўся?" Я скажу: „так точна, гаспада таварышы судзьдзі, судзіўся!" Бо тут ужо запірацца няма чаго: папершае, сорак сьведак пакажуць, што я судзіўся да і ў паперах у іх гэта будзе запісана, а, падругое, судзіўся я пры цару. А ўсё, што было пры цару, цяпер скасована. І бывае так, што суд пры цару табе толькі ў руку, бо, значыцца, ты—забастоўшчык, прыгнечаная нацыя, вораг, значыцца, старому рэжыму...

Гудзілка захапляецца настаўніцкаю роляю саматужнага адваката, хоць больш гаворыць для ўласнага заспакаеньня, і вучыць, як трэба трымацца на дапросе, на судзе. Да Сьвірыдавага вуха далятаюць асобныя словы, абрыўкі сказаў. Ён нават не зважае, што яны пераходзяць у болей патайнае месца—так займае яго думка аб Мар'янцы. І тое, што выходзіла яна з хутара, яшчэ больш упэўнівае яго, што іх хэўру выказала яна... Ах, гадзюка, гадзюка!

А Гудзілка сваё гудзе:

— І трэба меру тут, браце, ведаць: дзе можна гладка салгаць—сып, а калі бачыш, што цябе ўперад загналі, кажы: несьвядомасьць мая рабоча-сялянская! А самае важнае—другога не капай: усё роўна карысьці табе ад гэтага ня будзе, а сам горш укачаешся.

— Дык ты мяркуеш—нехта свой?

Сьвірыд ня можа адкараскацца ад страшнай думкі—так яно ўсё на праўду падобна! Гэтая думка яго гняце і душыць, карціць, як вострая стрэмка ў целе. Ён хоча абмеркаваць, абсудзіць з Гудзілкаю. Гудзілка—прайдзі сьвет, стары арыштант, і нюх у яго востры.

— Ці маеш на ўвазе каго?—пытае Гудзілка, адразу мяняючы тон і настаўляючы вушы. Востранькія вочкі ўпіваюцца ў Сьвірыдаў твар.

— Не... так... А ці ня мог Калман зрабіць гэтага?

— Калман? ня думаю. Калі-б ён і выказаў, то ня так борзда. Калман—галава ня дурная, чалавек ён спрытны. Капаць без патрэбы сваю хэўру ня будзе: і пабаіцца і гэта яму нявыгодна. Перш чым зрабіць, ён дзесяць разоў падумае. Ты лепш кажы, Сьвірыд, каго падазраеш. Памяркуем—гэта вельмі важна. Можа выстукаецца што.

Сьвірыд крыху мнецца.

— Ведаеш, брат... Калі ты сказаў, што данёс хтось свой, то мяне як варам апарыла, і я адразу падумаў... сказаць страшэнна: на сваю нявестку! Я даўно чую ў ёй найлюцейшага ворага. Не спачувае яна... Колькі клопату было з ёю! Таіліся ад яе, як ад агню, як ад заразы... Апошнія два дні дома ня была. Сёньня толькі прывалаклася.

— Гм! Вось яно што!.. Запытаць трэба!

— Так яна табе і сказала!

— Трэба запытацца так, каб сказала.

Гудзілка робіцца жорсткі і злы.

— Напалохаць трэба. На зыхер узяць.

Да іх падыходзіць Амяльлян. Гудзілка і Сьвірыд змаўкаюць. Пераглядаюцца. Свірыд маргае Гудзілку. Гудзілкаківае галавою.

— Вось што, Амяльлян, — Гудзілка вострымі вочкамі ўядаецца ў Амяльляна: — твая Мар'янка — шпег. Яна садзіць нас усіх у падвал.

Амяльлян бляднее, мяняецца ў твары.

— Нажылі сабе цацку! — панура буркае Сьвірыд.

Амяльлян скрыгіча зубамі і цэдзіць:

— Агнём і жалезам вырваць у яе праўду!

Усе трое зьбіваюцца цясьней у кучку і аб чымся гутараць прыцішанымі галасамі.

— Ну, а што рабіць, калі праўда? — пытае Сьвірыд.

— Задушыць і болей нічога, — шыпіць Амяльлян.

— Не парэце гарачкі, — стрымлівае іх большураўнаважаны Гудзілка: — дайце дайці да праўды, а там будзе відней. Язык ёй трэба завязаць, гэта перш за ўсё, каб маўчала. Толькі гэта... пакуль што. А заварваць новую кашу ня трэба. Ты, Амяльлян, вартуй тут. А мы пойдзем дапрос учыняць. На зыхер возьмем, — канчае Гудзілка арыштанскім жаргонам.

Амяльлян астаецца на дварэ, а Гудзілка і Сьвірыд ідуць у хату.

## IX

Надвячорак.

Мар'янка стаіць каля акна.

З захаду насоўваецца хмара. Павявае вецер, пакалыхваючы хмыз на балоце. Журботна сьцелецца цень ад лесу, і сходзіць усьмешка дня з твару зямлі. Журботна і на сэрцы ў Мар'янкі. Не — тут няма жыцьця ёй і месца няма. Амяльлян усё далей і далей адыходзіць ад яе. Ці-ж ёй чакаць, покі выжануць яе вон, покі яе месца ня зойме другая?.. Страшна тут, і навокала страшна, а гэты хмыз на балоце пазірае так жудасна, і само балота як-бы замерла ў сваёй адвечнай зацятасьці. Жывая чалавечая душа не пакажацца тут, толькі шворацца нейкія злачынцы. Часамі чуваць тут стрэлы ды праімчыцца на кані пагранічнік... А аб чым гэта яны ўтрох намаўляюцца?.. Ідуць у хату!..

Мар'янка памыкаецца выйсьці з хаты, але ўжо позна.

Уваходзяць.

— Ну, маладзіца, прысядзь трохі: маю штось у цябе запытаць,— лагодненька пачынае Гудзілка.

Зірнуўшы на разбойніцкія твары Гудзілкі і Сьвірыда, Мар'янка ўся затраслася.

— Стань, Сьвірыд, тут, каля маладзіцы,—прыказвае Гудзілка, як нейкі начальнік,—а ты, маладуха, будзеш адказваць мне, што я запытаю.

— Помні, Мар'янка: справа тут ідзе не на жарты. Гавары толькі праўду,—папераджае Мар'янку Сьвірыд.

— Ня ўмешвайся, Сьвірыд, маўчы! Будзеш гаварыць, калі я скажу,— абрывае Гудзілка Сьвірыда і, зьвярнуўшыся да Мар'янкі, кажа:

— Паглядзі мне ў вочы!

Зьбітая з тропу, Мар'янка прыходзіць у поўнае замяшаньне: жарты гэта ці дзівацтва п'янага? Але іх зьверскія морды паказваюць, што гэта ня жарты.

— Ну, паглядзі мне ў вочы!

— На ліха ты мне здаўся, каб глядзець табе ў вочы?

— Мне праўда трэба, чуеш? праўда!—грыміць Гудзілка і стукае кулаком па стале.

— Якая праўда?—голас у Мар'янкіападае, сэрца стукае моцна-моцна.

— Куды хадзіла пазаўчора?—пытае Гудзілка і пранізвае яе злымі вострымі вочкамі.

— Хадзіла да сястры.

Воля яе зломана, і Мар'янка, шырока раскрыўшы вочы, адказвае, як сапраўднаму сьледчаму.

— Ага, да сястры... Дойдзем і да брата...

— Дык-жа няма ў мяне братоў!—простадушна прызнаецца ашаломленая Мар'янка.

Задаволены пачаткам сьледзтва, Гудзілка цярэбіць рэдкую бародку.

— Знойдзем зараз і брата твайго. Кажы: у воласьці была?

Мар'янка маўчыць.

— Ну, чаго-ж маўчыш? Была?

Мар'янка стаіць, апусьціўшы галаву, і не адказвае.

Гудзілка расхіляе халат і раскручвае доўгую, тоўстую вяроўку.

— Вось гэта бачыш ты? Вяроўкаю б'юць і на вяроўцы вешаюць даносчыкаў,—паясьняе Гудзілка.

Пахіснулася Мар'янка і асела на падлогу. Яе падхватвае Сьвірыд і таўчэ каленам.

— Гавары: данасіла ў міліцыю?

— Дзядзечка, я-ж толькі па пашпарт хадзіла. Я нічога нікому не казала!

„На што-ж я прызналася!"—каецца сама сабе Мар'янка. Гудзілка і Сьвірыд пераглядаюцца.

— А на што табе пашпарт?

Маўчыць Мар'янка. І хто-ж гэта расказаў, што яна надумалася кідаць хутар? Вось у чым віна яе! І няўжо ёй прызнацца ў гэтым?

Амяльлян даўно ўжо прыслухоўваецца і наглядае ўсю гэтую камэдыю дапросу. Ня бачыць ён, як прасунуліся лагчынкаю постаці людзей вяр-хамі на конях. Воўчай пароды сабака бяжыць паперадзе, нюхаючы сьляды. Гэта—пагранічнікі. Яны ловяць чалавека з контрабандаю. Гудзіл-кавы шкуркі зьбілі з тропу сабаку. Сабака напаў на Гудзілкаў сьлед, прывёў на пакунак са скуркамі, а цяпер бяжыць у Сьвірыдаў хутар.

У самы напружаны момант дапросу, калі ў хаце падняўся гармідар, Амяльлян пакідае сваю варту і бяжыць у хату.

— Прызнавайся, сьцерва!—ня вытрымлівае Сьвірыд і кідаецца на нявестку.

— Гавары!—трасе яе Амяльлян.

Усе яны ўваходзяць у запарку і насядаюць на няшчасную маладзіцу. Змучаная, страціўшы напалавіну прытомнасьць, Мар'янка дзіка азіраецца і выкрыквае:

— Нікому я нічога не гаварыла!

— Ня хочаш прызнацца? Ну, добра. Павесіць яе!—загадвае Гудзілка і бярэ вяроўку. Гэта і ёсьць Гудзілкаў сьледчы спосаб „узяць на зыхер“.

Мар'янку хватаюць, валакуць у сені.

— Стой!—чуецца грозны голас.

На парозе стаіць пагранічнік з рэвольвэрам, а воўкаваты сабака кідаецца на Гудзілку і хватае яго за каўнер.

— Дзяржэце гэтага малайца!—паказвае пагранічнік на Гудзілку і недаўменна аглядае гэтую нязвычайную сцэну.

— Што гэта тут у вас?

— Да вот, завяліся трохі з бабаю,—тлумачыць Сьвірыд,—бледны, як сьмерць.

Мар'янка з выглядам вар'яткі пазірае на пагранічнікаў.

— Што з вамі тут рабілі?— пытае яе пагранічнік.

Мар'янка не глядзіць на яго і як-бы сама сабе гаворыць:

— Нікому-ж я нічога не казала.

— Эгэ, да тут цэлая шайка! Справа ясная! Арыштаваць усіх!

2-IX—1928 г.

*Ф. ВАЙСКОПФ*

# „БАДАЙ ШТО ПАРАДНЫ КОНЬ“

*Апавяданьне*

„Самотна толькі шума на хвалі, яе велічыня— выпадковая...

Больш я нават і ня думаю схіляцца перадараднымі конямі і возьніцкімі шаўлюжкамі гісторыі“.

*Георг Бюхнэр.*

I

Апошні дзень—уласна гэта быў ня цэлы дзень, а толькі пара абадраных даабедніх гадзін—здаваўся бясконцым.

Нават і не таму, што ён ледзь мог дачакацца яго ад журбы па волі—ён ня быў больш наваком і перажываў гэткі „апошні дзень“ ня ў першы раз.

І не таму, што сядзеў ён у каморы зусім адзін і павінен быў так ці інакш „абчасаць“ час. Божа мой, ён здарава прызвычаіўся да адзінотнага жыцьця—сапраўды не заўсёды была кумпанія ў „гасьцінных“ пакоях далёкіх жандарскіх пастоў ці сьпіжарань сялянскіх пажарных дэпо.

Што-ж цягнула так доўга і нясьцерпна гэтыя апошнія гадзіны ўвязьненьня; чаму ня мог ён ні на лаўцы сядзець і чакаць, ні пагультаіць ля ваконнага карнізу і пашукаць блох у кашулі ў апошні раз з чыстага, як кажуць, палу да паляваньня і звыкласьці; нешта другое ганяла яго неспакойна ад аднэй сьцяны да другой.

Уласна:—калёсы!

Але, але, калёсы! Ці больш—буда. Ці хто мог палічыць за буду „падагрычную“ і якімсьці цудам уцалеўшую каламажку з нізкім брэзэнтам? Дык вось буда: яе перадаў Франта Галабурда пры сваім паступленьні ў вастрог пану даглядчыку за схоўняй і за чатырнаццаць цэлых месяцаў увязьненьня ледзь адзін ці два разы павярхоўна падумаў аб ёй.

У кожным выпадку цяпер ён думаў аб ёй.

Так упарта і настойліва, што яму здавалася, быццам ён ні аб чым больш у жыцьці і ня думаў.

Сапраўды-ж, аднак, улезла яму ў галаву праклятая буда толькі сёньня раніцою, зусім непасрэдна, якраз у той момант, калі ён хацеў вылавіць адзіную плямачку—кавалак сала з гарачай і звычайна прыгарэлай зупы.

І вось з таго моманту засела буда ў Галабурдавай галаве і нельга было яе дастаць адтуль таксама, як нельга было зьнішчыць пах прыгарэлага крупніку з куткоў каморы ды калідору.

З таго моманту не давала яму думка спакою:

„Божа, а што-ж, калі дрэва тымчасам так струхлела, што буда з першым рухам разваліцца? што тады?!“

Быццам за чатырнаццаць месяцаў ён мог хоць кропельку зрабіць, каб захаваць буду ад трухленьня?!

Ну, але думаць аб ёй, ён, бязумоўна, ня думаў, але што-б гэта дапамагло? Можа... урэшце...?

Не, гэтага ня было-б! Нарэшце...

Думку гэту, на жаль, нельга было прагнаць гэтым сьцьвярджэньнем, і яна зноў зьяўлялася:

„А што, калі буда так струхнела, што разваліцца—што тады?!

Але, што тады?!

Адказу на гэта Галабурда ня ведаў.

Ён ведаў толькі, што буда проста належала да жыцьця „там“, таму... ну, таму, што яна заўсёды належала.

Ці не заўсёды?

Але гэта была занадта старая гісторыя, і, да таго, прыпамінаў яе Галабурда толькі тады, калі быў п‘яны.

Цяпер-жа ён быў цьвярозы—у належнай сугучнасьці, з поўным духу найстражэйшай цьвярозасьці і найцьвярожшай строгасьці „ўнутраным распарадкам для павятовых вастрогаў“ і не прыпамінаў, такім чынам, таго мінулага.

Якраз наадварот:

У яго ўспамінах буда бразгатала за ім па коўзкіх, пакрытых іглічамі лясных купістых дарогах;—дзе-небудзь у лесе прыпынак, раскладалі вогнішча і пачыналі смажыць: бульбу ці—калі было шчасьце—кавалак мяса, а мо‘ і курку, а мо‘ яшчэ і цюцьку. Шпарка трэба засмажыць смажаніну, пакуль хто не надыйшоў. Так, а потым ляжым сабе сыты і гультайны на сьпіне і пыхаем у паветра дымам з люлькі...

У яго ўспамінах рыпала разьвіханая буда па мяккаму беламу пылу сялянскіх дарог, абсаджаных сьлівамі—яны здаюцца бясконцымі, па іх адчуваеш сябе зусім вольным і шчасьлівым, і нават жандар, які нездаволена калупаецца ў рызьзі буды і нешта бурчыць аб незаконным гандлі ды арышце, ня можа папсаваць настрою...

У яго ўспамінах грукае буда па падобнаму да кацячых галоў бруку малых мястэчак і рэзка акомпанавала даўно не практыкаванаму крыку...

Гольля, ведае яшчэ ён гэты акомпанімэнт?!

І ён прабуе, зусім ціха, зусім сьцішна, аднастайны выгук:

Рызьзё?! Косьці?!

Рызьзё?! Косьці?!

Заячыя скуркі! Трусавыя скуркі!

II

Але ўрэшце і гэты даабедні час прыйшоў да канца і нават была прароблена цырамонія водпуску!

Водпуск!

Пачынаецца яна з пераапрананьня: „уласнае“ адзеньне зноў тут, „старыя добрыя таварышы“ ўжо трасуцца каля членаў цела. Праўда, яны пахнуць крыху затхай і складам, дэзынфэкцыяй ды парашком ад молі, але пахнуць таксама боляй, вясковай дарогай, хлебнай гарэлкай і сьвежым вясковым хлебам.

І канчаецца яна адчыненьнем цяжкіх варот (як справаджэньне разьвітальных слоў, буркотліва вымаўленых з ласкай войчыма і добраахвотнасьцю ката: „ну, каб мы вас ня так хутка зноў убачылі, Галабурда, а то...“).

Але паміж пераапрананьнем і адчыненьнем варот ляжыць яшчэ цэлы ланцуг марудных здарэньняў.

Сьпярша маруднае і ўсё-ж ткі ўзварушаючае чаканьне ў канцылярыі: бязрадасна голая яна з двума шчуплымі крэсламі, з беспрацоўнай эмалёвай пляваклай, куды і плюнуць не адважваешся, са зьблеклым партрэтам прэзыдэнта. Побач скрыпаюць сумна старыя-старыя пёркі, а праз дзьверы даходзіць аднастайная музыка лічэньня бялізны:

Насоўка, ручнік, анучы!

Насоўка, ручнік, анучы!

Потым „візыты“: доктар пахмура аглядае цябе праз крыва сідзячыя акуляры: што? яшчэ адзін?—Што з вамі?—Нічога?—Тады пішэце: „адпушчаны суб'ектыўна здаровы“—Яшчэ што?—Ну, дзякуй богу!“ І ўжо вынес ён свае ногі ў майтках з жалобнымі фальбонамі турботы і „люстэркамі“, і зноў сядзіш у канцылярыі і чакаеш, і чакаеш.

Пасьля пратакол водпуску: сухі шолах жоўтых пыл(ь)ных актаў; дражлівыя пытаньні; ціхі, зусім ціхі рух аматара на росчыркі пёрка падаўга і пэдантычна складанай паперы.

Потым зноў чаканьне ў канцылярыі.

Потым выплаты „ашчажанага“: „і вось вам вашы грошы! Глядзеце, ня прапеце іх зараз у першым шынку, а то зноў адразу да нас! Зразумелі?“

І нарэшце запрашэньне: „ну, на дзядзінец!“

Там, унізе, перад хлевам яшчэ апошняя затрымка.

Узбуджанае чаканьне, пакуль наглядач знойдзе ўрэшце сярод сваіх ключоў які трэба і адчыніць тады дзьверы хлева.

І вось ён стаіць!

Рукі, якія ўхапілі дышла, трасуцца так, што на момант яму трэба спыніцца. Тады толькі выцягвае ён буду з цемры хлева на яркае сьвятло.

— Непапсутая!

„Яна—цэлая!“

Факт. Яна цэлая і непапсутая. Брэзэнт, рама, колы—усё тут і ўсё ў парадку. Няма толькі невялічкай торбачкі. „Торбачкі для гузікаў“, куды ён хаваў адпоратыя ад рызьзя гузікі, ён іх продаў і меў з таго надзвычайны заробак.

А торбачка была, калі Галабурда здаваў буду. Мала таго: яна на тры чвэрці была поўная. Гэта ён дасканала ведае.

„Такія прыгожыя гузікі!.. На тры чвэрці поўная, гэта становіць... паглядзімо... гэта становіць, калі яўрэі надаюць яшчэ несапраўдныя цэны, становіць... прыблізна...“

Такім чынам, яго сумныя здагадкі, што з будай уласна нешта здарыцца, ня былі беспадстаўныя. Прапаў надзвычайны заробак! Праклён!

А ўрэшце і ў канцы ўсё-ж ткі лепш, што торбачка прапала, а ня буда, ці ня праўда? Калі яна і...

У гэты момант наглядач, які ўжо адчыняе вароты, брэша:

„Што там? Ці ня хочаш ты нарэшце тут і застацца?!“

Тады Галабурда рушыць з месца, бярэ вяроўку на сьпіну і цягне.

За зачыненымі варотамі, за высокім зубчастым мурам зьнікаюць шэра-жоўтыя будынкі з доўгімі шэрагамі кратчатых вакон, чорныя коміны і каменны крыж на сярэднім фронтоне.

Колы буды пачынаюць сваю рэзкую музыку.

Пры кожным кроку, які робіць Галабурда, хрымсьціць у кішэні на грудзях сьвежа складзеная папера аб вызваленьні:

Прозьвішча: Францішак Галабурда.

Сын: бацька невядомы.

І: Божэны Галабурда, незамужкі—табачнай работніцы.

Нарадзіўся: 7-га ліпня 18...

У: Мрхванціцы.

Належыць да: туды-ж.

Па суду пакараны: неаднократ (§§).

Асобныя прыметы: скалечаная правая рука, няма двох пальцаў.

III

На фронтонах страката пафарбаваных дамоў рыначнага пляцу туга і бліскуча ляжала сонечнае сьвятло.

Галабурда, цягнучы за сабой буду, вынырнуў з цёмнага жарала вузкай, як кішка, ценявой бакавой вулічкі і спыніўся асьлеплены:

„Здорава!“

Яму трэ‘ было раней працёрці вочы, пакуль ён не разглядзеў усяго—потым ён сплюнуў здаволена:

„А, пляц... ага!“

Сьмяючыся, выцягнуў ён рукі:

„Вось гэта—правільна!“

Дарогаю па цёмных, вузкіх вуліцах ён яшчэ не ўразумеў, што ён зноў вольны, але тут на пляцу зусім другая рэч! Тут адчувалася гэта вельмі добра. Тут была прастора, і паветра, і далячыня—і наогул, гледзячы на гэты пляц, можна было дайсьці да думкі, што жывеш дзесь у другім месцы, у другім горадзе... так падобны быў гэты пляц да пляцоў другіх невялічкіх вясковых гарадкоў.

Тут таксама расьлі кругом клёны і была таксама бязводная студня; з шэрага каменнага парапэта яе пры ўрачыстых выпадках гаварыліся прамовы, але звычайна яна зьяўлялася трыбунай для хлапцоў глядзець на парачкі і на дзяўчат, якія шпацыравалі на другім боку паміж гасьцініцай „Срэбны звон“ і аптэкай (і нізашто на другім баку, прыблізна, ля цукерні і „Бэмскай кароны“).

Тут таксама і заспаны гадзіньнік на вежы, і вусаты паліцэйскі, і таксама засланёныя мусьлінам вокны, з якіх цячэ нуда бясконцых фортэп‘янных гам. Перад кожным вакном сьвеціцца чырвоныя галоўкі пэляргоній, толькі там, на другім баку, чырвань крыху цямней: тут жыве напэўна пан прокурор—у яго—бэгоніі, бо ён знатнейшы і атрымлівае іх з вастрожнага саду. І тут таксама ёсьць і вакно з фуксыямі—яны належаць удаве, якая мае шмат часу...

Таксама стаіць тут дзесь у кутку пяшчанай фарбы статуй Непомука бляшаны злотабліск з адным чырвоным і двумя белымі ліхтарамі папсаваны, і нос сьвятога пакалечаны (яго адбілі, пэўна, члены саюзу „Вольная думка“ ў апошні „Гусаў“ дзень, бо чатырнаццаць месяцаў таму назад быў ён яшчэ цэлы).

І таксама сьвеціцца па абедзьвюх гасьцініцах белая пляма заўсёды і ўсюды аднолькавых картак патраў:

Сёньня сьвежыя:

Сьвіная смажаніна з клёцкамі з гароднінай.

Гусак з клёцкамі і гароднінай.

Галабурда кінуў свае разгледзіны і ўхапіўся за дышла. Потым накіраваўся ён наўскасяк пляцу на шынок „Чатырнаццаці сьвятых патронаў“, стракатая шыльда якіх весела яго вітала.

„Так! Тут прыпынак!“

Ён схінуў повад і ўвайшоў. У шынку было прыемна, прахалодна і цемнавата. Толькі два госьці сядзелі ззаду за пакрытым цыратай сталом і гулялі ў „дваццаць адно“. Шынкар гультаяваў сьпераду за стойкай і калупаў сваім нажом у старой скарынцы ад сыру.

„Невялічкую, хлебную“! сказаў Галабурда, прыступаючы да стойкі.

Бязмоўна працягнуў шынкар руку і пачаў чакаць, пакуль Галабурда не адлічыў яму на далонь поўгрошаў адзін за адным. Толькі тады даў ён гарэлкі.

„Яшчэ адну“!

Кароткае сьпешнае гіканьне; ціха правёў ён языком па губах.

„Яшчэ адну!“

„А як справа з грашыма, што?!“ запытаўся шынкар, але, убачыўшы скамечаную асыгнацыю, якую Франта выцягнуў, наліў яшчэ. „Ого, паглядзі, чырвоненькая!“ і ён адразу, як-бы прачнуўшыся, заварушыўся, прапануючы каўбасу і марынаваныя селядцы ў бляшанках, якія блішчэлі на буфэце. „Даўно ўжо ня былі, чаму?“

Адказ прыйшоў не адразу, бо гэту чарку Галабурда піў ужо разважна—галаву крыху на бок і назад, каб паднябеньне і язык таксама трохі пакаштавалі! Толькі добра глынуўшы, ён адказаў:

„Доўга?—Парадкам. Чатырнаццаць месяцаў!“

Шынкар ціха сьвіснуў праз зубы:

„А так..!“

І зноў пачаў наліваць:

„Чатырнаццаць? Праклята доўга!“

„Ах што—што прайшло, то прайшло, гэта галоўнае—яшчэ адну!“

„Божа—вось хлебная гарэлка! Толькі панюхай яе і ўжо зробіцца цёпла“.

„А як пахне, як царква ў вялікдзень—у мінулыя гады—на вёсцы—калі былі яшчэ малымі хлапцамі—але—калі пасьля вялікоднай службы біліся яйкамі перад царквой—стракатымі цьвярдымі яйкамі—але—і яго яйка ў гульні амаль заўсёды заставалася зусім цэлым.

„Але, былі часы!“

Устае цёплае, мяккае расчуленьне, прыемна варушыцца ў галаве і крыху засьцілае смуткам вочы.

„Былі часы! Кругом дзяўчаты ў стракатых істужках дый наогул...“

А шынкар тымчасам:

Добра, прынамсі, яму жылося?

Пры пытаньні Галабурда палохаецца:

„Як?“

„Ах так, але!—Добра? Ну, зразумела, як там каму можа жыцца. Зразумела, ня так прыгожа, як у шынку, ці ў прыстойнай адрыне, не, ха-ха-ха! Ёсьць месьцечкі больш прыемныя. Але ўсё-ж ткі—ня было там найгорш: ён працаваў у качагарцы.

Калены пачынаюць дрыжэць. Толькі зусім павольна, зразумела, бо што-ж для гэткага чалавека, як ён, пяць „маленькіх хлебных“?! Толькі-б шынкар ня быў такім жывасрэбным! Здорава галава круціцца, калі на яго глядзець...

І Галабурда ўпірае локці ў стойку.

Так! цяпер можна глядзець на шынкара без запамарокі.

Як бегаюць яго губы?!

„Што-небудзь паесьці? так?—можа марынаванага селядца?—ці салонага гурка? зусім сьвежыя!—Не? А можа добра вытрыманага сыру, ці...?—Нарэшце, нічога? ох—? Але яшчэ чарачку запрабуеце, што?—Ну, я так і думаў!“

І пакуль ручнік хутка бегае па бляшанай покрыўцы стойкі ды шаруе яе да бляску:

„У качагарцы нарэшце, гм...“

У качагарцы, так! А што гэтае „гм“ абазначае?! Можа ён думае, што стары Галабурда нічога ня цяміць у рабоце там, хэ?! Тады, ня будзь ён стары Галабурда, ня абыходзься ён пяць год з машынамі, так!

„І з якімі машынамі, міленькі! Ня з гэткімі дрэннымі, каля якіх можа хадзіць кожны прыбегшы гультай, калі толькі ён... ік!.., але з сапраўднымі... ік!.. паравымі машынамі, якія цэлую фабрыку... ік!.. але, міленькі, пяць год... ік... і калі-б праклятае кола ня два пальцы тут... ік, ік!..“

Пакалечаная рука высока ўздымаецца і скача ўзбурана перад вачыма шынкара... Вызвалены струмень успамінаў, нельга больш утрымаць:

Але, качагарка...

Медзяныя часткі блісьцяць, як золата...

Сіняя, заплямленая рабочая блуза,—але ўвечары-ж цынамонавы сурдут і белы каўнер, а ў нядзелю,—ого, у нядзелю...

У суботу зарплата ў паперы. Напісана на ёй машыністы і прозьвішча яго. А ў сярэдзіне грошы, добрыя грошы, так...

І маленькая хата з гародчыкам, а ў ім старакатныя шкляныя кулі на высокіх палках...

Абодва госьці ззаду адклалі ў бок карты і значную хвіліну прыглядаюцца. А зараз падыходзіць адзін з іх ціха да стойкі і зьлёгку дакранаецца да пляча Галабурды:

„Ну, а зараз? Усё забыта ад майстраваньня з машынамі, ці ня так! стары?!“

Галабурда важка абварачваецца. Яго шклістыя вочы бачаць пару рабых ад воспы фарбы сыру шчок, рэзка выгнуты нос, круглыя пукатыя вочы, рудаватыя валасы, якія выходзяць тлустымі пасмамі з-пад цьвёрдага капялюша.

„Забыта? што ты? Дай мне машыну, я табе адным пальцам скрану яе, ты...“

„Ну? дык мы з табой зрабілі-б справу, стары!“

І ён цягне Галабурду назад да пакрытага цыратай стала, дзе ён пры дапамозе свайго партнёра ў картах доўга і настойна яго набухторвае.

Потым яны ўтраіх пакідаюць шынок.

Але хутка пасьля Галабурда зноў тут і міргае шынкару:

„Дзьве поўкварты—але шпарка! Вы думаеце, я пайшоў за чымсьці забытым?“

„Грошы дасталі?“

— Грошы ёсьць, але часу няма—дзе пляшкі?“

„Тут!“

І з сытым булькатаньнем зьнікаюць абедзьве пляшкі ў глыбіні прасторнай Галабурдавай торбы.

„Бывайце здаровы!“

## IV

Па дарозе ад гораду да цукерні грукаціць бязрэсорная каламажка. Дарога караскаецца шырокімі каленамі па схілу ўзгоркаў, якія валам акружаюць горад. Яна жалабаватая і кандобістая, але шчыліны і дзіркі закаваны пад таўстым пластом мяккага, белага пылу.

Страшэнна горача.

Ігрушы па абодвух бакох дарогі нізка зьвешваюць свае галіны. Невялічкія зялёныя ігрушкі спакушаюць высахшае паднябеньне, і здараецца, што седакі каламажкі сквапна хапаюць іх, калі яна робіць падскок вышэй. Але таксама шпарка, як абшчыпваюць галіны, ігрушы доўгай дугой адлятаюць:

Праклятыя ігрушы зусім пескаватыя.

„Чаму-ж ты ясі..?!“

„Калі-ж я паміраю ад смагі..!“

„Ну, вытрымаеш яшчэ, стары! Ты і без таго поўны да краёў“.

„Так! поўны! Усё ўжо высахла!“

Галабурда гаворыць гэта з сумнай мінай, але імкнецца заставацца сур'ёзны, бо ў торбе сьмяюцца абедзьве пляшкі гарэлкі.

Зараз-жа ён палохаецца. Як-бы не заўважыў той рабы з шынку, што сядзіць цяпер тут ля яго.

Але не, той не заўважыў. Ён паказвае зараз сваё зялёнае карэньне зубоў і крэхча:

„Ага? высахла? На жаль, нічога ня зрабіш, бо пляшкі піва растуць тут на дрэвах толькі на Каляды...“

Ён сьмяецца. Яго шчокі фарбы сыру пры гэтым мякка трасуцца.

„Ха-ха-ха, на Каляды! Ці ня праўда, пане вахмістар?!“

Сьмех яго цяпер больш не лагодна-пагардлівы, а пакорліва-забягаючы. Але жандар, якога гэта датычала, аказвае нездаволена:

„Калі толькі наогул ёсьць яшчэ...!“

Ён ужо даўно прымушаны быў рашпіліць свой формены каўнер і глядзіць цяпер, як толькі што выцягнуты з вады тоўсты карп.

Прокляцьце! Чаму якраз яму выпала няшчасьце ў гэтую пякельную гарачыню глытаць тут пыл?! і нашто? Каб гэты нягоднік—вербаўшчык ды яго машыністы... ха-ха, далікатны машыністы! Пападзіся ён яму дзенебудзь па дарозе...

Бег яго думак перапыніўся рабым:

„На фабрыцы напэўна знойдзецца чаго папіць, пане вахмістар! Яшчэ крыху часу, і мы там!“

Буда дасягнула высокага месца. Справа і зьлева па схілу ўгару і ўніз бягуць даўгімі палосамі палі. Рэпа, рэпа. Толькі зрэдку паласа жыта ці бручкі, халупка палявога вартаўніка, маючая выгляд невялічкага саламянага даху, страціўшага сваю хату.

„Там!—Вось яна ўжо там!“

У лагчыне ўнізе паказваецца цукерня, як цацка велічынёй: тры рудажоўтыя квадраты і на сярэднім едзе конна высокі чырвоны комін. Ён якійсці нярухомы: ён ня курыцца.

„Мы спынімся тут, вядома, яшчэ раз. Лепш каля дрэў перад апошнім заваротам... і пасьля вы, пане вахмістар, можа пойдзеце крыху да фабрыкі...“ гаворыць рабы і прабуе пры гэтым, скрывіўшы твар, прышпіліць упартыя канцы свайго цэлюлёіднага каўняра да гузіка кашулі. Пры гэтым яго бледныя шчокі ў першы раз крыху афарбоўваюцца. „Гэта з-за людзей, вы разумееце-ж, пане вахмістар?! Я не хацеў-бы, каб вы падрыхтавалі нам—гм—прыём, як учора. Калі яны адразу бачаць зялёную форму, у іх гіне, пэўна, ахвота кідаць каменьне...

Што? Яшчэ пехатой праз гэты пыл?! Гэта-ж ужо... І ён абурана бурчыць:

„Кідаць каменьне? Яшчэ што!?—Глупства! Нікому і ў галаву ня прыдзе, калі я сяджу на каламажцы!“

А рабы, паціскаючы плячыма:

„Не? Ну, зразумела, як вы думаеце. Але калі тады што здарыцца...“

Спалоханы ўласнай адвагай і пагражаючым бурчаньнем другога („Ого! ты ў мяне яшчэ казыраеш?!“), ён спыняецца. Потым неразважліва: „Але не! Не! Гэта, пэўна, ня так... мы, зразумела, даедзем да фабрыкі, калі пан вахмістар думае... я хацеў толькі... бо якраз учора вы...“

У вачах яго мільгае водсьвет зьмешанага міганьня зрады, ярасьці, жаху, якое ўчора зьявілася ў іх пры сутычцы з бастуючымі рабочымі цукерні.

Нічога не прадчуваючы, зьлезьлі яны з сваіх каламажак, ён і другі вербаўшчык, і той ледзь-ледзь яшчэ знойдзены машыністы, і дзьве тузіны штрэйкбрэхераў. Нідзе нікога ня было відаць, але як толькі яны падыйшлі да фабрыкі, дык уся бастуючая сваллатва раптам згуртавалася: натаўп людзей з паднятымі каламі і высока выцягнутымі кулакамі пачаў крычаць і пагражаць. Уперадзе за ўсіх, натуральна, жанчыны-ведзьмы! Адразу на яго і другога вербаўшчыка: „пачакайце, падлы, прападзе ў вас ахвота прыводзіць штрэйкбрэхераў..!“

Сапраўднае цуда, што яны выйшлі адтуль цэлымі. Але папацець ім, ліха на яго, давялося, як ніколі! Калі яны праз пару гадзін вярнуліся, дык не знайшлі больш аніводнага з сваіх людзей. Праўда, пару штрэйкбрэхераў можна было-б адразу знайсьці (даволі было рабочых-сялян; былі і русіны, якія ня ведалі мовы і з усёй справы разумелі толькі адно, што нарэшце зноў можна будзе атрымаць цёплую яду і пару крон зарплаты), але без машыністага былі гэтыя людзі некарысныя, а дастаць машыністага было чорт ведае як цяжка!.. Яшчэ шчасьце, што выпадкова занесла яму ў рукі гэтага Галабурду! Яго мінулае машыністага здавалася праўдай, у вастрозе прынамсі засьведчана, што ён ведае машыны. Вельмі пэўным ён не здаваўся, але гэткая закаклюка была з усімі людзьмі, якіх

пастаўлялі ён ды яго таварышы—вербаўшчыкі. Тут ужо ня было чаго рабіць. Галоўнае-ж было тое, што ён неяк пусьціў паравую машыну. І з гэтым, ёсьць надзея, ён справіцца.

Погляд круглых пукатых вачэй выпытліва спачывае на Галабурдзе, які панурыўся ў мірныя думкі, і зварачваецца трывожна на вельмы вырасшую тымчасам фабрыку. (Ці ня кішыць там перад варотамі ўзбураны натоўп людзей? Праклятае сонца! Сьлепіць так, што ледзь бачыш").

Го-го!

Коні даюць ходу.

Тады жандар раптам кажа:

„У такім разе мы тут усё-ж ткі спынімся! Я, уласна, прайду кавалак уперад. Калі засьвішчу, прыяжджайце да мяне, зразумелі?!"

Яму прыйшла ў галаву думка, што пакінутыя ля фабрыкі яго людзі сядзяць нярухома ў шынку і п'юць піва, а ён у гэтай праклятай гарачыні...

Ён пляскае шапку сабе на галаву і ярасна зашпільвае каўнер:

„Ну, пачакайце, браткі, калі я вас там злаўлю ўсю варту ў шынку..!"

V

У гэты раз яны ня зьлезьлі перад фабрыкай, але ўехалі (бягою) на дзядзінец.

Залішняя асьцярожнасьць! Жандары, падбухтораныя паводле ўсіх правіл грозным вахмістрам, узяліся за справу з падвоенай энэргіяй:

„Прэч!"

„Не стаяць разам!"

„Не схадзіцца!"

І потым імем закону тупы ўдар прыкладам у чалавечыя рэбры ды рэзкі крык шалёна ў уцякаўшых жанчын.

„Цю—цю... цю-цю..."

Сыгнал сьвістком прымушае жандараў спыніць перасьледваньне.

Павольна едуць бягою, яны, чырвоныя, чмыхаючы, спацеўшыя, да варот фабрыкі і становяцца ў дзьве шэрэнгі. Срэбная прасьніца штыкоў прадзе на сонцы залатыя ніці.

„Адступіць!"

Ззаду іх фабрыка прачнулася да рознастайнага жыцьця: вокны адчыняюцца, дзьверы кракаючы адчыняюць замкі, лесьвіцы вохкаюць, ланцугі пачынаюць грукатаць, жалеза зьвініць, вугаль грукае, чуваць сотні розных гамаў, зьмешваюцца, зьліваюцца ў адзін.

Галубурда стаіць у поўным нярухомасьці машыновым аддзяленьні:

Ён адзін.

Другія ўсе там! Яны баяцца, што баставаўшыя могуць зноў прысьці, і завальваюць вароты ці паказваюць русінам самыя неабходныя спосабы працы.

Толькі загадчык цэху яшчэ раз варочаецца, але на момант толькі, як віхор:

„І машыны трэба зараз-жа пусьціць у ход, разумееш, я кажу! Зараз-жа!“

На гэта Галабурда нешта бурчыць:

„Але, але... зараз-жа! але, але..!“

А загадчык зноў ужо там.

І чуваць ужо дзе-небудзь ззаду на дзядзінцы хрыплая сварка.

Галабурда робіць яму знакі: „зараз!—але натуральна!“ і ставіць якраз на падлогу бляшанку з машыновым маслам, якую ён трымаў дагэтуль у руках. Потым асьцярожна—кідаючы вокам на дзьверы і шэраг вакон—дастае з сваёй торбы дзьве пляшкі гарэлкі.

„Але натуральна: зараз пусьціць! А ці ня трэба наперад намасьліць...?!“ і ён робіць добры глык.

Праз пэрлямут вакенных шыб цячэ сонечнае сьвятло тоўстымі бурштынова-жоўтымі палосамі і ляжыць дрыжачымі круглымі лужынамі на каменных шашках падлогі. Яны бягуць, чырвоныя і пясочна-жоўтыя, доўгімі шэрагамі ад Галабурдавых ног да машыны, якая, закапаўшыся напалову ў зямлю, ляжыць тут, быццам драпежны зьвер у засадзе.

Галабурда стаіць, глядзіць.

Застаялы пах машыновага масла, поту ды палёнага покульля ласкоча яго шырокі нос, які радасна раздуваецца.

„Але, машына!“

Вось стаіць яна, як дзяўчына на кірмашы.

Што гэта?

Зусім ня круціцца?!

Гопля..!

Не, нічога ня круціцца. Усё стаіць, як стаяла яна дагэтуль, і толькі бліскучыя мядзяныя накрыўкі масьлёнак і шпунтаў мономэтраў абарачваюцца ў стракатыя шкляныя кулі, старыя знаёмыя з вядомага, таксама добра знаёмага гародчыка, а на почапцы ў кутку раптам целяпаецца знаёмы цынамонавы сурдут, а ў левай кішэні яго—але, але, зусім правільна!—павінен быць белы каўнер!

Галабурда ціха бурчыць ад асалоды і павольна ідзе з масьлёнкай у правай руцэ ды пляшкамі гарэлкі ў левай да машыны і абыходзіць кругом. Потым ён ставіць бляшанку ды пляшкі на адлегласьць рукі ад сябе на падлозе і пачынае скубсьці сабе жмуток покульля.

Адно з вялікіх вакон адчынена. Але чуваць толькі шум работы русінаў, якія працуюць нязграбна з нязвычнымі прыладамі, толькі лаянка ды праклёны майстра, толькі хрыплае камандаваньне загадчыка. Гук аддалёнага шуму, які павінен быў-бы даносіцца з канца вёскі, з шынка „Кароль Юры Подзіброд“, заглушаецца бліжэйшымі гукамі, і таму Галабурда ня чуе пагражаючых крыкаў ды абураных воклічаў, якія раздаюцца, як

толькі член забастовачнага камітэту кіне перад шынком асабліва дзейнае слова ў густую сьцяну скрыўленых ад болю ды ярасьці твараў.

Шум працы, гарланьне, загады мяшаюцца з сыкаючым гукам, калі Галабурда шаруе сваім покульлем мэталы машыны. Часамі, правільнымі перапынкамі спыняецца гэта сыканьне звонам шкла аб камень, калі пляшка пасьля добрага сёрбу зноў ставіцца на пліты падлогі.

І пасьля кожнага сёрбу зноў блішчаць стракатыя шкляныя кулі гародчыка ды зьзяе ў бліскучай белаце каўнер у левай кішэні цынамонавага сурдута:

„Так, вось быў яшчэ час, тады! Вось быў час..!“

Цёплае сонца, цёплы пах масла, цёплая гарэлка ў глотцы.

Цёпла, як добрая пасьцель.

## VI

Яны супакоіліся амаль занадта неспядзявана. Толькі ў адзінокіх нямногіх выгуках дрыжэў апошні шматгалосны крык—пасьля змоўклі і гэтыя выгукі.

З свайго наглядальнага пункту ля ліпы пры капліцы бачыў вахмістар, як чалавечы натоўп перад шынком „Кароль Юры Подзіброд“ заварушыўся, рабіўся рэдкім і пачаў крышыцца.

Вось: зараз ішлі яны дамоў.

Ён паглядзеў яшчэ хвілінку пільна туды, потым паправіў рамень ад карабіна і павярнуўся:

„Ну, цяпер можна нам і паесьці пайсьці. Напэўна, яны выдумалі яшчэ што“—ён падумаў аб руках, якія два разы пагражаючы паднімаліся: „вось яны галасавалі!—але зараз яшчэ нічога ня будзе...“

Ён адчуваў вялікі голад.

Здалек вабіў фабрычны буфэт.

Тады пусьціўся ён бягом.

. . .

Цішыня.

Гарачыня.

Сонная нярухомасьць позна-летняга пасьля палуднёвага часу.

Як старая кошка, якой вельмі прыемна цяплыня, выгінае дарога сваю шэрую ад пылу сьпіну, як толькі выходзіць з ценю апошняга дому.

Апошні дом ёсьць „Кароль Юры Подзіброд“.

За шчыльна зачыненымі невялічкімі вокнамі ў нізкім шынку, які поўны цэлай масы квасных пахаў—піва, сыру, хлебнай супы, марынаваных гуркоў, торагу ды поту, сядзіць „чацьвёрка“—„чацьвёра“ з забастовачнага камітэту—і слухаюць Яру Голубэка, свайго старшыню, як ён дыктуе свайму сыну Лойзіку ліст, аб якім пастанавіў раней агульны сход.

У сына шчокі расчырванеліся ад гордасьці і абурэньня, ён піша, нахіліўшы галаву, нос амаль што на паперы, піша вялікімі крывулямі.

„Да таварыша—машыністага...“

„Як?! Таварыш?! Гэты штрэйхбэхер-падлюга?! А яшчэ і машыністы? Ну, далей ісьці нельга—бадзяга і...“

Ярасна ўскочыў машыністы Заруба і махае ў паветры сваімі доўгім камлатымі рукамі, абвітымі сінятатуяванымі якарнымі канатамі (ён стары мораплаўца). Ледзь супакойвае яго Голубэк, заўсёды разважлівы; яны называюць яго „пане профэсар“ за яго разважлівасьць і таму, што ён носіць на пляскатым носе скрыўленыя акуляры ды ўмее добра гаварыць.

„Пакінь, Заруба! Заўсёды ты з дубінай! Гэтым ты нічога ня зробіш, скажу я табе! Усякую справу трэба палітычна разглядаць, палітычна, кажу я табе!“

Але Зарубу ня так лёгка супакоіць. Нарэшце пасьля доўгіх спрэчак спыняюцца на канчатковай формуле. Лойзіку трэба ўзяць новы аркуш і пачаць нанова:

„Таварышу Галабурдзе, зараз пры машыне!“

Яны, бач, даюць веры, што ён сумленны чалавек і не падкуплены, ды ўпэўнены, што ён сымпатызаваў-бы (Лойзік пісаў слова гэта дакладна пад дыктоўку: с-ы-м-п-а-т-ы-з-а-в-а-ў), калі-б даведаўся толькі аб сапраўдных абставінах справы: чаму яны ўласна бастуюць ды ўсё іншае. А справа вось якая: галоўны майстар не даваў дзяўчатам супакою—усё рукой іх па заду... пакуль Шкатулова Марыля не дала яму аднойчы па руцэ. Пасьля гэтага яе звольнілі. Таксама зараз і сястру яе, бо яна абзвала майстра юрлівай сьвіньнёй, фактычна такі ён і быў. І кожны іншы, хто адважыцца протэставаць, будзе ў кампаніі абедзьвюх сясьцёр. (Далей ішло дакладнае пералічэньне майстравых штук, якімі было прыпраўлена чытаньне гэтае абвесткі). Гэтага даволі было ўсім рабочым, і яны пайшлі дамоў, кінулі працу, пакуль абедзьве дзяўчыны ня будуць прыняты назад, а майстар ня будзе звольнены.

Вось абставіны справы.

Іх забастоўка, нарэшце, ёсьць чыстая і справядлівая справа, і яны запрашаюць яго падтрымаць.

Ён, бач, і так належыць да іх... („Супакойся, Заруба! Хто атрымаў даручэньне напісаць гэты ліст, ты ці я?! Таму не перапыняй!“)... да іх і пролетарскі гонар забараняе кожнаму прыстойнаму чалавеку нападаць ззаду на бастуючых.

І гэтак далей.

„Так!—Гатова!—Ёсьць?“

„Але“.

Хлопец кладзе асадку. Асьцярожна бярэ Голубэк ліст у абедзьве рук і трымае яго так, быццам хоча даведацца аб вазе напісанага. Потым пачынае павольна і выразна чытаць. Канец—галасьней:

„Адзін—за ўсіх, усе—за аднаго! Машыну нельга пусьціць у ход!“

Дапіска: сёньня пасьля полудня, пасьля сканчэньня работ у каменаломні, яны, бач, разам з каменячосамі, якія абяцалі ім дапамогу, будуць дэмонстраваць перад цукерняй.—Бывайце-ж здаровы.

І вось толькі падпісаць.

Адзін за адным бяруць яны пяро. Апошні—Заруба. Ён піша пад лістом уперад сваё прозьвішча, потым сваё імя—пасьля ўдвая большымі, як калы, літарамі—слова „машыністы“. Пяро згінаецца пад пальцам і сее па паперы цэлы сноп невялічкіх плямак.

„Эх! Ліха на яго..!“

І ўжо хоча ён скамячыць ліст, але Голубэк папераджае яго і ратуе ліст.

„Ну, натуральна: зноў з калом!“

Ён прыкладае кавалкам газэты да плямак і потым дзьмухае для пэўнасьці яшчэ раз па напісаным.

„Та-ак!“

Ён складае аркуш павольна ды асьцярожна і перадае яго Лойзіку:

„На—і зрабі добра!“

Хлапец ужо ля дзьвярэй.

Голубэк яму ўсьлед:

„Стой, пачакай яшчэ!“

Хапае яго яшчэ ў апошні момант ды яшчэ раз убівае яму ў галаву усе падрабязнасьці:

І вось: перш-на-перш раз міма варот фабрыкі—як мага бліжэй, заглянуць на дзядзінец. Потым да буфэта і там паглядзець, ці жруць ужо жандары. Можа і майстар з імі. А далей усьцяж муру да фабрыкі.

„Усюль адважна і многа не разважаючы. Перш ня зьвернуць увагу на гэткага курдупеля“.

Ну, і далей да вакон машыновага аддзяленьня і здаць ліст, калі стары Галабурда будзе там зусім адзін.

„Ці ведаеш ты вокны, га?— Левае адчынена—адсюль відаць.

Хлапец ужо далёка.

Пакідаючы праз хвіліну шынок і падміргнуўшы фабрыцы, усе яны адначасна робяць шпаркі рух рукой да лобу: яркае сонца сьлепіць вочы.

„Ого!“

На чорнай покрыўцы фабрычнага коміна сядзіць невялічкая белая пушынка. Яна хістаецца, ляціць. Павольна калышацца яна зараз у сіні

А ўсьлед за ёй комін выпусьціў тымчасам ужо другую пушынку.

„Чорт! ужо пайшло...!“

## VII

Застаўкай і качаргой называюцца прылады, якімі апальшчык абслугоўвае агонь пад катлом. Работа гэта нялёгкая. Яе ня зробіш так адразу! Яе трэба дакладна выўчыць і ведаць. Агонь трэба правільна даглядаць, трымаць краты бяз выгаркаў, падсыпаць сьвежы вугаль

(ашчадна, але ў належнай колькасьці і ня так, каб ён быў гарой, але прыгожа ды роўнамерна, каб полымя ляжала нізка і роўна).

Ня лёгкая праца і нельга машыністаму рабіць побач нешта другое. Але што рабіць Галабурдзе, калі два русіны, якіх да яго прыставілі, як апальшчыкаў (двох: быццам тут справа ў колькасьці і два няздатныя чалавекі маглі заступіць аднаго апальшчыка), калі нарэшце абодва браты яшчэ ніводнага разу ня бачылі зблізку кацельнага агню і тым менш працавалі ля яго?! Тут трэба яму ці так ці інакш самому за справу брацца і паказаць работу так, што яны раты ад зьдзіўленьня разявяць.

Дзьверцы адчыніць! Жалеза ў агонь! Гэй, руп! Дзьверцы зачыніць!

Другія дзьверцы адчыніць! Жару паддаць! Гэй, руп! Дзьверцы зачыніць!

Ах...!

Як горача! Гэткая праца! Чорт! Пацееш, як ашпаранае парася.

А глотка! Засмолена, заклеена вугальным пылам так, што ня ведаеш, ці будзе яна калі зноў чыстая!

Шчасьце яшчэ, што пад рукамі добрае „лякарства“:

Галабурда пастанаўляе зараз-жа прыняць „лякарства“; сьпярша адзін глык—проста, потым другі—супраць вугальнага пылу, трэці—супраць смагі і чацьверты—супраць... ну, а там знойдзецца ўжо супраць чаго.

І ўжо ён стаўляе качаргу да сьценкі і пераплывае да машыны.

„Так“ „хлебная“!

Зялёным і залатым сьвецяць абедзьве пляшкі, калі трымаць іх на сьвятле. Адна сьвятлей, другая—цямней:

„Адна ўжо парожняя!—Што-ж, усё павінна мець свой канец...!“

Але зараз-жа ўвесь боль сьціскае ў кваліста-мяккай шчаснасьці гарэлкі. Як туман, паднімаецца яна, усё затуляе, усё сьцірае, усё адносіць на цёплых хвалях зьмярканьня: раней дрэвы перад вакном, потым увесь яркі палудзень там знадворку, пасьля бела-шэрыя сьцены пакою, машыны, бляшанку, пліткі на падлозе з сьветлымі лужынамі... нарэшце яго самога, Галабурду, яго боты, ногі, яго тулава ды шыю...

Засталася яшчэ адна галава, круглая ды вялікая, як вялікі гарбуз.

„Хэ, хэ, гарбуз! Хэ, хэ! Растаю, як сьнегавы дзед на сонцы. Хэ, хэ! Усёператвараецца ў ваду і застаецца толькі парожні гарбуз, хэ, хэ“!

Ён да сьмерці рагоча, што ад цэлага мужчыны засталася толькі гэта галава-гарбуз:

„Хэ, хэ, хэ, хэ, хэ!“

Хаця-б ня была яна такая цяжкая. Гэтак пад'ябальску цяжкая!

Найлепшым было-б палажыць галаву, га?

Але, гэта будзе найлепшае.

Ну, так і зробім!

Паложым галаву!

Так! Прыгожа-павольна ды асьцярожна гэтак.

Ааа-га! Нарэшце ён лёг, ляжыць. Але яму яшчэ раз перашкодзілі (Божа—які ён зрабіўся цяжкі, гэты гарбуз! Быццам ён поўны жарствы). Яшчэ раз прыйшлося яму троху плюшчыць зьлепленыя павекі.

Брррр! Як, ліха на яго, цяжка падтрымліваць гэткі гарбуз! А што гэта, уласна, гм?!

Ага, там! Там ляжыць нешта! Толькі цяпер прыляцела праз туман і звалілася на падлогу. Птушка ці што? Кратае крылом. Ну, ну, калыхайся:

Аднак: д'ябальская штука—аднаго крыла і ног няма! А тулава, як кій! Зусім д'ябальская штука!

„Ну, ты! Аллё. Хадзі сюды, ты! Дай на цябе паглядзець!"

Штука ня кратаецца.

Праклятая!

Рохкаючы ды вохкаючы, пачынае галава падсоўвацца да дзіўнай рэчы.

„Што-ж ты ўласна? хм!"

Вылупіў вочы ад зьдзіўленьня: на крывым суку вісіць на тоўстай нітцы складзеная папера.

Кій дрыжыць у нязграбнай руцэ, круціцца і апісвае круг. Папера размотваецца і шырока валіцца якраз перад яго вачыма.

На яе белай паверхні капашацца сотні чорных мурашак.

„Мммм, ліст!" лапочуць з шырокім пазяханьнем губы.

„Напісанае?—Прачытаць", адказвае апошняя зморaная рэшта дбаньня, таксама ўжо зьмерклая.

„Таварышу Галабурдзе Францышэку, цяпер пры машыне", хапаюць яшчэ вочы перш, чым павекі зусім закрыліся.

„Ліст!—падняць" робіць вывад рука—тымчасам як галава ды цела млява ападаюць—і цопае, драпае ды камечыць паперу.

. . .

Цішыня.

Дзьверы ў качагарку няпрыметна адчыняюцца. Праз зусім вузкую шчыліну выглядаюць абодва „апальшчыкі".

Павольна, нячутна пашыраецца шчыліна.

Потым пара нячутных крокаў голых падэшваў па гладкіх каменьнях.

Шпаркае, як маланка, лапаньне.

„Ці ёсьць яшчэ што там?"

На лёгкае трасеньне пляшка дае шчасьлівы адказ.

Вон адсюль!

. . .

А ў высокай, затопленай сонечным сьветам салі застаецца толькі храпеньне, якое патроху робіцца ўсё гучней ды гучней.

## VIII

Сон.

Сон.

Глыбокі цяжкі сон, які не дапушчае да Галабурды нічога з таго, што робіцца знадворку.

Нічога—ад стуку ды гуду работы.

Нічога—ад беганіны працуючых.

Нічога—ад неасьцярожнай і громкай весялосьці абодвух апальшчыкаў, якія, хістаючыся і з чырвонымі галовамі, скачуць навакол апарожненай пляшкі і пяюць песьню пра напышлівую дзяўчыну:

Хадзі, дзяўчынка,
Ідзі за мной
У адрыну,
На жарству!
Ціло —
Ало —
Цілалом —
Ціло, ало, цілалом!

Нічога таксама—з раптам дайшоўшых віхрам галасоў, крокаў, крыкаў, загадаў, сыгнальных сьвісткоў, ляску ключоў.

Нічога—з глухога, цёмнага гуку, які, ідучы здалёк, усё нарастае і пашыраецца: крокі... крокі... пяяньне—пераблытанае клекатаньне падступаючай маршам чалавечай масы.

Нічога—з таго, што далей адбываецца:

Пяяньне набліжаецца, можна зразумець ужо словы:

„Далоў зраднікаў і тыранаў! — Стары сьвет павінен загінуць!"

Галасы раздаюцца, бяз ладу перапыняючы адзін аднаго.

Раздаецца адзін, вельмі высокі, вельмі гучны голас і зьвяртае на сябе ўвагу:

„Таварышы! Таварышы!"

Тымчасам тонка і востра чуваць хаўтурны звон жандарскіх штыкоў.

Клік-клік-кляк—клік-клік-кляк.

„Фюі! Стрэльбы напагатове! Фюі—і-і-і-ю-і!"

„Спакой! Таварышы, спакой!"

І потым трапяткія абрыўкі прамовы, якіх крышыць вецер і шум:

„Трымацца непарушна — —
Там голы гвалт — —
Ня гледзячы на гэта, наша справа — —
Стаяць цьвёрда і разам — —
Ніводны штык ня пусьціць у ход фабрыку — —
Добрае права — —
З намі тыя, хто павінен быў спыніць забастоўку, — —
Вялікая згоднасьць перамагае — —
Машына стаіць — —
Наш брат там — —

Ахоплены вялікім сэрцам рабочай клясы, як казаў Маркс — —

Наш брат Галабурда — — “

Нарэшце— абуранае ажыўленьне соцень чалавек, якое абяртаецца ў магутны крык:

„Галабурда! Ура! Ур-а-а-а-а-а!“

Потым коціцца песьня, як вялікая хваля, з задніх радоў наперад і затапляе ўсё другое:

„На сьцягу—гнеў народу — — над моцнымі замкамі да неба! — —“

„Разайдзіся!“

І ляскаючы ўдар трэлі сьвістка: цю-цю-цю-цю-цю!..

„Чырвоны сьцяг, што мы разьвінаем — — на ім кроў народу! — — кроў народу...“

Цю-цю-цю-цю!

„Таварышы, не паддавацца провокацыі...“

Востра і яўкаючы брэшуць у гэты момант морды карабінэраў:

Раз —

Два —

І зноў сьвісток:

Цю-цю-цю-цю!

„Адкрыць агонь!“

І пасьля шалёнага кіпеньня панікі, уцёкаў, перасьледваньня, пасьля ляскаючага адступленьня пераможнікаў даходзіць цішыня, якая гучыць у вушах, нібы (расшчэпляючае) шкло, якое рэжуць.

. . .

Сон.

Сон.

Глыбокі, цяжкі сон, які схаваў ад Галабурды ўсё, што адбылося, які лопаецца толькі пад цяжкім крокам дужага жандаравага бота.

„Вось ляжыць ён, п‘яны, і храпе. Я выганю табе сон, п‘яная сьвіньня...“

## IX

Восемдзесят крокаў ад машыновага аддзяленьня да фабрычных варот знадворку і ўсьцяж дваровай сьцяны да першых кустоў.

Восемдзесят крокаў, але колькі паданьняў? Колькі штурханцоў нагой і прыкладам?

Сіиякі маглі-б даць адказ на гэта пытаньне; заплыўшыя крывёю і смалой вочы; распухшы рот; смаркаты нос; колкі ў баку—усё параненае, хворае, абабітае цела.

І ўсё-ж ткі гэта ня тое гаротнае цела, якое баліць. Больш ня тое цела.

Сьпярша, сапраўды, у першы момант пасьля абуджэньня (колькі часу ляжаў-жа ён няпрытомны? Калі яго білі ды гналі на фабрыцы, сьвяціла яшчэ сонца, зараз-жа сьвеціць месяц) балела галава, быццам яе сьвідравалі ды білі молатам, толькі колкі ў баку, толькі паленьне ад сінякоў.

Але зараз зусім іншае.

Што? гэта ня так лёгка сказаць.

Гэта—ня туга па груба растаптанаму сну, па здрушчаных шкляных кулях, па зьнікшаму беламу каўняру, па ўсяму (страчанаму) раю машыністага.

Гэта—ня гнеў на пакуты, хаця жандары ў гэты раз былі больш лютыя, як раней, і пакрыўдзілі яго больш, чым тады ўнізе ў Лявочы, у Славаччыне... (тады якраз яны лічылі яго за „палітычнага“).

Гэта—і ня турбота з-за пакінутай пляшкі гарэлкі—яна была яшчэ напалову поўная, гэта ведае ён дакладна. (Бо калі быў ён такі п'яны, каб пасьля хмелю ня ведаць, ці выпіў ён усё, ці кінуў рэшту?!)

Гэта—і ня смутак ад таго, што яго добрая старая буда зьнікланазаўсёды (ён-жа, сапраўды, ня будзе такі шалёны, каб дастаць яе з жандарскага паста, пасьля ўсяго таго, што здарылася).

Гэта, лепш сказаць,—папера.

Але-але, папера!

Брудная, у невялічкую цьвёрдую кулю скамечная, крывымі літарамі аздобленая папера, якую ён увесь час трымаў у сударжна сьціснутым кулаку.

Папера, якую ён сьпярша бяз сэнсу разглядае, а пасьля пахапліва разгладжвае.

Папера, вестку якой ён пачынае павольна і насілу расшыфроўваць, потым яшчэ раз спачатку да канца перачытвае, потым яшчэ раз чытае... пакуль ня зьнікаюць апошнія рэшты хмелю абамленьня ды здрантвеньня, і ён ясна бачыць рэчы.

Як-жа было гэта?

Пачакай-жа!

Ах—напэўна так:

Галоўны майстар — — — дзяўчыны, якіх ён лашчыць па заду рукой (сьвіньня! Нарэшце ён і мае такі выгляд, тоўстапузы, з пальцамі, як каўбаскі! аплявуха (мусіць, спрытная дзяўчына—Шкатулова Марыля, ха-ха-ха!)— — —звальненьне (натуральна, іх, абедзьвюх дзяўчат, выганяць: так заўсёды бывае: кожны з нас мо' тысячу разоў невінаваты, а майстар вінаваты, і нарэшце заўсёды: мастар невінаваты) — — —чытаньне абвесткі і сачыстае пасьляслоўе майстра — — — дэпутацыя з патрабаваньнямі — — — забастоўка (...і мы ўпэўнены, што ты зразумееш наша становішча, таварыш Галабурда... Натуральна, ён разумее. Натуральна! Даўно, праўда, ужо, як ён сам прымаў удзел у вялікім лёкауце, прыкладам, у тысячу васемсот...).

Тут думкі расталі ў раптам паўстаўшых успамінах: душныя памяшканьні сходу, бязладзіца перад зачыненымі фабрычнымі варотамі, бліскучыя каскі—так, так, тады ў нас былі каскі з залатымі сьпічакамі, у жандараў, зусім правільна...

Тут нарэшце думкі зьнікаюць і зварочваюць на доўгую кружню цераз забытае, засыпанае мінулае зноў назад на старыя рэйкі.

Так, нарэшце: забастоўка — — — ліст, які яны яму пішуць — — — як птушка уляцеў ён — —, як дзіўная птушка з адным толькі крылом і — — — — і — —

Рэйкі не вядуць далей.

Паміж тым момантам, калі прыляцела да яго птушка, і тым другім, калі яго абудзіў штурх нагой, зьзяе дзірка.

І — — ?

Што?

Што: „і — — ?“!

Усё зноў з упартай няўтомнасьцю крата капаецца шукаючая думка ў чарнаце няведаньня.

І — — ?

Што: „і — — “?

Усё зноў, пакуль ён нечакана не натыкаецца на вырашэньне пытаньня:

Жандары. Жандары!

Вось чаму іх ярасьць! — Таму!

Цяпер разумее ён адразу сэнс іх дасюль не зразумелых слоў, тых слоў, якія яны крычалі яму сярод біцьця:

„Дык ты баставаў разам?! — ну, пачакай! — — Дык ты да іх належыш?! — — Ну, пачакай! — — гэта табе крычалі яны „ура“?! — — Ну, пачакай..!“

Раптам бачыць ён тое, што сёньня пасьля полудню праспаў: дэманстрацыю — — стаўшыя машыны — — радаваньне і крыкі „ура“ — — і ён сам... Не, не, не..!

І вочы яго, чытаючы яшчэ раз зусім павольна апошнія словы скамечанага ліста, цямнеюць ад вострага болю:

„Адзін за ўсіх, усе за аднаго! Машыну нельга пускаць!“

Яна не пашла — — але — — — ча-му?!

X

Вось яго рука, а там, зусім блізка ад яе, ляжыць камень.

А там насупроць на сорак, а можа і трыццаць крокаў ад яго, сьвеціць жоўтае вакно фабрычнага буфэту, дзе зараз жандары з кіраўнікам ды майстрам сядзяць і сьвяткуюць перамогу.

. . .

Рука так блізка ад каменя!

А сінякі ўсё яшчэ баляць!

І колкі ўсё яшчэ адчуваюцца ў баку!

І скамечаная папера ўсё яшчэ тут!

І наогул сёньня яны ня ў першы раз напалі і набілі яго да поўсьмерці. І ня ў першы раз зрабілі яны яго бадзягай і штрэйкбрэхерам.

Ну, дык каменем іх!

. . .

І вось, калі ён кінуў яго, калі ён з выцягнутым уперад целам, з рукой ля вуха стаіць і прыслухоўваецца, што будзе, забыўся ён на ўсё: і пабоі, і скамечаную паперу... і ашуканства. Але, але—ашуканства! Хіба не ашукалі яго сёньня пасьля полудня з яго трыумфам? Тым, што ён і ня бачыў, і ня чуў, і не перажыў таго, як яго шанавалі, як героя... Але ні аб чым гэтым ня думае ён. Няма ў яго думкі аб помсьце і адплаце. Толькі адзінае дрыжачае жаданьне: хаця-б прыйшлі! Хаця-б прыйшлі і забралі яго (так, так, яны будуць яго біць, але што значыць гэта?!). Хаця-б прыйшлі ды яго арыштавалі! На ноч заперлі-б яго дзесь у склеп... а заўтра, заўтра адвядуць яго. (Ён: з рукамі ў ланцугох, яны: з штыхамі на руку!). Правядуць праз усю вёску. Каб усе маглі бачыць, што ён, Францішэк Галабурда, усё-ж ткі сапраўдны чалавек і... заслужыў гэта сёньня па абедзе!

Ён стаіць і прыслухоўваецца. Насупроць бязладны шум за раптам патухшым вакном ніяк ня хоча абярнуцца ў гук набліжаючыхся жандарскіх ботаў.

Чаму яны ня ідуць?!

Чаму яны ня ідуць?!

... Але калі вакно раптам зноў ярка асьвятлілася і амаль што адначасна чуваць шпаркія крокі, разам прачынаецца інстынкт бадзягі, прывычка валацугі!

Бяжыць, уцякае, унікае, як шалёны, цяжка дыхаючы і задыхаючыся, усё прыслухоўваецца да перасьледваўшых крокаў—пакуль нарэшце зморана ня спыняецца далёка ад вёскі, бо далей больш проста ня можа.

І толькі цяпер заўважае: ніякага „зялёнага“ за ім няма, толькі чалавек, які мае той-жа выгляд, як і сам ён: „Казёл“, стары знаёмы і часты спадарожнік.

„Казёл“.

Галабурда нячула аглядае яго.

Дзесь на галінах дрэў, ля якіх ён нядаўна бушаваў, вісяць—убогія вісельнікі—абрыўкі дрыжачага жаданьня:

Сонечная вясковая дарога...

Бліскучыя сьпічакі штыхоў...

Ён сам у ланцугох...

Прыцісьнуўшыяся да ваконных шыб твары...

Веючыя хусткі і крыкі „ура“...

Аддуваючыся і спатыкаючыся набліжаецца „Казёл“, крычыць:

„Што ты ўцякаеш ад мяне, стары, быццам ад чумы?! Ці ты здурэў?!“

Ён ужо зусім блізка ад Галабурды, а той стаіць, як скамянелы.

„Ну-у?!

Тут заўважае ён разьбіты нос, апухшы рот, падцёкі на вачох, голасна сьмяецца ды крычыць:

„А ў цябе добры выгляд, сапраўды!“

І мякка штурхае яго ў бок:

„Што з табой, га?! Кажы-ж! Сёньня і ў цябе быў твой вялікі дзень, га? Чуў штось аб гэтым...“

І хоча яшчэ раз лёгенька штурхануць яго.

Тады Галабурда адкрывае рот і гаворыць павольна і з вялікім націскам:

„Вытхнуўся, сьмярдзюк! Вытхнуўся!“

А гэта значыць:

„Вялікія дні, разумееш ты, належаць ня нам, адзінкам. Вялікія дні належаць яшчэ толькі масам...“

Пераклаў з нямецкае мовы **Ю. Зэмель.**

Л. РОДЗЕВІЧ

# НЯ ВЫТРЫВАЎ

*(З жыцьця Заходняй Беларусі)*

Калі каму па каму, дык Яўхіму два камы, ды што два—тысяча і адна злыбеда есьць поедам яго малазямельнага, але многапакутнага. Як ён ні біўся, як ні намагаўся на сваім вузенькім шнурочку, а ўсё з году ў год больш грозны недарод, больш сухі голад.

З дакорам і мальбой да ўсіх надлюдзкіх сіл кідаў ашчадна і старанна зерняты ў худую камяністую глебу; з трывогай і з болем у сэрцы сачыў, як праціскаецца наповерх паджарая рэдкая рунь; з праклёнам і роспаччу згортваў у кучы зрэзаную пляшывую ніву, альбо, скрыгочучы зубамі, заворваў сваю бескарысную мазольную працу і надзею.

Каб за падаткі ня сесьці ў турму, каб не памерці з галаду, мусіў Яўхім узяць кароўку на вяроўку і—на рынак. А там не прадаў, а проста як дарам аддаў, за бесцань. Бедняку так: купіць—дарага, прадаць—танна. А іншага ратунку няма, трэба выкручвацца, як скурат на агні. Асіраціў сваю абору, дый кварта малака—не абы-якая падмога. А каб ня так шчымела на сэрцы—хлебануў гары.

Вярнуўшыя дамоў, зайшоў у хлеў да коніка і заплакаў—адзін ён застаўся. Але як пагладзіў рукой па кастлявых бакох каня, дык злосьць узяла: косьці ды скура—пэўна-ж, такая шкапіна ня выручыць у ліхую гадзіну, граша дзіравага ніхто ня дасьць.

Вось бяда за бяду так і чапляецца, і valовай скуры ня хопіць, каб напісаць пра ўсё. Дый дарэмныя турботы, бо трэба толькі глянуць у вочы Яўхіму, пачуць уздох-енк яго жонкі, сьлёзныя нараканьні галодных дзяцей, як ва ўсім гэтым пабачыш гісторыю панскай окупацыі, уцяміш боль роспачы і агонь нянавісьці гэтых бедакоў.

— Вытрываць яшчэ дзень,—вось з чым устае і кладзецца Яўхім.

Як сасонка на стромым беразе ракі конвульсійна чапляецца карэньнямі за сыпкі сухі пясок, так і Яўхім упарта, цярпліва трывае пад градам злыбеды, гора і насланьня.

Вытрываў яшчэ адзін год, нібы доўгі цэлы век. За гэты час ад хвароб і галадоўлі памёрла колькі душ сям'і. Яўхім быў са тры разы арыштаваны, ну, і пабіты за штрафы і падаткі, якіх ужо не плаціў. Пан падстрэліў яго жонку, калі тая зьбірала грыбы ў лесе—цяпер кульгае ды рана гноіцца.

— Бяда з гэтымі бабамі,—жальбуе, шкадуючы, Яўхім,—не адну ўжо пан падстрэліў, аднак, смольлю лезуць. Бо што ты зробіш: вясковай жанчыне сабраць грыб ці ягаду—толькі-ж тэй і ўцехі ў яе беспрасьветным жыцьці, адна тая акраса пры бясхлебіцы і сухім посьце.

А тут і поля ўсяго не ўрабіў, бо конік у баразьне як лёг, так і ня ўстаў. Каб калі цыгаркай душу адвесьці, дык тытунь быў засеяў, бо куплёным не накурышся. Але-ж не давялося скарыстаць, бо ўласнымі рукамі змусілі павырываць расаду і штраф заплаціць. І хатнія справы пагоршыліся: саган стары адбыў свой век і няма ў чым поліўкі зварыць, а жонка пілуе, кажа, што з ім, з Яўхімам, ня жыцьцё, а катарга.

Але Яўхім трывае. На ўсе спосабы ўхіляецца ад новых udараў сваёй долі, рознымі пуцінамі абыходзіць жыцьцёвыя няўдачы і перашкоды. Доўгі час шукаў паратунку ў бога, малітвах, шукаў праўды ў судзе супроць пана за пакалечаную жонку, прасіў дапамогі ў ксяндза, абароны—у гміне і ўсюды—адна толькі крыўда, зьдзек і паняверка.

Дзівіўся Яўхім, гледзячы на жонку: яе ня так бяда сушыць. Вось яна сабе пастогне, пакрэхча, як вярбіна старая, але не бярэ ў душу свайго гора, не паддаецца роспачы. Дай, думае Яўхім, пачну і я стагнаць, можа гора сваё выстагну. Ну, і пачаў стагнаць ад зары да зары, што-б ён ні рабіў—ці ішоў на сенакос, ці палуднаваў сухой скарынкай з вадой, ці на сходзе ў вёсцы быў—усюды стогнам стогне, а бяда ані гу-гу.

Аднэй ночы ня так ад думак, як ад голаду ня спалася Яўхіму. Ляжаў і думаў, з якога боку і якога ліха яму трэба чакаць у наступны дзень і як гэта падставіць карак так, каб менш балела. Думаў і нічога ня мог прыдумаць. І так яму маркотна зрабілася ў яго бязвыходным становішчы, так усю самоту і боль адчуў ён, што хоць ты жыўцом у зямлю лезь. Бо хоць-бы табе хто заступіўся, хоць-бы хто паратаваў, памог. Усюды падстаўляюць ножку, усюды штурхаюць глыбей, на дно нэндзы, і калі ты ўпадзеш, завыеш з болем, дык яны, гэтыя войты, ксяндзы, паліцыянты, паны рагочуць ды хмарай зьлятаюцца, як груганьнё над мерцьвяком. Што дзень, то ўсё больш нядужаю, немач агортвае, а яны толькі гэтага і чакаюць, рвуць цябе зубамі на кавалачкі і ня важся адбівацца.

— Не-ткі, мусіць, ня вытрываю!

І так да раніцы Яўхім перабіваў свае цяжкія думкі воклікам:

— Не-ткі, мусіць, ня вытрываю!

Як разьвіднела, зглядзіў Яўхім на сьцяне серп, што вісеў тут-жа на цьвіку. Глядзіць ён на гэты звычайны і добра вядомы серп—рабіў-жа ён яго сам у каваля,—глядзіць і ня можа вочы адарваць. Нешта ён яму нагадвае, недзе ён яго бачыў і не адзін, а з малатком... „Паўстань праклятцьцем катаваны...“, успомніўся раптам яму мотыў „Інтэрнацыяналу“ і гарачынёй абдало ўсё цела. Мысьленна пяяў Яўхім, і пад гэты сьпеў загарэлася палкая новая думка, таенная, спагадная і такая блізкая, радасная, што ўсяго ўзрушыла, усхвалявала. Ён барджджэй ускочыў

з пасьцелі, каб з кім пагутарыць, параіцца, пагардзіцца... Аднак, жыцьцёвы досьлед стрымліваў ягоны запал, нават жонцы не сказаў—ня мог адважыцца голасам перадаць, баўся, каб гэтую думку не адабралі, каб ня выбілі з-пад ног адзіную апошнюю кладку, па якой мусіць перайсьці на той бок лепшага жыцьця...

Нечакана яго думку выказаў уголас вучыцель польскай школы, што была ў вёсцы. Яўхім так задумаўся, што, пераступаючы з каменя на камень па гразкай вуліцы вёскі, не заўважыў, як насупраць яго ішоў вучыцель, таксама стараючыся папасьці на камяньні і кладкі. Яўхім зьнянацку гэтак штурхнуў вучыцеля, што той замахаў рукамі, як вятрак крыльлямі, страціў роўнавагу і стаў на карачкі ў гразь.

— Эй, бальшавік! Хіба ня бачыш хто ідзе?

— Вось у добры час сказаў,—падумаў Яўхім і цьвёрда пастанавіў запісацца ў комуністычную партыю.

І пачаў Яўхім шукаць пералазу да партыі. Чуў, дагадваўся, што сусед па вёсцы, Клім, мае дачыненьне, даходзіць да компартыі. Ну, і прыстаў неадчэпна да Кліма.

— Запішы ў партыю, бо ня вытрываю.

Клім хітрым словам, вострым вокам вытрас нутро Яўхіма на дзенны сьвет,—чыста! Аднак, асьцярожна панадзеіў.

— Дай спакой, ня мне запісваць. А вось што маю, дык падзялюся: літаратуру комуністычную маю—выпадкова знайшоў. Прыходзь заўтра падвечар да Белага Каменя ў панскім лесе, ведаеш. Ну, дык там дам табе, а ты пачытай і другім перадай. Не кажы толькі, адкуль узяў, бо і табе, і мне дрэнна будзе ад панскае ўлады.

— Прыду, братка. Ну, вось і добра. А то ўжо чуў, што больш ня вытрываю, што ўнутры нешта трэсьне, парвецца.

Да Белага Каменя па літаратуру Яўхім прышоў не абыяк, а з вялікім кошыкам—каб набраць сабе і іншым даць. Накладу, думаў, поўны кошык, а зьверху лісьцем прыкрыю. І нямала зьбянтэжыўся, калі яму Клім даў толькі адну невялічкую лістоўку і тая на тонкай гільзавай паперы.

— А кошык ты гэта нашто?

— А так сабе. Ну, а чаму кошык ня ўзяць? Вось, напрыклад, у грыбы хадзіў.

— Гэта ты добра прыдумаў. Калі ты такі хітры, то цябе паліцыя доўга не распазнае.

— Ну, а як-жа наконт гэтага... Калі пойдзем?

— Куды?

— Паноў біць.

— Ты, брат, з гэтым не сьпяшайся. Партыя скажа, тады... А цяпер пачытай пакуль і давай разойдземся, бо там нешта за кустамі шарахціць.

— Каб хутчэй, бо вельмі-ж ужо цяжка.

Прачытаў Яўхім лістоўку не адзін раз і ня два, але зачытаў яе да дзірак. А вось чаго спадзяваўся там знайсьці, не знайшоў,—ня было

закліку да паўстаньня і ня было абяцанак, што хутка паляціць стоцьма панская ўправа. Аднак, лістоўка, чым яе часьцей чытаў, тым яна больш цёпла і прыязна прамаўляла, а яе праўда глыбей западала ў сьвядомасьць.

Памаленьку Яўхім уцягнуўся ў рэволюцыйную працу і запісаўся ў партыю. Цяжка было Яўхіму ператрываць гэтае доўгае „памаленьку“. Усёй істотай, усім нутром сваім прогся ён хутчэй да компартыі, бо гэта быў адзіны выхад з яго згубнага становішча. І калі зрабіўся партыйцам, дык ня раз, калі бот окупанта націскаў так, што ўжо дух займала і калі яго нутраныя струны напіналіся да адказу, тады ў гэтыя цяжкія часіны Яўхім знаходзіў у партыі палёгку то організуючы забастоўку парабкоў, то нясучы сьцяг на дэмонстрацыях, то выступаючы на рабочых мітынгах ад імя працоўнай вёскі. Яўхім у часе гэтых радасных момантаў усю сваю нянавісьць, боль і роспач перарабляў у рэволюцыйнай машыне на рэволюцыйны гарт і сілу.

Але чым далей, тым усё больш множыліся гэтыя цяжкія часіны, тым трудней было іх вытрываць.

— Слухай, Борух,—казаў Яўхім да свайго старшага таварыша, — неўмагату мне далей так чакаць. Няма ўжо сіл. Няўжо я адзін такі рупны ў партыі. Ну, скажы, калі ласка, як мне змагацца—вось так, паступова і спакойна за гэтыя штодзенныя патрэбы, калі перада мной, перад маёй сям'ёй, нават перад маёй вёскай вырасла ва ўсю веліч чудасная патрэба—жыць! Гінем мы, чуеш, гінем—бледны голад нявылазна сядзіць на покуці ў нашых хатах, сядзіць, пакуль ня вынесуць гаспадароў на могільнік у жоўтыя ямы. Як-жа чакаць, калі з цябе дух вон лезе. Ну, як-жа тут вытрываць?!

— Спагадаю і разумею, бо я і ты — тое самае, аднак, трываю! Няправільна я сказаў: тое самае. Ты вось здароў, а я ледзь дыхаю— пяць гадоў вастрогу за прыналежнасьць да компартыі высмакталі ўсе мае сілы, а цяпер беспрацоўны і паліцыя бяз упынку тэрорызуе, дзяцей поўная хата, жонка, сам ведаеш, атруцілася з гора, калі я сядзеў у вастрозе. Біць паноў ня так трудна, а вось ты вытрываў у рэволюцыйнай падрыхтоўцы да рашучых баёў! Так што мне трэба было-б у цябе запытацца: як тут вытрываць?

Пасьля ішло доўгае навучаньне, як і чаму трэба трываць, як шкодна і небясьпечна цяпер „пачынаць“, як дзіўна, што ён, Яўхім, прабыўшы столькі ў партыі, не разумее такіх простых рэчаў.

— Чаму гэта я не разумею,—пакрыўдзіўся Яўхім.—А хто ўстрымаў вяскоўцаў ад самасуду над паліцыянтам, які акрывавіў мне твар бізуном за маё сьмелае слова. Лягчэй шалёнага быка за рогі ўстрымаць, як іх, аднак, вось словам уціхамірыў іхны паўстанцкі выбух. Дык, мусіць, разумею. Тут, браце, іншая рэч. Прышоў я да цябе, каб думкі свае неадчэпныя выкласьці—трудна мне з імі: усё бягуць і бягуць наперад і такую пратапталі сьцежку, што і самому павабна пайсьці. Баюся, братка, за сябе, магу сарвацца і пайсьці, хоць увесь час, заціяўшы зубы, трываю.

Вось я і прышоў да цябе, каб мацней прывязацца да партыі, а ты— маладзец, ня толькі прывязаў, але і прыкуў і, мабыць, надоўга.

Яўхім з цягам часу зрабіўся добрым бальшавіком і дысцыплінаваным партыйцам, што было сіл змагаўся ня толькі са сваімі тэрорыстычнымі бунтарскімі несваячаснымі настроямі, але дакараў і стрымліваў іншых.

Надышоў час першамайскае дэмонстрацыі. Шмат працы палажыў Яўхім, каб згуртаваць больш сялян у мястэчку на дэмонстрацыю. Шчыра, аддана працаваў, ну, і дачакаўся радасьці: усё мястэчка было запруджана народам, ажно паліцыя стурхнула і ня важылася перашкаджаць ладзіць дэмонстрацыі, трымалася збоку—для яе ўсё гэта было неспадзеўкі. А тут стройныя рады рабочых і сялян, жанчын таксама, нават дзятва сформавала атрад наперадзе са сьцягам. Ды сьцягаў наогул шмат, а кожнае такое чырвонае палотнішча—гэта крык радасьці Яўхіма. А песьні рэволюцыйныя так і грымяць. Колькі-ж народу,—усе табе нага ў нагу ідуць, і кожны палыхае ўнутраным агнём. Якая зьнітованасьць і рашучасьць! Ну, хто паверыць—то-ж вунь Палута, здаецца, згрыбелая, порах сыпецца, а ідзе, як пад вянец. Не, Яўхім ніколі на гэта ўсё не спадзяваўся. Ён зусім ап'янеў ад нечаканага посьпеху, ад бурнага наплыву радасьці, уздыму рэволюцыйнага пачуцьця. Ня інакш, як час расплаты блізка, рашучы бой надыходзіць... Як ня ўхіляўся Яўхім ад гэтых павабных думак, але ня мог саўладаць са сваёй хмельнай галавою, у якой рух усхваляваных мас, маршавы тэмп рэволюцыйных песень узрушылі выбражэньне, падбухторвалі на рашучы вялікі ўчынак.

— Эх, адвясьці-б душу!

Чуе Яўхім збоку: нехта расказвае, як пачалася рэволюцыя ў іхным горадзе, як будавалі барыкады, як разганялі паліцыю. Гэта ўспамін аб Кастрычнікавай рэволюцыі, але бег частых і блізкіх думак накіроўвае выбражэньне Яўхіма на іншы напрамак, ён рысуе сабе гэта ў сучаснасьці, ён гэтага хоча ўсёй сваёй істотай, хоча, каб так было ў Вільні, у Беластоку, у Варшаве. Ён верыць у сваю выдумку, ён захоплены гэтай весткай. Дык, значыць, пролетарыят рушыў, пачаў, пролетарыят на чале, так і партыя кажа, што як пачне пролетарыят...

З натоўпу гукалі лёзунгамі:

Няхай жыве комуністычная партыя Заходняй Беларусі!

Няхай жыве пролетарская рэволюцыя!

— Ура! Ура!—крычыць Яўхім і выходзіць на падвышэньне. Ен проставалосы, развогнены, у твары ясната і прамяністасьць. Чуе, як бурная радасьць і жаданьне непаўстрымана пакацілася па бітай сьцежцы яго бязупынных лятуценьняў.

— Таварышы, нацярпеліся мы даволі! Дык хто проціў рэволюцыі, таму галава далоў. Годзе, спусьціўшы вушы, церціся па панскіх парогах. Бо рэч вядомая, што ўб'еш, то і ўедзеш. Бо наша сіла, наш ратунак вось у чым!

І Яўхім грозна патрос магутным кулаком у бок паліцыі, якая таптался на месцы і, зьбянтэжаная, ня ведала, што ёй рабіць.

Гаворыць Яўхім, а недзе далёка, у глыбі свайго нутра, адчувае нежаданае, прыкра-патрэбнае, што нябачнымі ніткамі цягне яго з трыбуны, блытае язык—бунтарства селяніна заступае месца рэволюцыйнай сьвядомасьці пролетара.

— Аднак, таварышы, кайданы яшчэ моцныя, а мы ня ўсе ўцямілі, што чым яны мацней, тым нам горай. На гэтыя кайданы даем апошняе, крывавым мазалём набытае. Бяруць нашых дзяцей, бараніць нашыя ярмо і кайданы. Выціснулі з нас і глебы нашай усю сілачку і жыцьцёдаўчыя сокі. І сеем мы цяпер пот, кроў, сьлёзы, а пажынаем крыўду і галодную сьмерць. І ці ёсьць адна ноч, каб ня чуваць было панурага бразганьня гэтых кайданоў на нашых сьцежках-пуцінах, што вядуць у каменныя мяшкі панскіх вастрогаў. Хто з нас не адчувае, як кайданы скруцілі кожны наш рух, уядаюцца да крыві ў цела і душаць, душаць да сьмерці...

Круты рухам Яўхім разьдзірае каўнер. У гэты момант ён адчуў увесь цяжар і труднасьць нянавіснага, набалеўшага зьняволеньня і ўціску. Крыўда, бы вар-кіпень, ашпарыла нутро. Нянавісьць, прага помсты сьціснулі за горла, затуманілі разважнасьць. Яўхім цалком аддаўся бунтарскай стыхіі. Зласна варочаючы налітымі крывёй вачыма, хрыпатым голасам напоўпрытомны, крычаў так, бы хацеў выкрычаць тыя бурлівыя пачуцьці, што разрывалі грудзі.

— Браты, таварышы, няма чаго чакаць! Калі ня мы сяговьня, дык яны нас заўтра падушаць, жыўцом паядуць. Няма сілы больш трываць! А ці вы ведаеце, што ў горадзе ўжо пролетарыят паўстаў, барыкад колькі хочаш, а праклятага панства як і ня было—на ўсе чатыры бакі разьвеялі!.. Дык хто за рэволюцыю?.. Браты, таварышы, вунь яны ўжо пачынаюць. Дык ці-ж нам падстаўляць галавы пад іхныя шашкі...

Яўхіма канчаткова апанаваў малады шал, дзікі зьвярыны разгул. Покнулі напятыя струны, а з іх сарваліся баявыя лёзунгі і паляцелі агністымі птушкамі над хвалямі натоўпу.

Паліцыя, атрымаўшы к гэтаму часу падмогу, кінулася з асьцервяненьнем на мітынгуючую гушчу народу, кінулася тушыць крывёй сярмяжнікаў, іхны запал клясавай нянавісьці.

Але словы Яўхіма, бы іскры кінутыя ў бочкі пораху.

Запал выбухнуў паўстаньнем.

— Ура!—загрымеў усхваляваны натоўп.

Тысячны выкрык, улюлюканьне, рык былі рэхам парваных Яўхімавых струн.

У момант была раззброена паліцыя, зруйнаваны паліцэйскі пастарунак, суд...

А пасьля верхаводаў паўстаньня прыгарнула пад сваё крыло пушча.

А пасьля карная экспэдыцыя...

*А. АЛЕКСАНДРОВІЧ*

# НАРАДЖЭНЬНЕ ЧАЛАВЕКА

*Роман*

Нікнуць чары ў пору гэту.
З воч спадае асьляпленьне,
І законы піша сьвету
Людзкай праўды вызваленьне.
*Янка Купала.*

Свершатся сроки: загорится век,
Чей луч блестит на быстрине столетий,
И твердо встанет вольный человек
Пред ликом неба на своей планете.
*Валерий Брюсов.*

## ПРОЛЁГ

### I

Жыцьцё зьмяняецца, зьмяняюцца ідэі.
Расьце сасна, а поруч тлее корч.
Радзіўся чалавек. Звычайная падзея.
Пануе дзень, калі змаглася ноч.

Радзіўся чалавек. Расьце-цьвіце ў пяшчотах
і для яго жыцьця—жыцьцё другіх гарыць.
На ногі стане ён. Сваім уласным потам
жыцьцю наступнаму гартуе права жыць!

Радзіўся чалавек. Імя яму—Марыля.
Ні што выдатнае ня збылася наўкол.
І, як заўсёды, куры па двары блудзілі,
падрывалі сьвіньні стлеўшы частакол.

Гаспадар задумны курыць самакрутку,
прылёг на комінак маўчком сібірскі кот.
Матуля стомлена. Ці радасьць тут ці смутак?
Радзіўся чалавек. У хаце лішні рот.

Пабеглі дні, а далей тыдзень, месяц.
За хмарай хмара так навала хмар.
Што дзень—то галаву яму з пакорай зьвесіш
І нізка згорбішся, як быццам ад ярма.

Над верхавіньнем лесу—захад, як гравюра,
пэйзаж туняецца ў прадоньні туманоў.

Расьце-гадуецца Марылька белакурай,
гуляе фарбамі заранкавая кроў.

2

Трава, нібы веер. Залоціцца золак,
прасторы узорамі вышыў.
Ліпнёвая раніца. З песьняй вясёлай
дзяўчаты па ягады вышлі.

Праменьні жартліва расу асушылі,
ў вазёрах зырчаць-ружавеюць.
За жменяю жменя зьбірае Марыля
чарніцы. Трава, нібы веер.

Жыцьцё маладое. Зазыўныя вочы,
як пушча, іх погляд глыбокі.
Пяшчоты народзяць у сэрцы дзявочым
каханьня нязнаныя ўсплёскі.

Як быццам кругі, калі ў возеры камень
праб'е павуціньне шкляное,—
так думка за думкай плыве ланцужкамі,
як хвалі. Жыцьцё маладое.

Расу асушылі. Шапочуцца глуха...
Марылька ў лятунках-завеях.
Шапочуцца сосны, так люба іх слухаць!
Прысела. Трава, нібы веер.

Заморыцца дзень, загараюцца зоры.
Пачула, што стала другою.
Хлапца палюбіла (яго зваць Рыгорам)
Пачатак. Жыцьцё маладое.

3

Што хата—то шыльда красуе,
што шыльда—то цэхавы ўзор.
Майстэрня. У майстэрні працуе
чаляднікам сьлесар Рыгор.

Забруджаны рукі іржою,
ад пылу чарнееццa твар.
А здасьць хоць і бруднай рукою,
заказчыку чысты тавар.

Часамі ён вольнай хвілінай,
любіў, разабраўшы стар'ё,

з раскладзеных частак машынных
штось новае скласьці сваё.

Змайструе. Руплівай паходкай
з мястэчка праз поле, праз гаць
ідзе пра сваю вынаходку
дзяўчынцы каханай сказаць.

Удумлівы. Вочы, як іскры.
Прыветнасьць румянцам гарыць.
Такіх-бы (як болей!) нам выкрыць
для славы пад зорамі жыць!

На беразе... Шчасьце дзялілі...
Над возерам зор карагод.
Рыгор з сьветларусай Марыляй
гушкаліся ў хвалях пяшчот.

4

А людзі блізкія Марылю ўсё пыталі,—
калі-ж да шлюбу выедзе з Рыгорам маладым?
— Так-і-і хла-пец!—бабулі выхвалялі;
— Дзяў-чына яг-гадка!—выхвальвалі дзяды.

Купальскай ночкаю Марыля варажыла,
вянкі з трывогаю пушчала на ваду.
— Вянкі зыйшліся!.. Косы распусьціла,
Рыгор захопліваў русалку-маладу.

Шаснаццаць ёй, а годам больш Рыгору.
Калі спаткаюцца, вось быццам галубкі.
Любоў юнацкая! Няма мяжы прастору!
Іх радасьць ня ўтрымаць, як ня ўтрымаць ракі!.

— З поўгода, любая, старанна папрацую,
капейку лішнюю націсну, зараблю.
Тады прыду, вазьму, каго люблю я,
а любіш ты?..—Вось глянь, як ня люблю!—

І вусны злучаны. Адно зайздросьціць месяц,
ад злосьці рынуўся тарчма ў лясны гушчар.
Пабеглі дні, а далей тыдзень, месяц...
За хмарай хмара, так навала хмар.

Жыцьцё зьмяняецца, зьмяняюцца ідэі.
Расьце сасна, а поруч тлее корч.
Адзін народзіцца, другі акамянее.
Пануе дзень, калі змаглася ноч.

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### Белы дом

I

Сілай разьюшанай цемень лягла
на гарадок пакалечаны.
Зьвісла навалай, лягла, як скала,
расправа злачынцаў адвечных.
Вецер узьняўся. Усхліпвае дым
трывогай, як зеліва, вострай.
Тлеюць руіны... Галосяць сьляды—
крывавыя плямы забойства.

Сьцелецца валам атручаны чад
злодзеяў першае сотні.
Рвуць-разьдзяваюць жанок і дзяўчат,
рвуць у глухіх падваротнях.
І хмелем песьні
несьлі весьці
ўдаль,
наўзлом—
свабода
і
пагром!
... Бо ...
... Гром ...
Гэй, хлопчыкі,
дуйце ворага!
Рэволюцыя прышла—
люба-дарага!
І раптам выбух—
Бумм... Зьвізз...
Слуп тэлеграфны на краму зьвіс.
Гэй, птушанькі
лёту дальняга.
Рэволюцыя прышла
дасканальная.
І чуецца блізка ўжо:
бах! бах!..
Што набліжаецца—
радасьць, ці страх?

II

Тлеюць руіны...
Як сэрца баліць!

Гнуцца да долу калені.
Плача Марылька... Імкненьні цьвілі,
юнацкая радасьць—імкненьні!

Вясёлыя думкі віліся даўно
і нікнуць у сэрцы надломах.
Яно ўжо заўсёды—чакаеш адно,
а выйдзе зусім падругому.

Думала так: перакруціцца час,
жыцьцё закрасуе іначай.
Дый гэтая зорка, агонь гэты згас.
Тлеюць руіны.
Плача.

Галосіць над бацькавым целам яна,
ад роспачы сьлёзы застыглі.
Тлеюць руіны.
Цемень.
Адна.
Бацькі ня стала,—забілі.

Марыля на бацькавы грудзі лягла
(бяда заўладала дзяўчынай)
Стромка сіла імкненьняў расла—
дачка беларускай краіны.

Месяц, як быццам на варце патруль,
сеў ля вакна камяніцы.
На вуліцы зноў—
завываньне куль,
блізіцца зноў навальніца.

Лямант і крык!
Лямант бяз слоў!
Кулі ў віхры вар'яцелі...
З грудзей у Марылькі палілася кроў
гарачай істужкай па целе.

Скроні закрылі вугальле вачэй,
рукі халоднымі сталі.
Крывавыя кроплі
з дзявочых грудзей
на бацькавы грудзі сьцякалі.

III

І раптам па бруку
грукат,
як град.

Гоніцца коньніцы
дружны атрад.
І незадоўга,
                яшчэ да сьвятла.
Чырвоная армія ў горад прышла.

IV

Рана-рана сонца ўстала,
глянула на горад,
дзе пранеслася навалай,
чорным віхрам гора.

На каленкі моўчкі сталі
і праменьні-стромы,
дзе бяду параскідалі
ветры-бураломы.

Пачарнелі камяніцы—
дым зьлізаў іх фарбы.
Спапяліла навальніца
сьцены нашых фабрык.

Сказ аб гэтым ліхалецьці
нашым пакаленьням—
у курганах лютай сьмерці,
ў помніках-каменьнях.

Гвалтаваў, паліў і грабіў
кат-белагвардзеец:
вочы—яма, рукі—граблі,
твар—крывёй ірдзее.

Рана—рана сонца ўстала,
глянула на горад,
дзе пранеслася навалай,
чорным віхрам гора.

Сонца, сонца, ты скажы нам,
ты скажы, скарыся,
дзе падзелася дзяўчына,—
зваць яе Марыся?

V

Вецер промені палошча
у вазёрах, на зарэ.
Белы дом стаіць на плошчы,
ў ім паходны лазарэт.

Колькі раненых на нарах,
Колькі зморных, слабых.
О, ня зьлічаць санітары
раны лютай барацьбы.

З нар адных—у сутарэньне,
— будзь ім лёгкая зямля!
Знойдуць іншыя збавеньне
на дубовых кастылях.

Ля вакна ў руках бясьсільля
(нары № 23),
быццам труп, ляжыць Марыля,—
сіні колер твар пакрыў.

Дыхаць цяжка, грудзі ўспухлі
точыць смага, цяга піць.
Толькі вочы не патухлі—
зіхацяць жаданьнем жыць!

Заглядзеліся на неба,
дзе сузор'е тчэ вянок...
— „Зоркі ясныя, што-небудзь
раскажэце праз вакно...

Вусны лістам затрасьліся,
заблішчэла скронь сьлязой.
— Зноўку буду, як калісьці,
буду дужай, маладой?

А мой мілы дзе ён, дзе ён?
Падышоў-бы, даў руку...
Зараніцы-веснавеі
маладую радасьць ткуць.

— Не. Няма. Няма нічога.
Разлучылі? Разам? Не!
Што? Скрываўленай дарогай
здані йдуць забраць мяне?

Во, ўжо блізка... Шаль на тварах...
Па маю ідуць душу.
Я іду... іду...

— Таварыш,
супакойцеся, прашу
ня нэрвуйце, калі ласка...

— Дзе я?..

— Сьцішся, добрай стань.
Зараз зробім перавязку,—
ўжо разьвеялася здань.
І ня болей, толькі тыдзень,
адганеце сьцень журбы.
Скінем бінт, а там надыйдзе
час здаровай, дужай быць.
Вось пакуль гарбаты кубак,
пакаштуйце, вось сухар.

— Дзякуй шчырае за любасьць
вам, таварыш санітар.

— Адпачнеце. Добрай ночы...

Коўдру йначай палажыў,
погляд стомлены, дзявочы,
быццам нейк заваражыў.

Ёй хацелася, як-небудзь,
разьвітацца, даць руку.
Зараніцы-зоры ў небе
маладую долю ткуць...

А ў палаце нясупынна
стогны, енкі, цьмяны сьвет.
Невясёлы той будынак,
дзе вайсковы лазарэт.

VI

Прабеглі дні на крыльлях сакаліных
і рассыпаліся зорамі ўначы.
Марыля ўстала. Кволая дзяўчына,
дзе ёй гора лютае змагчы!
Сьцюдзёны вецер вые дзікім воем,
слабое сэрца скручвае агонь.
Слоў няма. Надломана здароўе.
Куды ісьці?
Куды і да каго?
Адна-ж яна. І новых дзён, інакшых,
Як-бы ня ведаць ёй і ў сьне,
А ў зарасьлях брывей,
Як перад помстай, страшны
ўздыблен гнеў.
Замоўкла ўжо сымфонія гарматаў,
заціхлі выбухі шрапнэлевых ракет.
І гарадзкія заклапочаныя хаты
авеяў сонца сьвет.

Дый горад стаў інакшым, непадобным,
і нязвычайны рух і радасьць новых слоў.
О, марны лес!
Марыля йдзе галоднай
сярод вясёлых расьцьвітаючых садоў.
Ідзе самотная, адна, глухім завулкам,—
на Загараднай блізкія жывуць.
Можа пашчасьлівіць—
там—
знайсьці прытулак.
Можа прымуць ласкава,
згінуць ня дадуць.
І, як тыя птушкі, думанькі крыляцца:
Можа прымуць ласкава,
згінуць не дадуць.
Я шукаю шчасьця,
    шчасьце—гэта праца,
а за працай здужаю прыкрую бяду.
І знайду, знайду я любага Рыгора.
О, знайду, я веру, будзе ён маім!
Не загінем, разам рушымся ў прасторы,
сьвет прарэжам крыльлямі,
як вольныя страі.
О, знайду, мой любы, любы мой, адзіны
і цябе і долю—я знайду ў жыцьці!..“
    Хто пачуе шэлест дум дзяўчыны?
    Хто паможа шчасьце ёй знайсьці?
І раптам зьдзіўлена Марыя задрыжэла,
яе спыніў, нагнаўшы, санітар.
— Куды вы ідзіцё?
Шкада вас... будзьце сьмелай,
хадзем са мной, прымеце гэты дар.
Знайшоў прытулак вам,
знайшоў вам я ў знаёмых.
Пашто блукаць завулкамі,
    бяздомнай?..
        Схіліла галаву.
            Сьлёзы наплылі.
                Пайшлі.

VII

Санітар, Аўзор Дарубашвілі,
жыве багата ў гэткі трудны час.
Аб ім шапталіся, казалі-гаварылі,
„нешта ёсьць“ насілася ня раз.

І цяпер вісяць на вуснах чуткі,
быццам нейдзе нейкі загавор.
Панавалі зграяй гутаркі-пагудкі,
шыта-крыта-хітра працу вёў Аўзор.

І, яшчэ, ніхто ня чуў ні разу,
што пад прозьвішчам чужым схаваўся ён.
Што былы памешчык ён Каўказу,
профэсыянальны
шпіён.

Адны жывуць з пайка і гэткіх многа,
сядзяць бяз хлеба й не адзін дзянёк.
А ў Дарубашвілі—хлеб, штодня—бэфстроган,
і для апэтыту—дубнячок.

Ён даляры з ласкаю прыветнай
атрымоўвае за „пару цёплых слоў“,
а словы простыя—(коратка й конкрэтна),
колькі ў нас адзетых, колькі без штаноў.

Дзе ў акрузе войска разьмясьцілі,
як узброены чырвоны гарнізон.
Весткі гэтыя зьбіраў Дарубашвілі,
профэсыянальны
шпіён.

VIII

Жыла ня ў роскашы,
з маленства гэтак звыкла,
штодня за працай час праводзіць свой.
І на дванаццаць вушак лапці з лыка,
насіла бедная і ўвосень і зімой.
І пазнала гора, сьлёзы пралівала,
праклінала ў сэрцы долю і жыцьцё.
Родную матулю лютаю навалай
ў роспачы забрала
страшнае стацьцё.
Засталася з бацькам, разам працавала,
каратала дні свае, цягучыя гады.
Зьвісла зноў навала
і забрала бацьку,
Грудзі сьпеленаўшы цернямі бяды,
Знойдзен ёй прытулак цёплы і багаты,
і ня гіне з голаду, як наша галыцьба

Але сэрца змучана,
кінута за краты,
з сэрцам неразлучана
чорствая журба.
О, яе шануюць, даглядаюць, сочаць,
каб цьвіла, як вішанька, ў поўны цьвет.
— Ты бяры, Марылька, ты бяры, што хочаш,
што такая сумная? Што-о? Сакрэт?
Гаспадыня дому, пападзьдзя, заўзята
вечна ля Марылькі і падлік турбот
выведзе ў рахунак, а затым аплату
звонкімі Аўзор ёй выдасьць пару сот.
Сам жыве насупраць, толькі госьцем частым,
(заўжды з падарункам) кожным вечарком
зойдзе да Марылькі і з усьмешкай шчаснай
думае над ёю стаць гаспадаром.
Так жыве яна ў руках Дарубашвілі
і, як быццам, змушана жонкай стаць яго.
Але ня будзе, не! Яшчэ ня згас у жылах
крыві юнацкае заранкавы агонь.
Навакол руіны. Прогаладзь пануе.
За кавалак хлеба вечныя чаргі.
Іх яна ня ведае, а толькі сэрцам чуе,
не Аўзор ёй пара—
ой, другі, другі...
За вакном Марылька, быццам у палоне,
і зазьзялі скроні, як расой трава
— Эх, жыцьцё праклятае!
І на падаконьнік
беднае дзяўчыны
зьвісла галава.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### Ружовы пакет

### IX

Красавіковы вечар.
З правага боку ўзышоў маладзік.
Подыхам ветлівым вецер павеяў,
гушкаўся на дроце,
як белка гульліва
ў зарасьлях стромкіх дрэў.
На вуліцы песьні бадзёрыя чутны—
уздым перамогі армейцаў!

Выйшлі дзяўчаты, як той маладзік,
прыселі ля сьцен камяніцы.
Армейцы спыніліся. Сьціхнуў гармонік.
Хтось кінуў вітаньне дзяўчатам.
Слова за слова, і дружба прышла
і песьні, і сьмех, і танцы.
Аўзор і Марылька прайшлі каля іх,
прайшлі ня спыніўшыся, моўчкі.
Вышлі за горад. Яшчэ вярста—
могільнік брацкі, заросшы.
Марыля заплакала, сьлёзы здушылі:
тут бацька пахаваны, брацкі курган.
Тут бацька Марылі, тут дзеці Масквы,
Варшавы і Менску і Кіева.
Аўзор зьняў шынэль. Сядзяць удваіх.
Марыля зьбялела ад плачу:
па бацьку ручыліся сьлёзы яе,
па жыцьцю па свайму сіратліваму.
  Яе суцяшаў, супакойваў Аўзор,
абняў, прытуліў, усьміхнуўся.
Поле наўкола, ў высі маладзік.
Агнямі віднеецца горад.
Абняў, усьміхнуўся, нясьмела сказаў:
— Чаго-ж ты, згаджайся са мною.
Будзем шчасьлівымі, будзема ўдвох,
згаджайся, любоў мая ясная...
Марыля ўздыхнула. А вееў вецер
подыхам ветліва-цёплым:
— Слухайце доўгую казку жыцьця,
слухайце і зразумейце.
  Добра я помню. Было, як цяпер.
Зьбіралася вёска на жніва.
Колькі той радасьці зьняць ураджай,
хоць зямліцы абшар невялікі.
З надзеяй шчасьлівай улегліся спаць,
каб заўтра, чуць сьвет, у полі
сярпом завіхацца, вязаць снапы,
у песьнях калосьсям маліцца.
  А выла вайна. Наступалі немцы.
І раптам уночы,—о, жудасьць!
Рвуцца гранаты! У вёсцы крык!
У агні саламяныя стрэхі.
Лямант! Трывога!
Выбух за выбухам!

Скача агонь па сядзібах...
Так хочацца жыць, калі блізіцца сьмерць.
— Уцякаць!—парашылі ўсёй вёскай.
Доўга блукалі... Ні хлеба, ні працы.
Голад, як цень, неразлучан.
Бежанцы! Бежанцы! З торбай жабрачай
колькі іх згінула, зьнікла.
Жыцьцё маёй маці ў дарозе забраў
бязжаласны тыфус, пракляты.
Бацькі ня стала. Цяпер я адна,
адна, як гарох пры дарозе...
Жыву толькі ўцехай, надзеяй аднэй,
што стрэну Рыгора любімага.
Яму прысягала... Ён мне прысягаў,
калі забіралі ў салдаты.
Цяпер ён, я чула, што службу нясе
лётчыкам нейдзе ў чырвоных...
— Марылька, цябе-ж я люблю, як ніхто,
мы будзем шчасьлівы, згаджайся.
— Люблю я Рыгора, і з ім неразлучна
была я заўсёды і ў думках цяпер.
— Марыля, ты помні, што ён бальшавік,
а яны твайго бацьку забілі.
— Ой, не! Ніколі. Ён верны мне.
І чакаць яго буду да сьмерці.
Агнём засьвяціліся вочы яе
ў забыцьці на грудзёх Аўзора.
А што яму? Не каханьня кліч
ён чуў з свайго хітрага сэрца,—
і сьціснуў яе, загарэўся, рваў,
як зьвер той разгневаны, страшны.
Імкнуўся дзяўчынай сілком заўладаць,
ён рваў на ёй кофту, шукаў яе твар,
гатоў задушыць, няпрытомны.
Дый, сілу сабраўшы, рванулася з рук,
як выбухам крык астатні.

X

— Быць мне жонкаю Аўзора?
Ой, ніколі, не!
Як прыгожа зьзяюць зоры,
сьцелюць шлях вясьне.
Згіну я адна-адненька
харчам груганом.

Альбо палкае імкненьне
любаму аддам.

XI

— Хто мае жаданьні здолеў
зьнішчыць, загасіць?
Ня было таго ніколі
і таму ня быць!
А калі дукатам звонкім
Скарб мой падміргне,—
будзе мне пакорнай жонкай,
будзе жонкай мне!

XII

Рабочая пара. Праца--поўны ход.
А гарадзкая шляхта
ў кельлю кляштара--
зьбіраецца на сход.
Як знак на збор,
заенчыў звон.
Прышоў Аўзор,
за ім і ксёндз.
А за ксяндзом
на ўмоўны звон
грунём—
шпіён, шпіён.
Б'е званар,
галосіць звон.
Бяжыць гандляр
Амеерзон.
За ім яшчэ,
з усіх старон,
што-крок шпарчэй,
шпіён, шпіён.
Апушчаны шторы...
Змрок...
Вочы Аўзора—
электраток.
Дух сталі.
Сядзяць у рад—
Аўзор Дарубашвілі
чытае даклад:

— Паны! Зьбірайма болей сіл!
Настаў рашучай схваткі момант.
Нам загад—
разьбіць чырвоны тыл!
Бальшавіцкі тыл
быць павінен зломан!
Набліжаецца, панове, першамай,
яны рыхтуюць дэмонстрацыю, бясспрэчна.
А мы ўзарвем завод тарчма,
раскінем прэч цаглянаю карцеччу!
Да насельніцтва лісткі надрукаваць
і ня пушчаць іх строіцца ў колёны.
Ўзарваць масты!
Павінна і царква
скарыць народ сваім сьвятым законам.
І так—саветам сьмерць!
Зьбірайма болей сіл!
(Заводаўласьнік:
— У гэтым наша змова.
Ксёндз дадаў:
— Атруцім тыл...)
— Хто просіць слова?
— Я! Дазвольце?
Слова ўзяў гандляр,
асіпшым голасам, нібы пасьля хваробы:
— Заўчора ўвечары мясцовы камісар,
зрабіў з чэкістамі ў мяне дэтальны вобыск.
І, ой, бяда! Ці-ж лёгка расказаць?—
пазабіралі золата, даляры.
— О, вакханалія!
— Дзе-ж сілы, каб стрываць?
Аўзор сьцішаў:
— Зьніштожым камісара...
О, браты! Вялікі наш згавор
мы мусім выканаць.
— За нас усе сьвятыя!
Ў суботу ўвечар збор.
— З намі бог!
— О, Расія!
З намі бог! Ажыцьцяўляйце мэту.
Ня здрадзіць нам вялікі наш народ.
Выведвайце, што робіцца ў саветах.
Зачыняем сход.

## XIII

Аўзор і
Джон Кейтан (на выгляд суровы,
тутэйшы настаўнік ангельскае мовы).
Выйшлі абудва... На вуліцы цёмна.
Ссутуліўся Джон. Акуляры працёр.
— Містэр, часамі, здаецца, жыцьцём нас
абгоніць сучаснасьць? Чаму так, Аўзор?

Багаты я сілаю волі і сродкаў,
адно вось надоечы ў сэрцы, на дне,
пачуў, што ўстаяць перад валам паводкі,
незразумела-цяжліва мне.

Заўсёды я быў, так сказаць, канархістым,
цяпер выканаўца і быццам слабы...
— Ня трэба, мой дружа, хадзіць пэсымістым,
калі набліжаецца час барацьбы.

Упэўненасьць—гэта найлепшы прыяцель!
А смутак—нікчэмна-дакучлівы госьць.
Але, мажа кроплі халодныя, браце,
кроплі праўдзівасьці маюцца, ёсьць...

— Ну вось вам, шаноўны (размахвае стэкам),
трэба нам пошту даставіць,—бяда:
ня маем надзейнага мы чэлавека!..
Ї грошы ідуць і людзей ня відаць.

Таму і настрой неастоісты гэткі.
А пошту нам трэба даставіць ці не?..
Уздрогнулі бровы, затрэсьліся векі.—
Аўзор, схамянуўшыся:
— Ёсьць у мяне

дзяўчына. Яна завязе гэту пошту.
Бліскучая думка! Ніхто—як яна!
Будзем спакойны, таму й танным коштам
камандыроўка абыйдзецца нам.

Кейтан пачухаў сваю эспаньёлку,
спытаў недаверліва, шэпам сухім:
— Знаёмая вам? Мо' яна комсамолка?
Жанчын ня люблю я. Ня веру я ім.

Аўзор загарэўся раптоўнай ідэяй...
— To be or not to be![1]) Як гаварыў Гамлет.
Зайшоў Джон у школу (у школе жыве ён)
і вынес Аўзору ружовы пакет.

XIV

У садку сярод зарасьляў дрэў,
сьвітаньне прадвесьні шматкрылай.
Аўзор і Марыля. Ветра павеў
будзіць пачуцьці і сілы.

— Як хораша тут! Хто жыве малады,
ў таго сэрца, як птушка, ў палётах.
Марыся,—бягуць за гадамі гады,
маладосьць сваю губіш маркотай.

Згаджайся. Пашто прымушаеш прасіць?
накшай, шчасьлівай ты станеш.
— Пакіньце мяне! Я ня дам загасіць
агні маёй веры каханьню!

— Наіўная вера. Рыгор не для нас.
Паслухай мяне і згадзіся.
Паедзем, як сокалы, жыць на Каўказ,
Там сонца... там горы... Марыся!

Ад працы, ад гулу ўцячэм мы далёка,
сябрамі нам будуць і зоры і сокал.
Аул сабе знойдзем у скалах маўклівых,
нам весела будзе, мы будзем шчасьлівы.

Час зварухнуцца! Жыцьцё маладое!
Досыць схіляцца цнатлівай журбе!
Трэба, каб новыя думкі, настроі
табой заўладалі, прышлі да цябе.

Мяне ня чурайся. Пратры свае вочы.
Нуду непатрэбную кінь, адгані.
Табе, надаронай красою дзявочай,
адно толькі ў радасьць зьвіваць свае дні.

— Чуйце. Ня думаю вас я чурацца,
але папрашу, як быццам сястра,
дайце, ў знак дружбы, мне добрую працу,
за працай і зоры іначай гараць!

---

[1]) Быць ці ня быць.

— Знайду, бязумоўна. Цяпер, калі хочаш
расьсеяцца крышку, пабачыць людзей,
зьезьдзі ты ў горад, для ўцехі дзявочай,
удружыш і мне і сабе весялей.

З сабою табе дам пакет невялічкі
і—ўсё даручэньне: прыедзеш, здасі.
Сама пагуляеш. Адкінь гэты звычай
стаяць, наснагляць, угаварваць, прасіць.

Яна адмаўлялася. Ўсё ёй ня міла,
Дый думка раптоўная запаланіла:
— Прычым тут пакет? Я паеду у горад,
дык можа пра любага ўчую Рыгора...

І думка здалася такою прынаднай,
пачуць пра Рыгора—якраз цяпер снадна.

І згоду дала. І Аўзор навучаў,
як завесьці пакет, каб ніхто і ня знаў...

XV

О, колькі радасьці! О, шчасьце неўзнарок:
Аўзор Марыльку шле ў суседні гарадок.

О, колькі радасьці! Марыля ўбачыць сьвет.
Аўзор праз дзяўчыну сакрэтны шле пакет.

Імчыць цягнік. Калоціцца вагон.
Марылька і ня ведае,
што і яна
шпіён.

*Працяг будзе.*

*ВАЛЕРЫ МАРАКОЎ*

## МАЯ ПОЭМА

*Васілю Гінтаўту*

I

Вецер.
Вецер!
Як сэрца забіла трывогу!
Гэта свой,
Ці мо' гэта чужы?
Ты скажы мне,
Скажы,
Ты скажы,
Хто блукае ўначы па дарогах,
Хто фарбуе
Крывавай зарою на сэрцах нажы,
Ты скажы?

Я стаміўся,
Прыціх,
Я ня знаю.
Недзе вецер спраўляе
Магільны разгул,
А так хочацца зноў
Упівацца далёкім каханьнем
І ў азёрах душы
Захаваць чорнай восені сум і тугу.

Прыхіліся.
Як роднай, табе раскажу я,
Што я бачыў ў жыцьці,
Чым я жыў і што сьніў,
Чуеш?—
Вецер,
Мне холадна,
Быццам у склепе ляжу я,

Быццам гэта ня сон,
А мае непакорныя дні
Пралятаюць,
Дзе вецер зрывае зарніцы-агні.
Вецер,
Вецер,
Мне хочацца жыць!

* * *

Я стаміўся, і сэрцам прадрог.
Ну і чорт!
Зразумець не магу я.
Над аблічамі цёмных дарог
Я прыпомніў
Сваю дарагую...

Ноч...
І сьнег...
І нявесела мне.
Ў полі вецер і злосна і дзіка
Круціць ранены месяцам сьнег...
Тут на месячных
Шаблях
І піках

Зноў я ўспомніў
Аб сьветлай вясьне...
Зноў я ўспомніў
Аб любай,
Далёкай...
Успаміны... трывога... журба...
... І між волі намерзлае вока
Серабрыць маладая сьляза...

Цяжка мне...
І крычу я ў марозную муць,
Пад зялёныя хвалі праменьняў
— Эгэ-гэ!..
Досыць!.. Сэрцу пара адпачыць...
Я крычу...
Спатыкаюся...
Я на каленях...

А вакол
Толькі вецер і сьнег,
Толькі вецер

І сьнег,
І мароз,
І з знаёмага лесу ка мне
Выйшлі постаці сумных бяроз.

Вось і блiснуў ў акне аганёк.
— Уваходзь!
Тут душа аджыве.
Мы чакалі цябе,
Мы чакалі даўно,
Што-ж ты, ліха тваёй галаве,
Ня прышоў к нам
Мінулай вясной?..

— Эх, бабуля!..
Я знаю, ня ўсё тут расказана:
Мала жыў я,
А многа цярпеў,
Мо' затым, што
З душою пакрыўджанай блазана
Голас музы
Пра роспач мне пеў.

Ах, я знаю цяпер,
Што табе ня уцяміць
Гэту кроплю
Ў штодзенным жыцьці й барацьбе,
Што ня плачаш, як мы,
Над пражытымі снамі,
Што ня знаеш,
Як сэрца у роспачы б'е,
Калі брат душыць брата
Сваімі рукамі.

Ах, чакай!..
Ты з малітваю зноў
І ізноў з самагонам.
Горка мне за атруту тваю!
Я прышоў к табе з гораду
З нізкім паклонам,
А цяпер
Зноў павесіў ў туман галаву.

Крыўдна мне!
Зноў я чую твае наракањьні,
Зноў тут пахне струхнелым жыцьцём.

Дзе-ж былыя
Твае абяцаньні
І былога запалу касьцёр?

За вакном
Толькі вецер і сьнег,
Толькі вецер
І сьнег,
І мароз,
І зноў горача хочацца мне
Слухаць сумныя песьні бяроз.

І зноў ціха і сумна
Гаворыць яна:
— Бачу, й ты ўжо з намі папанску,
Мабыць, скажаш
Падаць табе чарку віна?
Не, браток,
У нас сэрца ў крыві,—
Не ў шампанскім.

Тут ня горад.
І зноў забываю я ўсё.
За вакном пабялела начная дарога.
Раптам думка:
Зьняважыў бабулі жыцьцё,
Яе мары
І думкі,
І бога...

І кажу я з надломам,
З адчаем кажу:
— Эх, бабуля!
Я знаю—ня ўсё тут расказана.
На жыцьцё я паіншаму сёньня гляджу—
Ні з душой дармаеда,
Ні ката, ні блазана!..

* * *

Ты пытаеш, як жыў і што бачыў у жыцьці,
Чым гарэў я і чым захапляўся?
Што ў пакрыўджаным сэрцы насіў,
З чым ішоў
І над чым насьмяхаўся.
Прад вачмі выплывае ізноў Ленінград.

Ноч і сінь
Ї пажар ліхтароў,
Што як быццам-бы вышлі
К яму на парад
Ад скрываўленых жніўнем дуб оў.

О, ці знаеш, ці знаеш,
Як шырак наш сьвет
Ї ці ведаеш ты, што за тэй вунь гарой—
Маладое ёсьць сонца,
Ёсьць зор агняцьвет
Ї што ёсьць непакорны народ.

Разьмяталася хворая ноч над Нявой,
Ї туманныя цені паўзьлі.
Бязудзельна,
Вышэй ад усіх галавой,
Рос жалезны асілак расійскай зямлі.

Ах, я знаю,—
Тудэю прайшла завіруха,
Там нядаўна зарою крыві напаўнялі бокал.
Толькі вецер
Гарматныя выбухі слухаў,
Ды буржуйскае горла
Сьціскала рабочых рука.

Абсыпаліся ружы дзявочых грудзей,
Вочы доўга глядзелі на захад,
Дзе гарматнае мяса каханых людзей
Пажыралі галодныя птахі.

Вецер выў, як і ў гэту вось ноч...
Вецер выў,
Галасіў
Ї маліўся...
Ї прасторы, залітыя сьмерці агнём,
Абрывалі дамы і капліцы.

Праз жыцьцёвую сьцюжу, праз змрок і туман
Толькі вецер над полем,
Як п'яны, хістаўся;
Ї хварэла душа ад нацёкаў і ран,
Ў грудзі холад магіл
Уліваўся.

А ў раскошных палацах
Магнатаў былых
Надрываліся енкам роялі.
Быццам нехта узбураны, страшны і злы
Праклінаў свой народ
І сухія галодныя далі.

Быццам нехта ў апошні прадсьмертны свой час
Ўзяў і выхапіў сонца
З туманных вышынь,
Каб прымусіць паўстаўшых баянаў маўчаць
І каб іншых
Душыць
І душыць,
І душыць!

* * *

А народ усё йшоў... Усё рос...
Пелі новыя песьні поэты,
Што прышлі ад сялянскіх сумотных палос,
Што прышлі
Ад рабочага сьвету.

Разышлася душа—госьць у сонечных дзён,
Вочы сталі напружнымі, сінімі...
І ў Вэнэры,
На выгнутых туга грудзёх,
Знак любові і зьдзеку пакінулі!

Потым білі
Нахмураных горда багоў
І Зэвэса да столі са сьмехам прывесілі,
Быццам помсьцілі ім
За радзімую голь
Пад усьмешку
Буржуя забытага месяца...

Эх, бабуля!
Я знаю—табе ня уцяміць
Гэту кроплю
Ў штодзенным жыцьці й барацьбе.
Ты ня плачаш, як мы, над пражытымі снамі,
Ты ня знаеш,

Як сэрца у роспачы б'е,
Калі брат душыць брата
Сваімі рукамі.

Гэта сон счараваў...
Лепш табе раскажу я
(Сёньня хочацца сэрца сваё расказаць),
Як на трупах
Жывых 'шчэ і мёртвых буржуяў
Пачынаем мы
Шчасьце сваё будаваць.
Нешта холадна!..
Можа запаліш чыгунку.
Фосфорысцэнцыя сьнегу варушыць мазгі.
Сыпле вецер бярозам
Свае падарункі
І цалуе, і песьціць, і носіць сьнягі...

* * *

Ізноў павеяла і блізкім і далёкім,
Такім знаёмым,
Любым,
Дарагім.
На ўсё глядзець хацелася пагардным вокам,
Хацелася таптаць
Былога шчасьця берагі.

І я глядзеў, як ветла разгараўся
Ў карунках сьлёз халодны аганёк,
Як ён шаптаў,
Як рос ён і хістаўся,
Такі вясёлы й малады зьвярок.

І мне здалося, што я у родным доме,
Паўзе за вокнамі халодная імгла,
І ў гэтай ціхай прадвячэрняй стоме
Мая любоў,
Мая зямля.

Я чую музыку далёкую і горкую,
Як быццам нехта плача за сьцяной,
Як быццам хтось любімаю гаворкаю
Пераклікаецца з вясной.

І, як раней, трывожна і надрыўна
Заве старых стары пабіты звон.
Чаго жадаць,—за шлях пражытага мне крыўдна,
Яму—праклён!

Жыцьцё, жыцьцё! Дарогі і імкненьні...
Вас шмат у тых,
Хто толькі сэрцам жыў,
Хто сьветлы сон балючага натхненьня
Не абрываў
І ня тушыў.

Які удар, які удар страшэнны!..
Я нават сам сьмяюся над сабой.
Няўжо мне так і сумна і так дрэнна,
Няўжо загублены
І шчасьце,
І любоў?..

Ах, не здарма—я быццам ў родным доме,
Паўзе за вокнамі халодная імгла.
Ізноў шуршыць пад бокам зьмятая салома
прад вачмі далёкі шлях.

* * *

Ах, так ты слухаеш ізноў?!
Дык слухай добра і ня сьмейся.
Бяз кіслых слоў і зьдзекаў над сабой
Я раскажу
Жывое сэрца.

Усе ў жыцьці мы верылі й кахалі,
І кожны нашу будучыну сьніў.
Мы нараджаліся,
Ішлі і паміралі
І за братоў гарэлі на агні.

Мы—гэта цені рыцараў-гігантаў,
Мы—гэта міг забытай пекнаты.
Мы—на малюнках Рэпіна і Рэмбрандта,
Мы—гэта песьні і цьвяты.

І вось затым мо' голавы схіляем
Туды, дзе болей сьвету і цяпла,
Дзе над тужлівымі палямі
Любоў бясьпечнай моладзі прайшла.

І я такім-жа быў, я ў захапленьні
Ўпіваў прыгожасьць дальніх берагоў
І сьмех начэй,
І песьні лятуценьняў,
І дзіўны вобраз дарагой.

Я бачыў сьвет, жыцьцё і дагараньне,
Я бачыў любую карміцельку-зямлю,
І гэта ўсё, як сонечнае раньне,
Як маладосьць,
Як родны край, люблю.

Я многа думаў зорнымі начамі,
Я быў адзін, затое гордым быў.
Я на жыцьцё глядзеў празрыстымі вачамі,
Сын змрочных сноў
І барацьбы.

* * *

Я захапляўся...
Кволымі рукамі
Махала шчасьце мне не аднаму.
Я тых шукаў,
Хто меў душу—ня камень,
Я песьнь сваю
Хацеў аддаць таму.

І вось спаткаўся з ёй.
Над Ленінградам
Ноч цалавала сьцены камяніц.
Яна была, як згубленая радасьць
Маіх душэўных
Песьняў-навальніц.

Ах, Кляра, Кляра!
Як усхвалявала.
Ах, як круцілася і млела галава!
І вось тады
З няведамым запалам
Я пачынаў і марыць і сьпяваць.

Я славіў ўсё, што была мне знаёма,—
Зямлю вялікую
І шчырасьць
І любоў,

І змрочны вобраз дарагога дома,
Дзе піў каханьня
Песенную боль.

Хто ня любіў
Туманнага жаданьня,
Хто прыгажосьці цела ня любіў;
Хто не гарэў,
Ня верыў у змаганьне,—
Той на зямлі
Ўсё роўна што ня быў!..

Я браў усё, прызначанае людзям,—
Блакіт нябёс
І ўсьмешку дарагой,
І хай падчас
Палалі помстай грудзі,—
Там жыў любві і шчырасьці
Агонь.

Я бачыў сьвет, жыцьцё і дагараньне,
Я бачыў любую карміцельку-зямлю,—
І гэта ўсё, як сонечнае раньне,
Як маладосьць,
Як родны край, люблю.

* * *

Глядзі, бабуля, там, на небасхіле,
Як зьзяе зорка ціхая адна!
То быццам вобраз дарагой і мілай,
То быццам йдзе да любага яна.

Сьпявай ты, вецер, радасна і глуха,
Я—сын тваіх прастораў ледзяных.
Я буду доўга, доўга слухаць
Рыданьне любых струн тваіх.

Ах, бачыш ты—на полі ўжо сьвітае,
І у душы туманнасьці няма.
Зноў насьпявае песьня маладая
І нікне дум халодная зіма.

Ляцяць пялёсткі сьнежных пацалункаў...
Я з іх спляту вясьне сваёй вянок.
І дум і слоў празрыстыя карункі
Я распалю, як сэрца аганёк.

*Працяг будзе.*

УЛАДЗІМЕР ХАДЫКА

## ГАРМАНІСТ...

Над борам змрокі для маніст
Рабіну ніжуць на аборкі.
Сялом всковы гарманіст
Ідзе к дзяўчатам на вячоркі.

Бадзёрасьць звонкае хады
У кроках дробленых гамоніць,
І рэжуць „барыню“ лады,
Вясёлы рыпае гармонік.

Прыбег няведама адкуль
На скокі вецер зухаваты.
Глядзяць, зяхаючы ў руку,
Гульнёй разбуджаныя хаты.

Цікавы кожнаму двару
Ігрышч сьвяточныя забаўкі.
Сьвятліцу дзеўкі прыбяруць,
Пасядуць з хлопцамі на лаўкі.

Танцоры зьявяцца сюды,
І песьні скончацца ня скора...
Мы ўсе жылі ў свае гады
Агнямі любымі вячорак.

Мы ўсе к суседзям і радні
Зьбірацца сьвятамі любілі...
Цяпер запаленыя дні
Дыхтуюць новыя нам былі.

На шлях наш сьлед прызначны лёг...
І ўсё-ж, ў хвіліну шчырых згадак,
Мы помнім родны свой парог
І сноў бярозавую радасьць.

Зямля, як волат, дзень і ноч
Заўсёды круціць сваё кола.
Палос сялянскае радно
Ператвараецца наўкола.

Палае змрок. Асеньні сьвіст
Налёг на хілкія задворкі...
Ідзе вясковы гарманіст,
Ідзе з сябрамі на вячоркі.

Свавольных жартаў сьціхне гром—
І, ў кучу зьбітая, дружына
Навесіць думка над сталом,
Навесіць буйныя чупрыны.

Вось скажа хтось: „Давай, братва,
Гуртом праслухаем газэту!..“
І будуць доўга вандраваць
Ступой маруднаю па сьвету.

Часы малюнкамі ўсплывуць.
Хай пан зьбіраецца на дзею:
— Даем адсекчы галаву,
Калі пашэньціць ліхадзею.

Калі на тое пойдзе, зброд—
І мы гадованы ня ў лесе:
— Як япрука, на азярод
За вус Пілсудзкага падвесім.

Бяседзе кожнай ёсьць мяжа...
Натоўп ў разяўленыя сені
Усьмешкай будзе праважаць
З кляновых рам Ульянаў-Ленін.

Пад ногі рыне жоўты ліст
І цені сонныя палезуць...
Тады пад песьню гарманіст
Сябрам сыграе марсэльезу.

*АНЦІН ПАЎЛЮК*

## ФРАНЦЫЯ

З вэранды:—віньніц вялізарны круг...
Паветра чыстае, як быццам зрок дзяціны.
Чужынец тут—я ўспамінаю луг,
Разьбег палёў далёкай Украіны.

Каханая Манон! Што успамін—то боль...
Здаецца,—цёмны цень заўсёды мае быць.
Бывае сьню, што, пэўна, нам абодвум
Мінуўшчыну ляпей было-б забыць.

Той успамін душу вянком не спавіе—
Пахучая (ня знаў яе) вэрвэна,
Той успамін—ваш улюблёны з кнігі de grieux,
Што ўпаў на землю там, каля Вэрдэну.

І віньніцы і тых працаўнікоў
Люблю, нібы свае... Манон! Кажу з прыветам,
Што Францыю маю—айчызну бедакоў—
Ня сёньня-заўтра чырваньню асьвеціць!..

Дарма й казаць: натар, кюрэ, рант'е...
Ён цісьне вас, як цісnуў-бы Украіну.
Дык, гора, прэч! Вянком хай спавіе
Чало нам вінаград у ясную гадзіну!..

Для нас—жыцьцё... Для нас і той пачын.
Для нас—узьлёт, крылаты і высокі!..
У вашым поглядзе застыгла далячынь
І успаміны ў сэрцы так глыбокі...

Успомню вас у веі гарадзкой,
Вас, Францыю маю, куток віна ды бэзу,—
Каб ні камэлій, ні прыгод Манон Lescdut
Каля маўклівых плітаў Пэр-Ляшэзу!..

З украінскае мовы
пераклаў **Юр. Лявонны.**

*АЛ. САЛАГУБ*

## ВАБІЦЬ, СЬМЯЕЦЦА...

Вабіць, сьмяецца прастор за вакно́м,
Кліча на волю пажоўклым лістом.

Адзін у панурай сяджу цішыне,
Пагляд мой блукае па жоўтай сьцяне.

Я чую віхуры за кратай, стагнаньне,
Я чую душою пару адцьвітаньня.

Смокча ля сэрца журба маю кроў,
І прагнецца грудзям пяшчотаў і сноў...

А думкі лунаюць, дзе межы, палі,
Дзе ў сонцы асеньнім блішчаць тапалі,

Дзе вецер калыша іржышча, быльлёг,
Дзе вербы у рэчцы палошчуць гальлё.

Ляцець-бы у родную вёску сваю,—
Сказаць: „ня сумуйце, гадуйце пяньку,
На жылах пласконьня павесім журбу“.

Дзяўчынцы каханай хацеў-бы сказаць:
„Пралеска мая, ты ня плач.
Хай ветры галосяць па чыстаму полю,
Хай чорны скавыча крумкач“.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Туды-б я хацеў на прастор шыбануць,
Туды, дзе калматыя хмары плывуць,

Дзе стрэхаў сялянскіх рунеецца мох,
Дзе вецер калыша іржышча, быльлёг.

14-X-27 г.
Лукішкі.

В. КНОРЫН

# ДА ГІСТОРЫІ ДЫКТАТУРЫ ПРОЛЕТАРЫЯТУ Ў БЕЛАРУСІ

*(Да дзесяцігодзьдзя агалашэньня БССР)*

Дыктатура пролетарыяту ў Беларусі, як у складанай частцы быўшай Расійскай імпэрыі, была заваявана працоўнымі масамі Беларусі разам з працоўнымі Ленінграду і Масквы, Растова і Харкава, Тулы і Ніжняга-Ноўгараду, пад кіраўніцтвам Уладзімера Ільліча Леніна і яго партыі, і агалошана аднадасова з Ленінградам і Масквой 25 кастрычніка 1917 году вялікім паўстаньнем рабочых і сялян, салдат і матросаў. Усе даўнейшыя даты на працягу ўсіх мінуўшых 11 год зьяўляюцца толькі верставымі слупамі, якія адзначаюць асобныя этапы ў барацьбе за замацаваньне заваёў Вялікага Кастрычніка, перамогі і паражэньні працоўных мас і посьпехі іх працы па соцыялістычным будаўніцтве. Агалашэньне БССР 1-га студзеня 1919 году зьяўляецца адным з гэткіх верставых слупоў, які адзначае посьпехі першых 14 месяцаў Кастрычнікавай рэволюцыі, адзначае новую перамогу пролетарыяту і сялянства, адным з паваротаў, які намячае паглыбленьне і пашырэньне задач рэволюцыі, намячае шырокія пэрспэктывы соцыялістычнага перабудаваньня ўсёй грамады, у тым ліку і ў галіне нацыянальных адносін і культурнага будаўніцтва. Вызваленьне БССР 11 ліпня 1920 г. з-пад польскай окупацыі зьяўляецца другім верставым слупам, які адчыняе для рабочых і сялянскіх мас шляхі мірнага культурнага і гаспадарчага будаўніцтва. Абедзьве гэтыя даты, гэтыя павароты, у гісторыі савецкай улады ў Беларусі былі зьвязаны з перамогамі пролетарыяту ўсяго Савецкага Саюзу; больш таго, яны былі вынікам умацаваньня дыктатуры пролетарыяту ў СССР, вынікам згуртаваньня навакол савецкай улады новых мільёнаў рабочых і сялян, вынікам росту сусьветнай пролетарскай рэволюцыі, вынікам перамог Чырвонае арміі. Толькі на аснове згуртаваньня вакол савецкай улады ўсёй рабочай клясы і сялянства, першых буйных перамог Чырвонай арміі і рэволюцыйнага паўстаньня ў Нямеччыне, Аўстра-Вэнгрыі і г. д. стала магчымым агалашэньне БССР; толькі на аснове далейшага ўмацаваньня савецкай улады і перамог Чырвонай арміі над Калчаком і Дзянікіным; толькі на аснове трохгадовай героічнай супольнай барацьбы ленінградзкіх і маскоўскіх, сталінградзкіх і менскіх, харкаўскіх і тульскіх рабочых, сібірскіх, украінскіх, варонескіх, беларускіх сялян, толькі на аснове новага

ўздыму сусьветнай пролетарскай рэволюцыі стаў магчымым ліпнёўскі наступ 1920 г. і вызваленьне БССР з-пад польскай окупацыі 11 ліпня 1920 г.

Але на гэтых шляхох разгортваньня і ўмацаваньня Кастрычнікавай рэволюцыі перад беларускім пролетарыятам і сялянствам узьнікалі цяжкасьці мясцовага парадку, выцякаючыя з беларускіх абставін, якія прышлося перамагчы комуністым Беларусі, пад агульным кіраўніцтвам УсеКП(б). У гэтым артыкуле я паспрабую адзначыць толькі невялікую групу гэткіх пытаньняў пры вырашэньні аднэй важнейшай проблемы—проблемы ўмацаваньня дыктатуры пролетарыяту.

I

Працоўныя масы Беларусі, дзякуючы вайне, шчыльна падышлі да соцыялістычнай рэволюцыі: імпэрыялістычны фронт праходзіў па самаму цэнтру краіны. Гарады і мястэчкі былі зусім разбураны. Прамысловасьць амаль поўнасьцю прыпынілася. Рабочая кляса, дзякуючы прыфронтовым умовам, знаходзілася ў больш цяжкім становішчы, чымся дзе-небудзь. Сялянская гаспадарка была ў поўным заняпадзе. Масы саматужнікаў былі таксама ў вельмі цяжкім становішчы. У гэткіх умовах для шырокіх працоўных мас мог быць толькі адзін лёзунг: безадкладнае спыненьне вайны і разам з тым стварэньне новых умоў для ўздыму рабочай клясы шляхам пераходу да яго ўлады, для ўздыму сялянскай гаспадаркі шляхам захопу ўсёй абшарніцкай зямлі з жывым і мёртвым інвэнтаром. Нацыяналістычныя і нацыянальна-соцыялістычныя партыі, застаючыся на грунце буржуазнай дэмократыі і Ўстаноўчага збору, не маглі вырашыць ніводнага з гэтых пытаньняў. Разам са сваімі расійскімі партыямі-маткамі (эсэрамі, энэсамі, меншавікамі і г. д.) яны былі супроць гэтых лёзунгаў і не маглі вырашыць ніводнага пытаньня, якое хвалюе шырокія працоўныя масы. Яны не маглі вырашыць рабочага пытаньня—цэнтрыская лінія „Бунду“ з лета 1917 г. фактычна ўсё больш і больш рабілася штрэйкбрэхэрскай (напрыклад, у часе летняй сутычкі пекароў і інш.). Яны не маглі вырашыць сялянскага пытаньня, заклікаючы чакаць Устаноўчага збору—і таму сталі антысялянскімі партыямі (Бел. Грамада, эсэры і г. д.). Яны не маглі вырашыць нацыянальнага пытаньня, бо нацыянальнага пытаньня нельга вырашыць у інтарэсах рабочых і сялянскіх мас бяз пытаньня аб уладзе і аб зямлі. Высоўваць адно нацыянальнае пытаньне ва ўмовах, калі масы ў аснову вырашэньня ўсіх пытаньняў ставілі пытаньне аб уладзе і зямлі, выступаць супроць захопу ўлады і зямлі, супроць выгнаньня капіталістых, абшарнікаў і чыноўнікаў і прапанаваць вырашэньне нацыянальнага пытаньня—гэта значыла зрабіцца сьмешным, зрабіцца Дон-Кіхотам у вачох шырокіх мас. Таму асабліва беларускія нацыянальныя і нацыянальна-соцыялістычныя партыі ў канцы 1917 г. ператварыліся ў нязначныя групы дробна-буржуазных інтэлігентаў, зусім ізоляваных ад мас працоўных, якія хаваліся ад іх, выступалі ў Беларусі ў шырокіх масавых кампаніях у блёку нацыянальных мен-

шасьцяй (Поалей-Цыён, украінцы, беларускія с-д., беларускія эсэры) і атрымлівалі нават у такім блёку адзінкі галасоў. Адзінай партыяй рабочых і сялянскіх мас магла быць і была партыя бальшавікоў, якая з усёй бальшавіцкай пасьлядоўнасьцю разгортвала ў масах асноўныя, рашаючыя, самыя важныя лёзунгі—безадкладнае скончэньне вайны, безадкладнае выгнаньне абшарнікаў і перадача ўсёй зямлі сялянам, заснаваньне дыктатуры пролетарыяту, самавызначэньне народаў, соцыялізм. Ёй масы верылі, з ёю яны хацелі вырашаць і вырашылі пытаньні аб скончэньні вайны, аб уладзе, аб зямлі, лічачы, што гэтым вырашаецца пытаньне аб усім, што трэба рабочаму і селяніну. На аснове таго, што кіруючая група работнікаў нашай партыі ў гэты самы час складалася пераважна з таварышоў, прыехаўшых у Беларусь з Ленінграду, Масквы, Рыгі, Іванава-Вазьнясенску, некаторыя да гэтага часу гавораць, што Кастрычнікавая рэволюцыя ў Беларусі была праведзена расійскімі бальшавікамі, і пасьлякастрычнікавая ўлада была прыежджай, чужой, расійскай. Няма нічога больш фальшывага, чымся гэткая пастаноўка пытаньня. Бальшавіцкая партыя, на жаль, у гэтыя дні яшчэ ня мела концэнтраванага разьмеркаваньня работнікаў. На чале ўсіх пасьлякастрычнікавых органаў улады (у сёлах, валасьцёх, паветах) стаялі працаўнікі выключна з мясцовага насельніцтва. Часьцей усяго гэта былі яшчэ беспартыйныя, якія ішлі за бальшавіцкімі лёзунгамі, сяляне і рабочыя, пазьней увайшоўшыя ў нашу партыю. Калі яны ня ішлі за нацыяналістымі і нацыянал-соцыялістымі, дык не таму, што яны былі не беларусамі, а таму, што перш за ўсё трэба было ўзяць уладу, узяць зямлю, выгнаць абшарніка.

Што-ж у гэтых умовах уяўляў гэтак званы І Усебеларускі конгрэс? Скліканьне І Усебеларускага конгрэсу ў гэткіх умовах было ў поўнай меры анты-пролетарскай, анты-сялянскай, контр-рэволюцыйнай справай. „Беларускі“ зьезд паставіў *над усімі* пытаньнямі пытаньне нацыянальнае, якое масамі вырашалася *адначасова*. „Беларускі“ зьезд ня быў на справе беларускім зьездам, бо ён не выяўляў ні беларускіх рабочых, пачаўшых уваходзіць у профсаюзы, ні беларускіх сялян, якія організаваліся ў Саветы. „Беларускі“ конгрэс ня мог паставіць рабочага пытаньня, бо ён ішоў супроць самой сутнасьці Кастрычнікавай рэволюцыі, а рабочае пытаньне ў гэтыя дні вырашалася перш за ўсё пытаньнем аб уладзе, заснаваньнем дыктатуры рабочай клясы. „Беларускі“ конгрэс ня мог вырашыць пытаньне аб зямлі, бо гэтае пытаньне ўжо было вырашана сялянамі, якія захапілі зямлю і выганялі абшарнікаў, і ніякаму перавырашэньню не падлягала. Але „Беларускі“ конгрэс імкнуўся вырашыць пытаньне аб *уладзе*—і паставіў заместа саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, саветы *беларускіх* рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. І ў гэтым слове было вельмі шмат: цяжка было ісьці супроць савецкай сыстэмы, трэба было ставіць пытаньне аб пакіданьні сыстэмы, зьмяняючы яе зьмест, пертвараючы яе з сродкаў дыктатуры пролетарыяту, які вёў за сабой, у саюзе з вясковай беднатой, шырокія масы сярэдняга сялян-

ства, у форму дробна-буржуазнай дэмократыі, на чале якой была нацыянальная інтэлігенцыя, якая абапіралася на вясковага кулака. Значыцца, установка слова „беларускіх“ ня значыла толькі падкрэсьліваньня нацыянальнага моманту, а мела зусім іншы сэнс і значэньне. Гэта значыла— паставіць, замест савецкай улады, абранай рабочымі і салдатамі ў горадзе і бяднейшымі і сярэднімі сялянамі ў вёсцы, уладу, абраную па прынцыпу выбараў самога конгрэсу, г. зн. уладу невялікіх нацыянальна-сьвядомых, ці, вярней сказаць, нацыяналістычных груп, па сутнасьці інтэлігенцкіх і кулацкіх груп, якія ішлі за нацыяналістычнымі і нацыянальна-соцыялістычнымі партыямі. Гэта азначала нішто іншае, як пераход улады ў бок заможнай клясы, пакідаючы часова яе савецкую форму. Гэта азначала нішто іншае, як супроцьстаўленьне савецкай улады Ўстаноўчаму збору, як зварот ад савецкай сыстэмы да Ўстаноўчага збору, да буржуазнай дэмократыі. *І адзінае правільнае тлумачэньне першага Ўсебеларускага конгрэсу ёсьць тлумачэньне яго, як беларускага Ўстаноўчага збору.*

Партыя толькі што з вялікімі вынікамі перамагла на выбарах Устаноўчага збору, сабраўшы пераважную большасьць галасоў у Беларусі, а ў вёсцы 90 проц. усіх галасоў. Партыя вяла ўжо ідэёвую падрыхтоўку разгону Ўстаноўчага збору. Яна павінна была паставіць пытаньне аб разгоне Беларускага Ўстаноўчага збору, разагнаць яго таксама, як потым быў разагнаны Ўсерасійскі Ўстаноўчы збор. Толькі так яна павінна была і магла замацаваць дыктатуру пролетарыяту ў Беларусі, замацаваць заваёвы Кастрычнікавай рэволюцыі, прыцягнуць на свой бок тых, хто несьвядома ішоў за беларускімі ўчрадзілаўцамі, шмат каму адчыніць шлях да бальшавізму. Але розьніца тая, што Беларускі Ўстаноўчы збор быў устаноўчым зборам нацыі, якая была прыгнечана да Кастрычнікавай рэволюцыі. Ен быў устаноўчым зборам такой нацыі, інтэлігенцыя якой была прыгнечанай, ня выявіла сябе да таго часу ў дастатковай меры ў якасьці паслугача заможных клясаў. Таму такі акт, як разгон І Ўсебеларускага Конгрэсу, мог быць растлумачаны некаторымі нацыянальнымі коламі для абвінавачваньня партыі ў вялікадзяржаўнай політыцы, што не магло мець месца пры разгоне Ўсерасійскага Ўстаноўчага збору. Таму нават некаторыя комуністыя да гэтага часу не разумеюць сэнсу і значэньня гэтага акту. А зараз ужо пара нават самаму адсталаму рабочаму і селяніну зразумець, што І Усебеларускі Конгрэс быў Беларускім Устаноўчым зборам, накіраваным супроць дыктатуры пролетарыяту і супроць саміх беларускіх рабочых мас, у імя дробна-буржуазнага беларускага інтэлігента і кулака.

І як ні дзіўна: беларускія нацыянал-дэмократы і нацыянал-соцыялістыя першыя сабралі Ўстаноўчы збор, першыя склалі легенду аб тым, што ён быў разагнаны п'янымі салдатамі. Усерасійскім меншавіком і эсэрам прышлося толькі паўтарыць гэтую плётку на рэволюцыйных салдатаў і матросаў. Аўтарскі „гонар“ і права належыць бязумоўна беларусам, а не расійцам.

Але гістарычная роўналежнасьць, а таксама „пяршынства“ беларускіх нацыянал-соцыялістых на гэтым не канчаецца. Учрадзілаўцы, ва ўсіх выпадках, павінны былі выкрыць сябе да канца і заснаваць зносіны з адкрытымі імпэрыялістымі. Расійскім прышлося чакаць да паўстаньня чэха-славакаў, беларускім—толькі да наступу немцаў і даўборчыкаў у лютым 1918 г. Утварэньне так званага беларускага народнага сакратарыяту выкрыла буржуазна-дэмократычную прыроду беларускіх эсэраў і меншавікоў. Але трэба было пайсьці яшчэ далей, трэба было схіліцца перад кайзэрам Вільгэльмам, пасласць яму тэлеграму, увайсьці ў адкрытую сувязь з імпэрыялістымі, каб ліквідаваць рэшткі дэмократычнага мінулага. І ўсё гэта было праароблена з нячуванай шпаркасьцю, у хуткай зьмене кірункаў і асоб, выходным пунктам якіх прэтэнзій на ўладу быў І Усебеларускі Конгрэс. Гэтаму „тэмпу“ расійскія эсэры маглі толькі зайздросьціць, бо яны значна пазьней дайшлі да Омскай дырэкторыі і Калчака.

Так скончылася першая і адзіна-сур'ёзная „дэмократычная“ спроба ліквідаваць дыктатуру пролетарыяту ў Беларусі, пазбавіць беларускіх рабочых і сялян улады, перасунуць яе да заможных пластоў, пад нацыянальным лёзунгам, пад выглядам гульні на нацыянальным монацэ. Скончылася адкрытай контр рэволюцыяй і пакаянным зваротам многіх са „зграі славутых“ пад цьвёрдую ўладу дыктатуры пролетарыяту.

## II

Як першыя 100 дзён (кастрычнік—люты 1918 г.) савецкае ўлады ў Беларусі, так і ўвесь 14-месячны пэрыод ад Кастрычнікавае рэволюцыі да 1 студзеня 1919 г. былі пэрыодам падрыхтоўкі да ўтварэньня БССР. Наша партыя заўсёды цьвёрда стаяла за поўнае самавызначэньне народаў, аж да аддзяленьня, хоць асобныя члены партыі і рабілі пры практычным правядзеньні нацыянальнага пытаньня памылкі, таксама ў многіх іншых пытаньнях. Партыя бальшавікоў свае адносіны да нацыянальнага пытаньня на справе выявіла ў патрэбнай меры яшчэ ў часе кераншчыны сваімі адносінамі да фінляндзкага і украінскага пытаньняў, а асабліва яскрава ў часе пролетарскае рэволюцыі ў Фінляндыі. Утварэньне першых асноў савецкай констытуцыі, як Констытуцыі Фэдэрацыйнае Соцыялістычнае Савецкае Рэспублікі, падкрэсьліла прынцып бальшавікоў з асаблівай сілаю. Але рэалізацыя новых дачыненьняў між народамі, зьнішчыўшымі абшарнікаў і выгнаўшымі буржуазію, ва ўсёй паўнаце магла быць ажыцьцёўлена толькі тады, калі ўлада была сапраўды замацавана за працоўнымі масамі Працоўныя масы Беларусі дасканала разумелі, што пытаньне аб уладзе і зямлі вырашаецца супольнай барацьбой пролетарыяў усёй старой Расіі і раней усяго посьпехамі пролетарыяту Ленінграду і Масквы. Забясьпечыўшы сабе магчымасьць організацыі сваёй нацыянальнай рэспублікі, беларускія рабочыя і сяляне павінны былі высунуць задачу рэалізаваць гэту магчымасьць пры першай

пэрспэктыве на будаўніцтва, на мірную творчую працу. Берасьцейская згода не дала Беларусі „перапынку", не дала ніводнага дня мірнае працы,—наадварот, яна дала толькі нямецкую окупацыю, толькі палкую канечнасьць змагацца за зварот савецкае ўлады, абапіраючыся на Чырвоную армію расійскіх рабочых і сялян. Толькі лістападаўская рэволюцыя ў сярэдняй Эўропе, якая прывяла да нізрынуцьця монархіі Гогенцолернаў і Габсбургаў, да нізрынуцьця нямецкага імпэрыялізму, да ліквідацыі Берасьцейскае згоды і адчыніла новыя пэрспэктывы для прасоўваньня пролетарскае рэволюцыі на Запад і для соцыялістычнага будаўніцтва, толькі зьвязанае з гэтым умацаваньне савецкае ўлады магло паставіць і паставіла ў парадак дня пытаньне аб утварэньні БССР, як сымболю пераходу да поўнага вызваленьня рабочых і сялян Беларусі, як сымболю пролетарскае перамогі, уяўляючай магчымасьць перайсьці Беларусі да экономічнага, нацыянальнага і культурнага будаўніцтва на соцыялістычных пачатках, у інтарэсах рабочых і сялянскіх мас, да зьнішчэньня ўсіх вынікаў векавога прыгнечаньня. I зьезд КП(б)Б у сьнежні 1918 г., агалашаючы БССР, перш усяго грунтаваўся на гэтай новай пэрспэктыве прасоўваньня савецкае ўлады на Захад, пэрспэктыве новага этапу барацьбы за дыктатуру пролетарыяту, пэрспэктыве далейшага краху капіталізму ў сярэдняй Эўропе, забясьпечваючай новае соцыялістычнае будаўніцтва. Згуртаваньне працоўных мас у Беларусі для далейшае барацьбы за сусьветную пролетарскую рэволюцыю супроць капіталістых і абшарнікаў — вось першы лёзунг і першая задача, агалошаная 1 студзеня 1919 г. БССР.

Яшчэ да гэтага часу некаторыя таварышы не пакінулі думкі аб тым, што агалашэньне БССР і ўвесь акт 1 студзеня 1919 г. быў падрыхтаваны звонку, пражываючымі ў Маскве, Ленінградзе і ў інш. расійскіх гарадох групамі беларускіх інтэлігентаў, пры некаторым адпоры мясцовай партыйнай організацыі і перш усяго выканаўчага камітэту Заходняе вобласьці і Паўночна-Заходняга абласнога камітэту РКП(б), якія знаходзіліся ў Смаленску. Няма нічога больш фальшывага і шкоднага, чымся такое ўяўленьне. Укараненьне такіх поглядаў азначала-б, што організацыя БССР прынесена звонку, а ня выходзіла ад рабочых і сялян Беларусі і іх бальшавіцкае організацыі; укараненьне такіх поглядаў азначала-б даць ініцыятыву ў справе ўтварэньня БССР нацыянальна-рэволюцыйнай інтэлігенцыі, пачынаючай пасьля Кастрычніка ў сваёй найбольш рэволюцыйнай частцы пераходзіць у нашу партыю. Гэта азначала-б прызнаць, што агалашэньне БССР нашай партыі было навязана сілай, якая ішла ад нацыянальна-рэволюцыйнага руху. Гэта азначала-б даць перавагу інтэлігенцыі перад рабочымі і сялянамі. Няма нічога больш яснага, як тое, што такая концэпцыя была-б опортуністычнай, не бальшавіцкай.

Беларускае пытаньне з першага дня савецкае ўлады паўстала перад нашай партыяй. З самае вясны 1918 г. пытаньне аб організацыі Савецкае Беларусі паўстала перад партыяй. Пачынаючы з красавіка — мая,

нашы партыйныя бальшавіцкія організацыі ў окупаванай нямецкім войскам Магілеўшчыне і Меншчыне пачынаюць называцца беларускімі організацыямі. Утвораны летам 1918 г. наш бальшавіцкі партыйны цэнтр для окупаванае Беларусі, яднаючы Менск, Бабруйск, Магілеў, Рагачоў, Барамавічы і г. д., атрымлівае назву Беларускага краёвага камітэту РКП(б). Нельга думаць, што гэта назва нашаму краёваму камітэту была дадзена выпадкова. На справе ў гэтай назьве таксама шмат прынцыповага значэньня, як у наступным сьнежні 1918 г. перайменаваньне VI Паўночна-Заходняй абласное конфэрэнцыі—у I зьезд КП(б)Б. Гэта назва выходзіла з таго, што ўжо ў пэрыод існаваньня нямецкае окупацыі масам, не ўявіўшым асноўных бальшавіцкіх лёзунгаў аб зямлі, аб савецкай уладзе, трэба было даць пэрспэктыву будучага нацыянальнага ўпарадкаваньня краіны. Выкідаючы за борт старую адміністрацыйную назву Паўночна-Заходняга краю і пераходзячы да названьня краю беларускім, партыя павінна была дамагчыся мобілізацыі яшчэ дадатковых кадраў супроць окупацыі, за савецкую ўладу. Тое, што, працуючы ў Смаленску, Паўночна-Заходні абласны камітэт РКП(б) называўся-б па старому, гэта азначала-б нішто іншае, як тую простую рэч, што бяз Менску, Бабруйску, Магілева ня можа быць Беларусі. Кожны, хто азнаёміцца з гісторыяй працы нашае партыі ў пэрыод ліквідацыі Берасьцейскае згоды, убачыць, што да моманту вызваленьня Менску з-пад нямецкае окупацыі агалашэньне БССР насьпела ў Менску, Бабруйску і г. д., больш чымся дзе-небудзь. Да гэтага асабліва прысьпешваў Менскі рэволюцыйны камітэт, а таксама працаўнікі Беларускага нацыянальнага камісарыяту. Натуральна, што Паўночна-Заходні абласны камітэт РКП(б) не сьпяшаўся—ён яднаў, апрача Беларусі, Смаленск, Вязьму, Гжацк, Белы. Натуральна, што тут ідэя аднаўленьня БССР і пэрспэктывы ўваходу гэтых раёнаў у БССР знаходзілі сур'ёзны адпор, натуральна, што Смаленску, Вязьме, Гжацку ня вельмі хацелася мецъ палітычны і адміністрацыйны цэнтр у Менску, да того-ж не прадбачачы культурна-нацыянальнае сувязі з Менскам. Паўночна-Заходні камітэт таксама не хацеў ісьці далей вобласьці. Натуральна, што і частка членаў Абласнога камітэту не разумела ясна пытаньняў нацыянальна-культурнага будаўніцтва, мовы і г. д., асабліва ў адносінах Смаленскае і часткі Віцебскае губэрняў. Але на аснове пэрспэктыў міжнароднае рэволюцыі, на аснове вырашэньня задачы наступу на заходня-эўропэйскі капітал, Абласному камітэту ўдалося дамагчыся адназгоднага вырашэньня пытаньня. Гэтыя агульныя абставіны, з перавагаю задач міжнародных перад унутранымі пры ўтварэньні БССР, адбівае з асаблівай сілай рэзолюцыя I зьезду КП(б)Б.

У чым-жа, у такім выпадку, роля Маскоўскае, Ленінградзкае і інш. груп беларускіх комуністых?

Іх роля, папершае, у мобілізацыі і падрыхтоўцы кадраў з беларускіх уцекачоў і інтэлігенцыі для працы ў БССР, без чаго вырашэньне нацыянальнага пытаньня і ўтварэньне БССР было-б ускладнена; падругое,

у орыентыроўцы беларускіх нацыянальна-рэволюцыйных кадраў і нацыяналістычна-настроеных рабочых і сялян уцекачоў на БССР і бальшавіцкую партыю, і, патрэцяе,—у нацiску на смаленскія організацыі, іншы раз недаацэньваючыя нацыянальнага пытаньня. Толькі пры такім супрацоўніцтве краёвых працаўнікоў і маскоўскіх, ленінградзкіх і інш. працаўнікоў нацыянальнае пытаньне магло быць вырашана правільна. Другая пастаноўка пытаньня магла прывесьці да прыпыненьня тэмпу працы партыі ў галіне вырашэньня нацыянальнага пытаньня, што пайшло-б толькі на карысьць розным нацыяналістым з Беларускае рады.

Важнейшае значэньне мае пытаньне аб конструяваньні „Часовага рабоча-сялянскага ўраду БССР", якое павінна было адбіцца на аснове аб'яднаньня 2-х груп працаўнікоў: 1) працаўнікоў Паўночна-Заходняга абласнога камітэту РКП(б), шчыльна зьвязанага з кастрычнікавай барацьбой у Беларусі, маючых практыку ў савецкім будаўніцтве, ня зьвязаных з нацыянальным рухам і вельмі часта недаацэньваючых важнасьці нацыянальнага пытаньня ў БСРР, і 2) працаўнікоў Беларускага нацыянальнага камісарыяту, пераважна зьвязаных з нацыянальным рухам, ставячых у цэнтры нацыянальнае пытаньне, але мала зьвязаных у большасьці сваёй з кіраўнічай партыйнай працай і ня маючых практыкі савецкай працы. Зусім ясна, што першы ўрад БССР мог быць утвораны толькі на такой аснове,—утварэньне ўраду з аднае першае групы азначала-б заснаваньне такога ўраду, які быў здольны вырашаць агульныя рэволюцыйныя задачы, але няздольны вырашаць беларускіх нацыянальна-культурных задач; заснаваньне ўраду з аднае і другое групы—азначала-б заснаваньне такога ўраду, які здольны вырашаць задачы культурна-нацыянальныя, але няздольны яшчэ пабудаваць апарату кіраўніцтва і вырашаць агульных пытаньняў рэволюцыйнае барацьбы, што значала-б паставіць над пагрозу сілу і моц дыктатуры пролетарыяту. Задачай „Обласкомзаповской" групы павінна было быць політычным выхавацелем першых савецкіх кадраў, забясьпечыць у далейшым ім магчымасьць самастойнага кіраўніцтва краінай, забясьпечыць ва ўрадзе лінію бальшавіцкае партыі, правядзеньне прынцыпаў інтэрнацыяналізму і непарушнасьці дыктатуры пролетарыяту.

Вось выходны пункт пастаноў нашае партыі.

Аднак умовы, у якіх апынуўся Часовы рабоча-сялянскі ўрад БССР, не дапамагалі выкананьню гэтых заданьняў. Лістападаўская рэволюцыя ў сярэдняй Эўропе незабясьпечыла пераходу ўлады ў рукі рабочае клясы. БССР пры заснаваньні савецкае ўлады ў Заходняй Беларусі сустрэла адразу імпэрыялізм адноўленае лістападаўскай рэволюцыяй Польскае дзяржавы. У Горадзенскай губэрні па рэчцы Зельве адбылася першая сутычка між часьцямі Чырвонае арміі і польскімі легіянэрамі, якія прасоўваліся на ўсход. Пераход польскіх легіянэраў на тэрыторыю Заходняе Беларусі, першая ваенная сутычка Чырвонае арміі з імі азначала пачатак вайны за існаваньне БССР супроць новае імпэрыялістычнае

Польшчы, якая імкнулася да захопу ўсяе Беларусі і ператварэньня яе ў колёнію Польшчы. Урад БССР павінен быў мобілізаваць сілы для адпору польскім захопнікам, але гэтаму перашкаджала тое, што на мясцох ня было яшчэ амаль ніякэе ўлады, магчымасьць сувязі з месцамі была надзвычайна ўскладнена з прычыны крайняга зруйнаваньня краіны ў часе вайны, а ў Горадзенскай губэрні вялізарныя абшары аказаліся зусім нязжылымі ці заселены аднымі бандытамі. Чырвоная армія была занята на Ўсходнім фронце барацьбой з Калчаком, і не магла даць дапамогі Заходняму фронту. Такім чынам, ужо ў першыя тыдні існаваньня БССР мірныя пэрспэктывы яе разьвіцьця былі парушаны; пытаньні гаспадарчага, культурнага і нацыянальнага будаўніцтва павінны былі саступіць месца адзінаму рашаючаму пытаньню—пытаньню аб фронце, пытаньню аб абароне БССР і РСФСР ад польскага імпэрыялізму. Такія абставіны адразу зьмянілі палажэньне Часовага рабоча-сялянскага ўраду БССР і СССР наогул.

З адчыненьнем фронту, з пачаткам ваенных дзеяньняў выкрылася ўнутраная слабасьць маладога савецкага ўраду БССР. Знаходзячыся на новай, яшчэ неорганізаванай, тэрыторыі, урад аказаўся няздольным кіраваць старымі тэрыторыямі Заходняй вобласьці; Смаленскі, Віцебскі і Магілеўскі губкомы РКП(б) і губвыканкомы аказаліся фактычна незалежнымі ад Менску. Урад, які меў вельмі слабую базу, ня мог даць ім кіраўніцтва. Адсутнасьць нацыянальнай сувязі БССР з Смаленскай губэрняй адразу адчулася. Апроч таго, агульныя ўмовы РСФСР, якая яднала ўсе рэспублікі, патрабавалі, каб сілы і запасы гэтых трох губэрняў былі скарыстаны для Паўднёвага і Ўсходняга фронтаў, на якіх вырашаўся лёс СССР, а не на Заходнім фронце. Агульныя-ж ўмовы на Захадзе патрабавалі, каб беларускі ўрад быў форпостам савецкай улады, які ставіць сваёй задачай усімі сіламі прасунуцца на Захад, і перш за ўсё мерамі організацыі мас для рэволюцыі. Гэткі форпост павінен быў глядзець толькі на Захад, не аглядаючыся на Усход, ня будучы абцяжараны вялікімі ўжо савецізаванымі тэрыторыямі. Трэба было мець на ўвазе таксама магчымасьць пераходу Беларусі, як палітычнага фактару, у антысавецкія рукі; маючы на ўвазе гэткую магчымасьць, нельга было рызыкаваць старымі савецкімі тэрыторыямі. ЦБ КП(б)Б і ўрад БССР не разумелі гэтай рэволюцыйнай стратэгіі, і таму ўсімі сіламі перашкаджалі адзяленьню ўсходніх губэрняў, утойваючы нават згоду ЦК РКП(б) на іх аддзяленьне. ЦБ КП(б)Б і беларускі ўрад не разумелі гэтай рэволюцыйнай стратэгіі і тады, калі было пастаўлена пытаньне аб аб'яднаньні з Літвой. Гэта аб'яднаньне таксама было стратэгічным манэўрам для прасоўваньня рэволюцыі на Захад, для замацаваньня дыктатуры пролетарыяту ў Беларусі і Літве. Трэба было яшчэ больш напружыць апошнія сілы для прасоўваньня дыктатуры пролетарыяту на Захад, рухаючыся наперад пры дапамозе нацыянальных дзяржаў, якія ўрэзваліся, як таран, у буржуазнае абкружэньне. Трэба было перанесьці форпост дыктатуры проле-

тарыяту яшчэ больш на Захад, у Вільно, каб адтуль паралізаваць прасоўваньне на Ўсход імпэрыялістычнай Польшчы і аднача́сова наступаць на Літву. Трэба было ў магчыма большай меры зьнішчыць нацыянальныя прэтэнзіі, якія можна лёгка зьнішчыць пры мірным савецкім будаўніцтве, значна цяжэй у ваенных умовах—утварыць уладу беларусоў, палякоў, літоўцаў, яўрэяў, каб гэтым паспрабаваць арганізаваць вакол сябе розна-нацыянальны склад Віленшчыны і Горадзеншчыны. Трэба было ў максымальнай меры скарыстаць для ўсяго Захаду тую практыку будаўніцтва, якая была створана ў Абласным выканкоме. Трэба было ва ўсіх дзеяньнях у гэтым раёне, накіраваных супроць маладой буржуазіі Польшчы, увесьці польскі элемэнт, надаць польскім рабочым новую ўладу, як сваю, і ў нацыянальным сэнсе. Усе гэтыя меркаваньні пакладзены ў аснову пастаноў партыі па пытаньні аб аб'яднаньні Літвы і Беларусі. Ня гледзячы на ўсю важнасьць іх, яны спачатку ў кіруючых органах БССР сустрэлі адпор і супярэчаньні, бо многія не маглі ўявіць усяго гэтага стратэгічнага ходу для прасоўваньня на Захад і больш аглядаліся на трывалую, ужо заваёваную і арганізаваную базу на Ўсходзе.

Пытаньне перш за ўсё стаяла так: хто каго выперадзіць у Заходняй Беларусі ў арганізацыйных адносінах—саветы ці буржуазія? Выперадзіла буржуазія менавіта таму, што мы не маглі досыць шпарка перакінуцца наперад і замацавацца. А потым ужо стала пытаньне аб ваеннай сіле.

Трэба выкарыстаць 10-годзьдзе БССР, каб вывучыць гэтую вялікую рэволюцыйную стратэгію для замацаваньня дыктатуры пролетарыяту ў Беларусі, тады адпадзе шэраг сумненьняў, утвараючых нацыяналістычныя і опортуністычныя настроі.

Трэба ўспомніць, што нацыяналістычныя і опортуністычныя настроі выявіліся ў гэты пэрыод і ўнутры партыі, і што партыя з імі змагалася. Трэба ўспомніць, што ў нашых вясковых організацыях часта існавалі дробна-буржуазныя кулацкія настроі, з-за якіх прыходзілася распускаць організацыю; трэба ўспомніць, што ў Менску мы мелі выпадкі, калі значныя групы членаў партыі орыентаваліся на дробную буржуазію. Але самае буйнае ўнутрыпартыйнае і дзяржаўнае значэньне атрымала наяўнасьць нацыяналістычнага, опортуністычнага, нацыянал-дэмократычнага ўхілу ў некаторых тагачасных членаў ураду. Як вядома, у склад першага ўраду ўвайшоў шэраг асоб, толькі што прышоўшых з нацыянальнага руху, увайшоўшых у партыю толькі таму, што ў ёй яны бачылі прадпасылкі вырашэньня беларускага пытаньня. Фактычна застаючыся ў баку ад партыі і разам з тым ад пастаноўкі асноўных і рашаючых пытаньняў палітыкі, ня бачачы шпаркай магчымасьці вырашэньня нацыянальнага пытаньня, яны пачалі орыентавацца супроць партыйнага кіраўніцтва, яны сталі цэнтрам для організацыі нацыянальнай опозыцыі, у сувязі з чым была высунута думка аб стварэньні беларускай комуністычнай партыі побач з КП(б)Б. Умовы для посьпеху гэтай ідэі былі, з аднаго боку, у наяўнасьці нацыяналістычных перажыткаў у шэрагу членаў партыі,

асабліва ў інтэлігенцыі, з другога боку, у недастатковасьці мерапрыемстваў па разьвіцьцю беларускай культуры.

Але стварэньне гэткай організацыі, што азначала-б раскол ва ўрадзе, павінна было азначаць вялікія небясьпекі для дыктатуры пролетарыяту, бо гэткая організацыя не магла-б быць нічым іншым, як дробна-буржуазнай, нацыяналістычнай партыяй, адцягваючай ад КП(б)Б беларускіх комуністых. Тактыка партыі павінна была заключацца ў рашучай барацьбе супроць гэткага ўхілу, адначасова выяўляючы лінію ў нацыянальным пытаньні. У выніку гэтага быў лістападаўскі крызіс, пасьля чаго з ураду былі выключаны 2—3 першыя яго члены. Побач з гэтым, дзякуючы групавой барацьбе сярод саміх беларускіх „ленінградцаў“, „масквічоў“ і менскіх комуністых, якія прытрымліваліся пункту гледжаньня ЦК, у часе 1-га зьезду саветаў БССР прышлося выйсьці і старшыні ўраду т. Жылуновічу, які, аднак, прымаў актыўны ўдзел за гэты кароткі пэрыод у справе популярызацы БССР і аб'яднаньня вакол яе беларускіх кадраў.

Ня гледзячы на недастатковую працу ў галіне практычнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня, гэты крызіс адбыўся не па нацыянальнай лініі, а большасьць беларускіх членаў ураду, бачачы памылкі, але бачачы і цяжкасьці, пачалі больш актыўную кіраўнічую працу і ў горадзе і ў партыі. Такім чынам, была зьнішчана падвойная небясьпека— небясьпека дробна-буржуазнага ўхілу і небясьпека разыходжаньня з беларускімі кадрамі для дыктатуры пролетарыяту ў БССР, зьнішчана магчымасьць пераходу з позыцыі дыктатуры пролетарыяту на позыцыі дробнай буржуазіі і небясьпека ад недастатковай сувязі з асноўнай беларускай нацыянальнасьцю і няўменьня вырашаць беларускае пытаньне.

## III

Да 1920 году агульна-палітычная сітуацыя нанова значна зьмянілася. Савецкая ўлада перамагла контр-рэволюцыю, ліквідаваўшы Калчака і Дзянікіна. Міжнародны рэволюцыйны рух павялічыўся, уплыў комуністых шпарка ўзрастаў—ня толькі ў краінах пераможаных, але і ў краінах-пераможцаў у сусьветнай вайне. Простая рэволюцыйная сітуацыя распаўсюджвалася на ўсё большую колькасьць краін. Усё гэта рабіла немагчымым падтрыманьне контр-рэволюцыйных белых армій в боку капіталістычных дзяржаў, усё гэта рабіла немагчымым працяг політыкі інтэрвэнцыі, усё гэта ставіла пытаньне аб ліквідацыі блёкады і аб пачатку мірных перамоў. Маладая Польская дзяржава ў гэты-ж час перажыла свой мядовы месяц: польскі пролетарыят яшчэ быў распыленым, дробнабуржуазны нацыяналізм яшчэ панаваў над розумам мас,—значыцца, быў самы адпаведны момант, каб рабіць апошні крок, каб перад мірнымі перамовамі кінуць на савецкую краіну польскую армію, якая пад сьцягам адваёвы граніц Польскай дзяржавы 1772 г. павінна была нанесьці рашучы ўдар бальшавізму і савецкай сыстэме. Аднак, і гэты крок капі-

талістычнага сьвету быў адбіты: на польскае наступленьне на Кіеў Савецкая Чырвоная армія адказала наступам на Варшаву, і па Рыскаму міру перанесла сваю граніцу значна на захад ад Дняпра.

Да моманту польскай вайны беларускае пытаньне ўзьнялося на значную вышыню. Надзеі беларускіх нацыянал-дэмократаў на вырашэньне беларускага пытаньня ў выніку сусьветнай вайны рушыліся,—гэтым быў нанесены рашучы ўдар ідэі буржуазна-дэмократычнай Беларусі. Польская орыентацыя ў выніку окупацыйнай політыкі пацярпела вялікія страты.

Літоўская „орыентацыя“, за якую ўхапіўся нехта, была саломінкай, за якую хапаецца ўтапаючы. Савецка-польская вайна ўжо не магла стварыць ніякіх ілюзій аб буржуазным вырашэньні беларускага пытаньня; таму адзінай саломінкай, за якую можна было ўхапіцца, была спроба стварыць беларускую дробна-буржуазную дзяржаву ў выніку наступу Чырвонай арміі.

Гэтым кіраваліся беларускія эсэры, калі яны ўвесну 1920 г. зьвярнуліся ў ЦК РКП(б) з прапановаю супольных выступленьняў з комуністымі, абумоўліваючы гэта прызнаньнем урадам Беларусі, т. зв. „ўраду“ Ластоўскага. Гэтым кіравалася левае крыло беларускіх эсэраў, калі прапанавала коаліцыю пры ўтварэньні савецкага ўраду Беларусі ў ліпні 1920 г.

Як-бы вялікая ні была формальная розьніца між гэтымі двума прапановамі, выходзіўшымі ад беларускіх эсэраў, але абедзьве гэтыя прапановы азначалі адно—прызнаньне аграмаднага ўплыву комуністых у масах беларускіх рабочых і сялян, прызнаньне, што толькі комуністыя і савецкая ўлада могуць ажыцьцёвіць незалежнасьць Беларусі, прызнаньне страты ўплыву ўсіх беларускіх буржуазных соцыялістычных партый, прызнаньне банкроцтва ўсіх ілюзій і орыентацый. Але разам з тым гэтыя прапановы азначалі апошнюю шырокую спробу зьмяніць дыктатуру пролетарыяту на буржуазную дэмократыю. Калі ў прапанове аб прызнаньні „ўраду“ Ластоўскага гэта ўтоеная думка выказана зусім адкрыта, дык у прапановах аб коаліцыі яна праглядала. Наша партыя рашуча адхіліла прапановы аб здачы БССР у концэсію дробна-буржуазнае інтэлігенцыі з „ураду“ Ластоўскага, але калі частка гэтых людзей убачыла, што яны ня маюць карэньняў у краіне, што ня кіруюць рэволюцыйным рухам, яны павінны былі пайсьці і пайшлі далей, пайшлі на прапанову аб коаліцыі. Наша партыя прызнала магчымым пайсьці на перамовы аб уваходзе ў савецкі ўрад БССР беларускіх эсэраў і бундаўцаў, не згаджаючыся ні на якія прынцыповыя ўступкі. Гэтая пастанова была выклікана тым, што ва ўмовах рэволюцыйнае хвалі, ва ўмовах нашага наступу на Варшаву, ва ўмовах росту рэволюцыйных сіл на захадзе можна было-б разьлічваць на далейшае палявеньне гэтых партый. Гэта пастанова была выклікана тым, што партыя лічыла канечным выкарыстаць усе рэволюцыйныя сілы беларусаў і эсэраў для будаўніцтва БССР, асабліва зва-

рочваючы ўвагу на беларускія сілы, якіх у той час у партыі было мала. Але калі бундаўцы ў гэты час ужо, у асноўным, сталі на пункт гледжаньня дыктатуры пролетарыяту, дык беларускія эсэры, спачатку выказаўшыя згоду, спрабавалі ўнесьці ў маніфэст такія папраўкі, якія-б адмянілі дыктатуру пролетарыяту і выключылі-б яе савецкую форму. Асноўная з гэтых паправак заключалася ў тым, каб пераставіць слова „рабочы і сялянскі“ і напісаць „сялянскі і рабочы ўрад“, „сялян і рабочых“ і г. д.

Гэта маленькая паправачка азначала-б адмову ад дыктатуры пролетарыяту, перадачу кіраўнічае ролі ў рабоча-сялянскім блёку з рук рабочых у рукі сялянства, менавіта яе верхавіны, г. зн. замены дыктатуры пролетарыяту сялянскай, па сутнасьці буржуазнай, дэмократыяй. Наша партыя не магла на гэта згадзіцца, і на гэтым спыніла апошнія перамовы з беларускімі эсэрамі. Бо згадзіцца на такую прапанову азначала-б здаць савецкую ўладу, адмовіцца ад заваёў Кастрычнікавае рэволюцыі, адмовіцца ад барацьбы за соцыялізм. Пасьля, пры зьмене сітуацыі, пры новых цяжкасьцях, зрабілася ясным, што дробна-буржуазны груз у выглядзе эсэраў моцна затрымаў-бы манэўраваньне маладога беларускага ўраду і прынёс-бы шмат шкоды справе пролетарскае дыктатуры БССР. Меркаваньне-ж аб недахопе беларускіх кадраў аказалася таксама лішнім: беларуская комуністычная організацыя прыняла да ўлады групу маладой беларускай інтэлігенцыі, якая актыўна змагалася супроць польскае акупацыі, якая дапамагла партыі выканаць яе задачы, пакуль сталі падрастаць для кіраўнічае працы кадры беларускіх рабочых і сялян, прайшоўшыя школу рэволюцыі ў нізавой масавай працы на фабрыках, у сельсаветах, валасных выканкомах, у шэрагах Чырвонае арміі, у грамадзянскай вайне.

Нашае частковае паражэньне пад Варшаваю, азначаючае частковае паражэньне міжнароднае пролетарскае рэволюцыі, прывяло да ператварэньня значнае часткі Беларусі ў польскую колёнію і паставіла пад пагрозу ўсю БССР. Гэта не магло ня выклікаць некаторых ваганьняў у маладых кадрах нашае партыі, у якой знайшліся асобныя таварышы, якія лічылі, што часова-дэмократычная замежная форма (накшталт Далёка-Ўсходняй Рэспублікі) магла-б дапамагчы супроцьстаяць далейшаму наступу польскае буржуазіі. Аднак гэтыя ваганьні хутка былі зьнішчаны. Але гэта-ж зьмена сітуацыі па іншаму ўплыла на беларускіх эсэраў. У гэтых абставінах яны высунулі патрабаваньне аб неадкладным далучэньні да БССР Віцебшчыны і Магілеўшчыны, з матываваньнем, „каб у выпадку падзеньня дыктатуры пролетарыяту ў Меншчыне яны падзялілі-б яе лёс“. На гэту контр-рэволюцыйную агітацыю наша партыя і ўрад БССР адказалі ўзмоцненай барацьбой супроць беларускіх эсэраў. Рашучы ўдар па беларускіх эсэрах, рашучы ўдар па гарадзкой буржуазіі (якая ў працягу доўгага тэрміну засталася незакранутай) умацавалі ўплыў партыі ў масах, узьнялі энтузіазм комуністых для далейшае барацьбы супроць Булак-

Балаховіча, супроць расійскіх, беларускіх і польскіх бандытаў, за дыктатуру пролетарыяту.

Дзякуючы таму, што наша партыя не давала нікому ніякіх уступак у пытаньні аб асноўнай заваёве Кастрычніка—пытаньні аб дыктатуры пролетарыяту—яна ўтварыла ўмовы для БССР, для соцыялістычнага будаўніцтва БССР. Яна замацавала асноўную ўмову існаваньня БССР—блёк рабочых і сялян пад кіраўніцтвам рабочае клясы.

## IV

З гэтых кароткіх заметак выцякае некалькі вывадаў:

*Першы*—БССР была ўтворана рабочымі і сялянамі самімі, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі.

*Другі*—БССР магла быць і была ўтворана толькі ў трывалым саюзе рабочых і сялян Беларусі з рабочымі і сялянамі ўсіх іншых частак СССР і пры іх дапамозе, у выніку агульных рэволюцыйных перамог расійскага і міжнароднага пролетарыяту.

*Трэці*—БССР была ўтворана ў барацьбе супроць дробна-буржуазных нацыянал-дэмократычных і нацыянал-соцыялістычных партый і асобных іх „правадыроў“ у моманты ўздымаў падхалімаў да комуністых, каб пры першым ваганьні яшчэ далей адыйсьці ў лягер ворага.

*Чацьверты*—БССР была ўтворана і замацавана ў барацьбе за правільную ленінскую лінію партыі, у барацьбе супроць спробаў „зьмякчэньня“ дыктатуры пролетарыяту, у барацьбе супроць розных ухілаў.

*Пяты*—БССР ня толькі была ўтворана рукамі рабочых і сялян, але з першага дня свайго існаваньня яна павінна была пераканацца, што не старая інтэлігенцыя будзе складаць кадры соцыялістычнага будаўніцтва у ёй,—між іншым, і культурнага будаўніцтва,—што гэтыя кадры вырастаюць толькі з самых рабочых і сялянскіх мас, з тых, хто прарабіў у гады рэволюцыі цяжкую працу на фабрыках, у сёлах, валасьцёх, раёнах, Чырвонай арміі. Гэтыя кадры растуць з кожным днём, расьце іх практыка і рэволюцыйная вытрымка. Расьце сьвядомасьць шырокіх мас рабочых і сялян, расьце іх гатоўнасьць ахвяраваць сябе за дыктатуру пролетарыяту, за соцыялістычнае будаўніцтва, за комунізм.

*ЕМ. ЯРАСЛАЎСКІ*

# ПЯЦЬ ГОД ПА ШЛЯХУ ЛЕНІНА

## Організатар партыі бальшавікоў і кіраўнік рэволюцыйнага змаганьня

*Ленін быў організатарам бальшавіцкай партыі цалкам і поўнасьцю.* Іменна ён спачатку вытрымаў на сваіх плячох разам з невялікай групай таварышоў увесь цяжар змаганьня за стварэньне рэволюцыйнай, вытрыманай партыі бальшавікоў-соцыялістых (якія тады называліся соцыялдэмократамі).

Ленін *кіраваў* змаганьнем рабочае клясы і перадавых сялян, салдат і матросаў у першую рэволюцыю 1905—1907 г. г. Рэволюцыя гэта была пераможана. Перамогу рэволюцыі выклікалі пагалоўныя ўцёкі інтэлігентаў ад нашай партыі, адмова ад рэволюцыі. Балбатуны, спалохаўшыся рэволюцыі і ідучы на прымірэньне з монархіяй, пачалі гаварыць пра тое, што трэба мяняць шлях, „зьмяняць вехі“. У нашай партыі знайшліся людзі, якія таксама пачалі шукаць пералазу да таго, каб „уростаць у сталыпіншчыну“, г. зн. прымірыцца з буржуазна-памешчыцкім ладам, адмовіцца ад самастойнай організацыі рабочае клясы, адмовіцца ад падпольнай работы па організацыі рабочае клясы, па яе падрыхтоўцы да далейшых боек.

Паганы, цяжкі быў час, час здрады, уцёкаў з радоў нашай партыі, упадніцтва, ліквідатарства, рэлігійнага невуцтва, „богабудаваньня і богашуканьня“.

А Ленін з невялікай групай людзей, адданых справе соцыялістычнай рэволюцыі да канца, ня толькі здолеў устаяць *проці плыні*, а здолеў захаваць лепшыя жывыя кадры бальшавікоў, захаваць нашу падпольную бальшавіцкую організацыю, выхаваць новыя кадры, якія прышлі да нас у гэтыя цяжкія дні падпольля, стаць наперадзе новага пад‘ёму рабочага руху ў гады перад вайною (1910—1914 г. г.), кіраваць гэтым пад‘ёмам, згуртаваць вакол нашай партыі, вакол газэты „Праўды“, вакол нашых рэволюцыйных лёзунгаў клясавага змаганьня мільённую масу.

## У дні імпэрыялістычнай бойні, Ленін—організатар Комуністычнага Інтэрнацыяналу

Ленін здолеў у дні імпэрыялістычнай вайны, у ліку і на чале нямногіх правадыроў пролетарыяту ва ўсім сьвеце, астацца верным сьцягу рэволюцыйнага марксызму, сьцягу міжнароднай солідарнасьці і братэрства рабочых усіх краін проці ваеннага чаду, проці абаронцтва.

Цяжкі быў час. Надзвычай цяжка было бальшавіком працаваць у той час, калі разарваны былі міжнародныя сувязі паміж асобнымі атрадамі змагара пролетарыяту. Пролетарыят быў адданы правадыром меншавікоў, соцыял-дэмократаў і эсэраў, якія пашлі на згоду з буржуазіяй, памаглі ёй у працягу некалькіх год цягнуць гэту страшэнную бойню пад стогн забіваных на полі бойкі, пад звон чырвонцаў, доляраў і стэрлінгаў, якія падалі ў сундукі капіталістых, заводчыкаў, банкіраў, дастаўшчыкоў жывога мяса, гармат і знарадаў. Ленін выступіў са сваёй праграмай чынасьці для рабочае клясы. Ён заклікаў рабочых павярнуць зброю, даную ім для забойства рабочых іншых краін, павярнуць яе проці вінавайцаў вайны,ператварыць імпэрыялістычную вайну ў вайну грамадзянскую, у вайну рабочае клясы проці буржуазіі. З-пад абломкаў, з-пад руін II Інтэрнацыяналу Ленін выцягнуў здаровыя элемэнты рабочае клясы, не адурманеныя чадам вайны, здолеў паказаць правільны далейшы шлях арганізацыі рабочае клясы пад сьцягам Комуністычнага Інтэрнацыяналу, здолеў сабраць для гэтае справы лепшыя сілы з міжнароднага соцыялістычнага руху і закласьці ў дні імпэрыялістычнай вайны фундамант для новай магутнай організацыі перадавога пролетарыяту—*Комуністычнага Інтэрнацыяналу*.

„Брэдавымі ідэямі“, брэдавымі думкамі называлі пляны Леніна адны, а другія пырскамі атрутнай сьлінай на Леніна, прабуючы забрудніць гэта сьветлае імя хлусьнёю, вінавацячы бальшавікоў у тым, што яны агенты імпэратара Вільгельма, „нямецкія шпіёны“ і да т. п.

Самае імя Леніна ў гэтыя дні імпэрыялістычнай вайны стала імем, якое вымаўлялі з нянавісьцю ўсе, каму вайна давала прыбытак, хто быў зацікаўлены ў абрабаваньні тых, якія будуць пераможаны ў вайне. І гэта-ж імя па меры таго, як расьлі пакуты мас у дні імпэрыялістычнай вайны, усё больш выростала ў вачох гэтых мас, як імя організатара і правадыра, які змагаецца з вінавайцамі вайны. Ніколі не забудзе працоўны люд таго, якое значэньне меў Ленін у гэтыя дні імпэрыялістычнай вайны, якое значэньне атрымала ў далейшым сваім разьвіцьці тая група бальшавікоў, якая была пад кіраўніцтвам Леніна організатарам Комуністычнага Інтэрнацыяналу. Бо ўсё далейшае змаганьне рабочае клясы за дыктатуру пролетарыяту ва ўсім сьвеце, усё далейшае змаганьне народаў, якія засяляюць колёніяльныя і напоўколёніяльныя краіны, непарыўна зьвязана з імем Леніна, з тымі думкамі, якія кідаў у гэтыя дні Ленін, як запаленыя паходні, у сьвет, насычаны крывёю і пакутамі.

Так многа гаручага матэрыялу накапілася ў масах, што гэтыя кінутыя Леніным думкі знайшлі шматмільённы сугучны водклік. І калі сягоньня, праз пяць год пасьля сьмерці Леніна, яшчэ ня ўсе гэтыя мільёны ўсьвядомілі правільна свой шлях, ня ўсе яшчэ яны сталі пад сьцяг Леніна як сьвядомыя, перадавыя змагары рэволюцыйнага авангарду, то гэтыя мільённыя працоўныя масы складаюць тыя сілы, якія прачнуцца *заўтра*, калі зноў гром вайны распрыжыцца над сьветам працоўных, калі зноў

імпэрыялістычная вайна кіне на фронты мільёны і мільёны працоўных, калі зноў па загаду імпэрыялістых пачнуць палаць вёскі і горады, выбухаць знарады над безабароннымі натоўпамі людзей, калі зноў будуць выкінуты на паветра плады працы рабочае клясы і сялянства. *Калі* гэта здарыцца заўтра,—няхай ведаюць нашы ворагі, што справа Леніна жыве, організацыя, створаная Леніным, памацнела за гэтыя гады, пашырылася, абхапіла ўсю зямную кулю. Няма таго кутка, дзе-б ня было сьцягу Леніна, няма той краіны, дзе-б працоўныя, калі для іх надыходзяць цяжкія дні, ня думалі-б пра Леніна, як пра правадыра, які замест сябе пакінуў створаную ім партыю бальшавікоў, створаны ім саюз бальшавікоў усіх краін і нацый—Комуністычны Інтэрнацыянал. Гэтыя пяць год не прайшлі дарма; і калі загарыцца нанава імпэрыялістычная вайна, усе думкі-паходні, кінутыя ў сьвет Леніным у гады папярэдняй імпэрыялістычнай вайны, разгарацца вялізарным полымем пажару сусьветнай соцыяльнай рэволюцыі.

Мы, наступнікі Леніна, носьбіты і прапаведнікі яго ідэй, працягальнікі яго справы, павінны са ўсёй энэргіяй прапаведваць гэтыя ідэі ў самых шырокіх масах ва ўсіх краінах на ўсіх мовах. VI Конгрэс Комінтэрну, які зьехаўся праз 4½ гады пасьля сьмерці Леніна, гэтыя лепшыя думкі-паходні Леніна ўключыў у програму Комінтэрну, у гэты плян чыннасьці бальшавікоў-ленінцаў усіх краін. Ён ажыцьцявіў іх у рэзолюцыях, якія паказваюць далейшы шлях змаганьня,—у рэзалюцыі па пытаньні аб небясьпечнасьці вайны і аб вызваленчым змаганьні працоўных у калёніяльных і напоўколёніяльных краінах.

Калі памёр Ленін, Міжнародны сялянскі савет зьвярнуўся да сялян усяго сьвету з адозваю:

„Браты і таварышы,—пісаў Міжнародны сялянскі савет,—злучаце свае рады, рады соцень мільёнаў сялян з мільённай арміяй рабочых, і тады супольнаю працаю селянін і рабочы стануць уладарамі земнае кулі, адчыняць новую эру ў гісторыі чалавецтва.

Праз змаганьне і працу да гэтага шчасьлівага будучага весьці іх будзе сусьветны геній Леніна. Няхай-жа тым самым тым мацней сярод сялянскіх мас усяго сьвету разносіцца гучны заклік: „Рабочыя і сяляне ўсіх краін, злучайцеся!“

У тыя дні адбываўся II зьезд саветаў СССР. Дэлегаты зьезду казалі тады:

„Ня падаць духам. Злучыцца ў адно цэлае рабочым і сялянам наўкола комуністычнае партыі, як перадавога авангарду рэволюцыі, іісьці наперад па лініі, якую паказаў нам Ленін, ня збочваючы ні направа, ні налева“. Так казаў селянін Данецкай губэрні на зьезьдзе. „Ты памёр,—гаварыў другі селянін,—але вучэньне тваё, справы твае засталіся з намі, яны не памруць ніколі! Чаго ты ня вывучыў, мы давучым, чаго ты не пасьпеў зрабіць, мы—сусьветнае працоўнае сялянства і рабочая кляса—зробім“ [1]).

[1]) „Крестьянские делегаты II с'езда СССР о Ленине“. Выд. „Новая деревня“. 1924 г., стар. 19—22.

Вось і сягоньня, праз пяць год пасьля сьмерці Леніна, мы ўсе павінны паставіць перад сабою пытаньне аб сялянах, аб тым, як адносяцца сяляне да справы Леніна. Мы ў асобным разьдзеле спынімся на гэтым, а зараз хочам толькі сказаць:

Сяляне (пэўна, ня ўсе, а толькі тыя, хто жыве ўласнаю працаю, хто не зьяўляецца чужаедам, кулаком) павінны прызнаць, што пасьля сьмерці Леніна компартыя і савецкая ўлада чэсна і добрасумленна робяць справу Леніна. Мы падамо лічбы і факты, якія гэта пацьвярджаюць. Але няхай уважна азірнуцца наўкола: хіба ня знойдуць яны самі наўкола сябе фактаў, якія сьведчаць аб перамозе справы Леніна. Мы ведаем, што яшчэ шмат недахопаў наўкола і шмат няправільнага, што патрабуе адхіленьня ў чыннасьці і савецкіх органаў, а сям-там і органаў партыі. Гэтыя недахопы паходзяць, галоўным чынам, ад таго, што мы-ж і комуністых можам чэрпаць з той-жа самай рабоча-сялянскай масы, і не адразу гэтыя прышоўшыя ў партыю таварышы вызваляюцца ад тых недахопаў, якія яны атрымалі ў спадчыну ад мінулага, ад атачаючай асярэдзіны. Гэтыя недахопы іншы раз захоўваюцца, а іншы раз нават разьвіваюцца ў горшы бок. Але няхай удумаюцца ў справы, у загады, у пастановы компартыі і савецкай улады за гэтыя пяць год, няхай правяраюць усю работу ад пачатку да канца і ў галіне прамысловасьці, і ў галіне сельскае гаспадаркі, і ў нацыянальным пытаньні, і ў пытаньні культуры, аховы здароўя, разьвіцьця школ, пісьменнасьці, і тады сяляне павінны будуць сказаць, што справа Леніна знаходзіцца на цьвёрдым шляху, што яна за пяць год дасягнула вялікіх посьпехаў.

## У тыя дні і гадзіны

Хвароба Леніна і потым—сьмерць. Як цяжка ўсё гэта перажывала партыя!

У пачатку 1924 году надышло прыкметнае палепшаньне становішча здароўя У. І., і ўсе мы акрыліліся надзеяй на лепшы канец, пачалі чакаць поўнае яго папраўкі, звароту да работы. Як мы тады радасна аб гэтым гаварылі пры спатканьнях адзін з адным, як загараліся вочы любоўю да Леніна.

За некалькі дзён перад сьмерцю гэта надзея перайшла нават у упэўненасьць—ён-жа ў часе хваробы страціў мову і пачаў яе ўжо аднаўляць. Бывала, прыдзеш на які сход, і зараз-жа цябе засыпаюць запіскамі. „А як здароўе Леніна", „Ці хутка вернецца да работы Ільліч", „Ці хутка Ільліч паправіцца". Увосень 1923 году на сходзе Дзяржзнаку ў Хамоўніках я атрымаў запіску ад рабочага: „Без Ільліча—нібы бяз сонца", пісаў ён.

А 21 студзеня 1924 году ўвечары Леніна ня стала.

Уночы 21 студзеня было склікана надзвычайнае паседжаньне пленуму ЦК. На зьезьдзе саветаў у той вечар абмяркоўвалася фінансавае пы-

таньне. Да мяне падышоў таварыш з ЦК і шапнуў на вуха: „А другой гадзіне ночы ў Крэмлі пленум ЦК“. Здрыганулася сэрца, і зьявілася трывога: што здарылася, нашто склікаюць а другой гадзіне ночы надзвычайнае паседжаньне? Запытаў двух таварышоў,—тыя таксама ня ведалі, і таксама былі ўстрывожаны, а трэці сказаў: „З Ільлічом дрэнна“, а сам стаяў бледны, як пабеленая мелам сьцяна. Якая нуда, якая трывога ахапіла ўсіх нас! Мы сядзелі ў залі паседжаньняў СНК, дзе столькі спраў вялізарных, столькі сусьветных пытаньняў і столькі штодзенных пытаньняў змаганьня вырашалася пад старшынствам Ільліча. Вунь, у канцы стала стаіць жоўтае плеценае крэсла, у якім заўсёды сядзеў Ільліч... Ён ужо ніколі ня сядзе ў гэтае крэсла... Ніхто не гаворыць ні слова, усе маўчаць і чакаюць весткі, а іншыя, даведаўшыся пра тое, што здарылася, моўчкі плачуць у кутку...

З таго часу мінула пяць год. Ленін атрымаў належную ацэнку, справа Леніна атрымала сапраўдную праверку.

І нават ворагі,—падкрэсьліваем,—нават ворагі павінны былі прызнаць, што Ленін—найвялікшы грамадзкі дзеяч нашых дзён, найвялікшы правадыр рэволюцыі. Калі яны іншы раз гавораць пра яго з несхаванай злосьцю, што „Ленін быў вялікім разбуральнікам“, што „Ленін выкарыстаў свой талент для пагібельных мэт“, і інш., і інш., то чым далей мы адыходзім ад моманту сьмерці Леніна, тым ясьней становіцца нават для нашых праціўнікаў, што гэтыя злосныя характарыстыкі, якія яны складалі ў момант сьмерці Леніна, б'юць іх саміх, як аплявуха, бо ня могуць яны прыстаць да Ільліча, якога пасьля яго сьмерці масы любяць ня менш, чым пры яго жыцьці, якога тым больш любяць, чым больш пра яго даведваюцца, з імем якога з кожным днём зьвязваюць сябе ўсё большыя масы працоўных усяго сьвету. Вось чаму і цяпер ворагі вымушаны, не згаджаючыся з Леніным, нават злуючыся на яго, прызнаць, што „Ленін быў чалавекам чыннасьці, роўнага Леніну яшчэ ня было ў сьвеце. Імем Леніна адчыняецца новая старонка ў чалавечай гісторыі“ (газэта „Гамбургер Эхо“)—„Ленін увойдзе ў гісторыю як геній, інтэлектуальная сіла і надзвычайная энэргія якога ўплывалі на лёс народаў“ (газэта „Форыстэрн Таймс“—Кітай). „Можна аспрэчваць розныя прыватныя бакі зробленае Леніным справы,—пісала італьлянская газэта „Аванці“, — можна не згаджацца з яго мэтодам і тактыкай, але, поруч з Марксам, Ленін назаўсёды застанецца адным з найвялікшых тлумачоў імкненьняў рабочае клясы, якая пачала вялізарнае змаганьне за заваёву ўлады, за экономічнае ператварэньне чалавечага грамадзтва“.

Ворагаў у Леніна шмат, але яшчэ больш прыяцеляў. З імем Леніна зьвязваюць сваё змаганьне дзесяткі мільёнаў рабочых і сялян у Кітаі, у Індыі, у Індонэзіі ды ў іншых краінах. Народы ўсяго сьвету, працоўныя ўсіх краін у сваім змаганьні ня знойдуць больш вернага сьцягу, чым

сьцяг Леніна. Паводле слоў аднаго з індускіх рэволюцыянэраў, калі памёр Ленін, працоўныя далёкіх краін думалі: што будзе з імі цяпер, калі ён памёр; ці знойдуцца людзі, гэткія-ж мужныя і вялікадушныя, каб удзяліць час і сілы ім, іх вызваленьню? Вось пра што пакутна пытаюцца сябе прыгнеценыя колёніяльныя масы. І ён канчае: пры жыцьці Ленін быў нашым айцом, настаўнікам, таварышам і дарадчыкам. Цяпер ён— наша зорка, якая вядзе нас да соцыялістычнай рэволюцыі. Ленін жыве ў нас, ён няўміручшы.

Другі таварыш з выспы Явы расказвае, што „імя Леніна зьяўляецца лёзунгам будучага вызваленьня сялянскіх мас, і гэтыя масы пачынаюць усьведамляць гэта“. У індусаў і кітайцаў, што жывуць на высьпе Ява, паліцыяй некалькі раз былі знойдзены портрэты Леніна, яго брошуры, перакладзеныя на маляйскую мову, і да т. п. Наогул портрэты У. І. вельмі распаўсюджаны сярод явайцаў.

У фашыцкай Італіі, дзе, ня гледзячы на тое, што ўсякі, хто ня толькі носіць імя комуністага, але хто зьвязаны з ім, як сваяк, або хоць якойнебудзь блізкасьцю, нацягвае на сябе тэрор і перасьледваньне фашыстых, у рабочых кварталах італьлянскае дзіця піша на сьцяне мелам або вугалем: „Ленін“, бо Ленін—гэта-ж сьцяг для прыгнеценых і працоўных усіх краін.

І сягоньня, у дзень пятай гадавіны, як кожны год у дзень сьмерці Леніна, думкі і погляды гэтых народаў будуць зьвернуты на поўнач да краіны саветаў. Яны таксама будуць падлічваць посьпехі і перамогі агульнае нам справы—сусьветнай соцыялістычнай рэволюцыі. Нашы посьпехі ў справе соцыялістычнага будаўніцтва зьяўляюцца фундамантам для справы соцыялізму ня толькі нашай краіны. Кожны павінен зразумець, што, калі мы гаворым пра будаўніцтва соцыялізму ў СССР, то гэта азначае, што мы закладаем фундамант для соцыялістычнае гаспадаркі ва ўсім сьвеце. Наша практыка і нашы дасягненьні (як і нашы памылкі) будуць улічаны, будуць скарыстаны тымі, хто заўтра скіне ўладу капіталу ў той або іншай краіне. Кожнае ўмацаваньне справы соцыялізму ў нашай краіне надае бадзёрасьць і ўпэўненасьць іншым атрадам міжнароднай рэволюцыі, якія яшчэ зьбіраюць свае сілы, якія яшчэ не перамаглі сягоньня, але пераможуць заўтра, пасьлязаўтра. Мы ўсе павінны ўсьвядоміць, што кожны посьпех соцыялізму ў нашай краіне, як і кожная перамога, кожны пралік, кожная памылка мае значэньне для посьпеху соцыялістычнай рэволюцыі ў іншых краінах.

Сягоньня погляды нашы зьвернуты да маўзолею Леніна, дзе захоўваецца ўсё, што было ў ім сьмяротнага. Ахінены чырвоным сьцягам, ён сягоньня ў маўзолеі ня менш блізкі рабочым і працоўным усяго сьвету, чым пры жыцьці. І мільёны людзей, прайшоўшых міма Леніна за гэтыя гады, каб глянуць на яго, нясуць сюды сваю любоў, прысягаюць вернасьці справе Леніна, працягаюць змаганьне за справу Леніна.

## Нацыянальнае пытаньне і міжнародныя абавязкі ленінскай партыі

### Царская Расія была турмою народаў

Адным з найвялікшых клопатаў Леніна было стварэньне Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Ня так лёгка было пабудаваць гэты Саюз у краіне, якая да рэволюцыі лічылася турмою народаў, у краіне, якая пасылала войска на задушэньне рэволюцыі ў іншых краінах, як гэта было ў Вялікую француску рэволюцыю з пасылкай рускіх войск ва Францыю, як гэта было ў 1846 г. з пасылкай рускіх войск у Аўстра-Вэнгрыю, як гэта было з задушэньнем паўстаньня ў Польшчы і ў шэрагу іншых краін. Цяжка было стварыць Саюз Соцыялістычных Рэспублік у краіне, дзе да рэволюцыі цэлы шэраг народаў знаходзіўся ў поўным бяспраўі, адстаў у сваім разьвіцьці, быў пагалоўна няпісьменны і вымірау. Цяжка было стварыць такі Саюз у краіне, дзе штучна ў працягу дзесяткаў, соцень год падтрымлівалася варожасьць паміж паасобнымі нацыянальнасьцямі, дзе пануючая нацыя вялікаросаў нацкоўвалася на іншыя нацыі, як на „чужынцаў“. Чужынцамі лічыліся і украінцы, і палякі, і яўрэі, і армяне, і грузіны, і іншыя народы, якія засялялі былую царскую імпэрыю. Для іх не знаходзілася іншага прозьвішча, як якое-небудзь ганебнае, зьневажальнае. У гэтай краіне да рэволюцыі ўчыняліся пагромы проці паасобных нацыянальнасьцяй., Ганьбаю гэтых пагромаў пакрыты былі нават паасобныя групы рабочых, нават паасобныя заводы, дзе зьвівала сваё гняздо організацыя чорнай сотні і іншыя рэакцыйныя пагромныя організацыі, якія натхняліся памешчыкамі, капіталістымі, купцамі і духавенствам. Учынялася то армяна-татарская разьня, то вырэзвалі кіргізаў і да т. п. Ня трэба забываць, што і ў часы Керанскага спрабавалі праводзіць тую-ж політыку вялікадзяржаўнасьці ў адносінах да іншых народнасьцяй. Іменна гэта дало магчымасьць аб‘яднацца яшчэ да канчатковай перамогі Савецкага Саюзу фінляндзкай буржуазіі. Іменна гэта дало магчымасьць украінскай буржуазіі, украінскім кулаком організаваць, у процівагу савецкай уладзе ў пэрыод грамадзянскай вайны, украінскую раду і да т. п.; іменна гэта дало магчымасьць і эстонскай, і латвійскай буржуазіі адарваць ад Савецкага Саюзу насельнасьць гэтых краін.

### Погляды Леніна на стварэньне адзінага Саюзу Савецкіх Рэспублік

Найвялікшымі клопатамі Леніна было ўстанавіць узаемнае давер‘е паміж народамі, засяляўшымі вялікую краіну саветаў, а асабліва ўстанавіць давер‘е да рускіх рабочых і сялян, якія належалі да вялікарускай нацыі. Але гэта давер‘е не магло быць устаноўлена гвалтоўным навязваньнем волі аднэй нацыянальнасьці ўсёй іншай насельнасьці шляхам затрыманьня росту, разьвіцьця гэтых нацыянальнасьцяй, як гэта было раней. Таму найвялікшымі клопатамі партыі і савецкай улады пры

Леніне было вырашыць нацыянальнае пытаньне так, каб пад кіраўніцтвам партыі даць максымальную магчымасьць разьвіцьця культуры паасобных народаў—стварэньне сваіх школ на роднай мове, свайго друку, разьвіцьцё прамысловасьці ў адсталых нацыянальных абласьцях і рэспубліках, выхаваньне і вылучэньне да кіраваньня актыву з працоўных мас гэтых абласьцей і рэспублік.

Свае погляды па нацыянальным пытаньні Ленін выпрацоўваў на вялізнай практыцы клясавага змаганьня ўва ўсім сьвеце. Іня раз Ленін задумваўся над пытаньнем аб тым, як павінна быць пабудавана дзяржава перамогшае рабочае клясы. Асабліва падрабязна ён спыняецца на гэтым пытаньні ў сваёй рабоце: „Дзяржава і Рэволюцыя“, дапісанай незадоўга да Кастрычнікавага перавароту, калі Ленін знаходзіўся ў падпольлі. У гэтай сваёй рабоце Ленін успамінае словы заснавальніка комунізму Фрыдрыха Энгельса, што „пролетарыят можа ўжываць толькі форму адзінай рэспублікі“. Аднак Энгельс лічыў, што і фэдэратыўная рэспубліка можа быць „крокам наперад“ пры пэўных асобных умовах. Гэтыя „асобныя ўмовы“ заключаюцца ў канечнасьці правільна вырашыць нацыянальнае пытаньне. Вось іменна таму, што ў наяўнасьці ў былой царскай імпэрыі і рэспубліцы часоў Керанскага былі гэтыя асобныя ўмовы,—нацыянальна-бытавыя,—Ленін лічыў канечнай організацыю савецкае дзяржавы на падставе фэдэрацыі, гэта значыць на грунце саюзу аўтономных соцыялістычных рэспублік і аўтономных абласьцей. Ён пытаецца ў лісьце да рабочых і сялян Украіны з прычыны перамогі над Дзянікіным у студзені 1920 году: „Ці быць Украіне асобнай незалежнай Украінскай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікай, зьвязанай у саюз (фэдэрацыю) з Расійскай Соцыялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікай, ці злучыцца Украіне з Расіяй у адну Савецкую Рэспубліку?“ „Як-жа,—пытаўся Ленін,—вырашаць гэтае пытаньне з пункту погляду інтарэсаў працоўных, з пункту погляду посьпеху іх змаганьня за поўнае вызваленьне працы ад ярма капіталу?“ і ён адказваў: „*Капітал ёсьць сіла міжнародная. Каб яе перамагчы, патрэбен міжнародны саюз рабочых, міжнароднае братэрства іх*“.

Мы — праціўнікі нацыянальнай варожасьці, нацыянальнай розьніцы, нацыянальнай адасобленасьці. Мы—міжнароднікі, інтэрнацыяналістыя, мы імкнемся да цеснага аб'яднаньня і поўнага злучэньня рабочых і сялян усіх нацый сьвету ў адзіную сусьветную савецкую рэспубліку. Ленін паказваў на тое, што наш Саюз павінен быть дабрахвотным саюзам нацый, такім саюзам, „які не дапускаў-бы ніякага гвалту аднэй нацыі над другой, такім саюзам, які быў-бы заснаваны на паўнейшым давер'і, на яснай сьвядомасьці братэрскага адзінства, на поўнай добраахвотнай згодзе“. Пэўна, такі саюз адразу ажыцьцявіць нельга было; трэба было перш за ўсё заваяваць давер'е аднэй нацыі да другой. І Ленін даваў параду комуністым Расіі і Украіны „цярплівай і настойлівай упартай супольнай работай перамагці нацыяналістычныя імкненьні ўсякай бур-

жуазії, нацыяналістычныя забабоны ўсякага роду і паказаць працоўным усяго сьвету прыклад сапраўднага моцнага саюзу рабочых і сялян розных нацый у змаганьні за савецкую ўладу, за зьнішчэньне ўціску памешчыкаў і капіталістых, за сусьветную, фэдэратыўную, Савецкую Рэспубліку“ [1]).

Іншымі словамі, Ленін ставіў пытаньне аб стварэньні адзінай рэспублікі, улічваючы асобныя ўмовы, улічваючы шматнацыянальны склад былой царскай імпэрыі. Яшчэ пры жыцьці Леніна, якраз у той час, калі ён, хворы, адыходзіў ад работы, вырашалася пытаньне аб тым, як назваць Саюзу. Ленін лічыў, што лепш за ўсё будзе назваць яго Саюзам Савецкіх Рэспублік. Савецкі Саюз Соцыялістычных Рэспублік зьяўляецца, такім чынам, дзіцём Леніна. Ленін так многа папрацаваў іменна над тым, каб устанавіць патрэбнае для такога саюзу давер'е паміж рознымі народнасьцямі і, асабліва, давер'е сялянскіх мас да дыктатуры пролетарыяту. У многіх-жа адсталых народнасьцяй пролетарыят быў вельмі нязначны, і трэба было мець на мэце, што кіраўнікі ў шмат якіх нацыянальных рэспубліках спачатку і не маглі быць вылучаны з асярэдзіны данай нацыянальнасьці, што кадры мясцовых грамадзкіх дзеячоў у большасьці выпадкаў папаўняліся рускімі рабочымі.

## Экономічны і культурны рост нацыянальных рэспублік і абласьцей

Трэба азірнуцца на шлях, пройдзены пасьля сьмерці Леніна паасобнымі нацыянальнымі рэспублікамі. З таго часу ў паасобных рэспубліках і абласьцях адбылася сапраўдная рэволюцыя, адбываецца пераход да соцыялістычнага будаўніцтва ў самых адсталых абласьцях. У гэтых адносінах паасобныя рэспублікі і вобласьці даюць шмат навучальнага. Бакінскія нафтавыя промыслы, напрыклад, перавышаюць ужо па здабычы даваенную норму, прычым гэтыя нафтапромыслы ў значнай ступені пераабсталяваны па апошнім слову тэхнікі. Машыны, якімі карыстаюцца нафтапромыслы, якія раней прывозіліся з-за граніцы,—цяпер амаль цалкам робяцца ўнутры краіны. Экспорт нафтапродуктаў вырас больш, чым у тры разы проці даваеннага. Пабудаваны аграмадны нафтапровад Баку—Батум і Грозны—Туапсэ. Але разьвіваецца ня толькі нафтапрамысловасьць, якая зьяўляецца саюзнай прамысловасьцю, разьвіваецца і рэспубліканская прамысловасьць Азэрбайджану і іншых нацыянальных рэспублік і абласьцей.

Толькі за два гады, з 1926 па 1928 год, кошт продукцыі павялічыўся на 12 мільёнаў рублёў, або на адну трэць, а ў 1929 годзе яна павялічваецца за адзін толькі год на 63%. Павялічваецца плошча пад засевамі бавоўны, праводзіцца мэліорацыя. Грашовыя прыбыткі вёскі павялічыліся на 23,5%. Расьце лік агропунктаў і лік паказальных вучасткаў. Палову чыстагатунковага насеньня пад баваўнянымі засевамі Азэрбайджан атрым

[1]) Том XVI. стар. 459—465.

лівае з уласнага саўгасу ў 2,5 тыс. гектараў, а агульная колькасьць зямлі, занятай пад саўгасамі, ужо зараз дасягае больш 13.000 гектараў. Намечана і прыступлена да будаўніцтва новых саўгасаў на 57.000 гектараў.

Усе гэтыя даныя паказваюць, як на месцы былога панаваньня нафтавых каралёў—Нобеля, Манташова і інш. вырасла свабодная нацыянальная рэспубліка, дзе разам з ростам прамысловасьці расьце культурнае будаўніцтва.

У Туркмэніі таксама павялічыўся асноўны капітал прамысловасьці да 22,5 мільёнаў рублёў, а кошт продукцыі—да 60 мільёнаў рублёў. Павялічылася заработная плата рабочых і расьце новае рабочае будаўніцтва. Засеўная плошча за апошнія чатыры гады ў Туркмэністане вырасла на 50%; перавысіўшы даваенную. У асаблівасьці плошча пад баваўнянымі засевамі: яна вырасла на 100%. Таксама павялічыўся і лік жывёлы ў Туркмэністане.

## Мерапрыемствы савецкай улады, накіраваныя на зьнішчэньне ўплыву мясцовай буржуазіі і напоўфэўдалаў

Асабліва-ж трэба зьвярнуць увагу на тыя экономічныя мерапрыемствы, якія зьвязаны з правядзеньнем клясавага змаганьня ў нацыянальных рэспубліках і абласьцях. Так, у Сярэдняй Азіі ў 1925—26 г. была праведзена зямельна-водная рэформа ва Ўзбэкістане і Туркмэніі, якая ставіла сабе задачу—ліквідацыю ў карыстаньні зямлёй і вадой, пасьледкаў родавых і фэўдальных адносін, якія перашкаджаюць жыцьцю вытворчых сіл у сельскай гаспадарцы, правядзеньню ў жыцьцё працоўнага землякарыстаньня. Гэта зямельна-водная рэформа мае істотнае значэньне для выхаваньня клясавае сьвядомасьці батракоў і дэкхан (сялян) Сярэдняй Азіі. Яны азначаюць у сваім далейшым разьвіцьці поўную ліквідацыю байскага (памешчыцка-кулацкага) зямляўладаньня. Яны язначаюць выкарыстаньне зямель, што знаходзяцца ў веданьні дзяржавы, і пустуючых зямель і надзяленьне зямлёй безьзямельных сялян і батракоў. 94.000 гаспадарак у Сярэдняй Азіі атрымалі зямлю ад савецкай улады. Калі лічыць тую зямлю, якая адабрана ў памешчыкаў, буйных гандляроў, кулакоў і буйных жывёлаводаў, а таксама землі, нанава абводненыя, і землі дзяржфонду, перададзеныя сялянам, то вясковай беднаце перадана больш за 300 тыс. гектараў. На дапамогу інвэнтаром і па зямляўпарадкаваньню затрачана ў гэтых абласьцях каля 8-мі мільёнаў рублёў, ня лічачы жывога інвэнтару, разданага насельніцтву. Зямлю гэту атрымала, галоўным чынам, вясковая бедната, якая да гэтага часу была ў большай сваёй часьці арандатарам зямель (чайрыкеры) у баеў, знаходзілася ў іх і ў палітычным, і матэрыяльным падпарадкаваньні.

Каб меркаваць аб тым, якое вялізнае значэньне мае гэта для вясковай бедноты—чайрыкера і для дэкханіна, трэба паказаць, што па аднэй толькі Фэргане арэндная плата, якая выплачвалася баю, складала

больш 4-х мільёнаў рублёў у год. Вось чаму зьнішчэньне байскае гаспадаркі зьяўляецца зьняцьцем ланцугоў, перашкод, якія затрымлівалі разьвіцьцё вытворчых сіл у зямляробстве ў Сярэдняй Азіі. Палітычныя-ж вынікі гэтай зямельна-воднай рэформы маюць яшчэ большае значэньне, бо гэта рэформа памагае нам вырваць бедняка і серадняка-селяніна з-пад палітычнага ўплыву байства і духавенства.

У 1928 годзе праведзена таксама ліквідацыя байстваў у Казакстане. Урад Казакстану дэкрэтам ад 5 верасьня 1928 году абвесьціў падлеглай конфіскацыі жывёлу і інвэнтар у найбольш буйных баеў-напоўфэўдалаў, у якіх у падпарадкаваньні знаходзілася маса казакскай беднаты.

Пэўна, і пры правядзеньні зямельна-воднай рэформы і пры правядзеньні ліквідацыі байства былі і магчымы паасобныя памылкі; але самі па сабе гэтыя меры зьяўляюцца толькі пасьлядоўным правядзеньнем тэй лініі, якая была вызначана Леніным.

Асабліва мы павінны спыніцца на культурным будаўніцтве ў нацаблясьцях, іменна на культурным будаўніцтве.

## Культурная рэволюцыя ў нацыянальных рэспубліках

Асабліва значны *рост нацыянальных школ за гэтыя гады*. У 1923—24 годзе нацыянальных школ першай ступені, ня ўключаючы аўтономных рэспублік і абласьцей, было каля трох тысяч, а ў 1926—27 годзе—іх ужо каля 5-ці з паловаю тысяч. На справу народнае асьветы па Азэрбайджану асыгнуюцца такія сумы, што ўжо вызначаны дзесяцігадовы тэрмін увядзеньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня. Калі ў 1925—26 годзе ў Азэрбайджане трацілася на народную асьвету 16,5 мільёнаў рублёў, то ў 1927—28 г. ўжо затрачана 24 мільёны рублёў. У паасобных раёнах, як, напрыклад, у Бакінскім, у Азэрбайджане, ужо цяпер уведзена абавязковае навучаньне для дзяцей, якія дасягнулі васьмігадовага ўзросту.

У гэтай краіне да рэволюцыі было толькі 9% пісьменных, а пры савецкай уладзе, пасьля сьмерці Леніна, Азэрбайджан выступае пачынальнікам вялізнай культурнай рэволюцыі ва ўсім сьвеце, заселеным цюркскімі народнасьцямі. Сярод мусульманскіх народнасьцяй, якія карысталіся да гэтага часу арабскім альфабэтам, надзвычай цяжкім для засваеньня, Азэрбайджан выступіў з рэформай гэтага альфабэту і прапанаваў увесьці новы цюркскі альфабэт, складзены з латынскіх літар. Гэты вялізны крок наперад знайшоў водгук сярод усіх мусульманскіх народнасьцяй. У пятую гадавіну са дня сьмерці Леніна выдавецкая чыннасьць Азэрбайджану пераводзіцца на новы цюркскі альфабэт.

У Туркмэніі за чатыры гады існаваньня Туркмэністану лік школьных устаноў павялічыўся ў два з паловай разы. Сетка лекавых устаноў павялічылася таксама ў два разы. Ва Узбэкістане адбываецца яшчэ больш шпаркі рост культурнага будаўніцтва. У 1927—28 годзе рэспубліка мае

значную сетку савецкіх школ ня толькі першай ступені (каля двух тысяч школ), але, што асабліва важна, больш сотні профтэхнічных навучальных устаноў, значную сетку (больш тысячы) розных палітыка-асьветных устаноў, бібліотэк, чырвоных чайханэ, клюбаў і да т. п. Важна тое, што ў гэтых школах навучаецца ўжо мясцовае узбэцкае насельніцтва, што выкладаньне ў гэтых школах ідзе на роднай мове, што падручнікі выдаюцца на роднай мове. Пэўна, гэтых школ яшчэ зусім невыстарчальна ні для ліквідацыі элемэнтарнай няпісьменнасьці, ні для выхаваньня патрэбных кадраў кваліфікаваных работнікаў для растучай прамысловасьці. Аднак і Узбэкістан зьяўляецца зараз адным з перадавых форпостаў савецкай грамадзкасьці на Ўсходзе. Там, дзе быў цэнтр рэакцыйнага мусульманскага духавенства, у цяперашні час будуецца сетка школ, якія падрыхтоўваюць новага свабоднага Узбэка—будаўніка соцыялістычнага Узбэкістану. У Самаркандзе адчынена першая вышэйшая навучальная ўстанова Узбэкістану—Самаркандзкі пэдагогічны інстытут.

Мы тут пералічаем толькі вельмі нязначны лік фактаў, якія характарызуюць дасягненьні савецкай улады і партыі ў правільным вырашэньні нацыянальнага пытаньня. Калі ўспамянуць, што мусульманскі ўсход быў яшчэ нядаўна цэнтрам самага рэакцыйнага ўплыву, самага рэакцыйнага духавенства, што ў гэтых краінах захаваліся найбольш рэакцыйныя перажыткі падняволеньня жанчын (калым, нашэньне паранджы і да т. п.), то факты, якія мы назіраем у апошнія гады, гавораць аб вялізарным прабуджэньні жаночых працоўных мас гэтых абласьцей. У Азэрбайджане ў грамадзкім жыцьці сяла цюркчанка ня толькі прымала ўдзел у выбарах саветаў, але ў 1928 годзе 27 жанчын-цюркчанак зьяўляюцца ўжо старшынямі сельсаветаў.

### Змаганьне за разьняволеньне ўсходняе жанчыны

У Татарскай рэспубліцы, ва Узбэкістане, у Крыму, у Туркмэністане, у Грузіі і іншых нацыянальных абласьцях і рэспубліках жанчына ўсё больш і больш вылучаецца на арэну грамадзкага жыцьця. Пэўна, гэтаму дапамагаў і рост організацый па ахове мацярынства і дзяцінства, якія палягчаюць для жанчыны Ўсходу гэты ўдзел у грамадзкім жыцьці. Так, у Татрэспубліцы, у 1924 годзе, было ўсяго толькі 24 організацыі па ахове мацярынства і дзяцінства, а ў 1927 годзе лік організацый дасягае 180. У выбарах у саветы ў нацыянальных рэспубліках прымала ўдзел у 1926—27 годзе каля мільёну жанчын і 13 проц. з іх, больш за 36 тысяч, абраны членамі сельсаветаў.

Савецкая ўлада ў нацыянальных рэспубліках вядзе шырокую растлумачальную работу сярод насельніцтва аб канечнасьці поўнага зьнішчэньня гэткіх ганебных перажыткаў няволі, як калым, як хаваньне жанчыны ад людзкога вока, як нашэньне паранджы. Міжнародны жаночы дзень на ўсходзе адзначыўся публічным спаленьнем паранджы. Трэба,

каб гэты рух за поўнае зьнішчэньне хаваньня жанчыны ад людзкога вока быў падтрыманы ня толькі комуністымі і комсамольцамі, але ўсімі сьвядомымі перадавымі рабочымі і сялянамі гэтых краін.

Вось чаму мы можам толькі вітаць рашучую пастаноўку гэтага пытаньня ў Азэрбайджане, які праз 5 год пасьля сьмерці Леніна законадаўчым актам зьнішчае нашэньне чадры.

„У Азэрбайджане пасьля доўгай сыстэматычнай работы сярод працоўных як сярод мужчын, так і сярод жанчын склаліся акалічнасьці, дзякуючы якім Азэрбайджанскі ЦВК ужо мае магчымасьць унесьці на зьезд саветаў Азэрбайджану, які адбудзецца ў сакавіку бягучага году, дэкрэт аб зьняцьці чадры. Гэты дэкрэт не зьяўляецца простым гэстам з боку Азэрбайджанскага ЦВК. Не. Той, хто думае аб гэтым так, глыбока памыляецца, ня ведаючы сапраўднасьці ў Азэрбайджане. Сапраўднасьць апошніх месяцаў у Азэрбайджане гэткая: у Ганджы адбыліся дэмонстрацыі дзесяткаў тысяч жанчын-цюркчанак проці нашэньня чадры дэмонстрацыйна скінулі чадру дзесяткі тысяч работніц і сялянак у іншых мясцох; дэмонстрацыйна скінулі чадру больш за 25.000 школьніц, настаўніц; адусюль чуюцца патрабаваньні соцень тысяч рабочых і работніц, сялян і сялянак, настаўнікаў, дактароў, аграномаў—выдаць урадовы акт, забараняючы нашэньне чадры. Усё гэта служыць падставаю для выданьня дэкрэту аб зьняцьці чадры. У адпаведнасьці з настроямі і голасам мас; па партыйнай лініі ў гэтых адносінах ужо была дана дырэктыва. Партыя абавязала ўсіх комуністых і комсамольцаў-цюркчанак зьняць чадру з сваіх жонак, дачок, матак. ЦК азэрбайджанскай компартыі паставіў перад комуністымі Азэрбайджану пытаньне рубам: турэмшчыкам жанчын няма месца ў радох компартыі і комсамолу, іх месца ў лягеры папоў і эксплёататараў. Дзесяткі тысяч комуністых і комсамольцаў у Азэрбайджане ўжо выканалі дырэктыву ЦК АКП. У краіне зараз усюды гавораць аб канечнасьці зьняцьця чадры. Ня знойдзецца аніводнага кутка, аніводнага сходу, дзе не гаварылі-б аб гэтым“ [1]). Пэўна, далёка ня ўсе патрэбнасьці гэтых нацыянальных рэспублік задавальняюцца. У цяперашні час гэтыя патрэбнасьці вялізарныя. Яны растуць па меры таго, як далучаюцца да культуры новыя і новыя пласты насельніцтва, якія яшчэ нядаўна стаялі ў баку ад усялякага грамадзкага жыцьця. Вось чаму XV партыйны зьезд у сваёй рэзолюцыі па правядзеньню пяцігадовага пляну гаворыць аб тым, што „пяцігадовы плян павінен зьвярнуць асаблівую ўвагу на пытаньне пад‘ёму экономікі і культуры адсталых нацыянальных акраін і адсталых раёнаў, выходзячы з канечнасьці паступовай ліквідацыі іх экономічнай і культурнай адсталасьці, прадугледаючы больш хуткі рост разьвіцьця іх экономікі і культуры, выходзячы з увязкі патрэб гэтых раёнаў з патрэбамі саюзу“. Гэтак-жа сама XV зьезд паказаў на канечнасьць зьвярнуць асаблівую ўвагу пры складаньні пяцігадовага пляну на разь-

[1]) А. С. Караев. Исторический праздник культуры АССР. „Правда“, 1. Т. 29.

віцьцё дробна-саматужнай прамысловасьці ўскраін, у прыватнасьці нацрэспублік і абласьцей. Зьезд пастанавіў узмацніць культурнае і ў прыватнасьці школьнае будаўніцтва ў нацыянальных раёнах. Зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на больш адсталыя з іх, прыняўшы ўсе меры для забясьпечаньня сапраўднага навучаньня ў школах дзяцей бедннаты і асабліва малалетніх, якія працуюць па найму, прыёмышаў і г. д., зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на разьвіцьцё профтэхнічных школ, розных навучальных майстэрань і пастаноўку навучаньня патрэбным у сельскай гаспадарцы рамёствам пры школах. Так—упарта, хоць і марудна—ліквідуецца культурная і экономічная адсталасьць абласьцей, якія нядаўна яшчэ былі ў царскай імпэрыі на палажэньні колёній і напоўколёній, дзе цягнулі мізэрнае існаваньне дзесяткі мільёнаў напоўнявольнікаў. Цяпер свабодныя народы будуюць пры дапамозе савецкае ўлады, пры дапамозе дыктатуры пролетарыяту, пры дапамозе тых вялізарных тэхнічных і матэрыяльных сродкаў і пераваг, якія дае існаваньне Саюзу ССР,—будуюць соцыялістычную гаспадарку, прымаюць удзел у політычным жыцьці, зьяўляюцца членамі компартыі, комсамолу, вучацца кіраваць і ўсё больш і больш адчуваюць сябе роўнымі ў сям'і роўных.

## Міжнародныя абавязкі ленінцаў і будаўніцтва соцыялізму ў СССР

Ці выканала партыя пасьля сьмерці Леніна свае міжнародныя абавязкі? Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба мець на мэце, што правільнае кіраўніцтва пролетарыяту СССР у адносінах да сялянскай масы ёсьць таксама выкананьне міжнароднага абавязку. Гэтак-жа сама міжнародным абавязкам зьяўляецца захаваньне Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Толькі мізэрныя тупіцы могуць бачыць у гэтым нацыянальную абмежаванасьць і толькі яны-ж могуць гаварыць пра нацыянальную абмежаванасьць, калі вырашаецца пытаньне аб магчымасьці пабудаваньня соцыялізму ў СССР. Ці падтрымала компартыя, ці падтрымалі пролетарскія організацыі СССР змаганьне міжнароднага пролетарыяту? Ці зрабілі яны дапамогу пасьля сьмерці Леніна нацыянальна-вызваленчаму руху іншых прыгнечаных народаў? Успамянеце толькі, як горача адклікаюцца рабочыя і сяляне нашай краіны за гэтыя гады, як адклікаецца компартыя і комсамол і нашы профсаюзы на кожнае колькі-небудзь значнае, рэволюцыйнае здарэньне.

Вось забастоўка англійскіх горнарабочых. Такое героічнае і такое цяжкае змаганьне! Хто-ж, калі не рабочыя і сяляне СССР, калі не ЎсеКП(б) і ЎсеЛКСМ зрабілі гэтай забастоўцы горнарабочых найбольшае падтрыманьне матэрыяльна, сабраўшы праз профсаюзы больш за 10 мільёнаў рублёў на падтрыманьне бастуючых горнарабочых Англіі. Найбольшае матэрыяльна-політычнае падтрыманьне рабочым у гэтай вялізарнай сутычцы працы і капіталу зрабілі рабочыя і сяляне нашага Саюзу.

А кітайская рэволюцыя? Хіба не перажывалася кожная перамога рабочымі і сялянамі СССР, компартыяй і комсамолам СССР, профэсіянальнымі яе саюзамі таксама, як-калі-б гэта было змаганьне дзенебудзь у адным з куткоў нашай краіны, як калі-б ня кітайская буржуазія стаяла са зброяю ў руках проці кітайскіх рабочых, а рускія генэралы і памешчыкі паўсталі проці пролетарскай дыктатуры СССР. І ня было за гэты час аніводнага колькі-небудзь значнага выступленьня рабочых у іншых краінах, каб гэта выступленьне не знайшло гарачага жывога водгуку ў створаных компартыяй і комсамолам організацыях СССР.

Мы ведаем, што гэта акалічнасьць выклікае найвялікшую нянавісьць да нашае дзяржавы прыгнятальнікаў усяго сьвету. Але разам з тым гэтыя нашы адносіны да змаганьня рабочых і прыгнечаных народаў усіх краін зьяўляюцца сапраўдным паказьнікам таго, што міжнародная рэволюцыя будзе разьвівацца, як працяг пачатага намі змаганьня. Мы не павінны ставіць сабе гэту дапамогу ў якуюсьці асобную заслугу; мы не павінны думаць, што мы ўсё ўжо зрабілі для падтрыманьня сусьветнай рэволюцыі, што мы можам на дасягнутым супакоіцца. Не, мы толькі выконваем наколькі можам свой міжнародны абавязак, запаведаны нам усёй гісторыяй клясавага змаганьня. Мы толькі робім тую справу, да якое абавязвае нас годнасьць членаў Ленінскай комуністычнай партыі і Ленінскага комсамолу. Вось чаму мы з абурэньнем адхіляем усякія папікі ў адносінах да ЎсеКП(б), да ЎсеЛКСМ у нацыянальнай абмежаванасьці. Тыя, хто нас у гэтым папікае, выяўляюць самі нязвычайную абмежаванасьць свайго розуму і свайго політычнага сумленьня.

Мы ўмацавалі нашы міжнародныя сувязі. Дзесяткі чужаземных рабочых дэлегацый з розных краін аб'езьдзілі нашу краіну і памагаюць нам, вярнуўшыся з СССР, змагацца з распаўсюджванай усюды буржуазнай хлусьнёй. Усё цясьней завязваюцца сувязі паміж самымі далёкімі куткамі СССР і цэнтрамі сусьветнага рабочага руху.

З кожным днём, па меры росту і ўмацаваньня СССР, будзе расьці і мацнець сярод працоўных ідэя аб тым, што выхад для працоўных усіх народаў у тым, каб далучыцца да гэтага Ленінскага саюзу і стварыць Сусьветны Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

## Культурная рэволюцыя

### Што мы атрымалі ў спадчыну? Для чаго і якая нам патрэбна культурная рэволюцыя?

Бальшавікі ўзялі ўладу ў кастрычніку 1917 году пасьля трох з палово год імпэрыялістычнай вайны, якая прывяла ня толькі нашу краіну, але і цэлы шэраг іншых старонак на край разбурэньня і пагібелі награмаджаных вякамі матэрыяльных і культурных каштоўнасьцяй. У нашай краіне вайна зрабіла надзвычайна вялікае разбурэньне, і пасьля Кастрыч

нікавай рэволюцыі мы яшчэ на працягу некалькіх год ня мелі магчымасьці, як сьлед, узяцца за вырашэньне задач культурнай рэволюцыі. А тымчасам мы атрымалі ў спадчыну краіну няпісьменную,—пераважная маса сялян ня мела школ, была няпісьменна ў поўным сэнсе гэтага слова.

Пры такой някультурнасьці, ня гледзячы на тое, што політычная ўлада знаходзілася ў руках пролетарыяту, ня гледзячы на тое, што экономічна мы мелі ўсе даныя для таго, каб пачаць пабудову соцыялістычнай экономікі, нам асабліва цяжка перамагці тыя вялізарныя перашкоды, якія стаяць на нашым шляху. „Галоўнае, чаго нам нехватае,—гаварыў Уладзімер Ільліч,—гэта культурнасьці, уменьня кіраваць. Экономічна і політычна нэп цалком забясьпечвае нам магчымасьць пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі. Справа „толькі“ ў культурных сілах пролетарыяту і яго авангарду“.

Ад сябе дадамо, што культурная адсталасьць асабліва моцна перашкаджае справе соцыялістычнае перабудовы вёскі, у шмат большай ступені чым гораду.

Прыходзілася перамагаць і гэтак званае „комчванства“, калі некаторыя комуністыя лічылі, што ім няма патрэбы вучыцца ў буржуазных спэцыялістых, што яны самі, „сваім розумам“ могуць да ўсяго дайсьці і ўсё перарабіць.

Але калі нам прышлося шчыльна стыкнуцца з перабудоваю нашай экономікі, мы ўбачылі, што іменна культурнасьці нам і нехватае. І цяжка было многім, хто прызвычаіўся наступаць на фронтах, хто прызвычаіўся вырашаць найвялікшыя задачы, эфэктныя па сваіх бліжэйшых дасягненьнях,—цяжка было гэтым таварышом узяцца за такія задачы, якія здаваліся вельмі маленькімі. А тымчасам гэтыя маленькія задачы вымагалі настойлівасьці, каб яны былі вырашаны неадкладна, бо трэба было паказаць, што нашы пляны соцыялістычнае перабудоўкі не зьяўляюцца толькі дэклярацыяй, а зьяўляюцца зусім ажыцьцяўляльнымі пунктамі програмы.

Ленін гаварыў тады: „пара, калі трэба было політычна маляваць вялікія задачы, прайшла, і наступіла пара, калі іх трэба праводзіць практычна. Цяпер перад намі задачы культурныя, задачы пэратраўленьня тае політычнае практыкі, якая можа і павінна ажыцьцявіцца. Або пагібель усіх політычных заваёў савецкай улады, або падвядзеньне пад іх экономічнага фундаманту“.

Вось чаму Ленін лічыў, што „задача пад‘ёму культуры—адна з самых першачарговых“. Гэту сваю думку Ленін не адзін раз настойліва ўтлумачваў комуністым. Пэўна, справа не ў аднэй толькі элемэнтарнай няпісьменнасьці, хоць само па сабе зразумела, што, перш за ўсё, трэба было ліквідаваць гэту элемэнтарную няпісьменнасьць. Бяз гэтай элемэнтарнай пісьменнасьці нельга прывучыць масу насельнасьці змагацца з валакітай, з бюрократызмам. Патрэбен пэўны пад‘ём культуры, каб маса

сама навучылася перабудаваць дзяржаўны апарат і ўдасканальваць яго, зрабіць яго прасьцейшым, даступнейшым, танейшым. „Патрэбна такая культура,—гаварыў Ленін,—якая вучыць змагацца з валакітай і ўсякімі такімі болькамі, якія ніякімі ваеннымі перамогамі і ніякімі політычнымі рэформамі нельга вылечыць... Можна вылечыць толькі адным пад'ёмам культуры“ [1]).

Пытаньне аб культурнай рэволюцыі ёсьць і пытаньне сувязі гораду з вёскай, бо занадта яскрава адчуваецца розьніца паміж культураю гораду і культураю вёскі. Яшчэ ў самым пачатку рэволюцыі Ленін гаварыў, што дапамагчы селяніну падняцца да гарадзкога ўзроўню—гэту задачу павінен паставіць сабе кожны рабочы, які мае сувязь з вёскай. Тады-ж Ленін прапанаваў стварыць „плянавую організацыю для таго, каб можна было выканаць простую надзенную справу мобілізацыі пісьменных для змаганьня з няпісьменнасьцю“. Ленін лічыў гэту справу таксама асноўнай задачай нашай рэволюцыі. Ці можна падняць вытворчасьць працы без пад'ёму культурнага ўзроўню рабочых і сялян? Ня толькі на фабрыцы і заводзе, дзе маеш справу са складанымі машынамі, але і ў сельскай гаспадарцы нельга падняць колькі-небудзь значна вытворчасьць працы, не падняўшы агульнага культурнага ўзроўню насельніцтва. Мы гэта асабліва адчуваем, калі пераходзім ад аднаўленчага пэрыоду ў гаспадарчы да перабудовы сельскае гаспадаркі і прамысловасьці на новых пачатках, на асновах новай тэхнікі. На кожным кроку адчуваем мы пасьля сьмерці Леніна, як адчуваў гэта і Ленін, што ў вырашэньні гэтых пытаньняў вялізнаю перашкодаю зьяўляецца нізкі ўзровень культурнасьці.

Чаму ўсё-ж такі цяжка было засвоіць многім гэтыя альфабэтныя ісьціны? Ды таму, што многія комуністыя лічылі, што ім няма патрэбы пераймаць што-б то ні было ад буржуазнай культуры. Ленін быў рашучым супрацiўнікам такога разуменьня справы, рашучым супрацiўнікам тае думкі, нібы можна стварыць пролетарскую культуру без дакладнага разуменьня тэй культуры, якая нам дасталася ў спадчыну. „Бяз яснага разуменьня таго, што толькі дакладным веданьнем культуры, створанай ўсім разьвіцьцём чалавецтва, толькі пераапрацоўкай яе можна будаваць пролетарскую культуру. Бяз гэтага разуменьня нам гэтае задачы ня вырашыць“, гаварыў Ленін на III Усерасійскім зьезьдзе комсамолу ў кастрычніку 1920 году. „Пролетарская культура,—гаварыў ён,—не зьяўляецца выскачыўшай невядома адкуль, не зьяўляецца выдумкай людзей, якія называюць сябе спэцыялістымі па пролетарскай культуры. Гэта ўсё хлусьня. Пролетарская культура павінна зьявіцца экономічным разьвіцьцём тых запасаў ведаў, якія чалавецтва выпрацавала пад уціскам капіталістычнае грамады, памешчыцкае грамады, чыноўніцкае грамады“ [2]).

[1]) Т. XVIII, ч. I, стар. 383.
[2]) Т. XVII, стар. 317.

Пэўна, тут трэба мецъ на мэце довады меншавікоў, якія яны высувалі проці рэволюцыі, калі яны гаварылі, што ў такой някультурнай краіне нельга зрабіць рэволюцыю. Адказваючы былому меншавіку Суханаву, Ленін гаварыў: „калі для стварэньня соцыялізму патрэбен пэўны ўзровень культуры (хоць ніхто ня можа сказаць, які гэты пэўны „ўзровень культуры“), то чаму нам нельга пачаць спачатку заваёвы рэволюцыйным шляхам перадпасылак для гэтага пэўнага ўзроўню, а потым ужо на асновах рабоча-сялянскай улады і савецкага будаўніцтва рушыцца дагнаць другія народы?“ [1]).

У любой дзяржаве сетка школ і іншых культурных устаноў зьяўляецца прыладаю выхаваньня мас у інтарэсах пануючых клясаў. Але буржуазія прабуе захаваць гэты факт гутаркамі аб апалітычнасьці школы, гэта значыць аб недачыненьні школы да палітыкі. Было-б вельмі несправядліва з нашага боку, калі-б мы сталі на шлях буржуазіі. Наадварот, на думку Леніна, „наша асноўная задача ў тым, між іншым, у процівагу буржуазнай праўдзе супроцьпаставіць сваю праўду і прымусіць яе прызнаць“.

Пасьля сьмерці Леніна, калі новыя цяжкасьці вырасьлі на нашым шляху, мы павінны былі на гэтых задачах культурнай рэволюцыі, высунутых Леніным, згрупаваць усю увагу ў шмат большай ступені. Трэба мець на мэце, што к гэтаму часу ў нас было шмат больш даных для больш пасьпяховага вырашэньня задач культурнай рэволюцыі. Мы справіліся з галоўнейшымі матэрыяльнымі цяжкасьцямі папярэдняга пэрыоду. Але калі мы прабавалі прыцягнуць да справы кіраваньня краінай больш шырокія масы, ажывіць чыннасьць саветаў, прыцягнуць гэтыя масы да сьвядомага ўдзелу ў організацыі гэтых саветаў, да перабудовы ўсяго быту і гаспадаркі, мы натыкаемся на няпісьменнасьць насельніцтва, на нізкі ўзровень культуры, як на адну з найвялікшых перашкод.

Ленін не адзін раз паказваў на тое, што „пакуль у нас ёсьць у краіне такая зьява, як няпісьменнасьць, аб палітычнай асьвеце вельмі цяжка гаварыць... Няпісьменны чалавек стаіць па-за палітыкаю. Яго спачатку трэба навучыць альфабэту; бяз гэтага ня можа быць палітыкі, бяз гэтага ёсьць толькі чуткі, плёткі, байкі, забабоны, але не палітыка“ [2]),

Чаму так цяжка змагацца з бюрократызмам, з валакітай, з хабарамі, пры адсутнасьці культуры і культурнасьці? Ды таму, што перамагчы бюрократызм, валакіту і хабарніцтва можна толькі тады, калі ўся насельнасьць будзе прымаць удзел у кіраваньні; а тым-жа часам у цэлым шэрагу рэспублік Савецкага Саюзу насельнасьць да рэволюцыі была амаль пагалоўна няпісьменнаю. Ленін паказваў на тое, што дзякуючы нізкаму культурнаму ўзроўню, „саветы, будучы па сваёй програме органамі кіраўніцтва *праз працоўных*, сапраўды зьяўляюцца органамі

[1]) Т. XVII, ч. II, стар. 119.
[2]) Ленин т. XVIII, ч. I, стар. 385.

кіраўніцтва *для працоўных*, праз перадавыя пласты пролетарыяту, *але не праз працоўныя масы*“ (падкрэсьлена намі).

„Бюрократыя пераможана, эксплёататары адхілены, але культурны ўзровень яшчэ не падняты, і таму бюрократы займаюць старыя месцы“. Затым, Ленін надаваў такое вялізарнае значэньне таму, каб мы паднялі на належную вышыню становішча народнага настаўніка. Ён падкрэсьліваў, што мы „не клапоцімся або далёка невыстарчальна клапоцімся аб тым, каб паставіць народнага настаўніка на тую вышыню, без якой і гутаркі быць ня можа ні аб якой культуры, ні аб пролетарскай, ні нават аб буржуазнай“ [1]).

„Да гэтага становішча справы (гэта значыць да палепшаньня становішча настаўніцтва.—*Е. Я.)* мы вавінны ісьці сыстэматычна, няўхільнай настойлівай работай над яго духоўным пад'ёмам, усебаковай падрыхтоўкай да яго сапраўды высокае годнасьці, і галоўнае, галоўнае і галоўнае—над падняцьцем яго матэрыяльнага становішча“.

У прамове на нарадзе політпрасьвету [2]) Ленін гаварыў, што сотні тысяч настаўнікаў—гэта ёсьць апарат, які павінен пасуваць работу, абуджаць думку, змагацца з забабонамі, якія яшчэ да гэтага часу існуюць у масах.

**Што зроблена для ліквідацыі няпісьменнасьці, для падняцьця культурнасьці**

Што-ж зроблена за гэтыя гады для ліквідацыі няпісьменнасьці? Сьмерць Леніна прымусіла над гэтым пытаньнем яшчэ сур'ёзьней задумацца. Яна супала з настаўніцкім зьездам, на якім настаўніцкая маса павінна была падвесьці некаторыя вынікі тым політычным зрухам, якія адбыліся ў краіне і ў асярэдзіне самой настаўніцкай масы за гэтыя гады. Гэты зьезд быў момантам найвялікшага політычнага пад'ёму самога настаўніцтва, калі лепшыя яго прадстаўнікі пацягнуліся бліжэй да камуністычнай партыі, да ажыцьцяўленьня запаветаў Леніна. Тады-ж было створана таварыства „Прэч няпісьменнасьць“, якое ў цяперашні час у аднэй толькі РСФСР мае 28 тысяч ячэек ТПН, якія яднаюць 1.200.000 рабочых і сялян. Праведзены нядаўна ўсесаюзны перапіс насельніцтва паказаў, як далёка прасунулася наперад ліквідацыя няпісьменнасьці і ліквідацыя політняпісьменнасьці. У гэтых адносінах паказальныя лічбы выдаткаў па культуры на душу насельніцтва ў СССР. Да вайны трацілася 2 р. 18 к., а ў 1924—25 г.—2 р. 69 к., у 1926—27 г.—4 руб. 79 к., у 1927—28 г. больш 5 рублёў. Калі ў 1913 годзе выдаткі па асьвеце ў адносінах да ўсяго бюджэту складалі крыху больш за 7%, то ў 1926—27 г. яны складаюць 396 мільёнаў рублёў, а ў адносінах да ўсяго бюджэту—10,63%. Таксама трэба сказаць і аб ахове здароўя, якая мае непасрэд-

[1]) Т. VIII, ч. II, стар.
[2]) Т. XVIII. стар. 182—183

нае дачыненьне да пытаньня культуры. У 1927—28 годзе страчана было 513 мільёнаў руб. па бюджэту на патрэбу аховы здароўя. У 1928-29 г.— 610 мільёнаў руб. У пачатку вайны ва ўсіх ніжэйшых агульнаадукацыйных школах вучняў было 7,25 млн., у год сьмерці Леніна іх было таксама крыху больш за 7 млн. на 87 тысяч школ; а ў 1927—28 г. мы ўжо маем больш 116 тыс. школ і 10,5 млн. вучняў. Калі ўзяць сярэднія школы агульнае асьветы, то ў першы год вайны іх было 1.790, а вучняў у іх—564 тыс., а ў 1926—28 г. г. мы маем 1.811 школ, вучняў—870 тыс., гэта значыць лік вучняў у сярэдніх навучальных установах вырас больш, чым у паўтара разы. Тое самае мы маем у ніжэйшых і сярэдніх профтэхнічных школах. У першы год вайны ў іх было 287 тыс., а ў цяперашні час—каля 700 тыс. Яшчэ больш значан рост у ВНУ'ах, дзе мы падрыхтоўваем кадры спэцыялістых. За гэты час лік вучняў вырас таксама, хоць і ня так значна, на 26%, і навучаецца ў нашых школах 158 тыс. Праўда, усё яшчэ адстае ў значнай ступені пісьменнасьць дзяўчат, у параўнаньні з пісьменнасьцю мужчынскае насельнасьці; асабліва гэта адчуваецца ў краінах Усходу, дзе да гэтага часу яшчэ існуе „хаваньне жанчын ад людзкога вока“ (затворничество)—забарона жанчыне і дзяўчыне паказвацца з адкрытым тварам у грамадзкіх мясцох. Так, у двух суседніх нацыянальных рэспубліках—Узбэцкай і Туркмэнскай—лік дзяўчат,—вучняў у школах першай ступені,—у узбэцкай—16%, а ў туркмэнскай—25%, і гэта таму, што ў Туркмэніі амаль зьнішчана хаваньне жанчын ад людзкага вока, а ва Узбэкістане гэта яшчэ існуе.

Дзякуючы розьніцы матэрыяльнага і культурнага ўзроўню гораду і вёскі, усё яшчэ існуе значная розьніца паміж складам вучняў у школах ніжэйшага і вышэйшага тыпу ў горадзе і ў вёсцы. Калі параўнаць процант вучняў у павышаных групах, у адносінах да вучняў у школах II ступені, то ў гарадох больш паловы вучняў—53%—даходзіць да павышаных груп, а ў сельскіх мясцовасьцях усяго толькі каля 5%, гэта значыць у 10 раз менш.

**Аб палепшаньні матэрыяльнага становішча настаўніцтва**

*Ці зроблена што-небудзь для палепшаньня матэрыяльнага становішча настаўніцтва?* Паўтараю—толькі ў год сьмерці Ільліча, у сувязі са зьездам настаўніцтва, партыя і савецкая ўлада больш настойліва ўзяліся за палепшаньне таго цяжкага матэрыяльнага становішча, у якім знаходзілася настаўніцтва. Гэта відаць з таго, што да настаўніцкага зьезду ў 1924 годзе заработная плата настаўніцтва была, у сярэднім, каля 17 руб. 1924 г. зьяўляецца пераломным, і з таго часу заработная плата настаўніцтва штогодна ўзрастае як у горадзе, так і ў вёсцы. У 1926—27 г. гэта зарплата ў горадзе ў школах першай ступені дасягае 46 руб., а ў II ступені—больш 57 руб. У вёсках у школах I ступені—39 руб., а ў другой ступені 50 р. Такім чынам, матэрыяльнае становішча

настаўніцтва, як і спэцыялістых у іншых галінах—тэхнікаў, інжынэраў, агрономаў, каморнікаў, дактароў,—паднялося і паднімаецца па меры росту матэрыяльнага дабрабыту СССР.

**Склад вучняў савецкіх школ і посьпехі ліквідацыі няпісьменнасьці**

Зьмяніўся, пэўна, значна і соцыяльны склад дзяцей нашых школ. Асноўную масу дзяцей у школах I ступені складаюць дзеці сялян, але, па меры пераходу да больш вышэйшых ступеняй, процант сялянскіх дзяцей значна зьмяншаецца. Вось гэта таблічка дае ўяўленьне аб тым, як разьмяркоўваецца соцыяльны склад дзяцей у школах розных тыпаў.

| | Школа I ступені | Сямігодка | Дзевяцігодка | Школа II ступ. |
|---|---|---|---|---|
| Дзеці рабочых . . . . | 9,5% | 28,6% | 28,2% | 15,2% |
| Дзеці сялян . . . . . | 78,9 „ | 31,9 „ | 14,0 „ | 24,7 „ |
| Іншых . . . . . . | 11,6 „ | 39,5 „ | 57,8 „ | 60,1 „ |

Само па сабе зразумела, што наша задача заключаецца ў тым, каб у далейшым зрабіць у шмат большай ступені скарачэньне проценту так званых „іншых“ у школах сямігодкі і дзевяцігодкі і ў школах II ступені і забясьпечыць у іх больш высокі процант вучняў—дзяцей рабочых і сялян.

Тое, што зьяўляецца зусім новым, у параўнаньні з дарэволюцыйным часам, гэта—*стварэньне рабочых факультэтаў і рабочых унівэрсытэтаў*. Праз гэтыя рабочыя факультэты прайшло ўжо каля 200 тысяч вучняў, якія атрымалі падрыхтоўку працягваць спэцыяльную асьвету. А на бліжэйшую пяцігодку 1928—33 г. г. Галоўпрафобрам вызначана да адкрыцьця трынаццаць новых вышэйшых навучальных устаноў.

*Якіх-жа вынікаў дабіліся мы ў адносінах ліквідацыі няпісьменнасьці ўсяе насельнасьці?* Паводле перапісу 1926 г. выявілася, што на 1.000 чалавек насельніцтва пісьменных ёсьць у гарадох 690, а ў сельскіх мясцовасьцях—391, а па ўсёй тэрыторыі, у сярэднім, на 1.000 чалавек пісьменных прыпадае 445 чалавек. Але асабліва цікаўны рост пісьменнасьці сярод насельніцтва, калі параўнаць асобна пісьменнасьць мужчын і пісьменнасьць жанчын. У гарадох мужчын, паводле перапісу, на кожную 1.000 чалавек пісьменных усяго 758, жанчын—628; у сельскіх мясцовасьцях: мужчын пісьменных—524 на тысячу, жанчын—274, а па ўсёй тэрыторыі РСФСР мужчын пісьменных 567 на тысячу, а жанчын—336, тады як у 1920 г. мужчын пісьменных было ўсяго 462 на тысячу, а жанчын—248. Значыцца, процант мужчын пісьменных павялічыўся за 6 год на 10%, а процант жанчын таксама амаль на 10%.

**Культурная рэволюцыя—агульнасаюзная задача, якая магчыма толькі пры належнай увазе да ўсіх нацыянальнасьцяй**

Задачы, пастаўленыя нам Леніным у галіне культурнай рэволюцыі, далёка яшчэ гэтым ня вычарпаны, ня выкананы. Аднак, нельга ўсё-ж

адмаўляць таго, што мы дасягнулі значных посьпехаў. Асабліва трэба зьвярнуць увагу на тое, як падчімаецца культура ў нацыянальных абласьцях. Старая Расія была турмою народаў. Большая частка нацыянальнасьцяй, якія засялялі Расійскую імпэрыю, ня мелі школ на роднай мове, ня мелі друку. Упяршыню прышлося стварыць для дробных народаў альфабэт, азбуку, вынайсьці знакі пісьма, стварыць разуменьне і блізкія масам розных нацыянальнасьцяй друк, кнігі, падручнікі і газэты.

Вось калі мы паглядзім, як організавана асьвета для розных нацыянальнасьцяй, а ня толькі для рускіх, то мы ўбачым, что ў школах I ступені ў СССР выкладаюць на 62 мовах. У школах II ступені—на 25 мовах. У сямігодцы—на 29 мовах (значыць, ня ўсюды яшчэ ёсьць і сямігодкі). У школах-дзевяцігодках выкладаюць—на 15 мовах, у школах сялянскай моладзі—на 16 мовах. У дзіцячых дамох дзеці выхоўваюцца на 30 мовах, у дзіцячых садох—на 22 мовах, у тэхнікумах—на 29 мовах, у школах фабрычна-заводзкага вучнёўства—на 12 мовах. У пунктах па ліквідацыі няпісьменнасьці—на 53 мовах. Саўпартшколы існуюць на 26 мовах. У клюбах вядзецца работа—на 38 мовах, у хатах-чытальнях—на 53 мовах.

Гэтыя дасягненьні маюць вялізарнае значэньне, бо яны палягчаюць магчымасьць для кожнай нацыянальнасьці, як-бы яна ні была адсталай, наблізіцца да заваёў культуры. У нас за гэты час у значнай ступені пашырыліся, а часткаю створаны новыя школы, дзе тысячы юнакоў і дзяўчат падрыхтоўваюцца да ролі праваднікоў Ленінскага вучэньня сярод сялян і рабочых усіх нацыянальнасьцяй, якія насяляюць СССР. Такія ВНУ, як комуністычны унівэрсыстэт працоўных Усходу, комуністычны унівэрсытэт працоўных Захаду, рабфак паўночных народнасьцяй і інш. даюць магчымасьць тысячам маладых таварышоў, юнакоў і дзяўчат, з рэспублік і абласьцей, якія нядаўна яшчэ былі самымі адсталымі, самымі загнанымі і забытымі ў былой Расійскай імпэрыі, далучыцца да соцыялістычнай культуры, да соцыялістычнага будаўніцтва СССР.

**Рост савецкага і партыйнага друку**

Само па сабе зразумела, што для гэтага трэба было стварыць адпаведны *друк. Масавага-ж рабочага і сялянскага друку да рэволюцыі як сьлед ня было.* Праўда, лік газэт у царскай Расіі налічваўся крыху больш, чым лік газэт, якія выходзяць у СССР: іх было ў 1913 годзе 859 назваў, а ў 1927 годзе ў СССР выдаецца 556 газэт (апроч часопісаў); але трэба мець на мэце, што сюды ўваходзілі газэты, якія выдаваліся ў Польшчы, Латвіі, Літве, Эстоніі, Фінляндыі і Бэсарабіі. Калі-б гэтыя краіны ўваходзілі ў склад СССР, то, напэўна, лік газэт у СССР быў-бы значна большы. Але калі паглядзець на тыраж, гэта значыць на колькасьць распаўсюджаных экзэмпляраў газэт, то мы ўбачым, *што сапраўдная масавая газэта нарадзілася толькі разам з рэволюцыяй.*

Да вайны 859 газэт мелі тыраж усяго 2,5 мільёны, а ў 1927 г.— 556 савецкіх газэт маюць тыраж каля 8 мільёнаў, а на першае студзеня 1929 году каля 9 мільёнаў і гэта ня толькі ў адносінах газэт, але і ў адносінах кніг. Ленін гаварыў, што нам трэба наўчыцца ў францускіх буржуа, якія яшчэ да вайны наўчыліся нажываць грошы, выдаючы романы для народу не па 3,5 франкаў накшталт панскіх кніжачак, а па 10 сантымаў (гэта значыць, у 35 раз таней—4 к. па даваеннаму курсу, накшталт пролетарскай газэты),—„чаму-б нам на другім кроку ад капіталізму да комунізму не наўчыцца рабіць таксама; чаму-б нам не наўчыцца, робячы такім чынам, дасягнуць таго, каб за адзін год нават пры цяперашняй беднасьці, даць народу па два экзэмпляры на кожную з 50 тысяч бібліотэк і чытален, усе патрэбныя падручнікі і ўсіх патрэбных клясыкаў сусьветнай літаратуры, сучаснай навукі, сучаснай тэхнікі?“

Праўда, мы яшчэ не дасягнулі гэтага, *нам яшчэ над гэтым трэба многа працаваць, каб даць сапраўдную масавую, танную і добраякасную літаратуру рабочым і сялянам;* але калі паглядзець на разьмеркаваньне выданай хоць-бы за 1926 год літаратуры па яе соцыяльным прызначэньні (па РСФСР), то мы ўбачым, што выдана *сялянскай масавай літаратуры—2.108 назваў, рабочай—847, дзіцячай і юнацкай* таксама, галоўным чынам, сялянскай і рабочай—1.731, навучальнай для I і II ступені—723, для ВНУ—487, для дарослых—330, для вучоных спэцыялістых—3.078, популярнай навуковай—1.884, для профэсіянальных работнікаў—1.342, для партыйных работнікаў—1.366, вытворча-тэхнічнай—407. Літаратуры іншай—1.938, справачнай—1.840. Аднак, нашым недахопам служыць тое, што *ведамственнай* літаратуры мы выдалі ў 3,5 разы больш, чым сялянскай масавай—3.742 назвы!!! Гэта задача—стварэньне масавай сялянскай рабочай літаратуры—яшчэ стаіць перад намі.

### Нашы дасягненьні і недахопы ў выданьні літаратуры

Ленін лічыў, што „наш друк павінен служыць зброяю соцыялістычнага будаўніцтва, знаёмства ва ўсіх падрабязгах з посьпехамі ўзорных комун, вывучэньне прычын іх посьпехаў, іх прыёмаў, ставячы, з другога боку, „на чорную дошку“ тыя комуны, якія ўпарта захоўваюць „традыцыі капіталізму“, гэта значыць анархію, лодарнічаньне, бязладзьдзе, спэкуляцыю“. Ленін лічыў, што друк павінен шмат больш зьвяртаць увагі „будаўніцтву новага жыцьця“ і фактам на гэты конт, чым політычнай траскатні. Ленін лічыў, што наш друк павінен весьці дзелавую бязьлітасную, сапраўды рэволюцыйную вайну з конкрэтнымі носьбітамі зла. Ён заклікаў нас выхоўваць масы: „на жывых конкрэтных прыкладах і ўзорах з усіх іншых галін жыцьця“. Ленін лічыў, „што гэта галоўная задача друку—у часе пераходу ад капіталізму да комунізму“. Ён лічыў, што „ў нас мала зьвяртаецца ўвагі на агалоску, на грамадзкую крытыку, на цкаваньне нягоднага, на заклік вучыцца ў добрага“. Ён

заклікаў больш правяраць, наколькі комуністычна тое новае, што мы будуем. Леніна непакоіла тое, што „наш друк не клапоціцца або проста зусім не клапоціцца аб тым, каб апісваць найлепшыя сталовыя або ясьлі, каб штодзеннаю настойлівасьцю дабівацца пераатварэньня некаторых з іх ва ўзорныя, каб рэклямаваць іх, апісваць падрабязна, якая эканомія чалавечае працы, якія выгоды для спажыўцоў, якое зьберажэньне продукту, якое вызваленьне жанчын з хатняе няволі, якія санітарныя палепшаньні дасягаюцца пры ўзорнай комуністычнай рабоце, могуць быць дасягнуты, могуць быць распаўсюджаны на ўсю грамаду, на ўсіх працоўных“ [1]).

Мы ўлічваем гэтыя парады Леніна. Клопаты аб нашым комуністычным друку ёсьць адна з сталых задач нашай партыі, і адпаведна росту пісьменнасьці ў нашай краіне, адпаведна пад'ёму палітычнага, культурнага і матэрыяльнага ўзроўню расьце цікавасьць да друку. Калі ў год сьмерці Леніна агульны тыраж нашых газэт быў крыху больш за 3,5 мільёны, то ў 1929 г. мы маем тыраж каля 9 мільёнаў, прычым масавых рабочых газэт з іх 59, сялянскіх—105, чырвонаармейскіх—13, юнацкіх—47, профсаюзных—9, коопэрацыйных—8 і газэт на мовах паасобных нацыянальнасьцяй—208. Апроч таго, выдаецца 1.291 часопіс, з гэтае колькасьці—у РСФСР—1.082.

Каб меркаваць аб тым, наколькі вырасла літаратура на мовах паасобных нацыянальнасьцяй, трэба мець на мэце, што да рэволюцыі узбэцкіх выданьняў было ўсяго—1, цюркскіх—7, беларускіх—1, прычым гэта былі выключна часопісы. Газэт на гэтых мовах царскі ўрад не дазваляў, дый часопісы гэтыя мелі, галоўным чынам, папоўскі кірунак. А цяпер, аднак, толькі украінскіх газэт у УССР выдаецца (апроч часопісаў)—85, беларускіх—13, татарскіх—17, казацкіх—11, армянскіх—10, грузінскіх—8 і г. д. Нацыянальныя выданьні выходзяць на такіх мовах, якія толькі пасьля рэволюцыі сталі ствараць сваю пісьменнасьць. Такім чынам, *толькі пасьля рэволюцыі і асабліва за апошнія гады друк становіцца сапраўднаю зброяю культурнай рэволюцыі ў масах самых адсталых нацыянальнасьцяй.* Ня трэба забывацца, што ўпяршыню пачалі выходзіць за гады рэволюцыі газэты і часопісы на мовах: абхаскай, аварскай, адыгейскай, балкірскай, башкірскай, баўгарскай, бурацкай, воцкай, даргінскай, інгускай, кабардынскай, калмыцкай, кар-калпацкай, карачаеўскай, кіргіскай, комі (зыранскай), кумыцкай, ладгальскай, лацкай, марыйскай, мардоўскай, таджыцкай, туркмэнскай, туземна-яўрэйскай, уйгурскай, хеўсурскай, чэркескай, чэчэнскай, чуваскай і якуцкай. Пэўна і тут яшчэ вялізнае поле неперарobленай работы. Калі ўзяць, напрыклад, распаўсюджаньне газэт, то з 8,5 мільёнаў экзэмпляраў газэт у вёску падае каля 2,5 мільёнаў, а пісьменнага насельніцтва ў СССР—каля 40 мільёнаў. Значыцца, мы

[1]) Т. XVI, стар. 257—258.

яшчэ маем вельмі невыстарчальнае распаўсюджаньне газэт у вёсцы. Нам трэба ў гэтым яшчэ многа папрацаваць.

**Насьценгазэты і рабселькоры**

За апошнія гады вялікае культурнае значэньне маюць таксама насьценгазэты. Іх было ў 1925 годзе ўсяго 30 тысяч, а ў 1927 годзе—ужо 50 тысяч. Насьценгазэта дае магчымасьць у любым месцы, любой вёсцы, любым пасёлку, любым прадпрыемстве, установе, выявіць чынны ўдзел у выпраўленьні атачаючых недахопаў, у падняцьці культурнасьці сялян і рабочых данага раёну, сяла, фабрыкі, заводу, установы. Некаторыя насьценгазэты, напрыклад, на фабрыцы, заводзе, выдаюцца ў некалькі тысячах экзэмпляраў, амаль не на кожнага рабочага прыпадае адна газэта, вакол насьценгазэты організуецца гурток. Насьценгазэты выхоўваюць вялізарную армію корэспондэнтаў, якія потым становяцца рабкорамі і селькорамі. Армія рабкораў і селькораў мае вялізарнае значэньне ў нашай краіне, яна памагае нам выявіць розныя злоўжываньні ўладаю на мясцох, яна памагае выкрыць хваробы і хібы ў рабоце, яна асьвятляе перад партыяй і перад усёй масай рабочых і сялян і добрае, і дрэннае, што ёсьць у нашай краіне на мясцох. Па заметках рабселькораў аддаюцца пад суд хабарнікі і растратчыкі і іншыя злачынцы. Па заметках рабселькораў улада і партыя маюць магчымасьць выправіць упору заўважаныя недахопы і памылкі. Няма нічога дзіўнага, што проці рабселькораў такія перасьледваньні з боку кулакоў, з боку чужаедаў, злачынцаў, усіх тых, хто хоча, каб аб іх справах нідзе ня было ні слуху, ні духу, каб усё было шыта-крыта. Колькасьць рабселькораў па нашаму Саюзу больш за чвэрць мільёна, з іх больш паловы прыпадае на вёску. Ужо адны гэтыя лічбы гавораць за тое, якое вялізарнае значэньне мае армія рабселькораў у справе змаганьня з бюрократызмам. Гэта іменна тое, на што разьлічаў Ленін: калі сама маса высуне людзей, якія будуць змагацца з недахопамі, даволі культурных, даволі зацікаўленых грамадзкімі справамі і гатовых бараніць грамадзкія інтарэсы хоць-бы цаною свайго жыцьця. Важна тое, што сярод рабселькораў ужо ёсьць, хоць і невыстарчальна, значны процант жанчын—каля 10%. І ня толькі гэтыя рабселькоры зьяўляюцца корэспондэнтамі нашых газэт, паведамляюць пра розныя недахопы, безладзьдзе: больш за 6 мільёнаў лістоў атрымалі нашы газэты ў гарадох ад рабочых і сялян з паказаньнем на гэтыя хібы. Такім чынам, паміж газэтай і чытачом ёсьць сталая сувязь, якая дае магчымасьць газэце правільна адлюстроўваць настроі сялянскай і рабочай масы

**Творы Леніна. Вывучэньне ленінізму. Інстытут Леніна**

Асабліва нам трэба прызнаць, што мы ня выканалі як сьлед нашу задачу ў адносінах выданьня твораў самога Уладзімера Ільліча.

Толькі ў 1929 годзе мы разьлічваем скончыць два новых выданьні поўнага збору твораў Леніна і разьлічалі ў тым-жа 1929 годзе выдаць

выбраныя творы Леніна ў пяці томах, накшталт агульнадаступнага выданьня, з тыражом у поўмільёна. Апроч таго, Інстытут Леніна прыступае да выданьня масавымі брошуркамі паасобных найбольш важных і найбольш популярных твораў Уладзімера Ільліча. Гэта работа над творамі Леніна Інстытуту Леніна складае таксама адну з буйных работ у галіне культурнай рэволюцыі. Нельга пасур'ёзнаму ставіць у нашай краіне пытаньне аб культурнай рэволюцыі, калі не паставіць сур'ёзна вывучэньне Леніна. Створаны пасьля сьмерці Леніна Інстытут Леніна, які зьяўляецца аддзелам Цэнтральнага Камітэту ЎсеКП(б), у сьценах сваіх захоўвае ўсе рукапісы Леніна, старанна і асьцярожна зьбірае ўсё, што адносіцца да работы Леніна, мае выдатную навукова-абсталяваную бібліотэку, чытальню, габінэты для заняткаў, у якіх распрацоўваюцца ўсе пытаньні, якія зьвязаны з вывучэньнем ленінізму. Усё, што Ленін пісаў або гаварыў, хоць-бы ў чарнавых нататках, запісках, старанна зьбіраецца і выдаецца як у поўным зборы твораў Леніна, так і паасобнымі ленінскімі зборнікамі. Ва ўсіх вышэйшых навучальных установах, у саўпартшколах, у школах політграматы, у міжнароднай ленінскай школе, у Інстытуце чырвонай профэсуры і інш.—вывучэньне ленінізму пакладзена ў аснову ўсёй навуковай работы.

## Роля радыё і кіно

У справе культурнай рэволюцыі, пэўна, не адзін друк іграе вялікую ролю. Вялікае значэньне мае распаўсюджаньне радыёпрыймальнікаў. Гэту справу мы пачалі толькі пасьля сьмерці Леніна. Праўда, мы вельмі нямнога яшчэ зрабілі ў гэтай справе. Калі ў гарадох мы маем на 10 тысяч насельніцтва 185 радыёпрыймальнікаў, гэта значыць, прыкладна, на 54 душы гарадзкога насельніцтва адзін радыёпрыймальнік, то ў вёсках на 10 тысяч насельніцтва мы маем пакуль толькі чатыры радыёпрыймальнікі; але ўсе-ткі калі ўзяць скрозь усе вёскі РСФСР, то на 2.500 *сялянскага насельніцтва ёсьць ужо адзін радыёпрыймальнік.* Гэта, пэўна, вельмі малая колькасьць, але гэта ўжо нешта, гэта ёсьць добры *пачатак.* У кожным разе, некалькі тысяч сёл і вёсак ужо маюць магчымасьць карыстацца гучнагаварыцелямі і на адлегласьці тысяч вёрст чуць перадаваныя па радыё паведамленьні з Масквы, Ленінграду, Харкава і іншых гарадоў, слухаць лекцыі, музыку, набываць карысныя зьвесткі, упору ведаць пра тое, што робіцца ва ўсім сьвеце. Гэта пашырае кругагляд і віды селяніна і рабочага, гэта зацікаўлівае яго ня толькі ў жыцьці свайго сяла, свае ваколіцы, свае фабрыкі, а зацікаўлівае ў жыцьці ўсяе дзяржавы, прывучае яго больш сьвядома адносіцца да жыцьця і інтарэсаў дзяржавы. Гэтак-жа сама за апошнія гады зроблены значныя крокі наперад у справе распаўсюджаньня кіно-перасовак у вёсцы і лепшай пастаноўкі кіно-справы ў гарадох, стварэньне танных кіно-перасовак. Зьвернута вялікая ўвага на тое, каб стварыць карціны, зразумелыя і карысныя вёсцы, а ня толькі гораду. Таксама зроблена шмат што

для таго, каб кіно стала больш даступным і па цане вясковаму гледачу. Такім чынам і кіно пасьля сьмерці Леніна з кожным годам становіцца ўсё больш значным сродкам культурнага пад'ёму рабочых і сялянскіх мас. Але тут яшчэ толькі пакладзен *пачатак* тэй вялікай рабоце, якую мы павінны зрабіць.

## Наша задача—вучыцца

Нам канечна трэба мець на мэце, што для пабудовы соцыялізму, для выкананьня тых вялікіх задач, якія пастаўлены перад намі, у асноўным у плянах Леніна—электрыфікацыі, коопэрацыйнага будаўніцтва і індустрыялізацыі—нам трэба аўладаць сумай спэцыяльных ведаў, тэхнічных ведаў, якія выпрацаваны як у СССР, так і ў буржуазных дзяржавах. Але адрозьненьне нашай навукі ад навукі капіталістычнага сьвету заключаецца ў тым, што ўся гэта навука павінна быць асьветлена канечнай нашай мэтаю—задачамі будаўніцтва і пабудовы соцыялізму. Ленін падкрэсьліваў перад намі галоўнейшую задачу—вучыцца. „Нам трэба,—гаварыў ён,—як-бы там ні было паставіць сабе задачу для заснаваньня нашага дзяржаўнага апарату: папершае, вучыцца, падругое—вучыцца, і патрэцяе—вучыцца, і потым правяраць тое, каб навука ў нас не заставалася мёртвай літарай або модным выразам (а гэта, няма чаго граху таіць, у нас асабліва часта вылазіць), каб навука сапраўды ўваходзіла ў цела і кроў, ператваралася ў складаны элемэнт быту цалкам і як належыць. Адным словам, нам трэба прад'яўляць ня тыя патрабаваньні, што прад'яўляе буржуазія Заходняй Эўропы, а тыя, якія варта і прыстойна прад'яўляць краіне, якая ставіць сваёй задачай разьвіцца ў соцыялістычную краіну". Таму, само па сабе зразумела, трэба прыцягнуць бліжэй да партыі спэцыялістых, настаўнікаў, працаўнікоў асьветы, якія ў мінулыя гады выхоўваліся ў буржуазным духу, якім прышчэплены былі буржуазныя забабоны і звычкі. Перад нашай партыяй, перад комсамолам стаіць колёсальнай важнасьці задача: „выхаваць новую армію пэдагогічна-настаўніцкага пэрсоналу, якая павінна быць цесна зьвязана з партыяй, з яе ідэямі, павінна быць пранікнута яе духам, павінна прыцягнуць да сябе рабочыя масы, прасыціць іх духам комунізму, зацікавіць іх тым, што робяць комуністыя". Мы не павінны забывацца, што калі ў СССР зарэгістравана, апрача пэдагогаў, навуковых работнікаў 36 тысяч чалавек, то навуковых работнікаў-комуністых у нас менш адной тысячы чалавек. Іншымі словамі, комуністыя сярод навуковых работнікаў складаюць праслойку менш трох процантаў, а ўсе гэтыя навуковыя работнікі павінны скласьці і складаюць кадр організатараў соцыялістычнае гаспадаркі.

## Асабліва трэба падняць культурнасьць колгасьнікаў

Калі нізкі ўзровень культурнасьці пісьменнасьці вёскі зьяўляецца адным з найвялікшых перашкод на шляху перабудовы сельскае гаспа-

даркі, то зразумела, якую ўвагу мы павінны зьвярнуць на тое, каб нашы маладыя колгасы сталі цэнтрамі пашырэньня культуры. Ленін не аднойчы гаварыў аб тым, што работнікамі нашых колгасаў павінны быць культурныя коопэратары. А тымчасам большасьць нашых колгасьнікаў яшчэ мала чым адрозьніваецца па сваёй культуры ад навакольнага насельніцтва. Трэба даць колгасу трактар і іншыя машыны. Трэба, каб карыстаньне гэтымі машынамі само па сабе зьяўлялася ўжо вынікам пропаганды сярод навакольнага насельніцтва новых спосабаў гаспадаркі. Вось чаму створаны за апошнія гады Колгасцэнтр вылучае сто лепшых колгасаў РСФСР для пэратварэньня іх у дасьледча-паказальныя. Гэта азначае, што на падняцьце культурнасьці работнікаў гэтых колгасаў павінна быць зьвернута і будзе зьвернута асаблівая ўвага. Для падрыхтоўкі колгаснага актыву будуць таксама організаваны кароткатэрміновыя курсы, на якія асыгнаваны ўжо даволі значныя сумы—каля 700 тысяч рублёў.

Але для таго, каб гэтыя колгасы сталі вогнішчамі культуры сярод навакольнага сялянства, трэба, каб яны адрозьніваліся па свайму ўнутранаму быту ад быту навакольных сялянскіх двароў, каб у іх па-іншаму, па-соцыялістычнаму было організавана грамадзкае харчаваньне, выхаваньне дзяцей, клопаты аб ахове працы школы і інш., і да т. п. Таму на культурна бытавое будаўніцтва колгасаў выдаецца доўгатэрміновая пазыка ў 2,5 мільёны руб., а ў 1929 г. Наркамасьветы мяркуе ліквідаваць няпісьменнасьць колгасьнікаў. Трэба спадзявацца, што калі мы да гэтага дзіцяці Леніна, да гэтых першых паросткаў соцыялізму ў сельскай гаспадарцы, выявім патрэбныя клопаты, яны акрыяюць і стануць сапраўдным вогнішчам культуры і культурнасьці сярод мас сялянскага насельніцтва, яны памогуць перарабіць сялянскую гаспадарку.

## Культура гораду—ня толькі для гораду

Калі ў некатэрых пластох сялянства, асабліва ў адсталых або мала зьвязаных з горадам, іншы раз адчуваецца зайздрасьць да таго, што горад культурнейшы, то ў гэтым, пэўна, ёсьць доля справядлівасьці.

Але ня трэба забывацца, папершае, на тое, што горад і да рэволюцыі быў культурнейшы за вёску, і што дагнаць горад нават пры вялікіх затратах вёска здолее ня так хутка. Падругое, трэба мець на мэце другі бок: затраты на культурныя пролетарскія цэнтры маюць значэньне ня толькі для рабочае клясы гарадоў і фабрычна-заводзкіх пасёлкаў, але яны маюць вялізнае значэньне і для сялянскага насельніцтва. Калі, напрыклад, узяць хоць-бы тэкстыльшчыкаў, то вялікі лік рабочых і работніц на гэтых фабрыках, на некаторых фабрыках да 70 проц., зьвязаны з зямлёю, з вёскаю, з сельскаю гаспадаркаю. Значыцца, 70 проц. гэтых рабочых, якія далучаюцца да гарадзкой культуры, тым самым далучаюць да яе і вёску.

Тое-ж самае ў яшчэ большай ступені адносіцца да будаўнічых рабочых. Ды няма такое галіны вытворчасьці ў СССР, дзе-б рабочыя ня былі зьвязаны з вёскай. Вось чаму створаныя рабочымі організацыямі клюбы, бібліотэкі, чырвоныя куткі выхоўваюць ня толькі гарадзкіх работнікаў, але яны зьяўляюцца рассаднікам культуры і для вёскі. Мы маем блізка чатыры тысячы адных толькі профсаюзных клюбаў, 8 тысяч бібліотэк, і блізка 30 тысяч чырвоных куткоў—гэта ўсё рассаднікі культуры ня толькі для рабочых.

**Становішча работніцы і сялянкі і іх удзел у культурнай рэволюцыі**

Асобна мы павінны спыніцца, гаворачы аб культурнай рэволюцыі, на становішчы жанчыны-работніцы і сялянкі. Мы ведаем, якое было становішча жанчыны-работніцы і сялянкі да рэволюцыі. Яна ня мела магчымасьці і праў прымаць удзел у палітычным жыцьці. Ленін правільна паказаў, што „работніцы і сялянкі прыгнецены капіталізмам, і, апрача таго, яны нават у самых дэмократычных з буржуазных рэспублік лічацца, папершае, няпоўнапраўнымі, бо роўнасьці з мужчынамі закон ім не дае, падругое,—і гэта самае галоўнае,—яны застаюцца ў хатняй няволі,— „хатнімі нявольніцамі“, будучы задушаны самай дробнай, самай цяжкай, самай прыдушаючай чалавека работай—кухня і наогул адзіночнае хатняе сямейнае гаспадаркі“.

Мы ведаем, якія зьмены адбыліся ў становішчы жанчыны-работніцы і сялянкі ў савецкай дзяржаве. Закон зьнішчыў усякія сьляды няроўнасьці. Але Ленін лічыў, што гэта толькі *першы крок* у справе вызваленьня жанчын. Аднак, нават такі першы крок да гэтага часу зроблены толькі ў СССР. „Ні адна з буржуазных хоць-бы найбольш дэмократычных рэспублік не асьмелілася зрабіць гэтага першага кроку“. „Мы не пакінулі,—кажа Ленін,—у поўным сэнсе слова, каменя на камені з тых ганебных законаў аб няроўнапраўі жанчыны, аб цяжкасьці разлукі і ганебных формальнасьцях, якія яе абкружалі, няпрызнаньні па-зашлюбных дзяцей, аб адшуканьні іх бацькоў і да т. п.,—законаў, рэшткі якіх шматлікі ва ўсіх цывілізаваных краінах, да ганьбы буржуазіі і капіталізму“.

Аднак, Ленін лічыў, што *„гэта толькі ачыстка зямлі для пабудовы, але яшчэ ня самая пабудова“*. Што-ж трэба рабіць далей? Самыя лепшыя вызваленчыя законы ўсё-ткі ня вызвалілі яшчэ жанчыну ад кухні і дзіцячай... *„Сапраўднае вызваленьне жанчыны, сапраўдны комунізм пачнецца толькі там і тады, дзе і калі пачнецца масавае змаганьне, кіраванае маючым дзяржаўную ўладу пролетарыятам, проці гэтае дробнае, хатняе гаспадаркі або, праўдзівей, масавае перабудовы яе ў буйную гаспадарку“*.

Ленін лічыў, што гэту задачу нам магчыма будзе падняць ня толькі тады, калі самі жанчыны возьмуцца за гэту справу, але калі за гэта возьмецца *ўся кляса пролетарыяту*. Ленін надаваў вялікае значэньне справе організацыі жанчын, справе прыцягненьне іх да кіраваньня кра-

інай (каб кожная кухарка навучылася кіраваць дзяржаваю). Трэба сказаць, што пасьля сьмерці Леніна справа актыўнага ўдзелу жанчын ва ўсёй будаўнічай рабоце, у кіраваньні краінай, у перабудове ўсяго жыцьця пасунулася значна наперад. Колькасьць дэлегатак, якія прымаюць удзел у дэлегацкіх сходах, у 1925 годзе было 67 тысяч, 1927 годзе—90 тысяч. У вёсцы—246 тыс. у 1925 г. і ў 1927 г.—386 тыс. У сельсаветах каля 12 проц. членаў сельсаветаў складаюць жанчыны. 100 жанчын, каля 1,5 проц., зьяўляюцца старшынямі сельсаветаў.

У гарадзкіх саветах жанчыны прымаюць шмат большы ўдзел. Блізка што 20 проц. членаў гарадзкіх саветаў—жанчыны. Аднак, колькі-небудзь значна мы здолеем прасунуць наперад справу вызваленьня работніцы і сялянкі тады, калі дзяржава здолее затраціць шмат большыя сродкі на стварэньне ўстаноў, якія палягчаюць і вызваляюць жаночую працу ад харчаваньня і ад выхаваньня дзяцей. Да гэтага часу ў вялікіх гарадох мы мелі магчымасьць будаваць фабрыкі-кухні, харчэўні, ясьлі, дзіцячыя сады, пральні, але іх яшчэ зусім невыстарчальна. На бліжэйшыя 5 год вызначана затраціць 126 мільёнаў руб. на будаўніцтва вялізарных фабрык-кухань. Пры пабудове ўсіх новых заводаў і фабрык прадугледжана організацыя пры іх сталовак, абсталяваных па апошнім слову тэхнікі. Гэтак-жа сама СНК даў загад адносна большага абслугоўваньня работніц і сялянак ясьлямі. Селянін і сялянка павінны ведаць, што дзяржаўныя прадпрыемствы—фабрыкі і заводы—адлічаюць частку зарплаты на ўтрыманьне ясьляў. Ня менш пяці процантаў фонду для палепшаньня быту рабочых адлічаецца, галоўным чынам, на будаўніцтва будынкаў для ясьляў.

Сельскія ясьлі таксама растуць, хоць усё яшчэ ня зусім выстарчальна. Праўда, на бліжэйшы час намечана значнае павялічэньне сельскіх ясьляў, праз курсы па падрыхтоўцы работніц для сельскіх ясьляў было праведзена 2.000 сялянак, але калі ўзяць усю нашу краіну, то гэта пакуль яшчэ—капля ў моры. Тут яшчэ вельмі многа трэба працаваць; *трэба падняць інтарэсы мільёнаў сялян і сялянак да гэтае справы*, для таго, каб ня толькі ў горадзе, але і ў вёсцы жанчына магла як сьлед прыняць удзел у гарадзкім жыцьці, у палепшаньні яго і перабудове. Ленін у гэтым кірунку паказаў правільны шлях. Ад нас саміх, ад нашае ўвагі да гэтае справы і ад нашых высілкаў залежыць, ці здолее ў бліжэйшыя 10 год жанчына вызваліцца ад тае катаргі хатняе няволі, якая да апошняга часу робіць яе фактычна няроўнапраўнай.

А бяз гэтага і ня можа быць сапраўднай культурнай рэволюцыі, як ня можа яе быць бяз правільна організаванай антырэлігійнай пропаганды.

### Ленін і рэлігія

Сяму-таму, асабліва розным ханжам і папом, карысна прадставіць Леніна амаль не рэлігійным чалавекам, у кожным разе, чалавекам, які прапаведваў цярплівасьць да рэлігіі і рэлігійнага сьветаразуменьня. Тымчасам, Ленін, як марксысты, ніколі не глядзеў на рэлігію такім чынам.

Ленін лічыў разам з Марксам, што „рэлігія—гэта опіум народу“. Гэта дурман, атрута, гэта род „духоўнай сівухі“. „Усякі божанька,—пісаў Ленін Максіму Горкаму ў 1913 годзе,—ёсьць трупалоства, хай будзе гэта самы чысьценькі, ідэальны, і ня шуканы, а будаваны божанька, усякае баламуцтва нават з божанькам ёсьць нявыказьнейшая погань“... Здаецца, мацней сказаць нельга.

Ленін патрабаваў, каб у духу нашай праграмы комуністыя разьвіталіся з усякай рэлігіяй, каб кожны комуністы вёў змаганьне з рэлігіяй, каб ён быў „ваяўнічым атэістым“. Само па сабе зразумела, што Ленін патрабаваў *умелай* антырэлігійнай пропаганды, якая зьнішчала-б ня толькі забабоны шляхам шырокай асьветнай работы, але і соцыяльныя карані рэлігіі. Ён патрабаваў ад нас, каб ня было *наўмыснай* грубасьці, *наўмыснага абражаньня пачуцьця веруючых.*

Гэта яшчэ ня значыць, што Ленін адмаўляўся ад усякіх выказваньняў або чыннасьці, якія закраналі веруючых. Пэўна, выняцьце царкоўных каштоўнасьцяй у 1924 годзе зачапіла сяго-таго з веруючых. Але гэта значыць, што *без патрэбы* чапаць пачуцьцё веруючых няма сэнсу, і таму мы рашуча павінны змагацца ў нашай антырэлігійнай пропагандзе, у нашым клясавым змаганьні проці рэлігіі—проці такое наўмыснае грубасьці, проці ўсякага свавольства.

Пасьля сьмерці Леніна наша змаганьне з рэлігіяй значна пасунулася наперад. Ня толькі рабочыя ў гарадох, але і сельскае насельніцтва ў значных пластох становіцца бязбожным. Зьявіліся нават першыя ластаўкі ў вёсцы: цэлыя бязбожныя вёскі, якія адмовіліся ад папа, жывуць без рэлігіі. Саюз бязбожнікаў, праўда, абхапіў пакуль толькі каля поўмільёна членаў (сюды не ўваходзіць 1,5 млн. комуністых і 2 млн. комсамольцаў). Але гэты саюз за апошні час мае значны рост. Газэта „Безбожник“ мае ўжо да сто тыс. падпісчыкаў. Выдаюцца часопісы: „Безбожник“, „Антирелигиозник“, „Безбожник у станка“, „Безвірник“ і некалькі іншых на цюрскай, армянскай і іншых мовах. Выдаецца вялікі лік кніг і брошур проці рэлігіі. Ствараюцца антырэлігійныя музэі, рабочыя антырэлігійныя унівэрсытэты. Больш энэргічна пачынаюць памагаць школы ў справе антырэлігійнай пропаганды.

У выніку ўсёй работы, накіраванай да вызваленьня сьвядомасьці і быту працоўных мас ад рэлігійнага дурману, сяляне ўсё часьцей адмаўляюцца ад рэлігійных сьвят, асабліва моладзь.

Але ня трэба на гэтым супакойвацца. Яшчэ моцная рэлігійная організацыя, якая зьяўляецца прытулкам для ўсіх элемэнтаў контр-рэволюцыі, яшчэ моцны ўплыў папоўшчыны ня толькі на старых, але і на моладзь і дзяцей. Яшчэ і сягоньня рэлігія перашкаджае соцыялістычнаму будаўніцтву і поўнай перабудове жыцьця і быту.

Змагаючыся з рэлігіяй, мы працягаем і на гэтым вучастку справу Леніна. Каб менш памыляцца ў гэтай справе, будзем вывучаць погляды і думкі Леніна па пытаньні аб рэлігіі і антырэлігійным змаганьні.

*АН. СТАЛЕВІЧ*

# ІМПЭРЫЯЛІЗМ ПОЛЬСКАГА ФАШЫЗМУ І БЕЛАРУСКАЕ ПЫТАНЬНЕ

Саботаж мірных прапаноў Савецкага ўраду і выкрутасы ў адказе на ноту т. Літвінава з боку польскага ўраду яшчэ лішні раз з усёй відочнасьцю выявілі імпэрыялістычныя пляны ваяўнічага польскага фашызму.

Імпэрыялізм наогул ёсьць неад'емная адзнака фашызму. Але імпэрыялізм польскага фашызму набіраецца яшчэ больш агрэсыўнага характару, дзякуючы географічнаму палажэньню Польшчы, якая зьяўляецца форпостам міжнароднага капіталу ў адносінах да пролетарскае дзяржавы— СССР.

Зьнішчыць пролетарскую дыктатуру, як вогнішча сусьветнай рэволюцыі, вярнуць фабрыкі, панскія двары і лясы і загарнуць новыя абшары, як рынак збыту, загарнуць новыя масы для эксплёатацыі,—вось імкненьні польскага фашызму і яго дыктатара—Пілсудзкага.

У апошнія часы з асаблівай сілай аднаўляюцца і пропагандуюцца ў Польшчы яе імпэрыялістычныя пляны 1919-20 г. г., якія прыкрываюцца хлусьлівай тэорыяй, так зван. фэдэралізму; сутнасьць яго заключаецца ў тым, каб захапіць Савецкую Беларусь і Украіну ды падпарадкаваць іх у колёніяльнай залежнасьці да „вялікай Польшчы ад мора да мора“ аж да граніц 1772 г.

Захопныя пляны фашыцкага дыктатара Пілсудзкага супадаюць з імкненьнямі ўсяго імпэрыялістычнага сьвету, галоўным чынам Англіі— вось чаму пляны гэтыя набываюць усё большую нахабнасьць і выразнасьць, вось чаму, ня гледзячы на стараннае прыкрываньне хлусьлівым пацыфізмам, усё часьцей-гусьцей прабіваецца на дняўны сьвет узброены кулак Польшчы. Ёсьць яшчэ адзін чыньнік, які ўзмацняе контррэволюцыйную агрэсыўнасьць буржуазнай Польшчы; яна бачыць, што пролетарыят ва ўсёй сваёй масе актывізуецца, ажыўляе і завастрае клясавую барацьбу, пераходзіць да контрнаступленьня на фашыцкую дыктатуру; яна бачыць у гэтым сьмяротную сабе пагрозу і вось, у сьпешным парадку разгортвае свае ваенныя авантуры, каб вайной адцягнуць увагу мас ад рэволюцыйнага руху. Пашырэньнем межаў Польшчы коштам Літвы, Савецкай Беларусі і Украіны, насprынцаваньнем польскага капіталу новымі нарабаванымі багацьцямі польская буржуазія хоча распаліць патрыотычны настрой у польскіх працоўных масах, якія разьвеялі

і выжылі гэты настрой пасьля дзесяцігадовага панаваньня буржуазіі, так зван. „незалежнай“ Польшчы, каб гэтым аслабіць іх клясавую вызваленчую барацьбу.

Для ажыцьцяўленьня сваіх імпэрыялістычных мэт польскі фашызм кіруе ўсе высілкі, мобілізуе і консолідуе ўсе сілы контррэволюцыйнага лягеру. Кожны крок у замежнай ці ўнутранай політыцы, кожнае мерапрыемства польскага ўраду прасякнуты мілітарызмам і падрыхтоўкай контррэволюцыйнай вайны проці СССР.

Ідзе прысьпешаная ваенізацыя кожнай галіны жыцьця Польшчы. Укладваюцца вялікія капіталы на будову ваенных заводаў і хэмічнай прамысловасьці, на армію, паветраны і ваенны флёт, на масавыя організацыі ваеннага рыштунку ды іншае. У паветры, на зямлі і на моры, сярод жанчын, моладзі і ўсяго насельніцтва, у замежнай і ўнутранай політыцы ўраду—усюды ідзе сьпешная падрыхтоўка да вайны пад лёзунгам: вораг Польшчы на Ўсходзе!

Побач з гаспадарчай, тэхнічнай і організацыйнай падрыхтоўкай да вайны [1]) фашыцкі ўрад рыхтуе вайну і ідэолёгічна. Праводзіцца шырокая кампанія паклёпу і хлусьні проці СССР і ЎсеКП(б), ствараецца асаблівы культ каля імя Пілсудзкага — „погромцы большэвікув“, распальваецца гістарычны нацыянальны антагонізм да Расіі, выслаўляючы захопніцкія традыцыі фэўдальнай шляхты і, так зван., „ідэя Ягелёнская“ а сярод, так зван., меншасьцяй — беларусаў і украінцаў—пашыраецца выдуманая тэорыя аб маскоўскай няволі, аб нацыянальным уціску ў Савецкім Саюзе ды інш. Усю гэтую ідэёвую падрыхтоўку польскі ўрад праводзіць праз школу, касьцёлы, прэсу, мастацтва, кіно, радыё і пры дапамозе згодніцкіх партый усіх нацыянальнасьцяй.

Гэткія агульныя рысы агрэсыўнасьці імпэрыялізму польскага фашызму. Цяпер разгледзім больш падрабязна, як адлюстроўваецца нацыянальнае пытаньне, пераважна беларускае, у ваеннай політыцы польскага ўраду. Як Заходняя Беларусь, так і Заходняя Украіна знаходзяцца на рубяжы СССР, а на выпадак вайны яны — тыл польскай арміі, яны пляцдарм вайны. Адзін і другі край з мільённым насельніцтвам (каля 10 мільёнаў) у значнай меры зьяўляюцца пастаўшчыкамі жывой сілы для польскай арміі і яе рэзэрвам. Апрача таго, на гэтых важнейшых вучастках імпэрыялістычных плянаў Польшчы адбываецца зацятая схватка працоўных і эксплёатаваных мас з абрыдлай панскай окупацыяй.

Вось гэтыя галоўнейшыя прычыны, якія змушаюць фашыцкі ўрад у яго ваеннай політыцы падыйсьці больш асьцярожна і ўважліва да нацыянальнага пытаньня. Нэўтралізаваць, а часткова ўцягнуць шырокія масы

[1]) Вось некалькі лічбаў, якія яскрава ілюструюць мілітарызм фашыцкай Польшчы. За некалькі апошніх гадоў пабудавана 15 новых ваенных заводаў; армія павялічылася да 300 тысяч пры 28 мільёнах насельніцтва ў Польшчы; лік самалётаў узрос у два з паловай разы; узрасьлі фашыцкія ваенныя організацыі: у 1925 г. іх налічвалася 300 тысяч, у 1928 г.—каля мільёну; выдаткі на армію займаюць 42.3% усяго дзяржаўнага бюджэту.

заняволеных народаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ў ваенную авантуру проці СССР — вось галоўнейшая задача польскага фашызму. Адгэтуль нацыянальная політыка фашыцкага ўраду набывае асаблівае значэньне.

Да украінскага і беларускага пытаньняў урад падыходзіць у некаторай меры парознаму. Даволі тоўстая праслойка верхавіны дробнай буржуазіі і буржуазіі на Заходняй Украіне падае надзею польскаму ўраду на магчымасьць залучыць сабе моцнага саюзьніка ў разгроме нацыянальна-вызваленчага руху на Заходняй Украіне і саюзьніка ў нападзеньні на СССР. Апрача таго, УССР, на якую галоўным чынам вострыць зубы наёмны салдат міжнароднага капіталу — Пілсудзкі, зьяўляецца для яго найбольш ласым кавалкам, зьяўляецца аднэй найважнейшай са складаных частак Савецкага Саюзу, захоп якой, паягонаму, зусім падкопвае магутнасьць СССР. Гэтым тлумачыцца тая асаблівая зацікаўленасьць, увага і той шум, падняты ў польскай і эўропэйскай буржуазнай прэсе каля украінскага пытаньня наогул. Заходняя Украіна ня толькі тыл польскай арміі, але і месца концэнтрацыі антысавецкіх сіл, месца падрыхтоўкі галоўнага ўдару і таму, побач з белым тэрорам у адносінах да шырокіх мас, урад ідзе на большыя падачкі для згодніцкіх элемэнтаў, чым, напрыклад, на Заходняй Беларусі.

На Заходняй Беларусі справа выглядае крыху інакш. Тут ні то, што няма беларускай буржуазіі, але і вельмі тонкая праслойка верхавіны дробнай буржуазіі на вёсцы, ня кажучы ўжо пра горад. І побач з тым, ёсьць значна больш завостраныя соцыяльна-клясавыя і нацыянальныя адносіны, ёсьць усхваляванае мора шырокіх працоўных мас, ахопленых вызваленчай барацьбой. Адгэтуль цэнтр вагі ў нацыянальнай політыцы ўраду на беларускім грунце ляжыць у падыходзе да Зах. Беларусі, як да пляцдарму ў будучай вайне. Фашызм прымае ўсе меры, каб першым чынам „супакоіць“ Зах. Беларусь, а стварэньне там ваенных ці напоўваенных беларускіх організацый—гэта пытаньне другараднае, бо ня мае пад сабой моцнай базы.

Таму з асаблівай сілай, з надзвычайнай жорсткасьцю і масавасьцю, як нідзе ў Польшчы, урад ужывае белы тэрор на Заходняй Беларусі. Запалохаць, дэзорыентаваць шэрагі барацьбітоў рабочых і сялян, завесьці шырокія масы на шлях паразуменьня і супрацоўніцтва з урадам; вырваць, пакалечыць, зьнішчыць фізычна рэволюцыйны авангард—компартыю, каб падцяць вызваленчы рух,—вось мэты фашыцкага ўраду. Разьбіта стотысячная рабоча-сялянская організацыя—Грамада, а тысячы яе актыву і яе кіраўнікі засуджаны на доўгія гады катаржнага астрогу. Масавыя арышты, масавыя політычныя процэсы, катаржныя прысуды—вось заўсёдная зьява на Заходняй Беларусі. У апошнія часы разбурана масавая шматтысячная культурна-асьветная організацыя Т-ва Беларускай Школы, закрыты ўсе беларускія школы і дзьве гімназіі, задушана беларуская радыкальная прэса, прасьлядуюцца ўсе беларускія

ўстановы, якія ня хочуць ісьці на повадзе фашызму ды ідуць проці полёнізацыі краю, выкідваюцца за межы дзяржавы беларускія опозыцыйныя дзеячы (Савіцкі), арыштоўваюць беларускіх радыкальных дэпутатаў сойму (Стагановіч) і г. д.

З гэтага бачым, што найменшая, самая нявінная праява масавасьці ці опозыцыйнасьці на беларускім грунце прасьледуецца з усёй жорсткасьцю фашыцкага рэжыму. Ачысьціць тыл для вайны—вось ударны лёзунг польскага фашызму на Заходняй Беларусі. І таму на Заходняй Беларусі фашыцкі суд не абмяжоўваецца звычайнымі ў Польшчы катаржнымі прысудамі 3—8 гадоў, а павялічвае іх да 8—12 гадоў, у выніку чаго палова палітычных вязьняў у Польшчы прыпадае на Заходнюю Беларусь.

Апрача ўціску і эксплёатацыі, якія ў зьвязку з ваеннымі авантурамі павялічваюцца і якія аднолькава кладуцца на рабочых і працоўнае сялянства ва ўсёй Польшчы, у Заходняй Беларусі працоўныя масы адбываюць яшчэ розныя натуральныя павіннасьці, маючыя формы перажыткаў фэўдалізму—гэта так званыя шарваркі. Па загаду мясцовай улады тая ці іншая вёска павінна дарэмна выбрукаваць вядомы кавалак дарогі ці пабудаваць мост, ці зрабіць якуюсь працу пры будове казармы і да т. п. За невыкананьне накладаюцца штрафы і выседка. Кулакі на шарварку ня ідуць, яны ўхіляюцца абрахапкай ці пачастункам прадстаўніка ўлады, а ўвесь цяжар шарварак кладзецца на працоўнае эксплёатаванае сялянства. Аб велічы гэтай сялянскай злыбеды кажуць лічбы. У аднэй Гавязьнянскай гміне, Нясьвіскага павету, у 1927 г. было выкарыстана задарам рабочых 3.308, падвод—1.703. Работ было зроблена: 2 масты, выкапана равоў 19.340 мэтраў, выбрукавана дарог 670 мэтраў. У 7-мі гмінах Валожынскага павету ў 1928 г. было выбрукавана 67.657 мэтраў дарог. У 7-мі гмінах Стаўпецкага павету да 1925 г. было выбрукавана 150 мэтраў дарог, у 1925 г.—1.490 мэтраў; у 1926 г.—1.872 мэтры, а ў 1928 г.—51.281 кв. мэтр. Што шарварковыя павіннасьці цесна зьвязаны з ваеннай падрыхтоўкай сьведчыць тое, што яны шпарка ўжываюцца ў прыгранічных з СССР паветах, а таксама і іх прысьпешаны тэмп. У некаторых мясцох праводзіцца спэцыяльна электрычнае асьвятленьне і сяляне ў некалькі зьмен працуюць днём і ноччу. Апрача шарварак сялянства зносіць яшчэ зьдзекі і аграбленьне ад пагранічнага корпусу і войска, якога шмат сконцэнтравана ў Заходняй Беларусі. Пры адмаўленьні даць падводу ці корм вайсковым, накладаюцца па закону адміністрацыйныя кары.

Побач з тэрорам, які ўсё ўзмацняецца, соцыяльным і нацыянальным уціскам у адносінах да шырокіх працоўных мас, урад стараецца стварыць на беларускім грунце базу для свае апоры дзеля ажыцьцяўленьня свае ваеннае палітыкі і палітыкі эксплёатацыі і ўціску. Фашыцкі ўрад, у адрозьненьне ад урадаў дафашыцкай Польшчы, зразумеў, што „супакоіць крэсы“ шляхам вострых паліцэйскіх рэпрэсый і доразнымі (ваеннымі)

судамі, разьбіць лобавай атакай рэволюцыйны рух рабочых і сялян ня ўдасца. Фашыцкі ўрад рашыў для ажыцьцяўленьня сваіх стабілізацыйных і ваенных плянаў і для задушэньня рэволюцыйнага руху ўжыць побач з жорсткім тэрорам тактыку ўступак для беларускага кулацтва, падачак, абяцанак і хітрых махінацый для беларускай інтэлігенцыі ў культурна-асьветнай галіне.

Фашыстыя-пілсудчыкі асудзілі цьвёрдалобых эндэкаў, якія верхаводзілі да фашыцкага перавароту, асудзілі іх політыку голага тэрору ў нацыянальным пытаньні. Польскія фашыстыя выказалі больш манэўровае здольнасьці—яны ведаюць, што трэба кінуць раз-другі агрызак з панскага стала для беларускага кулака, як той душой і целам прадасца буржуазнай Польшчы і ахвотна асымілюецца, бо ён ня толькі аднародны па клясе, але ў дадатак нявыразна ўяўляе сваю нацыянальнасьць. Было-ж так калісь і з беларускай шляхтай. А што да беларускай опозыцыйна-настроенай інтэлігенцыі, дык і тут паны мелі практыку ў вельмі недалёкай мінуўшчыне—калі трэба было толькі павабіць пальцам, як яна гатова была на паслугі (Найвышэйшая Рада, Вайсковая Камісія, паразуменьне соймавага Клюбу з габінэтам генэрала Сікорскага).

Фашызм выцягвае з паходнага архіву 1918—20 г.г. „пагромцы большэвікув“—Пілсудзкага лёзунг „вольны з вольным“, фашызм ідзе на нязначныя матэрыяльныя афвяры з тым, каб працісну́цца ў лягер вызваленчага руху Заходняй Беларусі, які захапіў у сваім магутным паходзе шырачэзныя масы, пацягнуў за сабой большасьць беларускай інтэлігенцыі і ў значнай меры нэўтралізаваў беларускага кулака.

І фашыстыя, зразумела, маюць посьпех. Яны, вабячы да сабе торбай сена, дыктуюць нават свае ўмовы. „Чаму-ж,—кажуць,—мы вас падкормім, але вы адгарадзіцеся ад комуністых, вы іх нам пакажэце і памажэце зьнішчыць“. Ілюстрацыямі да гэтых канцахт зьяўляюцца падзеі ў Віленскай беларускай гімназіі, зрада кіраўніцтва ТБШ, а беларускі кулак часта бывае інформатарам дэфэнзывы. Словам, рука руку мые.

Орган пілсудчыкаў у Вільні „Кур‘ер Віленьскі“ піша:

> „У часе майскага перавароту беларускі рух быў пераважна апанаваны комуністымі. Тактычныя погляды, якія змушалі ідэёвых беларусаў шукаць апоры ў Менску, давялі да апанаваньня найбольш жыцьцёвых беларускіх пляцовак комуністымі“.

Такім чынам, паводле думкі фашыстых, усе, хто ня з імі, хто стаіць на абароне інтарэсаў працоўных мас—той комуністы, а раз комуністы, значыць ён па-за законам і проці яго, па рацэпту міністра ўнутраных спраў ген. Складкоўскага, „рэпрэсіі неабходны“.

Далей, „Кур‘ер Віленьскі“ ставіць у заслугу пілсудчыкам тое, што яны першыя ўбачылі ў беларускім народзе „лявіцу і правіцу, г. зн. комуністых і нацыяналістых“.

> „Усе мерапрыемствы мясцовай улады з часу ўсьведамленьня сабе гэтага падзелу ішлі па лініі дапушчэньня некомуністычных

элемэнтаў да культурнай легальнай работы. Залечан шэраг найбольш пякучых балячак культурнага беларускага жыцьця наданьнем правоў беларускім гімназіям, якія стаяць на належным роўні, фінансавая дапамога з дзяржаўнага скарбу школам і школьным інтэрнатам—усё гэта мела на мэце наладзіць нормальную беларускую работу, а таксама вырваць яе такім спосабам з комуністычных абоймаў“.

Затрымаемся крыху на тым, як фашызм лечыць „найбольш пякучыя балячкі“ беларускага народу і з якой мэтай ён гэта робіць.

Першым мерапрыемствам у падыходзе да беларускай вёскі з боку фашыцкага ўраду было прытупленьне тэмпу ваеннага асадніцтва і дапушчэньне беларускага кулака да пакупкі зямлі і ня толькі дапушчэньне, але і дача яму крэдытаў. Апрача таго, у вельмі шпаркім тэмпе праводзіцца кулацкая комасацыя, ліквідацыя сэрвітутаў і іншыя мерапрыемствы ў аграрнай і экономічнай галінах, накірованыя выключна на ўмацаваньне абшарнікаў і кулацкай праслойкі коштам асноўнай сялянскай масы. У выніку абшарніцкая і кулацкая гаспадарка ўзмацняецца, а асноўная серадняцкая маса руйнуецца і зьніжаецца да беднякоў. Бядняцкія гаспадаркі ахутаны ў вялікую галечу і знаходзяцца ў бязвыходным становішчы—яны падтрымліваюць сваё існаваньне толькі паніжэньнем жыцьцёвага роўню і напружанай катаржнай працай усёй сям‘і. Пералюдненьне, зямельны голад, нячуваная галеча, хронічная недароды, а ў гэтым годзе галодная сьмерць на большай частцы тэрыторыі Заходняй Беларусі,—вось якое з большага экономічнае становішча асноўнай сялянскай масы, якая складае домінуючую большасьць беларускага народу.

Каб шчыльней увязаць верхавіну беларускай дробнай буржуазіі з польскай буржуазіяй, фашызм шырака пропагандуе сваю програму, якая вырашаецца ў так званай „гаспадарчай актывізацыі ўсходніх зямель“. З гэтай мэтай урад ідзе на стварэньне беларускіх гаспадарчых організацый, якія, абслугоўваючы кулацкую праслойку вёскі, сеюць ілюзіі сярод мас аб магчымасьці палепшаньня іх палажэньня пры фашыцкай дыктатуры, і, прыкрываючыся беларускасьцю, праводзяць полёнізацыю. „Гаспадарчы Зьвяз“ Янкі Станкевіча, Літоўскае сельска-гаспадарчае Т-ва, польскія „Кулкі Рольнічы“,—усё гэта ёсьць кулацкія організацыі і кожная з іх па нацыянальнай лініі праводзіць фашыцкую „гаспадарчую актывізацыю“ на Заходняй Беларусі і праводзіць усю ваенную і стабілізацыйную фашыцкую політыку.

Для большай консолідацыі самых заможных слаёў прыгнечаных нацыянальнасьцяй з польскай буржуазіяй, для выжываньня сэпаратыстычных тэндэнцый у гэтых слаёх фашызм ладзіць кірмашы, зьезды мяшчанска-кулацкіх груповак, выстаўкі сельска-гаспадарчыя, куды дае доступ і сам організуе беларускія аддзелы. На Паўночным Кірмашы ў Вільні Янка Станкевіч атрымаў срэбраны мэдаль, а на нядаўнім зьезьдзе ў Вільні дробна-

буржуазнай фашыцкай партыі „Працы гарадоў і вёсак“ проклямавалася „аўтономія Віленшчыны і шырокія правы для беларусаў у рамках польскай конституцыі“.

Фашыцкі ўрад уносіць „рэформы“ (як шумна тытулуе згодніцкая прэса пілсудчыкаў і беларуская) у культурна-асьветнай і адміністрацыйнай галінах. Закрыўшы беларускія школы, якія выхоўвалі дзяцей у нацыянальна-вызваленчым духу, урад адкрыў са два дзесяткі беларускіх школ, зразумела, толькі па назове беларускіх, бо ў гэтых школах сядзяць настаўнікі з Галіцыі ці Конгрэсуўкі або мясцовы шляхцюк, найгалоўная задача якіх полёнізаваць „крэсовэ быдло“.

У апошнія часы ўрад да кожнай беларускай культурна-асьветнай „пляцоўкі“ падыходзіць са сваёй фашыцкай тактыкай. Ён выкарыстоўвае ўсе способы (тэрор і падачкі), каб такую пляцоўку фашызаваць, зрабіць сваёй паслушнай прыладай і толькі на выпадак няўдачы і рашучага адпору закрывае і разграмляе яе. Дзьве беларускія прыватныя гімназіі ў Радашковічах і Клецку ўрад зачыніў, а Віленскую, дзе аселіся беларускія фашыстыя, прыняў на кошт дзяржавы і надаў ёй правы ўрадовых гімназій. Такімі самымі махінацыямі ўрад заваяваў кіраўнічую галоўку ТБШ, сустрэўшы рашучы масавы адпор на нізох.

На провінцыі, на мясцох нярэдкія выпадкі, калі беларуская інтэлігенцыя заваблівaецца ў фашыцкі лягер, шляхам высуваньня іх на ганаровыя ці платныя пасады з тым разьлікам, што за такім інтэлігентам пойдзе на шлях паразуменьня і маса.

Гэтымі крошкамі з панскага стала і хлусьлівымі мэтодамі ў культурна-асьветнай галіне ўраду часткова ўдаецца адцягнуць беларускую інтэлігенцыю ад нацыянальна-вызваленчага руху і зрошчваць яе з фашыцкім лягерам (Чатырка, Астроўскі, Луцкевіч ды інш).

Уцягнуўшы кулака і прадажную частку інтэлігенцыі ў рэчышча фашыцкай політыкі, урад пашырае сваю базу і апору на беларускім грунце, дзеля політыкі вызыску і ўціску: пры іх дапамозе душыць рэволюцыйны рух, праз іх імкнецца прышчапіць фашыцкую ідэолёгію ў сялянскія масы і разам з імі рыхтуе напад на СССР.

Што верхавіны беларускай дробнай буржуазіі і значнай часткі беларускай інтэлігенцыі ўвайшлі ў фашыцкі лягер, сьведчыць значнае ажыўленьне беларускіх згодніцкіх груповак (Беларуская сялянская партыя, Беларуская хрысьціянская дэмократыя ды інш.). Гэтыя агенты фашызму за польскую валюту цкуюць БССР і КП(б)Б, трубяць аб экономічным адраджэньні Заходняй Беларусі, аб „заваёвах“ у нацыянальным пытаньні і гэтым робяць тую самую работу з сярэдзіны вызваленчага руху, якую робіць паліцыя і дэфэнзыва штыхом і нагайкай.

Зразумела, што фашызм пашоў на ўступачкі і падачкі не дзеля таго, што ён пашкадаваў загнанага беларускага кулака і згаладалую беларускую інтэлігенцыю, не дзеля таго, каб даць магчымасьць разьвівацца роднай культуры, зьменшыць нацыянальны ўціск. З прыходам

фашызму да ўлады павялічваецца агрэсыўнасьць польскага імпэрыялізму ў адносінах да СССР, а кроўныя інтарэсы гэтага імпэрыялізму дыктуюць яму тую выгаду, якую ён можа мець, падкупіўшы верхавіну беларускай дробнай буржуазіі. Аднак, гэтая верхавіна будзе толькі тады роўнапраўным членам у фашыцкім лягеры, калі яна вырачацца ўсякіх сэпаратыстычных імкненьняў, асымілюецца і растворыцца ў польскай нацыі. Шэраг фактаў у нацыянальнай палітыцы фашызму (як тэрор, двуязычныя школы, фашызацыя беларускіх організацый ды інш.) сьведчаць аб тым, што фашызм праводзіць больш настойлівую і шырокую полёнізацыю Зах. Беларусі, як, напрыклад, эндэцыя дамайскага перавароту. Эндэцкі міністар асьветы Грабскі хваліўся, што праз дзесяць гадоў беларускай нацыі ня будзе. На месца Грабскіх прышлі пілсудчыкі, якія абяцаюць беларусам аўтономіі, школы і доўгага веку, а па сутнасьці ўся палітыка накіравана на тое, каб ня толькі Заходнюю, але і Савецкую Беларусь праглынуць і асыміляваць, як колёнію польскага імпэрыялізму.

Нядаўні крывавы украінскі пагром у Львове, разгром і разбурэньне украінскіх устаноў, ня гледзячы на палітычны кірунак, паказалі сапраўдны твар польскага фашызму нават усім украінскім групоўкам. Крывавыя львоўскія падзеі паказалі, што за хлусьлівымі дэмократычнымі і свабодалюбівымі выразамі і падарункамі фашызму ў нацыянальным пытаньні тоіцца грубы гвалт і дзікая полёнізацыя ў адносінах да заняволеных народаў. З благаславеньня ўраду паліцыя і фашыцкія банды разбуралі некалькі дзён засап і нішчылі ў Львове ўсё, што украінскае, і ўрэшце ў сойме і ў прэсе ўрад салідарызаваўся і ўхваліў гэты пагром над украінскім народам.

Па сутнасьці ўся палітыка ўраду ў беларускім пытаньні кіруецца пад пунктам погляду падрыхтоўкі вайны проці СССР і зьяўляецца фашыцкай пасткай, у якую заваблівающца масы для зьдзяйсьненьня вялікадзяржаўных польскіх мэт. Усе падачкі даюцца з мэтай стварэньня ў выабражэньні мас думкі аб лёяльнасьці польскага ўраду, аб новым курсе ў нацыянальнай палітыцы, каб нажыць на гэтым палітычны капітал ня толькі ў Заходняй Беларусі, але і сярод нэпманска-кулацкіх элементаў і нацыяналістычна-настроенай інтэлігенцыі ў Савецкай Беларусі. Справа ў тым, што польскі фашызм як у разгроме рэволюцыйнага руху ўжывае лобавы ўдар і расклад з сярэдзіны шэрагаў барацьбітоў, так і ў сваёй ваеннай палітыцы, побач з рыхтаваным ударам на БССР, фашызм імкнецца актывізаваць і консолідаваць унутраных ворагаў савецкай улады, імкнецца стварыць тут сабе апору і падтрыманьне на выпадак вайны. Нічым іншым, як вадой на млын польскага імпэрыялізму, як пераклічкай з польскім фашызмам зьяўляецца спроба падарваць і разлажыць працэс соцыялістычнага будаўніцтва пролетарскай дзяржавы, спробы ў барацьбе на ідэолёгічным фронце зьвесьці працэс культурнага будаўніцтва ў заходня-буржуазнае рэчышча і распаліць нацыяналізм, варожы Чырвонаму Ўсходу.

Ня трэба быць прарокам, каб прадбачыць, што пляны польскага фашызму збанкрутуюць. Фашыцкая дыктатура ня хоча і ня можа пайсьці на задаваленьне патрэб шырокіх рэволюцыянізаваных мас. Больш таго, сама прырода фашызму так збудавана, што яна паглыбляе нават пры сваёй частковай і часовай стабілізацыі соцыяльна-клясавыя і нацыянальныя супярэчнасьці і ўсё з большай сілай выклікае завастрэньне і пашырэньне клясавай барацьбы.

Той факт, што пры будове ваенна-хэмічнага заводу каля Бярэсьця мясцовыя сяляне рабілі сыстэматычныя перашкоды (разьбіралі ноччу вузкакалейкі, тэрорызавалі наехаўшую вайсковую адміністрацыю і г. д.), сьведчыць аб рэволюцыйнай сьвядомасьці мас Заходняй Беларусі і яе рашучым адпоры ваенным плянам Польшчы. А пераход польскага пролетарыяту ад абароны ў наступленьне дае заруку ў тым, што ня толькі імпэрыялістычныя пляны фашыцкай дыктатуры, але і сама дыктатура расьцярушыцца пры ўдарах будучых рашучых клясавых баёў у фашыцкай Польшчы.

*Л. РАСІН*

# НАРОДНАЯ ГАСПАДАРКА БССР НА ШЛЯХОХ КАСТРЫЧНІКА

...Индустриализация для нас *закон*.

Социалистическая индустриализация, это не паразитарный по отношению к деревне процесс (при капитализме, несмотря на развитие сельского хозяйства под влиянием индустрии, элементы такого паразитизма на лицо), а средство ее величайшего *преобразования и под'ема*.

*Н. Бухарин* (Заметки экономиста).

## На шляхох індустрыялізацыі

Уся папярэдняя гісторыя экономічнага разьвіцьця ёсьць гісторыя разьвіцьця дыспропорцый і іх перамог, гісторыя парушэньня роўнавагі і аднаўленьне яе на новай гістарычнай аснове. Наша разьвіцьцё таксама дыялектычна, таксама поўна супярэчнасьцяй, абумоўленых як дыспропорцыянальнасьцямі, якія дасталіся нам у спадчыну ад старой капіталістычнай і адначасна поўфэўдальнай Расіі, так і труднасьцямі соцыялістычнага будаўніцтва ў адносна адсталай краіне, на неабсяжнай тэрыторыі якой ужываюцца розныя соцыяльна-экономічныя ўклады (пяць ленінскіх укладаў!), ва ўмовах варожага капіталістычнага абкружэньня.

Супярэчлівасьць нашага разьвіцьця, аднак, істотным чынам адрозьніваецца ад сучасных супярэчнасьцяй капіталістычных краін. Там супярэчнасьці зьяўляюцца выражэньнем таго, што „цэнтралізацыя сродкаў вытворчасьці і аграмаджаньня працы дасягнулі ўзроўню, пры якім яны становяцца несумяшчальнымі з іх капіталістычнай абалонкай“ (Маркс, „Капітал“ т. I, стар. 613); там яны могуць быць вырашаны толькі шляхам нізрынуцьця існуючага грамадзкага ладу, г. зн. шляхам соцыяльна-экономічнага перавароту á la Moscou. Нашы-ж супярэчнасьці зьяўляюцца супярэчнасьцямі ўзыходнага парадку, выражэньнем труднасьцяй росту. Мінулыя адзінаццаць год нашага гаспадарчага будаўніцтва, якому няма прыкладаў у гісторыі, прадстаўлялі сабою ня мала больш ці менш вострых супярэчнасьцяй, пераможаных паступовым ходам нашага разьвіцьця. Шляхам ад перамогі пасьляваеннага разбурэньня цераз адбудавальны процэс да вялізнага пэрыоду рэконструкцыі ўсяе нашае народнае гаспадаркі—гэта шлях, на якім было ня мала вельмі сур'ёзных труд-

насьцяй і ўнутраных супярэчнасьцяй, якія мы перамаглі, і пры тым нязьменна падымаючыся на ўсё больш высокую ступень. Наша экономічнае разьвіцьцё ў моц гістарычных і соцыяльна-політычных прычын ня можа не адбывацца сярод надта вострых супярэчнасьцяй і сур'ёзных перашкод. Але заложаныя ў нашай экономіцы дыспропорцыянальнасьці, няўхільныя парушэньні роўнавагі нязьменна будуць аднаўляцца на ўсё больш высокай аснове. Такавая дыялектыка нашага разьвіцьця. Хто не разумее гэтай дыялектыкі, той ня можа ўразумець і асноўных шляхоў і пэрспэктыў нашага разьвіцьця наогул.

Таму мы можам абмінуць знадворныя праяўленьні труднасьцяй нашага соцыялістычнага будаўніцтва, усякага роду часовыя „крызісы" і зусім спакойна заняцца падагульненьнем і намячэньнем найбольш блізкіх пэрспэктыў гаспадарчага разьвіцьця краіны.

Якія асноўныя вынікі гаспадарчага разьвіцьця БССР да 11-ай гадавіны Кастрычніка, які стан народнае гаспадаркі краіны на мяжы 1928-29 гаспадарчага году?

Нясумненна, што адным з найбольш істотных паказальнікаў разьвіцьця народнае гаспадаркі, паказальнікам, які сьведчыць аб асноўных процэсах, што адбываюцца ў гаспадарцы, зьяўляецца народна-гаспадарчая тэхніка, разьвіцьцё вытворчых сіл краіны. Апошнія колькасна азначаюцца разьмерамі і дынамікай асноўных фондаў народнае гаспадаркі, прыростам ці зьмяншэньнем асноўных капіталаў, вызначаных на мэты вытворчасьці, а якасна—разьмерамі вытворчасьці як на адзінку капіталу, так і на душу насельніцтва. Калі зьвярнуцца да гэтага сынтэзуючага паказальніка,.то мы атрымаем наступныя даныя.

Улічаныя асноўныя фонды народнае гаспадаркі (бяз транспорту і сувязі), якія складалі ў 1925-26 годзе 1.267 мільёнаў руб., к канцу 1927-28 году павялічыліся ўжо да 1.431,8 млн. руб. ці на 13 проц., пры чым капітальныя ўкладаньні ў народную гаспадарку за адзін толькі 1927-28 год склалі 187 млн. руб. Пры гэтым трэба адзначыць, што асноўныя капіталы народнае гаспадаркі за апошнія гады павялічваліся ўвесь час паскораным тэмпам. Так, калі 1925-26 год даў 3,3 проц. прыросту, то 1926-27 год даў +4,3 проц. і 1927-28 год даў ужо +4,7 проц. Асноўныя капіталы народнае гаспадаркі, якія складалі к пачатку 1927-28 г. 268,4 руб. на душу насельніцтва, павялічваюцца пад канец году да 277,4 руб., г. зн. асноўныя фонды ня толькі павялічваюцца, але рост іх значна выпярэджвае прырост насельніцтва, што зьяўляецца нясумненным паказальнікам росту вытворчых сіл краіны.

Прыведзеныя лічбы датычыліся ўсяе народнае гаспадаркі. Цікава, аднак, высьніць, у якія галіны народнае гаспадаркі накіроўваліся гэтыя сродкі, якія галіны разьвіваліся больш інтэнсыўна, якія менш інтэнсыўна, у якой ступені політыка індустрыялізацыі адбываецца і конкрэтна выражаецца ў дынаміцы асноўных фондаў народнае гаспадаркі.

Адказы на гэтыя пытаньні даюцца ў наступнай табліцы:

**Дынаміка асноўных фондаў па найважнейшых галінах народнае гаспадаркі БССР (у нязьменных цэнах 1926—27 г.).**

| Галоўныя галіны народнае гаспадаркі | Зьмены за год у процантах | | | Разьмеркаваньне асноўных фондаў па паасобн. галінах народн. гасп. (на пачатак году) у процантах | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
| I. Сельская гаспадарка | + 3,1 | + 3,8 | + 2,8 | 73,6 | 73,4 | 73,0 | 71,7 |
| II. Прамысловасьць | + 7,6 | + 14,1 | + 30,3 | 4,7 | 4,9 | 5,3 | 6,6 |
| У тым ліку буйная | + 12,5 | + 21,2 | + 39,2 | 3,1 | 3,4 | 3,9 | 5,2 |
| III. Электрыфікацыя | + 12,2 | + 14,6 | + 21,2 | 0,5 | 0,6 | 0,6 | 0,7 |
| IV. Гар. жыльл. фонд | + 2,9 | + 3,7 | + 4,2 | 21,2 | 21,1 | 21,1 | 21,0 |
| Разам | + 3,3 | + 4,3 | + 4,7 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |

Гэта табліца кажа, перш за ўсё, аб тым, што асноўныя капіталы народнае гаспадаркі павялічваліся як уцалку, так і па кожнай галіне паасобна, пры гэтым асабліва значны рост асноўных капіталаў прамысловасьці і электрыфікацыі. У гэтай дыспропорцыянальнасьці і выражаецца процэс індустрыялізацыі краіны. Гэта індустрыялізацыя, аднак, насуперакі павярхоўным разважаньням некаторых „экономістых“, адбываецца пры адначасовым росьце і разьвіцьці сельскае гаспадаркі, а не за кошт дэградацыі апошняе. Асноўныя капіталы сельскае гаспадаркі— сродкі вытворчасьці, пабудовы, жывёла—павялічваюцца з году ў год, але сродкі вытворчасьці прамысловасьці, яе тэхнічная ўзброенасьць расьце яшчэ шпарчэй, і ў выніку мы маем няўхільнае павышэньне адноснае вагі прамысловасьці ва ўсёй масе асноўных фондаў і адпаведнае зьніжэньне адноснае вагі сельскае гаспадаркі, яшчэ раз кажам, пры абсолютным яе росьце. Гэта палажэньне яшчэ выразьней відаць з наступнай дыяграмы, якая паказвае адносныя разьмеры штогодных капітальных укладаньняў у народную гаспадарку з разьліку на 100 душ насельніцтва.

Капітальныя ўкладаньні ў народную гаспадарку павялічваюцца ня толькі абсолютна, але, што значна важней, і адносна. Калі ўкладаньні на 100 душ насельніцтва ў 1925-26 годзе склалі 3.173 руб., то ў 1928-29 г. яны, па контрольных лічбах Дзяржпляну БССР, складуць ужо 4.951 руб., г. зн. разьмеры капітальных укладаньняў у народную гаспадарку ў адносінах узрастаючага ліку насельніцтва краіны, за тры гады павялічваюцца на 56 проц.; пры гэтым капітальныя ўкладаньні ў сельскую гаспадарку за гэты пэрыод павялічваюцца на 12 проц., а капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьці павялічваюцца больш чым у 4 разы.

У гэтых лічбах таксама адбіваецца і агульны характар Беларусі, як аграрнай краіны. На долю сельскае гаспадаркі прыпадае звыш 70 проц. усяго асноўнага капіталу краіны (бяз транспорту і сувязі), а на долю прамысловасьці разам з электрыфікацыяй толькі 7,3 проц. Гэты стасунак, аднак, год за годам, на фоне агульнага росту як сельскае гаспадаркі, так і прамысловасьці, зьмяняецца ў карысьць апошняй.

**Паказальнікі індустрыялізацыі БССР**




Гэтым ня вычэрпваюцца паказальнікі процэсу індустрыялізацыі краіны, які зараз адбываецца. Адначасна з ростам асноўных фондаў народнае гаспадаркі і адноснае вагі ў іх прамысловасьці адбываюцца і пэўныя соцыяльна-экономічныя зьмены ў складзе насельніцтва, пэўныя структурныя зьмены ў складзе народна-гаспадарчай продукцыі краіны. Калі мы зьвернемся да гэтых паказальнікаў, то атрымаем наступныя даныя.

Перш за ўсё адзначым, што пры агульным росьце насельніцтва краіны за 1927-28 г. на 1,5 проц., вясковае насельніцтва за гэты год павялічылася на 1,3 проц., а гарадзкое на 2,4 проц. Процант гарадзкога насельніцтва ў складзе ўсяго насельніцтва краіны павялічваецца з 16,8 проц. у 1925-26 г. да 17,3 проц. у 1928-29 г., г. зн. у Беларусі адбываецца няўхільны процэс абсолютнага і адноснага росту гарадоў, прычым тэмпы гэтага росту прыкметна перавышаюць адпаведныя тэмпы за даваенныя гады. Досыць паказаць, што за пятнаццацілетні пэрыод ад першага перапісу насельніцтва 1897 г. да пачатку імпэрыялістычнай вайны 1914 г. адносная вага гарадзкога насельніцтва па беларускіх губэрнях павялічылася толькі на 1,9 проц., г. зн. у сярэднім на 0,12—0,13 проц. у год, тады як у 1928-29 г., нап...., гэты рост выражаецца ў 0,3 проц.

Паказальнік росту гарадоў, адлюстроўваючы ўвогуле перагрупоўку вытворчых сіл, якая адбываецца ў краіне, у нашых умовах, аднак, не адбівае поўнасьцю процэсу індустрыялізацыі. У самым беларускім горадзе, у моц гістарычных умоў яго разьвіцьця, мелася, і зараз яшчэ ёсьць, нямала людзкіх рэсурсаў для гэтага процэсу. Больш паказальны ў гэтых адносінах даныя аб структуры самадзейнага насельніцтва краіны, аб яго разьмеркаваньні паміж паасобнымі галінамі народнае працы. Адпаведныя даныя тут такія:

**Лік занятых асоб па галоўных галінах працы.**

| | У %% да мін. году | | | Разьмеркаваньне самадзейн. насельн. па галоўн. галінах нар. працы (у %%) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1925-26 г. |
| Агульн. кольк. самадзейн. | 103,3 | 102,0 | 101,9 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| У тым ліку: | | | | | | | |
| 1. У сельск. гаспадарцы. | 102,7 | 101,4 | 102,0 | 91,27 | 90,77 | 90,77 | 91,79 |
| 2. У прамысловасьці . . | 108,7 | 106,0 | 106,1 | 3,16 | 3,31 | 3,42 | 2,65 |
| 3. У будаўніцтве . . . | 121,9 | 112,2 | 130,5 | 0,56 | 0,62 | 0,79 | 0,47 |
| 4. У трансп. і сувязі. . | 103,8 | 103,6 | 104,1 | 1,06 | 1,08 | 1,10 | 1,06 |
| Разам (2+3+4) . . | 110,2 | 106,2 | 108,6 | 4,78 | 5,01 | 5,31 | 3,18 |
| 5. У гандлі і крэд. . . | 113,0 | 100,6 | 97,4 | 1,02 | 1,00 | 0,96 | 0,93 |
| 6. У дзярж. і грамадз. устан. бяз крэдыту . | 109,0 | 102,7 | 105,4 | 1,88 | 1,89 | 1,95 | 1,78 |

У гэтых даных таксама адбіваюцца агульныя ўмовы і спэцыфічны характар нашай індустрыялізацыі. Павялічваецца агульны лік самадзейных, павялічваецца лік самадзейных, занятых ва ўсіх галінах працы, у тым ліку і ў сельскай гаспадарцы. Індустрыялізацыя краіны ў гэтых даных выражаецца ў розьніцы тэмпаў гэтага росту. У той час, як лік асоб, занятых у сельскай гаспадарцы за 1928-29 г., напр., павялічваецца на 2,0 проц., лік асоб, занятых у прамысловасьці павялічваецца за гэты год на 6,1 проц. у будаўніцтве нават на 30,5 проц., транспорце і сувязі на 4,1 проц., а ва ўсіх апошніх трох групах, непасрэдна зьвязаных з індустрыялізацыяй,—на 8,6 проц. Гэта няроўнасьць росту паасобных галін працы выражаецца ў зьмене структуры народнае працы ў бок відочнага росту адноснае вагі прамысловасьці, будаўніцтва, траспорту і сувязі. Калі лік асоб, занятых у сельскай гаспадарцы ў 1925-26 г., складаў 91,79 проц. усіх самадзейных, то ў 1928-29 г. адносная вага гэтай групы зьніжаецца да 90,77 проц. (пры штогодным абсолютным росьце), адпаведна ўздымаецца значэньне індустрыяльнай групы 3,18 проц. у 1925-26 г. да

5,31 проц. у 1928-29 г. Праўда, адносная вага індустрыяльнае працы ўсё яшчэ нязначная, праца ў сельскай гаспадарцы займае 9/10 усяе народнае працы,—у гэтых адносінах Беларусь захавала і яшчэ на доўгі час захавае свой аграрны характар,—але процэс індустрыялізацыі, паступовае разьвіцьцё яе нясумненна.

Але індустрыялізацыя выражаецца ня толькі ў росьце прамысловасьці наогул, а, галоўным чынам, у росьце буйнай прамысловасьці. Калі зьвярнуцца да даных, што характарызуюць разьмеркаваньне ўсяе прамысловае працы паміж буйнай і дробнай прамысловасьцю, то мы і тут заўважым характарныя рысы гэтага процэсу. Пры агульным росьце прамысловае працы на 6,1 проц., лік асоб, занятых у буйнай прамысловасьці, павялічваецца на 18,8 проц., а ў дробнай прамысловасьці зьніжаецца на 2,5 проц. 1928-29 год зьяўляецца, такім чынам, першым годам, калі дробная прамысловасьць пачынае ўжо здаваць свае позыцыі, ня маючы магчымасьці конкураваць з буйнай за сырцовыя рэсурсы і рынкі збыту.

Прыведзеныя даныя датычыліся агульнага ліку самадзейных, незалежна ад формы і характару працы. Сюды ўвайшлі ўсе катэгорыі самадзейнага насяленьня—як наёмны пэрсонал, так і самадзейныя гаспадары, як рабочыя і служачыя, так і саматужнікі і рамесьнікі. Цікава, аднак, прасачыць дынаміку колькасьці наёмнага пэрсоналу. Колькасьць і структура гэтай групы насельніцтва выяўляе наступныя зьмены:

**Колькасьць наёмнага пэрсаналу (у сярэднім за год з пераводам сэзонных у гадавыя).**

| | У %% да папяр. г. | | | Разьмеркаван. наёмнага пэрсоналу па галоўн. галінах нар. працы (у %%) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
| Агульн. колькасьць наёмных рабочых і служачых . . . . . | 112,3 | 108,8 | 110,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| У тым ліку занятых: | | | | | | | |
| 1. У сельск. гаспадарцы . | 116,9 | 114,3 | 104,5 | 23,9 | 24,9 | 26,1 | 24,9 |
| 2. У прамысловасьці . . | 117,5 | 106,4 | 111,3 | 19,7 | 20,6 | 20,1 | 20,4 |
| У тым ліку: | | | | | | | |
| У буйнай . . . . . | 115,1 | 113,1 | 119,0 | 14,5 | 14,8 | 15,4 | 15,7 |
| У дробнай . . . . | 124,1 | 89,2 | 86,4 | 5,2 | 5,8 | 4,7 | 3,7 |
| 3. У будаўніцтве . . . | 122,0 | 112,9 | 130,0 | 6,3 | 6,9 | 7,2 | 8,5 |
| 4. У трансп. і сувязі . . | 103,8 | 104,6 | 103,8 | 13,5 | 12,5 | 12,1 | 11,4 |
| Разам (2+3+4) . . | 113,5 | 107,0 | 112,4 | 39,5 | 40,0 | 39,4 | 40,3 |
| 5. У гандлі (бяз крэдыту) . . . . . . | 110,6 | 115,2 | 106,2 | 4,9 | 4,9 | 5,2 | 5,0 |
| 6. У дзярж. і грам. установах (з крэдытам) . | 107,3 | 101,9 | 105,3 | 25,5 | 24,4 | 22,9 | 21,9 |

Параўнаньне тэмпаў росту колькасьці наёмнага пэрсоналу з адпаведнымі тэмпамі росту агульнага ліку самадзейных яскрава паказвае, што паказаны рост апошніх адбываўся не за кошт разьвіцьця саматужна-рамесьніцкіх „самастойных“ форм працы, а пераважна па лініі росту наёмнага пэрсоналу, павялічэньня колькасьці пролетарыяту. Так, агульны лік самадзейных павялічыўся за 1926-27 год на 3,3 проц., за 1927-28 г. на 2,0 проц. і за 1928-29 год на 1,9 проц.; колькасьць-жа пролетарыяту за гэтыя гады павялічылася адпаведна на 12,3 проц., 8,8 проц. і 10,0 проц. Усе найбольш важныя галіны наёмнае працы даюць рост ліку занятага ў іх наёмнага пэрсоналу, за выключэньнем дробнай прамысловасьці, дзе выявілася зьніжэньне колькасьці наёмнага пэрсоналу ў 1927-28 г. на 10,8 проц. і ў 1928-29 г. па 13,6 проц.

Мы тут не закранаем прычын, якія абумоўліваюць зьніжэньне ролі дробнай прамысловасьці,—мы будзем гаварыць аб гэтым пры больш дэтальным аналізе работы і стану прамысловасьці БССР,—зазначым толькі, што, апрача агульных прычын, якія забясьпечваюць перамогу буйнай прамысловасьці над дробнай, тут пэўнае значэньне мелі і некаторыя мерапрыемствы па рэгуляваньні сырцовага рынку, праведзеныя ў мінулым годзе.

Адзначаны вышэй рост асноўных фондаў народнае гаспадаркі, павялічэньне колькасьці самадзейнага насельніцтва, колькасьць наёмнага пэрсоналу і прыкметны рост адноснае вагі прамысловасьці ў народнай гаспадарцы краіны мелі перш-на-перш сваім вынікам значны рост народна-гаспадарчай продукцыі і вельмі істотныя структурныя зьмены ў яе складзе.

**Валавая продукцыя народнае гаспадаркі (у нязьменных цэнах 1926-27 году).**

| | Валавая продукцыя за 1927-28 г. у млн. руб. | Зьмены за год у %% | | | Адносная вага паасобных галін у народна-гаспадарчай продукцыі краіны | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 26-27г. | 27-28г. | 28-29г. | 25-26г. | 26-27г. | 27-28г. | 28-29г. |
| Продукц. ўсяе народн. гаспадаркі . . . . | 1179,2 | + 4,2 | + 9,5 | + 8,8 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| У тым ліку: 1. Сельск. гаспадарка . | 795,4 | + 0,2 | + 5,2 | — 2,1 | 73,3 | 70,3 | 67,4 | 60,7 |
| 2. Прамысловасьць . . | 275,2 | + 13,1 | + 20,9 | + 30,0 | 19,4 | 21,2 | 23,3 | 27,9 |
| У тым ліку буйная . . | 181,6 | + 13,7 | + 40,2 | + 41,6 | 11,0 | 12,0 | 15,4 | 19,8 |
| Уся продукц. сел. гасп. і прамыс. (2+3) . . | 1070,7 | + 2,7 | + 8,8 | + 6,2 | 91,4 | 91,4 | 90,7 | 88,6 |
| 3. Будаўніцтва . . . | 108,5 | + 24,7 | + 17,6 | + 34,7 | 7,3 | 8,6 | 9,3 | 11,4 |

Валавая продукцыя краіны, г. зн. выраб, незалежна ад таго, ці спажыты ён самой вытворчасьцю, вытворцамі для сваіх уласных спажывецкіх патрэб, ці рэалізаваны цераз рынак, няўхільна павялічваецца. Калі прырост продукцыі за 1926-27 г. склаў 4,2 проц., то наступны 1927-28 г. даў ужо 9,5 проц., 1928-29 г. дасьць далейшы рост продукцыі на 8,8 проц.

Але рост продукцыі, зьяўляючыся нясумненным паказальнікам абсолютнага росту матэрыяльнага багацьця краіны, усё-ж сам па сабе ня можа адказаць на пытаньне аб узроўні дабрабыту насельніцтва. Для таго, каб адказаць на апошняе пытаньне, патрэбна разьлічыць продукцыю на наяўнае насельніцтва краіны. Адпаведны падлік паказвае, што народнагаспадарчая продукцыя ня толькі павялічваецца, але рост яе значна выпярэджвае прырост насельніцтва. Так, калі продукцыя 1925-26 г. складала 210 руб. на душу насельніцтва, то ў 1926-27 годзе яна складае ўжо 214 руб., а ў 1927-28 г. падымаецца да 220 руб. Разьмер продукцыі на душу насельніцтва, стала быць, расьце год за годам, ствараючы, такім чынам, патрэбныя прадпасылкі для росту спажываньня і ўздыму дабрабыту насельніцтва наогул.

У прыведзеных даных зварачаюць на сябе ўвагу надзвычайна высокія тэмпы росту продукцыі буйнай прамысловасьці (+ 40,2 проц. за 1927-28 г.) і будаўніцтва (+ 17,6 проц.). Што датычыцца сельскае гаспадаркі, то рост яе продукцыі значна адстае ад росту прамысловай вытворчасьці, хоць рост яе ўсё-ж такі досыць значны. Невялікае паданьне продукцыі сельскае гаспадаркі ў 1926-27 г. і магчымае некаторае зьніжэньне яе ў 1928-29 годзе ні ў якім разе не абумоўлены органічнымі прычынамі, а выключна вытворчымі ўмовамі гэтага году. Аб гэтым пытаньні мы будзем яшчэ гаварыць у другой сувязі, а пакуль абмяжуемся толькі констатаваньнем таго нясумненнага факту, што народна-гаспадарчая продукцыя краіны наогул і продукцыя прамысловасьці і будаўніцтва асабліва павялічваецца пры адначасным росьце продукцыі сельскае гаспадаркі, а не за кошт апошняй [1]). Гэта натуральнае і канечнае ў нашых умовах няроўнае разьвіцьцё паасобных галін народнае гаспадаркі і абумоўлівае сабою няўхільнае павышэньне адноснае вагі індустрыяльнай яе часткі. Так, калі продукцыя сельскае гаспадаркі ў 1925-26 г. складала 73,3 проц. усяе валавое продукцыі краіны, то ў 1928-29 г. яе адносная вага зьніжаецца да 60,7 проц.; адпаведна павялічваецца значэньне прамысловасьці (27,9 проц. супроць 19,4 проц.), асабліва буйнай 19,8 проц. супроць 11,0 проц. і будаўніцтва (11,4 проц. супроць 7,3 проц.).

[1]) Трэба мець на ўвазе, што валавая продукцыя народнае гаспадаркі ў прыведзенай табліцы дадзена ў нязьменных цэнах 1926-27 г. Гэтыя даныя, стала быць, рысуюць дынаміку *рэальнай* продукцыі бяз уліку зьмен цэн. Як вядома, апошнія гады характарызаваліся ростам цэн на сельска-гаспадарчыя тавары пры адначасным зьніжэньні цэн на прамысловыя тавары. Калі расцаніць продукцыю сельскае гаспадаркі ў цэнах адпаведнага году, то мы атрымаем рост продукцыі ў 1926-27 г. на 5,7 проц., у 1927-28 г. на 7,6 проц. І такі-ж, прыкладам, рост дасьць продукцыя сельскае гаспадаркі ў 1928-29 г.

Так адбіваецца процэс рэконструкцыі і індустрыялізацыі народнае гаспадаркі краіны ў дынаміцы валовай продукцыі.

Валавая продукцыя, як мы ўжо адзначылі, уключае як вытворчасьць для ўласнага спажываньня вытворцы, так і вытворчасьць для рынку. Вось гэта апошняя частка валавое продукцыі для нас найбольш цікава і зьяўляецца больш паказальнай для меркаваньня аб процэсе, які цікавіць нас. Узаемаадносіны паміж горадам і вёскай, іх узаемная сувязь і ўзаемазалежнасьць азначаецца пераважна таварнымі часткамі вытворчасьці, г. зн. тымі часткамі продукцыі, якія выносяцца на рынак і, праходзячы цераз грашовую форму, абменьваюцца паміж сабою. У краіне пераважна дробнае спажывецкае сельскае гаспадаркі, якою зьяўляецца Беларусь, таварная маса сельскае гаспадаркі, натуральна, будзе значна адрозьнівацца ад валавое продукцыі, складзе толькі нязначную частку яе, тады як продукцыя прамысловасьці ўжо па самай сутнасьці сваёй зьяўляецца продукцыяй па пераважнасьці таварнай. І вось, калі выключыць з валавое продукцыі сельскае гаспадаркі і прамысловасьці ўсё тое, што тым ці іншым шляхам спажыта самім вытворцаю, то атрымаем наступную дынаміку таварнай масы за апошнія тры гады.

**Таварная маса народнае гаспадаркі (у нязьменных цэнах 1926-27 году).**

| | Таварная маса за 1927-28 г. у млн. руб. | Зьмены за год у %% | | Адносная вага паасобных галін у таварнай масе народнае гаспадаркі краіны | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 26-27 г. | 27-28 г. | 25-26 г. | 26-27 г. | 27-28 г. |
| Уся таварная маса . . | 378,9 | + 8,4 | + 16,6 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| У тым ліку сельск. гаспадаркі . . . . . | 106,4 | — 1,7 | + 6,2 | 34,0 | 31 | 28 |
| У тым ліку прамыслов. (без акцызу). . . | 272,5 | + 13.5 | + 21,3 | 66 | 69 | 72 |
| У тым ліку буйнай . . | 178,9 | + 13,5 | + 41,4 | 37 | 39 | 47 |

У гэтых даных вельмі выразна выступае значэньне прамысловасьці ў таварнай вытворчасьці краіны, яе вядучая і азначальная роля ў гэтых адносінах. Таварная маса прамысловасьці, якая складала ўжо ў 1925-26 г. $^2/_3$ усяе таварнае вытворчасьці краіны, павялічваецца ў 1926-27 г. да 69 проц. і ў 1927-28 г. да 72 проц., пры гэтым асабліва значна павялічваецца адносная вага буйнай прамысловасьці, значэньне якое ўзьнялося з 37 проц. у 1925-26 г. да 47 проц. у 1927-28. Няроўнасьць разьвіцьця сельскае гаспадаркі і прамысловасьці, якая выражаецца ў розьніцы тэмпаў іх росту, ясна і не патрабуе асобных тлумачэньняў. Яна натуральна, нормальна і канечна. У данай сувязі мы хочам толькі адзна-

чыць, што таварнасьць сельскае гаспадаркі пакуль надта адстае ў сваім разьвіцьці ад патрэб краіны і самой прамысловасьці, што коэфіцыенты, што маюцца ў гэтых адносінах, зусім невыстарчальны.

Аднак справа тут не ў агульным курсе на індустрыялізацыю, курсе, які канечна патрэбен і апраўдваецца са ўсіх пунктаў гледжаньня, у тым ліку і з пункту гледжаньня сельскае гаспадаркі. Прычыны невыстарчальнага шпаркага росту сельскае гаспадаркі хаваюцца пераважна ў самой сельскай гаспадарцы, у яе адсталай грамадзкай організацыі. Але аб гэтым ніжэй.

**Асноўныя ўклады ў народную гаспадарку БССР на 100 чал. насельнасьці (у руб.).**




У заключэньне гэтага разьдзелу трэба падкрэсьліць, што, аднлчасова з ростам народнае гаспадаркі наогул і індустрыяльнай яе часткі асабліва, расьце і ўзровень грамадзкага дабрабыту насельніцтва, расьце злучнасьць і рознастайнасьць матэрыяльнага багацьця, спажыванага насельніцтвам. Мы ўжо паказвалі на гэту акалічнасьць пры разглядзе дынамікі валавое продукцыі. Іншыя паказальнікі, якія могуць ілюстраваць гэта палажэньне, цалкам сьцьвярджаюць яго. Так, куплядьныя фонды насяленьня ў 1927-28 г. аказваюцца вышэй 1925-26 г. на 21 проц., пры гэтым купляльны фонд зямляробскага насельніцтва павялічваецца на 16 проц., фонд асоб наёмнага пэрсаналу на 23,4 проц., а фонд іншых груп незямляробскага насельніцтва застаецца амаль стабільным. У гэтым разьмеркаваньні народнага прыбытку таксама выяўляецца соцыяльны характар нашае дзяржавы.

Зробім некаторыя падагульненьні.

Пададзеныя ў дыяграме асноўныя паказальнікі індустрыялізацыі БССР сьведчаць аб няўхільным росьце адноснае вагі прамысловасьці ў народнай гаспадарцы краіны. Варта ўвагі ў гэтым процэсе тое, што рост прамысловасьці адбываецца на фоне агульнага росту народнае гаспадаркі, усіх яе галін без выключэньня. Адсталасьць народнае гаспадаркі, што пакінута нам у спадчыну былою Расійскай імпэрыяй наогул і Беларусі ў прыватнасьці, беднасьць капіталамі не дазваляе нам адначасова ўздымаць усе галіны народнае гаспадаркі так, як мы гэтага хацелі-б. Мы таму ў кожны даны момант можам уздымаць толькі адну якую-небудзь галіну народнае гаспадаркі, адначасна падцягваючы ўсе іншыя. Мы ўздымаем нашу прамысловасьць і ў першую чаргу продукцыю сродкаў вытворчасьці таму, што яна зьяўляецца вядучай галінаю ўсяе нашае народнае гаспадаркі. Бяз сродкаў вытворчасьці нямысьлімы ні ўздым прамысловасьці наогул, а стала быць, і зьнішчэньне таварнага голаду, ні разьвіцьцё сельскае гаспадаркі. Праўда, ва ўмовах БССР лёзунг індустрыялізацыі ў пэўнай меры модыфікуецца. Ужо самі прыродныя ўмовы краіны выключаюць магчымасьць значнага разьвіцьця вытворчасьці сродкаў вытворчасьці, хоць апошняя ўсё-ж дае значныя тэмпы прыросту, якія да таго-ж усё павялічваюцца (за 1926-27 г. +5,0 проц., 1927-28 г.— +22,8 проц., і 1928-29— +24,2 проц.,—усё ў адносінах да папярэдняга году). Індустрыялізацыя БССР можа таму адбывацца па лініі росту прамысловасьці і, наогул, пераважна за кошт разьвіцьця вытворчасьцяй сродкаў спажываньня, вытворчасьцяй, якія грунтуюцца як на мясцовым сельска-гаспадарчым сырцу, так і на прывозным. Але народная гаспадарка Беларусі зьвязана безьлічнымі ніцямі з экономікай усяго нашага Саюзу, займаючы ў адносінах да апошняга падпарадкаванае палажэньне. Індустрыялізацыя СССР паварачваецца да народнае гаспадаркі Беларусі абодвума сваімі бакамі: дапамагаючы тэхнічнаму, а разам з ім і соцыяльна-экономічнаму пераўзброеньню нашае народнае гаспадаркі, яна разам з тым узмацняе зьявы таварнага голаду і абвастрае супярэчнасьці нашага росту.

Але было-б, па меншай меры, наіўна думаць, што нашы гаспадарчыя перашкоды зьяўляюцца вынікам недавытворчасьці тавараў. Так-жа сама, як капіталістычныя крызісы зьяўляюцца бліжэйшым вынікам перавытворчасьці капіталаў, таварны-ж рынак служыць толькі формай праяўленьня парушанае роўнавагі ў сфэры разьмеркаваньня капіталаў, прычыны „крызісных“ зьяў у нашай народнай гаспадарцы хаваюцца ў сфэры капіталаў. Але і тут вельмі выразна выступаюць розьніцы паміж капіталістычнай і савецкай гаспадаркай. Калі ў капіталістычнай гаспадарцы крызісы абумоўлены самым спосабам вытворчасьці, іманэтны данаму спосабу вытворчасьці, то ва ўмовах савецкае гаспадаркі няма самай магчымасьці перавытворчасьці капіталаў. Перавытворчасьць у нашых умовах—недарэчнасьць, бо магчымасьці спажываньня наогул бязьмежны; наша-ж экономіка, увесь наш соцыяльна-экономічны ўклад выключае

ўсякія абмежаваньні ў гэтых адносінах. Адзіным рэгулятарам спажываньня як вытворнага, так і асабістага ў савецкай гаспадарцы зьяўляецца сама вытворчасьць. Таму ў савецкай экономіцы зьявы таварнага голаду могуць спадарожнічаць агульнаму ўздыму і росту народнае гаспадаркі.

У нашых гаспадарчых труднасьцях няма нічога крызіснага, бо народная гаспадарка краіны расьце, але нашы патрэбы павялічваюцца яшчэ хутчэй, яны будуць заўсёды выпярэджваць вытворчасьць, ствараючы ілюзіі абсолютнай недавытворчасьці. Мы таму можам зусім спакойна і высока трымаць сьцяг індустрыялізацыі, адзіна магчымага шляху савецкае гаспадаркі. Праўда, політыка індустрыялізацыі абвастрае становішча на другіх частках нашае гаспадаркі, узмацняе дыспропорцыянальнасьці і супярэчнасьці нашага разьвіцьця, але роўнавага народнае гаспадаркі можа быць дасягнута толькі індустрыялізацыяй, шляхам, які, можа быць, часова ўзмацняе супярэчнасьці нашага росту, але які гарантуе канчатковую перамогу дыспропорцыянальнасьцяй і аднаўленьне роўнавагі на больш высокай экономічнай і соцыяльнай аснове.

*Працяг будзе*

*Праф. М. ПІОТУХОВІЧ*

# ПАД ЗНАКАМ РЭВОЛЮЦЫЙНАЙ ГРАМАДЗКАСЬЦІ І ЗАГАРТАВАНАСЬЦІ

*(Да 20-годзьдзя літаратурнай дзейнасьці Цішкі Гартнага)*

Творчасьць кожнага буйнага мастака слова зьяўляецца нібы складаным лябірынтам, у якім дзівосна пераплятаюцца рознастайныя ходы тэматычных і формальна-мастацкіх мэтаімкненьняў. Даць малюнак усіх гэтых ходаў—задача вельмі цяжкая; для яе выкананьня патрэбна перш за ўсё схапіць агульную соцыяльную ўстаноўку творчасьці таго ці іншага аўтара; такая ўстаноўка звычайна дае ў рукі дасьледчыка арыадніну нітку, з дапамогай якой можна лягчэй агледзець усе завіткі пабудовы.

Для агульнага агляду творчасьці беларускага пісьменьніка, 20-гадовы юбілей якога сьвяткуе зараз уся працоўная Беларусь, такую арыадніну нітку дае ўжо самы літаратурны псэўдонім Зьміцера Тодаравіча Жылуновіча. Гартны—гэта кароткае, але выразнае слова добра характарызуе сабою перш за ўсё жыцьцёвы шлях юбіляра. Бязрадае маленства ў беднай сям'і сялян-чорнарабочых,—маленства, абагрэтае толькі ледзь прыметным бледным сьвятлом лучніка, апавітае нясьціханымі нудлівымі песьнямі енку і гора; вучоба ў багамольнага „дарэктара" з яе нямінучымі атрыбутамі розных кар, як стаяньне на жарстве; ужо з 11 год—праца падпаска, кінуўшая адразу талентнага хлопчыка ў цёмны вір барацьбы за існаваньне; далей брудная і смуродная майстэрня гарбара; бяспрытульнае вандраваньне па абшарах Беларусі, пецярбурскі завод, потым зноў беспрацоўе і г. д.—вось тыя колы жыцьцёвага пекла, праз якія прышлося прайсьці нашаму пісьменьніку па шляху барацьбы за індывідуальнае існаваньне. Трагічнасьць гэтай асабовай барацьбы ўскладнялася для Гартнага яшчэ і тым, што яму трэба было змагацца за свой мастацкі талент. Рана, яшчэ з маленства, адчуў ён у сабе замілаваньне да мастацкага слова. Яшчэ падпаскам, гонячы каровы з поля, успрымае ён розныя вершы, якія пераказваў яму Тодар Чарнушэвіч. У сваёй аўтобіографіі пісьменьнік адзначае, што тыя творы Някрасава, якія яму асабліва спадабаліся, як „Дедушка" і „Железная дорога", ён перапісваў і вучыў напамяць урыўкамі, „прысядаючы каля пянчукоў". Ляпідарная нататка ў даным выпадку зарысоўвае жаласьлівы малюнак, варты пэмазка Шардэна; гэта смутная постаць вясковага хлопчыка, што схіліўся „каля пянчукоў" над вершамі Някрасава, паказвае нам усю

трагічнасьць маленства талентнага самародка, яна прыадчыняе нам усю глыбіню нязбыўнага гора поэты-пастуха. Далей, па меры нарастаньня агульнай напружнасьці жыцьцёвай барацьбы, фарбы робяцца яшчэ больш змрочнымі. У другім месцы сваёй аўтобіографіі пісьменьнік дадае: „Вандруючы з 1909 па 1912 г. па Беларусі, я пісаў вершы, прозу і корэспондэнцыі ў дарозе, у вагонах, на вакзалах, у цесных і брудных каморках, у начлежках, пісаў пасьля работы 11-гадзіннай“. Такім чынам, шлях інтэлектуальнага самасьцьвярджэньня Цішкі Гартнага ёсьць такі-ж цяжкі, як і шлях яго барацьбы за фізычнае існаваньне. Хлопчык, які першы свой дотык да горкіх карэньняў вучобы купляе дарагою цаною стаяньня на жарстве; бедны падпасак, постаць якога жаласьліва схіляецца „каля пянчукоў“ над вершамі Някрасава; юнак-поэта, вымушаны свае першыя творы пісаць у цесных і брудных каморках, у начлежках,—вось колы гэтага другога жыцьцёвага пекла беларускага пісьменьніка. На шчасьце, таленавіты юнак надта рана, яшчэ на парозе свайго сьвядомага жыцьця, пачаў уважліва прыглядацца да складаных соцыяльных абставін, якія атачалі яго; ён хутка сваім яшчэ юнацкім розумам пачаў цяміць, што пекла яго ўласнага жыцьця—гэта толькі маленькі куточак другога вялізнага, сапраўды дантаўскага пекла, якім была ўся Расія дарэволюцыйных часоў. Але юнак-поэта далёкі быў ад рэзіньяцыі дантаўскага надпісу; на фронтоне струхнеўшага будынку царскай Расіі бачыліся яму ня гэтыя, поўныя роспачы словы: „пакінь надзеі ўсякі, хто ўваходзіць сюды“,—перад духоўным зрокам поэты на гэтым фронтоне вырысоўваліся грозныя: „мене, факел, фарэс“; пісьменьнік пачаў рана ўсьведамляць, што соцыяльны лад, пабудаваны на няроўнасьці і эксплёатацыі, варты толькі таго, каб дашчэнту зьнішчыць яго. Справу зьнішчэньня гэтага ладу Цішка Гартны яшчэ з 1905 году робіць справаю свайго жыцьця. З гэтага часу ён уваходзіць у склад соцыял-дэмократычнай організацыі; у сакавіку месяцы 1905 г. прымае ён удзел у вялізнай дэмонстрацыі, якая была наладжана ў Капылі з поваду ўгодкаў забойства Аляксандра II; у кастрычніку месяцы таго-ж году Цішка Гартны прымае актыўны ўдзел у агульнай забастоўцы. Увесну 1906 г. Гартны, безмаль дзевятнаццацігадовы юнак, уваходзіць у камітэт Капыльскай організацыі соцыял-дэмократыі і з гэтага часу прымае ўдзел у рэволюцыйным рабочым руху; у 1913 г. ён робіцца членам міжраённага аб'яднаньня с.-д. у Пецярбургу. Вышаўшы на інтэрнацыянальны шлях барацьбы рабочай клясы за сваё вызваленьне, Гартны адначасна не пакідае і межаў нацыянальных,—яму дорага было вызваленьне яго шматпакутнай бацькаўшчыны—Беларусі. Апроч удзелу ў агульным рабочым руху, ён з 1908 году прымае ўдзел і ў беларускім адраджэнцкім руху, становячыся з гэтага часу сталым супрацоўнікам „Нашай Нівы“. Калі ў 1917 г. пад націскам працоўных разбурылася самаўладзтва, Цішка Гартны ўвесь захапляецца рэволюцыйна-грамадзкай дзейнасьцю, працуючы ў якасьці члена комуністычнай партыі на адказных мясцох фронту гра-

мадзянскай вайны... Адгрымелі гарматы гэтай вайны, жыцьцё савецкай дзяржавы пачало ўваходзіць у паласу спакойнага будаўніцтва; на руінах старога трэба было будаваць новы гмах соцыялістычнай гаспадаркі і культуры, і ў гэты момант Цішка Гартны знаходзіцца ў першых шэрагіх будаўнікоў, яму даручаюцца самыя адказныя пасады: у 1919 г. ён робіцца першым старшынёю Савету Народных Камісараў Беларусі, потым ідзе кіраўніцтва Беларускім дзяржаўным выдавецтвам, адказная праца ў Наркамасьветы і г. д.

Такім чынам, на ўсім жыцьцёвым шляху сягонешняга юбіляра каляровай істужкай разгарнаецца праца рэволюцыянэра і будаўніка; грамадзкае ў яго дзейнасьці пераважае асабовае, індывідуальнае.

Узятае ўцалку ўсё жыцьцё Цішкі Гартнага запоўнена адным зьместам. На сваіх плячох яму прышлося вынесьці ўсю цяжкасьць патройнай барацьбы: барацьбы за фізычнае існаваньне, за свой мастацкі талент і за вызваленьне рабочай клясы і працоўных Беларусі. У вогнішчы гэтай барацьбы сапраўды загартавалася асоба пісьменьніка, загартавалася яго воля, выпрацавалася магутная актыўнасьць, выхавалася жалезная мэтаімкненасьць да перамогі. Беларускі пісьменьнік у сваім жыцьці сапраўды прадстае перад намі, як Гартны: гэты літаратурны псэўдонім дае нам як-бы згустак біографіі яго носьбіта.

Але адначасна даны псэўдонім добра характарызуе і асноўную асаблівасьць творчасьці пісьменьніка.

Цэнтральным стрыжнем гэтай творчасьці зьяўляецца абрысоўка актыўнага ўзьдзейства працоўнага чалавека на вакольную рачаіснасьць. Такое ўзьдзейства можа рашчыняцца ў форме працы і ў форме барацьбы за соцыяльную перабудову грамадзтва. Адгэтуль органічна вынікаюць у творчасьці Цішкі Гартнага дзьве асноўныя тэмы яго творчасьці: праца і рэволюцыя.

Працу пісьменьнік малюе ў рознастайных аспэктах, і гэта рознастайнасьць адпавядае розным ступеням уласнага працоўнага дасьведчаньня пісьменьніка. Хлопчык-падпасак у маленстве, гарбар у юнацтве, рабочы на рубяжы юнацтва і сьпелага ўзросту, адказны партыйны і савецкі працаўнік у апошнія гады,—вось тыя асноўныя завіткі, з якіх складаецца, як мы бачылі вышэй, сьпіральны стрыжань біографіі Гартнага. Усе гэтыя завіткі адбіліся і на творчасьці песьняра.

У маленстве і раньнім юнацтве пісьменьнік па ўмовах свайго пачатковага выхаваньня і пачатковай профэсіі падпаска быў зьвязаны з вясковым бытам і сялянскай клясай. На матчыным улоньні вясковай прыроды выпукляліся першыя парасткі яго мастацкага пачуцьця. Таленавіты хлопчык-пастушок ня раз у сваім маленстве адчуваў поэзію вясковай раніцы, калі на далёкім небасхіле гаснуць апошнія начныя зоркі і на зьмену ім пераможна запальваюцца ружовыя сонечныя праменьні,—яны нібы вітаюць перамогу сьвятла над цемрай, радуюцца прыходу новага дня. У такія моманты пастухоўская жалейка маленькага хлопчыка ня раз,

відаць, абуджала прасторы соннага Капыля. У такія моманты, можа ня раз, у чулую душу будучага поэты западалі зерні хараства і эстэтычнага пачуцьця. І гэтыя зерні далі багатыя ўсходы ў творчасьці Гартнага. Пісьменьнік востра адчувае ўсе водцені розных процэсаў сялянскай працы. Ён, напрыклад, маляўніча рысуе нам, як „пад сярпом крывым“

Жыта хутка гнецца,
Сноп за снопам у радкі
Пакладам кладзецца.
(„Песьня жняі“).

З замілаваньнем спыняецца аўтар таксама і на малюнку касавіцы:

Ня спадалі 'шчэ росы,
І сонца ня стала сіяць,
Як гострыя ў поплаве косы
Вясёла і зычна зьвіняць.
Бліскаюць рэзва на сонцы,
Сьвішчуць, шумяць у траве...
(„Касьба“).

Яшчэ больш поэтычны малюнак касавіцы пісьменьнік дае ў сваім романе „Сокі цаліны“. Ён трапна ў мастацкіх зарысоўках перадае тут самы рытм сялянскай працы і яе напружнасьць, узвышаючыся да яскравай плястыкі вобразаў і адначасна глыбока прасякаючы ў поэзію вясковай працы. Вось невялічкі ўрывак з гэтага шырока разгорнутага малюнку: „...Зьяднаючым гмахам, які выцінаў музыку кляпаньня, захапіліся касцы ў касьбе. Так плывуць рыбакі на доўгім цяжкім чаўне, паднімаючы і апускаючы ў воду вёслы; так сякуцца ў атаках на вайне, размахваючы шаблямі, штыхамі. Касцы былі першым шэрагам салдат, што ідуць у наступ, стыкаюцца з ворагам і пачынаюць секчыся. Толькі мігалі доўгія дугі пад лезамі блішчастых кос. Толькі сьвісталі сьмяртэльную песьню стромыя замахі, кладучы сьвежую траву ў роўныя пакосы“... (П, 132).

Так маляўніча апісаць процэсы вясковай працы мог толькі мастак, органічна зьліты з працоўным людам, прасякнуўшы ў розныя праявы яго быту: толькі на падставе такога прасякненьня магла зьявіцца тая сымфонія фарбаў і гукаў, якую даюць нам у Гартнага зарысоўкі жніва і касавіцы.

Але малюнкі сялянскай працы зьяўляюцца эпізодычнымі ў творчасьці Цішкі Гартнага. Больш характарны для яго ўгрунтаваныя на асабістай практыцы малюнкі працы дробнага рамесьніка. Пісьменьнік вядзе нас у брудную майстэрню гарбара, паказвае ўсю цяжкасьць бязрадага існаваньня ў ненормальных соцыяльных умовах. Мы бачым, як гэтыя ўмовы высмактваюць усю жыцьцёвую сілу, пазбаўляюць радасьці ў жыцьці, засушваюць фарбы юнацтва. Мы чуем гэтыя стогны гарбара:

Цэлы дзень я за брудным сталом,
Цэлы дзень скуру цьвёрдую скроб,
Стаючы укапаным калом,
Я задушай атрутнаю соп...

Дзёгаць і лой мае рукі разьелі.
Шчокі ў грязі і ў духоце счарнелі.
Краска завяла,
Шчасьце прапала—
Скура забрала.

У гэтых стогнах адчуваецца асабіста перажытае; „Песьні гарбара“ падкупляюць нас, папершае, сваім рэалізмам. Яны даюць нам тыповыя малюнкі з жыцьця дробнага рамесьніка данай спэцыяльнасьці на Беларусі. Схоплены надворныя абставіны майстэрні:

Навакола чатыры сьцяны,
А на іх заплясьнеўшая стольь...

Адначасна выяўлены і ўнутраныя перажываньні дробнага рамесьніка, паказаны яго сумотныя адчуваньні за бруднай працай, — адчуваньні нявольніка, прыкутага да свайго варстату, які, з прычыны ненормальных соцыяльных умоў, ня можа бачыць харасгва жыцьця і хараства прыроды.

Постаць гарбара зьяўляецца цэнтральнай у „Песьнях працы“; у ёй адбіваецца ўласны працоўны быт песьняра, адлюстроўваецца пэўны этап яго жыцьця і назіраньняў. Вось чаму гэта постаць зьяўляецца асабліва яскравай і колёрытнай у шэрагу ўсіх іншых вобразаў, створаных Цішкам Гартным.

Больш схэматычнымі зьяўляюцца ў песьняра вобразы іншых прадстаўнікоў індывідуальнай рамесьніцкай працы. Некалькімі пабежнымі рысамі накідвае ён вобраз каваля, які жвава завіхаецца каля сваёй цяжкай працы: трэба грэць жалеза ў агні, молат важкі трымаць і адначасна „не забыцца, каб мех у свой час паддуваць“. У некалькіх строфах лірычнага вершу тут схоплены тыповыя адзнакі гэтай прымітыўнай саматужніцкай працы, якая ня ведае яшчэ дыфэрэнцыяцыі паасобных функцый і адбываецца ў жабрацкіх умовах. На момант спыняе сваю ўвагу поэта на постаці грабара, „які ўсё жыцьцё сваё, дзень у дзень, год у год, зямлю цяжкай лапатай капае, як крот“. Грабар ставіць перад сабой пытаньне, што ён мае за сваю цяжкую працу, што дала яму зямля, абмытая яго потам і сьлязьмі? І на гэта пытаньне даецца сумны адказ:

О, дала яна мне, ой, за працу дала:
З калючковых расьлін мне вяночак спляла,
З медзі звонкай, цяжкай даравала шнурок,
А дарогу жыцьця ухарошыла ў мрок,
Каб я йшоў, як сьляпы, каб бяз конца я йшоў.
Зямлю вечна капаў і дабра не знайшоў.

Вобраз грабара зьмяняецца ў Цішкі Гартнага на вобраз ткачыхі, якая „за варстатам дні і ночы, у духаце нязноснай... старэнна і ахвоча тчэ-ліцуе кросны“.

У распрацоўцы данай тэмы працы дыяпазон творчасьці Цішкі Гартнага з цягам часу ўсё больш і больш пашыраецца, адпаведна пашырэньню ўласнага кола яго жыцьцёвых назьбіраньняў і працоўнае практыкі.

Калі ў ранейшых сваіх творах пясьняр пераважна абмалёўвае нам індывідуальную працу рамесьніцкага характару, то ў творах пазьнейшых ён усё больш і больш пераходзіць да абмалёўкі працы колектыўнай: у кола мастацкіх зарысовак пісьменьніка замест дробнай майстэрні ўжо ўваходзіць фабрыка і гута. Так, у романе „Сокі цаліны“ замест „сьмяротэльнага“ сьвісту касы, замест аднастайнага шорганьня гарбарскай сабачкі або ткацкага чаўнака чуецца ўжо магутны грукат фабрычных рычагоў, сьвіст фабрычных пасаў, бразгат сталі. Вось, напрыклад, як апісвае Гартны момант, калі на заводзе пачынаецца праца. „...Завод рушыў: усё вакола зашыпела, закруцілася, заляскала, забранчэла. Няпрыкметна рабочыя расьселіся па мясцох і прыняліся, хто наразаць, хто тачыць, хто шліфаваць, хто стругаць, хто вастрыць на наждаку разцы ды зубцы. Зьнізу хлынула пара, перамешаная з дымам, смуродным ды ўдушлівым. Зазьвінелі ўдары малатоў па жалезу. Вось гэтыя ўдары малатоў, музыка, фабрыкі, улада жалеза таксама знайшлі сабе тыповы і рэальны адбітак у творах Цішкі Гартнага.

Апошнім этапам у разьвіцьці данай тэмы працы зьяўляецца ў творчасьці нашага пісьменьніка абмалёўка ім напружнага творчага ўздыму ў галіне сучаснага савецкага будаўніцтва. Сам адказны партыйны і савецкі працаўнік, пісьменьнік здужаў і тут даць нам яскравыя, поўныя жыцьцёвай праўды, малюнкі, якія зьяўляюцца рэхам нашых бурлівых дзён. Цішка Гартны выяўляе асаблівую здольнасьць нават у нашай штодзеннасьці схапіць захованы рытм новага будаўнічага жыцьця. Ён маляўніча паказвае нам, як усюды—у саўгасе, райвыканкоме, сельсавеце, райміліцыі—ідзе сваё напружнае жыцьцё, цагліна за цаглінаю кладзецца ў падмурак новага соцыялістычнага грамадзтва. Уся сучаснасьць рысуецца поэтам як панаваньне працы, як бязьмежнае будаўніцтва:

То ня вецер у пушчы гудзе,
То ня хвалі на моры бушуюць—
То грамады працоўных людзей
Сабе лепшую долю будуюць.

Укол руйнуюцца уціску муры,
Ападаюць жалезныя краты,
Дні прыгонныя цяжкай пары
Адыходзяць у вечныя страты.

А сьлядамі Комуна ідзе,
Панаваньне навекі будуе...
І жыцьцё, нібы пушча, гудзе,
І жыцьцё, нібы мора, бушуе.

(„Будаваньне“).

Такім чынам, праца выяўляецца песьняром у розных аспэктах: паказана вясковая праца, абмалявана праца рамесьніка, даны абразкі фабрычна-заводзкага жыцьця, адлюстрованы творчы ўздым сучаснасьці.

Але, зарысоўваючы рознастайныя малюнкі працы, пісьменьнік заўсёды дае ім пэўнае ідэёва-эмоцыянальнае асьвятленьне. Папершае, ён

выяўляе розную значымасьць працы ў залежнасьці ад соцыяльных умоў. Ва ўмовах соцыяльнага прыгнечаньня праца—цяжкое ліха. Яна ахвяроўвае чалавека на жыцьцё нявольніка, прыкутага да свайго варстату і ў вусны якога поэта ўкладае гэты вядомы глыбока сумны прыпеў:

Шоргай, сабачка, паволі,
Скуру паважна скрабі,
Нам не пазбыцца нядолі,
Што ты сабе ні рабі.

Наадварот, у нашых умовах соцыяльнага вызваленьня праца набывае сваё сапраўднае значэньне: яна—творчы акт, яна—крыніца радасьці і задаваленьня, і цяпер у поэты ўжо зьяўляецца і іншы зварот да працы; ён у радасным натхненьні зазначае:

Красуй, ядрань, ўбірайся, праца,
Ў адзеньні сьветлыя вянчаньня,
Ідзі к жыцьцю, ў яго палацы,
Сваё ўзмацоўваць панаваньне.

Так, праца ў жалобнай вопратцы нядолі і праца, апранутая „ў адзеньні сьветлыя вянчаньня“,—вось тыя соцыяльныя полюсы, якія выяўлены поэтам у разрэзе данай тэмы. Адначасна Гартны высьвятляе моральна-психолёгічнае і соцыяльна-психолёгічнае значэньне працы. Яна—этычная падстава існаваньня кожнага чалавека, зьвязанага з вытворчай клясай. Беспрацоўны гарбар, „гарбар на вандроўцы“, адчувае сябе лішнім у сьвеце, для яго жыцьцё траціць свой сэнс, сваё конкрэтнае напаўненьне; небарака сумна разважае:

І ня тое, што работа
Голад прыпыняе,
Ва мне родзіць ўсё клапоты,
Й нэндза забірае,—
Не, ня тое, хопе з гэтым
Сіл ва мне зьмірыцца,
Але тое. што ля сьвету
Нечым прыгадзіцца;
Што задарам марна гіне
Хэнць мая й ахвота
Дні і ночы няўпынна
Аддаваць рабоце...
Няма працы... Цяжка гэта
Мне цярпець біз меры,
Бо ў ёй зоў мой, мая мэта,
Ў ёй спадзеў і вера.

У гэтых сумных разважаньнях добра схоплена псыхолёгія працоўных мас, для якіх работа—галоўная моральная падстава жыцьця. Калі ў пляне індывідуальнага існаваньня праца дае жыцьцю пэўнае этычнае напаўненьне, дае яму сэнс і мэту, то ў пляне грамадзкім праца адыгрывае ролю зьвязваючага цэмэнту, які злучае паасобных індывідуумаў у суцэльны колектыў, прасякнуты адзінствам настрою. Гэта солідарнасьць

рабочых на грунце аднолькавага працоўнага быту асабліва трапна паказана пісьменьнікам у яго романе „Сокі цаліны“. Тут малюецца, напрыклад, як гэрой роману Рыгор Нязвычны „падглядаў у хаосе зыкаў, у пары і дыме, у цяжкай духаце—сілу бунту, віраваньне магутных падзей. Разам з атручаным паветрам уліваласяя гэта сіла ў нутро рабочых, віравала, разьюшвала кроў, запальвала прагу, узьнімала пачуцьцё“.

Так абмалёўка працы ў Цішкі Гартнага пераходзіць у абмалёўку рэволюцыйнага ўздыму. Рэволюцыя, яе паступовае нарастаньне зьяўляецца другой стрыжнёвай тэмай пісьменьніка, якая шчыльна спалучана з першай. Гэта другая тэма таксама знайшла ў яго рознастайнае выяўленьне.

Беларускі аўтар, паперша, у тыповых вобразах паказвае нам соцыяльныя ўмовы, якія дэтэрмінавалі рэволюцыйны рух; ім мастацка абмаляваны соцыяльныя супярэчнасьці вёскі і гораду мінулых часоў. Цішка Гартны ня ведае монолітнага сялянства; ён яскрава выяўляе распластаваньне вёскі на кулацтва і бядняцтва. Напрыклад, у романе „Сокі цаліны“ фабульнай падставай зьяўляецца абрысоўка „бацькавай волі“, сямейнага дэспотызму, які прымушае Зосю ахвяраваць імкненьнямі свайго сэрца; але гэта сямейная драма, як зазвычай, у Цішкі Гартнага разгорнута на пэўным соцыяльным фоне, паказаны соцыяльныя спружыны барацьбы кулацтва і бядняцтва, якія абумовілі сабою і сямейнае няшчасьце Зосі, супроць яе жаданьня багатымі бацькамі выданай замуж за кулацкага сына. Аналёгічная ідэёвая схэма барацьбы процілеглых элемэнтаў вёскі пакладзена і ў аснову драмы „Хвалі жыцьця“ і „Соцыялістка“.

Вострым аналізам ускрывае Гартны таксама і соцыяльныя супярэчнасьці дарэволюцыйнага гораду, і тут на першы плян высоўваецца ім змаганьне працы і багацьця. Сакавітымі фарбамі рысуе пісьменьнік соцыяльную прорву, якая аддзяляла эксплёататараў ад прыгнечаных. Ён імкнецца зафіксаваць розныя соцыяльныя шрубы, з якіх складалася кола вялізнай машыны гораду. „Працоўная часьць гэтай машыны,—чытаем мы, напрыклад, у романе „Сокі цаліны“,—вярцелася ў віры творчасьці, у напружным змаганьні за кавалак хлеба. А там, у цэнтры, у багатых кварталах, людзі яшчэ спачывалі пры адчыненых вокнах, у мяккіх пасьцелях, абароненыя другімі ад назойлівых клапот жыцьця. Іх ня будзілі гудкі ды сырэны, ня трывожылі вымаганьні быцьця. Ранак будзіў ваколіцы, пачынаючы з іх працоўны дзень. Горад, як і ўся дзяржава, як усё чалавецтва, дзяліўся па стану людзей на дзьве паловы,—рэзкія, адмяжованыя адна ад другой. Між гэтымі паловамі ляжала глыбокая канава-разьдзел. Жыцьцё нясупынна паглыбляла яе, адначасова варушачы абодва станы“. (П, 180).

Абмалёўка соцыяльных супярэчнасьцяй вёскі і гораду зьяўляецца тым фонам, на якім разгортваюцца ў Цішкі Гартнага падзеі рэволюцыйнага руху. Гэтыя падзеі распадаюцца ў яго на некалькі асноўных моман-

таў: сялянскі аграрны рух, рабочы рух у горадзе, грамадзянская барацьба за Кастрычнік, умацаваньне заваёў Кастрычніка—вось тыя паасобныя стрыжнёвыя лініі, па якіх разьвіваецца ў Гартнага тэма рэволюцыйнага змаганьня.

Сялянскі аграрны рух і рабочы рух асабліва шырока паказаны ў романе „Сокі цаліны". Цішка Гартны, абмалёўваючы жыцьцё мястэчка Сілцоў, выводзіць тут цэлую ґалерэю мясцовых рэволюцыянэраў, абрысоўвае іх дзейнасьць, якая выяўлялася ў пашырэньні проклямацый, у наладжаньні дэмонстрацый, барацьбе з паліцыяй і г. д. Другім топографічным цэнтрам таго-ж роману зьяўляецца горад Рыга, дзе на фоне агульнага гарадзкога жыцьця паказаны рабочы рух: сходкі, наладжаньне дэмонстрацый, агульныя забастоўкі—усё гэта намалявана ў тыповых вобразах, схоплены рытмы, якія прадвяшчалі вялікую лавіну Кастрычніка.

Непасрэднай барацьбе за Кастрычнік прысьвечаны лепшыя старонкі як лірычных, так і эпічных твораў Цішкі Гартнага. Папершае, ім выяўлена героіка рэволюцыі. Гэта героіка—вынік вялікага ўздыму працоўных мас, вялікай напружнасьці іх волі, якая загартавана ў муках жыцьця. У вершы „Работнічая і сялянская рэволюцыя" трапна акрэсьлены даныя крыніцы героічнага патосу рэволюцыі:

Яна прышла ад цяжкіх сох.
Яна прышла з цямні куткоў,—
Хто ў муках дні жыцьця правёў
І ў жыцьці цяжкім век ня мог—
Той к нам яе з сабой прывёў
Пад сьвіст гудкоў, пад вёрт калёс,
Пад голад, холад, недасон,
Адвагай гардай абнясён—
Ваяк чырвоных легіён
Ля бойкі слаўнае узрос.

Поэта захоплены соцыяльным катаклізмам; грымнуўшы наўкол вялікі гром рэволюцыі спараджае ў яго душы адказныя водгукі, і пясьняр у захапленьні кліча:

Гары-ж, агонь Кастрычніка, гары!
Свой промень зыркі раздувай!
Няхай ён зьяе з краю ў край...
Хто сьпіць да гэтае пары,—
УСТАВАЙ!

Пісьменьнік дае нам цэлы шэраг гераічных малюнкаў рэволюцыі. Напрыклад, у апавяданьні „Сымонка-інжынэр" паказаны вялічавы кавалак жыцьця; на глебе, трапна схопленай дзіцячай псыхолёгіі з яе інстынктам насьледваньня, выяўлены героізм рэволюцыі ў трагічным асьвятленьні: абрысавана, як бацька і маленькі яго сынок гінуць у імя аднэй ідэі—вызваленьня ад эксплёататараў. У апавяданьні „Дойдзем, сынок" перад намі зноў выступае рашучасьць працоўных, тут абмалявана бяспрытульнае вандраваньне маці, якая з маленькім сынам кінула сваю сядзібу, каб толькі не апынуцца ў руках белапалякаў. У творы „На

руінах“ паказана, як замест разбуранага старога расьце загартаванасьць працоўных, іх воля да перамогі, імкненьне да пабудовы новага жыцьця.

Калі змоўклі гарматы грамадзянскае вайны, калі шырока разгарнулася савецкае будаўніцтва, Цішка Гартны чула выяўляе гэты рытм новых дзён. Рэволюцыя абмалёўваецца ім ужо не ў сьвяточнай вопратцы, а ў штодзеннасьці напружнага змаганьня за соцыялістычны лад. Лейт-мотыў яго апошняга зборніка „Прысады“—гэта героіка працы па будаўніцтву новага жыцьця.

Так, апошнім зборнікам як-бы замыкаецца кола творчасьці Цішкі Гартнага. Пясьняр пачаў з мінорных песень гарбара, які апяваў сваю гаротную долю працаўніка ў капіталістычных умовах, канчае ён бадзёрым акордам песень таксама ў гонар працы, але толькі працы ўжо ў новых умовах соцыялістычнага будаўніцтва. Ад песень гарбара да зборніка „Прысады“ пройдзены доўгі шлях, але гэты шлях прадстаўляе сабою разьвіцьцё адзінай творчай лініі, адзінай мэтаімкнёнасьці бяз жадных зыгзагаў і адхіленьняў. Уся творчасьць Цішкі Гартнага ад яе вытокаў да апошніх апавяданьняў прайшла пад знакам грамадзкага волюнтарызму. Загартаванасьць волі, рэволюцыйная актыўнасьць прадстаўляюць сабою грунтоўны фактар, які ляжыць у аснове ўсёй мастацкай дзейнасьці пісьменьніка, організуе ўсе яе складаныя компонэнты, надае ёй монолітную суцэльнасьць і органічнасьць.

Мы бачылі, як гэтаму фактару падпарадкаваны ўвесь ідэёвы зьмест творчасьці Гартнага. Дзьве асноўныя тэмы яго—праца і барацьба—перакрыжоўваюцца ў адзіным вузьле актыўнага ўзьдзейства працоўнага чалавека на навакольны сьвет. Чалавек, як творца матэрыяльных каштоўнасьцяй у процэсе працы, і чалавек, як творца новых соцыяльных каштоўнасьцяй у процэсе барацьбы,—гэта дзьве постаці ўлюбёных пэрсонажных вобразаў Гартнага, але гэтыя дзьве постаці па сутнасьці ўяўляюць сабою раскрыцьцё адзінай соцыяльна-псыхолёгічнай катэгорыі рэволюцыйнага волюнтарызму.

У сваіх песьнях гарбар сьпявае:

Я рабочы, гарбар,
Рыцар працы цяжкой,
*Я з жалезнай душой,*
З сэрцам палкім, як жар...
Маю *сілу і гарт*,
Імі грудзі гараць.

Ужо тут вызначаецца ў схэматычных рысах цэнтральны вобраз творчасьці Цішкі Гартнага. Гэта вобраз працоўнага чалавека „з жалезнай душой“, з напружнай сілай волі, з моцнай актыўнасьцю. У ранейшым пэрыодзе сваёй творчасьці Гартны рысуе нам пераважна вобраз чалавека, для якога ўвесь сэнс жыцьця ў працы. „Дэкарт, як вядома, высунуў формулу“: Cogito ergo sum (мысьлю, значыць існую); у першапачатковых пэрсонажаў Цішкі Гартнага гэта формула набывае іншае напаўненьне;

„працую, значыць існую“—так формулюецца жыцьцёвая філёзофія гартнаўскага рамесьніка, які гаворыць аб сабе:

Я гарбар—працаўнік.
*Я жыву—каб рабіць.*

У далейшых пэрсонажаў гэта формула яшчэ больш пашыраецца і паглыбляецца: „змагаюся, значыць існую“—у такую формулу ўкладаецца жыцьцёвая мудрасьць тых шматлікіх рэволюцыянэраў, якія доўгай чарадою праходзяць перад намі ў новэлях і асабліва ў романе Гартнага. Аднаго з сваіх пэрсонажаў данай катэгорыі—Платона Гічку ў апавяданьні „Больш за ўсё“—пісьменьнік характарызуе ў такіх рысах: „Яму здавалася, што рэволюцыянэр не павінен мець жаднае спагады. Усё, што побач рэволюцыі, то бязумоўна ніжэй яе па значнасьці. Так Платон думаў праз доўгі час свайго сьвядомага жыцьця. Дзеля рэволюцыі ён ахвяраваў пачуцьцём каханьня, пакінуўшы без адказу просьбу каханай дзяўчыны не выяжджаць на падпольную працу пры немцах. Дзеля ідэі рэволюцыі ён забываў бацькоў, як і што яны жывуць, як іх становішча пад палякамі“. Рыгор нязвычны, Сёмка і іншыя вобразы рэволюцыянэраў у романе „Сокі цаліны“ належаць да тэй-жа катэгорыі людзей „з жалезнай душой“, гэта пераважна волевыя натуры, унутраное жыцьцё якіх найбольш поўна раскрываецца ў напружаным рэволюцыйным дзеяньні. Але пэрсонажы Цішкі Гартнага далёка не зьяўляюцца адцягненымі схэмамі аднэй душэўнай якасьці; яны—жывыя людзі, якія перажываюць сумненьні, цяжкія колізіі, сутычкі. Яны—людзі ня толькі „з жалезнай душой“, але і „з сэрцам палкім, як жар“. Адсюль вынікае ў Цішкі Гартнага абмалёўка цяжкіх унутраных колізій, праз вогнішча якіх праводзіць ён сваіх герояў; па сваіх вытоках, гэта ў большасьці выпадкаў колізіі інстынктыўнага пачуцьця і доўгу.

Эмоцыянальна-волевыя перажываньні, такім чынам, прадстаўляюць сабою аснову пэрсонажных вобразаў пісьменьніка. Творчай домінанце гэтых перажываньняў падпарадкаваны і іншыя компонэнты творчасьці Цішкі Гартнага.

Літаратурны портрэт будуецца ў яго звычайна на прыёме лейт-мотыву, які адпавядае агульнай волюнтарыцкай установцы творчасьці. Апісваючы надворны выгляд сваіх герояў, пісьменьнік надзяляе іх рухавасьцю, сілай, падкрэсьлівае ў іх выраз волевай мэтаімкнёнасьці, вытрыманасьці. Вось, напрыклад, як малюецца портрэт Лаўрэна Сявені ў апавяданьні „Таварышы“: „Сярэдняга росту, худашчавы з твару, брыты; *рухавы*, з пранізаватым узрокам, *з яўным выразам рашучасьці*“. У портрэце рэволюцыянэра Сёмкі вызначаецца яго самаўпэўненасьць, як вынік волевай вытрыманасьці: „высокі, стройны, з кудрастымі валасамі, сінявокі, белатвары, сьмяшлівы заўсёды, *спакойны ў горы і шчасьці*“...—вось быў Сёмка, гаворыць аўтар. У портрэце Рыгора Нязвычнага нават такая драбніца, як „узмахі рукі, *пружыністыя*, кароткія“, трапна адпавядае

агульнай загартаванасьці героя. Творчая домінанта пісьменьніка, яго эмоцыянальна-валявыя імкненьні. азначаюць сабою і літаратурны пэйзаж Цішкі Гартнага. Даны компонэнт не адыгрывае самастойнай ролі ў творчасьці пісьменьніка. Прырода малюецца ім, папершае, як фон працы; яна ўваходзіць, як адзін з складовых элемэнтаў, у абразкі касавіцы, жніва і іншых процэсаў сялянскай працы. Падругое, прырода бярэцца як антытэза, якая процістаўляецца брыдкім умовам майстэрні. Гэткую антытэзу поэта расчыняе ў сваіх „Песьнях гарбара“:

Там, за вакном, ціха неба сінее,
Сонейка дзіўна і сьвеціць і грэе.—
Я-ж у сьпякоце,
У гразі і ў поце.
Я на рабоце.
Цягнуцца к лесу чароўныя далі;
Лугам зялёным усю землю ўслалі.
як дыванам.
Там ноччу і днём
Вясельле кругом...
А я. адарваны ад гэтай красы,
Запёрты нядоляй ў чатыры сьцяны,
З сабачкай, з нажом
І ноччу, і днём
Стаю за сталом.

Нарэшце, прырода выступае ў Цішкі Гартнага, як суб'ект барацьбы, як носьбітка змаганьня процілежных стыхійных элемэнтаў. Поэта ня любіць рысаваць ідылічных малюнкаў прыроды, яму больш падабаюцца грозныя, магутныя зьявы яе. Адсюль нараджаюцца ў яго малюнкі навальніцы, завірухі, у якіх поэта бачыць сваеасаблівы бунт прыроды; ён, напрыклад, зазначае:

Люб мне ветру посьпеў люты —
Песьні вольнай вызваленьне.
Калі цішы мёртвай путы
Ўсё губляе з аблягчэньнем.

Ня любіць поэта мёртвай цішы ў прыродзе; таксама адпіхае яго ад сябе і „мёртвая ціша“ ў жыцьці людзей. Тымчасам гэта ціша атачала яго ў форме спрадвечнага быту дарэволюцыйнай Расіі. Цішка Гартны ня мог абмінуць гэтага быту, на свае мастацкія палотнішчы ён наносіць і шматлікія, чыста жанравыя, зарысоўкі, але даныя зарысоўкі таксама выяўляюць сваеасаблівую манеру аўтара. Толькі працоўны быт сялянства выклікае да сабе замілаваньне пісьменьніка, у гэтым быце ён выяўляе сваяадменнае хараство, глыбока захаваны эстэтызм працы. Другі об'ект жанравых зарысовак Гартнага—сямейны быт—выступае ў яго ў зусім іншым асьвятленьні, пераважна як адмоўная зьява. Пісьменьнік выкрывае брыдкія падставы сям'і местачковага мяшчанства і кулацтва; ён паказвае нам, што гэта сям'я грунтуецца на дэспотызьме, комэрцыйных разьліках, што яна калечыць жыцьцё чалавека. Зося, героіня роману,

„Сокі цаліны“, абмалёўваецца, як няшчасная ахвяра такога спрадвечнага сямейнага быту. Жанравыя зрысоўкі пісьменьніка ў большасьці прасякнуты духам антымяшчанства. З вялікім засмучэньнем, амаль у сатырычных рысах, абмалёўвае, напрыклад, аўтар мяшчанскую багну местачковага жыцьця: „У Сілцох самыя маленькія здарэньні: як вясельле, радзіны, нават асьвячэньне хаты, ці другія дробныя папойкі, былі нейкімі асобнымі навінамі, аб якіх стараліся праведаць усе мяшчане і аб якіх гутаркі знаходзілася на цэлыя тыдні. У такім ціхім стаячым жыцьці, якое панавала ў Сілцох, і ня дзіва, што ўсякая муха-заваруха: кожнаму надазаляе аднаковасьць да ачамернасьці, набівае адваротную аскому і нават стамляе душэўна“ (І, 1.09). Нават народныя звычаі, як уладзіны, вясельле, не выклікаюць асаблівага захапленьня з боку аўтара; малюнкі гэтых звычаяў пазбаўлены ў яго фэерычнай романтыкі, і тут на першы плян выступае суровая проза жыцьця. Быт абмалёўваецца Гартным у большасьці выпадкаў як мёртвая косная сіла, ён падаецца, як антытэза рэволюцыйнай мэтаімкненасьці.

Такім чынам, літаратурны псэўдонім пісьменьніка добра вызначае ня толькі асноўны характар жыцьця аўтара, але і яго творчасьці, якая разьвівалася пераважна пад знакам рэволюцыйнай загартаванасьці; рэволюцыйны волюнтарызм зьяўляецца асноўнай асаблівасьцю псыхоідэолёгіі Гартнага ў яе клясавай аснове. Сапраўды, мудрасьць інтэлігенцыі супадае з мудрасьцю дэкартаўскай формулы: cogito ergo sum; мысьль, разважаньне, ад якога „бляднее румянец волі“, выяўляе сабою сутнасьць інтэлігенцкай псыхікі. Патос творчасьці такіх чыста інтэлігенцкіх пісьменьнікаў, як Анатоль Фрэнс, Роман Ролян, гэта патос мысьлі, разважаньня. Філёзофія клясаў зыходзячых апускаецца звычайна да пустога гедонізму казытаньня нэрваў. Сэнс жыцьця яны бачаць толькі ў асалодах, асабліва ў каханьні. Духам гедонізму прасякнута, напрыклад, усё мастацтва ў тым ліку і літаратура, сучаснай буржуазіі. Недарэмна адзін з найноўшых буржуазных романаў азагалоўлены формулай: amo ergo sum (кахаю, значыць існую). У гэтай формуле увесь сэнс мудрасьці клясаў зыходзячых. Мудрасьць клясаў узыходзячых, працоўных клясаў, гэта—мудрасьць волевага напружаньня,—мудрасьць працы і барацьбы, бо толькі ў гэтым заключаюцца шляхі самасьцьвярджэньня ўзыходзячай клясы.

Даную мудрасьць працоўных шырока і поўна адбіў у сваёй творчасьці Цішка Гартны. Для яго „im Antangwar Tat, „у пачатку было дзеяньне“, а ня лёгос, мысьль. Дзеяньне зьяўляецца краякутным каменем усёй творчасьці Цішкі Гартнага, ад чаго і сама гэта творчасьць робіцца аднэй з цаглінак новай соцыяльнасьці, гэта творчасьць выконвае функцыі жыцьця будаўніцтва, яна заражае нас настроямі барацьбы, загартоўвае нашу волю да канчатковай перамогі.

*ХВ. ІМШЭНЬНІК*

# ЦІШКА ГАРТНЫ, ЯК СЕЛЬКОР „НАШАЕ НІВЫ“ 1908—10 г.

З 1906 г., калі пачалі выходзіць першыя беларускія газэты „Наша Доля“, „Наша Ніва“, пачынае выяўляцца і пашырацца той селькораўскі рух, які ў сучасны момант мае такое вялізарнае значэньне. Гэты селькораўскі рух захапляе рабоча-сялянскую моладзь найболей актыўную і найболей жыцьцёвую пры найменшай магчымасьці ўбачыць свае корэспондэнцыі надрукаванымі. І селькораўскі рух найболей пашыраецца ва ўсе часы існаваньня „Нашае Нівы“, якая тады найболей яскрава адбівала інтарэсы рабочых і сялян Беларусі.

І калі цяпер мы бачым, што няма амаль што ніводнай вёскі, дзе-б ня было селькора, няма ніводнае ячэйкі на прадпрыемстве, дзе-б таксама пяром рабкора не высьвятлялася фабрычна-заводзкае жыцьцё, дык гэта нам сьведчыць аб тым, што наогул у глыбіні сумленнай сьвядомасьці моладзі ляжаць незакранутыя імкненьні да выяўленьня жыцьця свае мясцовасьці, да жаданьня ведаць, што і як робіцца на бацькаўшчыне ў розных яе канцох. Вось чаму нашыя газэты перапоўнены цэлым шэрагам рабселькораўскіх корэспондэнцый аб жыцьці, аб парадках, аб злачынствах, аб прыгодах і наогул аб тым, што зьяўляецца цікавым ня толькі для свайго прадпрыемства ці вёскі, але і для ўсяго насельніцтва.

Калі пачала выходзіць у 1906 г. „Наша Ніва“, мы бачым, што не пасьпела яна яшчэ як сьлед добра дайсьці да свайго організаванага чытача, як ужо сам сабою ўзьнік і зьявіўся значны лік селькораў. Гэта было выклікана патрэбаю апісаць сваё дрэннае жыцьцё, свае няпэўныя парадкі сялянскае беднаты і наогул тое, ад чаго балела і надрывалася грамадзкае сэрца. Вось чаму мы бачым, што мімаволі мазолістая заскарузлая ад працы рука селяніна альбо местачковага рамесьніка выводзіла часам няроўныя літары і апісвала свае скаргі на цяжкае і несправядлівае жыцьцё. І чым больш царскі ўрад, ліквідуючы рэволюцыю 1905 г., ціснуў вольную грамадзкую думку, тым больш ляцела з усіх бакоў корэспондэнцый, поўных злобы і нянавісьці да гэтага ўціску, у „Нашую Ніву“, дзе часам па цэнзурных умовах і не зьяўляліся зусім. Трэба было па тых-жа цэнзурных умовах перарабляць корэспондэнцыі, зьмяншаць гарачыню селькораўскага запалу і друкаваць іх у значна зьмененым выглядзе. Але, ня гледзячы на гэта, „Нашай Ніве“ не бракавала селькораў, яна іх вельмі ўдала зорганізоўвала і па меры магчымасьці друкавала тыя ці іншыя корэспондэнцыі з розных краёў Беларусі. І дарэчы можна сказаць, што „Наша Ніва“ неяк удала падбірала сваіх

„уласных корэспондэнтаў“, выхоўвала іх, вядучы з імі перапіску і часам адказваючы ім у „паштовай скрынцы“ на тыя ці іншыя запытаньні і просьбы. І гэтыя „ўласныя корэспондэнты“, бяднейшыя з бяднейшых, мо' ў глыбіні сэрца і спадзяваліся на якую-небудзь грашовую дапамогу з боку рэдакцыі, але гэтага амаль што ніколі ня было, і ўсе корэспондэнцыі былі бясплатнымі. Выключэньнем, часам, было толькі тое, што селькор іншы раз, ня меўшы грошай на марку, пасылаў сваю корэспондэнцыю даплатным лістом, а рэдакцыя ўжо яго выкупляла.

Рэдакцыя „Н. Н.“ мела шмат вельмі шчырых селькораў, якія не пакідалі яе на працягу ўсяго яе 9-гадовага існаваньня, заўжды супрацоўнічалі ў ёй, адбіваючы жыцьцё свае мясцовасьці і тыя ці іншыя прыгоды яго. Але адным з самых выдатных селькораў і супрацоўнікаў „Н. Н.“, які ў сваіх корэспондэнцыях найбольш супыняўся на соцыяльна-экономічных пытаньнях вёскі, мястэчка і гораду, які бачыў распластаваньне жыхарства і клясавыя супярэчнасьці паміж багатымі і беднымі, які добра разумеў і высьвятляў прычыны гэтага распластаваньня, зьяўляецца наш паважаны юбіляр—Цішка Гартны.

Адчуваючы ў сваім сэрцы вялікую патрэбу высьветліць жыцьцё свайго роднага Капыля, Цішка Гартны з нейкай вялікай радасьцю сустракае дайшоўшую да яго „Н. Н.“, піша ёй свой ліст, у якім выказвае свае ўзбуджаныя пачуцьці грамадзяніна, выяўляючы іх у тым, што ёсьць магчымасьць расказаць сьвету і аб капыльскай долі-нядолі. Пачаўшы пісаць у „Н. Н.“ свае корэспондэнцыі яшчэ ў палове 1908 г. і бачачы іх надрукаванымі, Цішка Гартны з вялікім замілаваньнем і ветлівасьцю піша ў рэдакцыю свой ліст, дзе, між іншым, зазначае: „Як маланка пасрэдзі ночы цёмнай, заблішчала дзеля мужыка „Н. Н.“ Як сонца зьбірае плянэты і комэты, сабрала яна працаўнікоў і сьвяціць-міргае на ўсю Беларусь адна сваім сьветам... Мы, цёмныя і забітыя мужыкі, паддзержымо вас, паслухаемо вашых праўдзівых слоў[1])“. У гэтых кароткіх словах адбілася надзея ня толькі Цішкі Гатнага, але наогул сумленных грамадзян на прызначэньне сялянскае газэты, якая сапраўды можа адбіць на сваіх старонках цяжкое жыцьцё тагачаснага селяніна. „Н. Н.“ адказала Цішку Гартнаму на гэты яго ліст наступным: „Бісмарк сказаў, што газэты—гэта самая вялікая дзяржава, а панашаму—газэта павінна пушчаць сьвет на людзей, каб прабудзіць у іх усе пачуцьці чалавека і грамадзяніна, і кожны чалавек мае ў сэрцы як-бы люстэрка, і вось, калі сьвет газэты якраз зможа трафіць у гэтае люстра і адбіцца назад у „Н. Н.“, тады і нашая газэта мацней засьвяціцца. Няхай-жа будзе больш такіх люстраў!“[2]).

Цішка Гартны добра зразумеў гэтыя словы і добра ўцяміў сутнасьць і прызначэньне газэты. Ён ведаў, што перш за ўсё газэта павінна вы-

[1]) „Н. Н.“ № 2 за 1909 г.

[2]) Ibid.

хоўваць чалавека і грамадзяніна, загартоўваць яго ў клясавым змаганьні і навочна паказаць распластаваньне вёскі. Цішка Гартны ў сваіх корэспондэнцыях і зьвяртае найболей увагі на гэта. Так, ён пачынае высьвятляць неграмадзкія і нечалавечыя адносіны капыльскіх кулакоў, якія не хацелі падтрымаць беднату ў цяжкія гадзіны яе жыцьця.

У сваёй корэспондэнцыі „Мужыкі і мяшчане“ Цішка Гартны апісвае, як казна, іначай кажучы, царскі ўрад пачаў прадаваць чыншовую зямлю, якая здаўна ўжо была за капылянамі.

Бедната, якое, як піша Цішка Гартны, „у пяць разоў болей, як багатых“, мусіла купляць гэтую чыншавую зямлю праз банк з растэрмінаваньнем на 49 год. А багатыры-кулакі панакуплялі добрае зямлі і выплацілі ўсе грошы, за што іх і зрабілі мяшчанамі, а першых—беднату „падвярнулі пад валасьць“, г. зн. запісалі сялянамі. Вось адсюль і пачынаецца найболей яскравае клясавае расплатаваньне капылян, якое вельмі жвава і апісвае Цішка Гартны. „Ад гэтага часу жыцьцё ў нашым мястэчку зусім зьіначылася: мяшчане пачалі глядзець на сваіх суседаў-„мужыкоў“, як на меншых братоў: пачалі часта папракаць іх у мужычстве, а ў душы нават пагарджаць імі“ [1]).

Клясавыя супярэчнасьці паміж кулакамі і беднатою таксама высьветлены Цішкаю Гартным даволі рэальна. Так, ён апісвае, як царскія чыноўнікі спаганялі недаімкі, ды прадавалі апошняе дабро беднаты, а мяшчане ў той час толькі пасьміхаліся, прыгаварваючы: „Няхай аддадуць зямлю нам, то мы выплацім усе грошы“. А калі небарака-бядняк зьвяртаўся да свайго суседа-кулака, каб пазычыць некалькі рублёў, дык той з кпінамі ды са злосьцю адмаўляў. „І неяк цяжка на сэрцы, бачачы і чуючы гэта! Усё роўна, як ня людзі“, канчае сваю корэспондэнцыю Цішка Гартны [2]).

Капыльская бедната, стагнаўшая ад цяжару недаімак, паслала прашэньне самому міністру, каб скасаваў гэтую недаімку, бо няма чым яе выплачваць. На гэта прыйшоў адказ, што скасаваць недаімку няма магчымасьці (так царская ўлада рупілася аб беднаце!), але з кожнага рубля будзе зьнята 28 кап., а за гэта тэрмін выплаты павялічваецца з 49 гадоў да 56. „Вось, кажуць, чаго дабіліся сваімі прашэньнямі! Ляпей было і не прасіць: гэтак і дзецям нашым прыдзецца прабаваць таго самага смаку“ [3]), выказвае Цішка Гартны такім парадкам агульную думку капыльскае беднаты.

Далей Цішка Гартны адбівае ў сваіх корэспондэнцыях „той вялікі смутак“, што ўсюды запанаваў пасьля задушэньня рэволюцыі 1905 г. Рэакцыя выклікала цэлы шэраг нездавальненьняў, упадніцтва, зладзействаў і агульнай нянавісьці. Спыняючыся на павялічэньні выпадкаў зладзейства ў Капылі, Цішка Гартны прыраўноўвае той час да часу

[1]) „Н. Н.“ за 1909 г. № 1.
[2]) Ibid.
[3]) Idib № 2.

„свабод“. „Тады зусім на іншую дарожку нарыхтавалася наша местачковае жыцьцё—нават сварак паменшала і піць меней сталі“. „А цяпер?“... І цёмнымі фарбамі рысуе Цішка Гартны жыцьцё капылян, якое стагнала ад злодзеяў, бо кралі ўсё: сані, коні, драбіны з калёсамі; падушкі, абрусы, хусты; муку, сала і інш., і большасьць злодзеяў заставалася нявыкрытай. Але калі нарэшце ўдалося злавіць трох малайцоў і капыляне агульным сходам пастанавілі саслаць злодзеяў у Сібір ці Архангельск, Цішка Гартны разважае на гэтым пытаньні, як сталы соцыялісты. „...Але тымчасам засудзяць у турму на колькі гадоў. Пасьля выйдуць яны з яе і... зноў будуць красьці. Прападуць сілы маладыя, прападзе за нішто доля дзетак. Каго вінаваціць ва ўсім гэтым? Бацькоў? Бацькі вінаваты—ні слова. Беднасьць і цемната?—і яны вінаваты; толькі ёсьць і другая прычына. У Англіі, напрыклад, дзе ёсьць асобны закон аб малалетніх праступніках—з іх яшчэ маглі-б выйсьці добрыя грамадзяне; а ў нас у Расіі ім адна дарога: з турмы выходзяць яшчэ большымі зладзеямі“ [1]). Так ставіць сваё credo адносна прынцыпу царскае турмы 22-гадовы юнак—Цішка Гартны. Турма, па яго думцы, ня толькі месца кары, але і выхаваньне сумленных грамадзян, прынцып, ажыцьцёўлены ў нас толькі пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі. Акрамя гэтага, крыніцай зладзействаў Цішка Гартны ставіць беднасьць і цемнату, на што зусім не зварочвала ўвагі царская ўлада, і толькі савецкі суд лічыцца з гэтай цяжкай спадчынай царызму.

Высьвятляючы жыцьцё капылян з боку тагачаснай жорсткай царскай політыкі, Цішка Гартны ня мог не закрануць тых надзей, якія акрылялі сялян з абвяшчэньнем „констытуцыі“ і скліканьнем дзяржаўнае думы. Сяляне наогул, а капыльскія ў паасобку думалі, што дзяржаўная дума вырашыць у інтарэсах сялян спрадвеку балючае зямельнае пытаньне. Вялікая надзея была на першую і другую дзяржаўныя думы, але калі царскі ўрад склікаў сваю паслухмяную трэцюю думу, запакаваўшы соцыялістых у далёкую Сібір, мы бачым, што сялянства траціць апошнюю надзею на памешчыцка-абшарніцкую дзяржаўную думу і не чакае ад яе ані якае дапамогі. „Трэцяя дума саўсім згубіла ўвагу нашых мужыкоў“, піша Цішка Гартны. „А яшчэ так нядаўна, як былі першыя дзьве думы, кожны чакаў чагось, кожны спадзяваўся, што вот-вот зорка долі засьвеціць над родным краем і разгоніць цемнату ночы. І скуль бралася тая кемкасьць, тая жывасьць, тая цікавасьць да газэт і кніжок... дзе толькі зойдуцца два, тры мужыкі, так зараз і пытаюць аб думе: „Што чутно,—кажуць, яна зямлёю надзеліць“. Бабы—і тым дума з губ ня зыходзіла... Аб ёй гаварылі, аб ёй казкі складалі... але тое прайшло і аб думе ціха цяпер“ [1]).

І ня дзіва, што стала ціха: бо ў часы першае і другое думы рэволюцыя 1905 г. памірала пад гукі працоўных мас „няхай жыве рэволю-

[1]) „Н. Н.“ 1909 г. № 2.
[2]) Ibid № 9.

цыя!“. А трэцяя дума ўжо паказала яскрава свой рэакцыйны твар і поўную паслухмянасьць цару, што і адбілася на настроях рабочых і сялянскае беднаты, чакаўшай паляпшэньня свайго становішча і прырэзкі сабе зямлі. Але гэтая прырэзка і наогул зямляўпарадкаваньне прыйшлі толькі з Вялікім Кастрычнікам.

Вялікаю заслугаю зьяўляецца для Цішкі Гартнага высьвятленьне на старонках „Нашае Нівы“ сапраўдных настрояў сялянскае беднаты. Ён ня мог ня спыніцца на клясавым стане Капыля і дакладна даводзіць у наступных карэспондэнцыях, з каго складаецца і як жыве насельніцтва Капыля. Як вядома, „мяжою аселасьці“ царскі ўрад пазганяў у беларускія гарады і мястэчкі яўрэйскае насельніцтва. Вось і Капыль быў напалову, як піша Цішка Гартны, населены яўрэямі. З іх толькі 1/6 частка займалі самыя бойкія месцы, мелі добрыя мураваныя дамы, крамы—гэта багатыры. А апошнія 5/6—гэта бедната. „Хаты іх дзеравяныя з малым вокнамі—цякуць і ў зямлю ўрасьлі“, зазначае Цішка Гартны. Вялікае беспрацоўе гнала яўрэяў у Амэрыку, а тыя, хто застаўся, конкуравалі адзін з другім. „Няма ніякага хаўрусу, і кожны стараецца рабіць таней“, піша Цішка Гартны. І толькі цяпер, у нашыя дні, бедната, а ў паасобку яўрэйская, спазнала, якую вялікую моц мае саюз. А ў тыя дні саюз, коопэраваньне беднаты яшчэ толькі зараджаліся, але непамерную яго сілу ўжо адчуваў Цішка Гартны, горача стаяў за яго і, дзе толькі мог, наводзіў думку на аб'яднаньне, якое можа палепшыць цяжкую долю рамесьніка-бедака і гаротнага селяніна.

Другая палавіна капылян—мяшчане і сяляне. І тут, зазначае Цішка Гартны, беднаты значна болей. Бедната шукае сродкаў у заробках (як і бацька Цішкі Гартнага, дый ён сам). Мужчыны ідуць на заробкі ў лес, кабеты прадуць і ткуць. Вось іх скупыя і нікчэмныя заробкі на хлеб. Так і цягнула сваё гаротнае жыцьцё капыльская бедната.

З радасьцю паведамляе „Н. Н.“ Цішка Гартны, што ў іх Капылі адчынілі новую школу для дзяўчат, бо для хлапцоў была і раней двохклясная школа. „Надта весела глядзець, як цэлыя грамады хлопчыкаў і дзяўчат бягуць у школу... Недалёка той час, калі і з капыльскіх жыхароў будуць людзі, каторыя добра павядуць грамадзкія справы“ [1]). Якой сьветлай надзеяй і пэўнай верай у лепшую будучыну адбіваюцца гэтыя апошнія словы Цішкі Гартнага. І ў гэтым ён не памыліўся. З Капыля і ў часы Кастрычніка і пасьля выйшла нямала выдатных грамадзкіх працаўнікоў у большасьці сяброў партыі ЎсеКП(б). І гэта пераважна тая капыльская бедната, якая яшчэ ў тыя часы (1909 г.) аб'ядналася ў рэволюцыйныя гурткі, злажыла ячэйку с.-д. партыі, выхоўвалася ў клясавым змаганьні і поўнасьцю разгарнула свае сілы ў часе організацыі Савецкага Саюзу і асабліва ў часе організацыі Савецкае Беларусі.

[1]) „Н. Н.“ 1909 г. № 11.

Абмалёўваючы жыцьцё Капыля, Цішка Гартны зьвяртае сваю ўвагу і на тое, што ў Капылі ўжо 5 год як ёсьць больніца, што да яе насельніцтва патроху прызвычайваецца, але тут-жа зазначае на тую спрадвечную цемнату, што ўбіта ў сялянскія масы вякамі. „Толькі дрэнна, што не адразу ідуць у больніцу, але тады, як знахар зашкодзіў“ [1]).

Жадаючы ўсебакова абмаляваць жыцьцё свайго роднага Капыля, Цішка Гартны спыняецца і на крэдытаваньні беднаты, якое ў сучасны момант зьяўляецца першачарговаю справаю савецкае ўлады. Гэтае крэдытаваньне бязумоўна выклікалася жыцьцём і ў тыя часы, але царскі ўрад быў глухі да гэтага, і калі адчыняліся банкі, дык толькі не для беднаты. Цішка Гартны з сумам і зазначае: „Маем і банк, але памешчыцкі“ [2]).

Спыняючыся на тым, што зьяўляецца выдатным у жыцьці капылян, Цішка Гартны ня можа не закрануць таго векавечнага спайваньня народу, якое, як сыстэма, ужывалася ў царскія часы. „Ёсьць (у нас) і зусім непатрэбныя рэчы, як манаполька, „рэнскавы пограб“ ды з дваццаць шынкоў (піўных); капыляне туды часта заглядаюць і апошнія грошы прапіваюць“ [3]).

Гэтае п'янства капылян заўжды было балючым пытаньнем у Цішкі Гартнага. Так, у аднэй з сваіх корэспондэнцый [4]) апісвае ён агульны сход капылян, дзе ўзьнімалася пытаньне аб тым, каб пабудаваць у Капылі гарадзкое вучылішча. Болей сьвядомыя людзі стаялі за безадкладнае самаабкладаньне на пабудову памянёнае школы, але людзі цёмныя не хацелі аб гэтым слухаць і крычалі: „Нашто нам гэта вучылішча; будзе з нас і тых, што ёсьць“. Але, ня гледзячы на гэта, нарэшце згадзіліся падпісацца па 2 р. 75 к. з хаты. Па гэтаму пытаньню Цішка Гартны зазначае: „Крыўдна, што гэтак туга прабіваецца сьвет у цёмны народ наш. На гарэлку то шмат болей і лягчэй дабудзе грошы кожны капылянін і не шкадуе, а на вучылішча, дык не! Брыдка, але нічога ня зробіш“. І такое зьявішча мы бачым у тыя часы ня толькі ў адным Капылі. І на гэтым п'янстве ня раз супыняе сваю ўвагу Цішка Гартны, малюючы жыцьцё Капыля. Ён лічыць, што Капыль—гэта „афяра ўсяму ліхому ды нядобраму“.

„Хай дзе якое сьвята ці кірмаш, ці годзяць пастуха, ці пасьля кожнае сходкі,—дык гарэлка, гарэлка і гарэлка без канца, а пасьля гарэлкі сварка, а за сваркаю—бойка“ [5]).

Разглядаючы далей гэтае пытаньне, Цішка Гартны з сумам зазначае, што „шынкі растуць, як грыбы пасьля дажджу“. Але такая рэчаіснасьць ня зьбівае Цішку Гартнага з сьветлага настрою, бо ён бараць біт за леп-

[1]) „Н. Н.“ 1909 г. № 11

[2]) Ibid.

[3]) Ibid.

[4]) Ibid. № 16.

[5]) Ibid. № 19.

шую долю працоўных мас, якія знаходзяцца ў цемнаце. Цішка Гартны ўсё добрае вітае, як першы пачатак лепшага жыцьця. Няхай Капыль „афяра ўсяму ліхому ды нядобраму“, але цераз „Нашу Ніву“ ён даведваецца, што „там і там нашы браты-беларусы адкрылі хаўрусную краму, а там—бібліятэку, а там—банчок“. Гэта наводзіць Цішку Гартнага на сьветлыя думкі, што хутка ўсё добрае пракоціцца па роднаму краю“, што „хваля адраджэньня і самапачуцьця цёмнага беларускага люду выведзе на сьветлы шлях нашу бацькаўшчыну“. І нібыта прадбачыўшы ўжо, што быццам надыходзіць гэты даўно жаданы час, Цішка Гартны зазначае: „Папраўдзе шчасьліў той чалавек, у каго на вачох перабудоўваецца жыцьцё ад горшага к лепшаму“![1]) І гэтае шчасьце і для працоўных мас і для сябе дачакаўся наш славуты пісьменьнік, дзякуючы Кастрычнікавай рэволюцыі.

Наогул, у сваіх корэспондэнцыях Цішка Гартны заўжды выяўляе сьветлы погляд на будучыну. Небясьпечнае „сёньня“ яго ня турбуе, ён верыць, што змаганьнем Беларусь даб‘ецца лепшай долі. А весьці змаганьне прыходзілася тады шмат з кім. Каб спыніць, альбо сьцішыць рэволюцыйны рух на Беларусі, царскі ўрад організоўвае і падтрымлівае ўсялякія чорнасоценныя аб‘яднаньні.

У Вільні ўзьнікла хэўра „Крестьянин“ на чале з вядомым чорнасоценцам С. Кавалюком. З пенаю на губах, разам з другою чорнасоценнаю організацыяй „Белорусским обществом,“ гэты „Крестьянин“ з лаянкай накідаецца на „Нашу Ніву“, і Цішка Гартны дае ім належны адказ: „Эх вы, людзі! Ці вам стрымаць хвалі жыцьця? Што вы варты са сваімі зьядлымі мармытаньнямі і злоснымі крыкамі? Ужо былі зухлейшыя і мацнейшыя за вас, каторым атрутаю паказвалася новае веяньне жыцьця, і то яны не маглі супыніць яго, хоць усяляк прашкаджалі яму. А што вы? Пакіньце злаваць, а то надта брыдка будзе, як жыцьцё пакпіць з вас!.. Але... пакуль што лемянтуйце, кідайцеся на балючую галаву! А мы будзем сьмяяцца з вас і ісьці сваёю дарогаю“[2]).

І тут Цішка Гартны не памыліўся. Новы павеў жыцьця адчуваў ён вельмі ясна, ён верыў у жывыя творчыя сілы рэволюцыі, у перамогу іх над цяжкай рэчаіснасьцю і сам працаваў і другіх заклікаў да змаганьня за новае жыцьцё, за лепшую долю, што прыдуць і абавязкова прыдуць разам з рэволюцыяй. І Цішку Гартнаму ўдалося пасьмяяцца з тых, хто якраз назад, у цемру цягнуў грамадзкае жыцьцё. Рэволюцыя перамагла, бо ўсе пакрыўджаныя чакалі яе і разам з імі чакаў і вёў моладзь рэволюцыйным шляхам Цішка Гартны.

Адбіваючы жыцьцё Капыля, Цішка Гартны спыняецца і на тым страшэнным беспрацоўі сярод рабочых наогул і асабліва сярод бондараў і шаўцоў Капыля, высьвятляючы іх сапраўды гаротнае жыцьцё.

[1]) „Н. Н.“ 1909 г. № 19.

[2]) Ibid.

Спыняецца Цішка Гартны і на тым, што сялянская бедната ня можа прыкупіць сабе зямлі з прычыны таго, што памешчыкі, як, напр., Вайніловіч, назначылі вельмі высокую цану (па 200 руб. за дзесяціну), за якую ніхто ня мог прыдбаць сабе патрэбнага кавалка. Скардзіцца Цішка Гартны і на дарагоўлю, дзякуючы халоднай вясьне 1909 г., калі сена і саломы „саўсім не дастаць“, а жыта паднялося ў цане на 20 проц.

Але калі халодная вясна зьмянілася на цёплае, прыгожае лета, што значна ўзьняло надзеі сялян на лепшы ўраджай, цешыцца Цішка Гартны і з замілаваньнем зазначае гэта ў аднэй з сваіх чарговых корэспондэнцый: „Збожжа, як яравое, так і жыта, парасло каля нас пекнае. Пагода спрыяла, граду ня было. Пагода стаіць ужо другі тыдзень. Вясёлыя хлебаробы цешацца“ [1]).

Апісваючы радасьць сялян, Цішка Гартны спыняецца і на няпрыгодах зямляробаў. Так, у аднэй з сваіх корэспондэнцый зазначае ён, што ў Капылі ўзьнікла нейкая пошасьць на сьвіней, ад якое шмат іх гіне. „Ад гэтае хваробы сьвіньня робіцца нейкай сумнай і мала бярэцца да яды; гэтак прамарнеўшы крыху здыхае“ [2]).

Але ня гэта адно гора сялян апісвае Цішка Гартны. У тэй-жа самай корэспондэнцыі апісвае ён, як са згалеўшых ад розных прычын сялян выбівалі недаімку за леташні год. „...У Капыль прыехала начальства з цэлым войскам дзесяцкіх і стараст, ды яшчэ дабавілі ўрадніка і чалавек з пяць стражнікаў з рэвальвэрамі... Недаімшчыкі прасіліся, жаліліся, цалавалі рукі пісару і старшыні, каб тыя ўважыліся пачакаць, але нічога не памагала: старшыня не даваў выгаварыць і трох слоў, а пісар казаў, што земскі даў загад браць хоць апошнюю кароўку“. І далей апісвае Цішка Гартны самы процэс спагнаньня недаімак, што было пры царскім урадзе тыповым па ўсёй Расіі. „...І жалабна рыкалі кароўкі і нямым голасам скігіталі сьвіньні“, з сумам канчае сваю корэспондэнцыю Цішка Гартны. Сэрца яго баліць за сялянскую беднату, за тое, што для яе няма ніякае палёгкі. Не памагаюць ніякія прыгонныя звычкі, як цалаваньне рук такога-ж самага селяніна, але кулака—старшыні. Але ў гэтым згаленьні сялян Цішка Гартны бачыць і сьветлыя праменьні,—гэта тое, што сяляне павінны шукаць сабе паратунку і гэты паратунак—рэволюцыя.

Ня раз зьвяртае Цішка Гартны ў сваіх корэспондэнцыях увагу на безьзямельле капылян, на тое, што хлеба шукаюць у заробках... „летам з канём, а зімой ідуць хто за краўца, хто за шаўца і гэтым дастаюць сабе амаль не палавіну хлеба“.

Скардзіцца Цішка Гартны ў сваіх корэспондэнцыях, што ў капылян вельмі мала пашы—„на паўтары тысячы кароў—дзесяцін 200 і то палавіна пад сасновым лесам“. Жывёла прыходзіць дамоў галодная, ад чаго і худая. „Ня дзіва, што цана тутэйшай каровы зышла на 25—30 руб.“ [3]).

[1]) „Н. Н“, № 31 за 1909 г.

[2]) Ibid. № 33.

[3]) Ibid. № 34.

Спыняецца таксама Цішка Гартны ў сваіх корэспондэнцыях на жорсткай эксплёатацыі капыльскае беднаты агентамі па пераезду ў Амэрыку. Прадаючы апошні скарб, свае хаты, ехалі некаторыя бедакі ў далёкую Амэрыку, ня ведаючы, што іх гвалтам павернуць назад, бо яны на мелі патрэбных 25 даляраў, альбо 45 руб., без якіх з „выспы сьлёз“ ня пушчалі на бераг. І мусілі такія, страціўшы ўсё, вяртацца назад. І на гаротнае становішча гэтых небаракаў зьвяртае сваю ўвагу Цішка Гартны, зазначаючы: „Цёмны мужык едзе, ня ведаючы нічога, а хітры агент карыстае з яго цемнаты“. Такое зьявішча было наогул тыповым сярод беларусоў, бо безьзямельле, беспрацоўе гналі беднага беларуса куды глядзяць вочы, а чуткі аб вялікіх заробках у Амэрыцы выклікалі захапленьне, з якога карысталіся хітрыя агенты, зарабляючы на перапраўцы даволі значныя грошы [1]).

Высьвятляючы на старонках „Нашае Нівы“ жыцьцё свайго роднага Капыля і падпісваючы свае корэспондэнцыі псэўдонімам „Цішка Гартны“, Цішка Гартны быў выкрыты паліцыяй, якая дазналася хто гэта такі і пачала болей пільна сачыць за ім. Каб пазбавіцца ад такое апекі, Цішка Гартны пачынае падпісвацца другім псэўдонімам—„Капыльскі Бэйгар“, але з бегам часу прымушаны быў зусім пакінуць свой родны Капыль. Пачынаецца вялікая вандроўка Цішкі Гартнага па Беларусі і Літве, аб якой мы таксама даведваемся з яго корэспондэнцый. Часта часам пасьля доўгае цяжкое працы Цішка Гартны пісаў свае корэпондэнцыі дзе папала і заўжды ў свой час адпраўляў іх у „Нашу Ніву“. Мы бачым Цішку Гартнага ў Смаргоні, куды ён трапіў у гарбарню, бо ў Капылі было небясьпечна ад паліцыі, ды да таго-ж ён застаўся беспрацоўным.

Трапіўшы ў Смаргонь, Цішка Гартны аднак доўга там не затрымліваецца і едзе ў Бабруйск, бо яшчэ ў Капылі пачуў, што там для гарбароў работы хапае. З восені 1909 г. Цішка Гартны стаў на сталую работу бэйгара ў Бабруйску і нават даведаўся, што на Украіне—у Палтаве і Умані—ён таксама мог-бы дастаць сталую работу. Але ехаць з роднае Беларусі яму ня было ахвоты і ён нейкі час працуе ў Бабруйску. Якраз у гэты год гарбарскае работы было шмат, і Цішка Гартны зазначае, што рэдка выпадаюць такія часы. „Найбольш працаўнік мусіць цягацца ўсюды і, як ласкі, прасіць работы“.

Трапіўшы ў Бабруйск, Цішка Гартны апісвае гэты горад, адзначаючы дрэнны яго стан. „Горад гэты нішто сабе, але зан дта не абудаваны. Вуліцы небрукаваныя: у сухую пагоду ня можна ўбачыць чалавека праз пыл, а калі здарыцца дождж, дык па вуліцах стаяць цэлыя вазёры вады, па каторых плаваюць гусі і качкі“... І канчае... „калі будуць даглядаць за ўсім, то Бабруйск будзе пекным горадам“ [2]). А цяпер і не пазнаць

[1]) „Н. Н.“ 1909 г. № 43.
[2]) Ibid. № 32.

таго Бабруйску, які апісвае Цішка Гартны 20 год таму назад. „Пекным“ ён стаў толькі пры савецкай уладзе.

У наступных корэспондэнцыях Цішка Гартны яшчэ болей супыняецца на Бабруйску, апісвае жыхароў яго, нацыянальны падзел іх і асабліва спыняецца на бабруйскіх беларусах, якія насяляюць акраіны гораду. Кінулася Цішку Гартнаму ў вочы тое, што гэтыя бабруйчане-беларусы, ужываючы беларускія звычаі, цураюцца свае роднае беларускае мовы і гавораць нейкаю мяшанаю, „бо гэта, па іх разуменьню, далікатней, пахвальней“. Цішка Гартны, заўважаючы гэта, кажа: „Так і хацелася-б крыкнуць ім: Пакіньце сваю дурасьць, ды дзяржэцеся свайго блізкага роднага, свае беларускае мовы“. На гэта Цішка Гартны, як змаганьнік за беларускую нацыянальную культуру, заўжды зьвяртаў сваю ўвагу. З радасьцю далей зазначае Цішка Гартны: „Але не загінула яшчэ зусім і ў Бабруйску беларуская мова: прыносяць яе сюды вясковыя людзі“. Гэтым ён падкрэсьлівае невычарпальныя крыніцы беларускае мовы, якія цякуць з беларускіх вёсак і да якіх мусіць прыслухоўвацца горад. Ня любіць Цішка Гартны дрэнных зьявішч гораду і высьвятляе іх поўнасьцю. Так пра Бабруйск зазначае, што ўсялякія жулікі і ашуканцы абдурваюць селяніна-беларуса рознымі спосабамі, абы выманіць у яго апошнюю працоўную капейку [1]). Спыняецца Цішка Гартны і на экономічным становішчы Бабруйску, адзначае цану таго часу на ўсялякія продукты, дарагоўлю іх у параўнаньні з другімі гарадамі.

Гэтым прыблізна і абхапляецца селькораўская праца Цішкі Гартнага ў 1909 г.

Выехаўшы з Капыля, ён пакінуў там сваіх намесьнікаў, якія ў сваіх корэспондэнцыях у „Нашу Ніву“ вялі далей працу Цішкі Гартнага, высьвятляючы жыцьцё свайго роднага Капыля. Гэта былі сябры групы згуртаванае Цішкаю Гартным моладзі. З гэтае моладзі цяпер вядомы ўсёй Беларусі дзеячы яе—Алесь Гурло, Чарнушэвіч Гр., Чарнушэвіч Хв. і др.

У далейшым Цішка Гартны не затрымаўся доўга ў Бабруйску, і па наступных яго корэспондэнцыях мы можам прасачыць далейшае яго вандраваньне па Беларусі, якую ён добра вывучаў, працуючы як рабочыгарбар. У канцы 1909 г. Цішка Гартны перабраўся ўжо ў Магілеў, так што рэдакцыя „Нашай Нівы“ ў паштовай скрынцы нават зазначыла яму: „носіць вас па сьвету вецер [2]).

З Магілева Цішка Гартны таксама пасылае свае корэспондэнцыі, апісваючы жыцьцё гэтага гораду. Але неўзабаве ён ізноў апынуўся ў родным Капылі. Так, у № 8 „Нашай Нівы“ за 1910 г. мы можам прачытаць, як Цішка Гартны разважае аб тым, што самыя лепшыя, самыя здольныя пакідаюць сваю старонку і выяжджаюць у Амэрыку.

[1]) „Н. Н.“ 1909 г. № 45.

[2]) „Ibid“ № 15.

„Амэрыка абірае наш родны край“, бо маладыя, здольныя патрэбны нам самім для грамадзкай працы. А гэтае працы патрэбна багата, каб перабудаваць сваю Беларусь.

З Капыля Цішка Гартны зноў едзе ў Магілеў. З Магілеўскай губ. шмат у тыя часы перасяляліся ў Сібір, Цішка Гартны бачыць, як выпраўлялі іх, і ў аднэй з сваіх корэспондэнцый апісвае цяжкую падарож перасяленцаў. „Па колькі ночай чакаюць яны на свабодныя месцы на машыне, валяюцца на падлозе, не раўнуючы, як дровы. Бедныя людзі!“ [1]).

З Магілеву Цішка Гартны пасылае ўжо значна меней корэспондэнцый, чым раней з Капыля. Але па магчымасьці ён стараецца паказаць жыцьцё і гэтага гораду. Спыняецца Цішка Гартны на фэльчарскай школе і зазначае тую несправядлівасьць з боку адміністрацыі да вучняў, вынікам чаго было звальненьне 30 вучняў. Гэта зрабіла такое ўражаньне на звольненых, што адзін кінуўся ў Дняпро, другі таксама бег тапіцца, а адзін трохі пазьней атруціўся [2]).

Далей Цішка Гартны апісвае цяжкае становішча бэйгараў (што вырабляюць скуру з жоўтай на чорную для ботаў) у г. Магілеве: „Гаспадары зрабілі паміж сабой моцны хаўрус. Калі каторы з іх адправіць нялюбага сабе работніка, то яго ўжо ніхто ня прымае і таму прыходзіцца хоць з голаду паміраць“. Такі лёкаут стварылі гаспадары гарбарань.

З прыкрасьцю зазначае Цішка Гартны, што рабочыя не заўсёды ў гэтым кірунку рашуча змагаюцца з сваімі гаспадарамі, а, наадварот— часта нават ім самім дапамагаюць сваімі сваркамі, бойкамі і г. д. Адзначае Цішка Гартны і тое, што рабочай солідарнасьці таксама няма, але гэта найбольш сярод адсталых і малакультурных рабочых. Што да заробкаў рабочых, дык Цішка Гартны зазначае, што гарбары зарабляюць нішто і пражыць можна [3]).

Апісваючы жыцьцё г. Магілеву, Цішка Гартны спыняецца і на дробязях, у паасобку на дзейнасьці чарнасоценцаў. Так, 30-IV 1910 г. праз г. Магілеў несьлі мошчы Ефросініі Полацкай. Цішка Гартны, апісваючы гэта, дадае: „Наперадзе ішлі саюзьнікі рускага народу са сваімі знакамі“ і зазначае, што затуманіць сьвядомасьць рабочых і сялян было першай мэтай саюзьнікаў.

6 чэрвеня 1910 г. ў Магілеве здарыўся вялікі пажар: згарэла ў горадзе да 600 дамоў і пасьля на слабадзе—да 250. У часе гэтага пажару згарэла і гарбарня, дзе працаваў Цішка Гартны. З гэтае прычыны ён мусіў зноў пакінуць г. Магілеў і перабрацца ў Жлобін, аб чым мы і даведваемся з яго чарговых корэспондэнцый. І тут стараецца Цішка Гартны апісаць дакладна жыцьцё гэтага мястэчка. Апісвае ён пошасьць халеры, што, пранёсшыся па ўсёй Беларусі, закранула і Жлобін; спыняецца на

[1]) „Н. Н.“ 1910 г. № 15.

[2]) Ibid. № 18.

[3]) Ibid. № 20.

парадках Жлобіна, на загадах паліцыі, якая пачала заводзіць новыя парадкі ў справе торжышчаў, загадаўшы, каб на рынку па нядзелях прадавалі з крам і ваз ў з 12 гадзін дню, бо правілася набажэнства. „А піўныя і шынкі адчынены днём і ноччу“, зазначае тут-жа Цішка Гартны [1]).

Абурваецца ў сваіх корэспондэнцыях Цішка Гартны на правага дэпутата дзяржаўнае думы (ён-жа і сакратар яе) Жлобінскага абшарніка Сазановіча. Зазначае Цішка Гартны, што за тры гады свайго дэпутацтва Сазановіч ні разу не зрабіў жлобінцам ніякае справаздачы. „Сазановіч,— піша Цішка Гартны,—ня толькі ня хоча гутарыць „с необразованными и гордыми мещанами, которые не желают и шапки снять перед своим помещиком“ (уласныя словы Сазановіча), а нават і на вочы не паказваецца“. „Адзін раз, калі мяшчане зайшлі да Сазановіча папрасіць дапамогі на пажарную дружыну,—піша Цішка Гартны,—Сазоновіч адказаў: „Мне ад пажарнай карысьці ніякае няма, бо мая будоўля „каменная“ і яна не згарыць“ [2]). Так дбалі „прадстаўнікі народу“ аб дабрабыце таго мястэчка, дзе яны былі абшарнікамі.

Высьвятляе Цішка Гартны і тыя грамадзкія недахопы, якіх багата было ў м. Жлобіне. Так, ён зазначае, што мост цераз Дняпро ўжо ў вельмі дрэнным стане: „дошкі пагнілі, і цяпер, калі прайсьці, трэба дужа баяцца, што вось-вось дошка зламаецца і пакупаешся ў вадзе, а то і патонеш“. А далей заўважвае: „Новых дошак ніхто ня рупіцца палажыць“ і, як грамадзянін, перасьцерагае: „Ці трэба чакаць, каб хто загінуў, а пасьля ўжо перамяняць дошкі“.

У наступных корэспондэнцыях Цішка Гартны з сумам гаворыць аб дрэнным становішчы больніцы, што на ўсё мястэчка адзін толькі доктар, „а хвароб, як і на ўсёй Расіі, шмат“.

Закранаючы „дробязь жыцьця“, Цішка Гартны ў сваіх корэспондэнцыях спыняецца і на ўласных думах, перажываньнях, і гэтыя корэспондэнцыі трэба залічыць да яго літаратурных твораў і сьмела можна іх назваць вершамі ў прозе. Яны маюць чыста аўтобіографічны зьмест, як, напр., „Адвячоркам“, „На ўсходзе сонца“, „Думкі“, „Скошаны луг“, „Думкі беларуса“ і інш. Як літаратурныя творы, яны будуць разгледжаны асобна.

Разглядаючы селькораўскую працу Цішкі Гартнага, ня можна ня спыніцца на яго корэспондэнцыі, прысьвечанай сьмерці Льва Талстога. У сувязі з тым, што так нядаўна ўвесь СССР, у тым ліку і БССР, сьвяткавалі стагодзьдзе ад дню нараджэньня гэтага вялікага пісьменьніка, прыводжу гэту корэспондэнцыю Цішкі Гартнага цалком.

„Леў Талстой у памяці мужыкоў-беларусаў“.

„Як ведама, увесь культурны сьвет падаў на калені перад магілаю вялікага вучыцеля зямлі Расійскай, перад барцом за праўду і шчасьце на зямлі, якім быў Леў Талстой.

[1]) „Н. Н.“ 1910 г. № 28.
[2]) Ibib., № 29.

Многа для каго яго навука сталася зоркаю праводнай у жыцьці. Усе культурныя людзі, хто чым і як можа, умацоўваюць яго памяць у народзе. А як адгукнуліся на сьмерць Талстога мужыкі, гэты цёмны і забіты, але вялікі і магутны сьвет? Як спаткаў гэты сьвет сьмерць таго, хто аб ім гаварыў усё жыцьцё, хто яму аддаваў усе свае сілы і аб ім думаў перад самай сьмерцю, кажучы да ўсіх тых, хто быў пры ім: „Вы ўсе каля мяне, а таго ня помніце, што *там*—мільёны"... Ды ці знаў-жа мужык глухой вёскі што-небудзь аб ім? О, гэта запытаньне лішняе! Хоць ня чытаючы яго твораў, нават ня бачачы іх, але нейкім пачуцьцём, па цёмных чутках, усюды—у самых глухіх кутках аграмаднай Расіі—імя Талстота вядома і выгаварваецца з вялікай пашанай.

З газэт мы чулі, што мужыкі несьлі яго дамавіну і вянок свой убогі паперадзе ўсіх; нават іншыя здалёк прыяжджалі на яго магілу, пасылалі з вёсак спагадлівыя тэлеграмы. Але большая частка мужыкоў ня ведае яшчэ, што памёр той, аб кім ня раз дзівы даводзілася чуць. Ім газэта нічога ня скажа, для іх Талстой так як-бы не радзіўся, ня ўміраў і не памёр, яны—гэтыя цёмныя мільёны—пазналі яго з казак і, колькі маглі, абясьсьмерцілі яго. Чуткая душа мужыка спляла з казак квяцісты, дзіўны, незьвядаючы вянок на галаву вялікага ваякі за праўду. Усё жыцьцё „добрага Талстога" адбіваецца ў гэтым вянку, як у люстры, хаця ў розных месцах ён розны...

Я хачу падзяліцца адным такім малюнкам Талстога, які злажылі мужыкі-беларусы майго павету (Слуцкага). Гэта—сьветлы, ясны памятнік, і вось як змалявала яго думка нашага селяніна.

„Было гэта так. Калі распусьцілі першую дзяржаўную думу і сабралі другую, колькі дэпутатаў, выбраных у другую думу, паехалі к Талстому ў госьці. Ён іх прыняў шчыра, пасадзіў за стол і пачаў частаваць.

Яды было ўсялякай многа і ўсе пілі і елі, весяліліся. Раптам Талстой устаў з-за стала і пайшоў і прынёс дзьве міскі: адну—з перцам, другую—з макам, ды сказаў, каб новыя дэпутаты пакаштавалі таго і другога. Дэпутаты папрабавалі маку, а пасьля і перцу. Ад перцу ва ўсіх пацяклі сьлёзы і ўсе пачалі пляваццa. Гледзячы на гэта, Талстой весела расьсьмяяўся і сказаў: „Вось бачыце, як горка і праціўна. А мак смачны, нябось?—Так і жыцьцё мужыкоў—горкае, як перац, а ваша і другіх паноў—салодкае, як мак... Дык трэба, мае паночкі, як засядзеце ў думе, старацца за мужыкоў, каб іх жыцьцё зраўняць з макам".

Дэпутаты маўчалі і думалі... Потым паехалі ў думу і пачалі бараніць мужыкоў. Яны так баранілі іх, так баранілі, што думу распусьцілі".

Так расказваюць нашы мужыкі аб Талстом, а побач гэтай казкі-легенды ідуць другія. Ці-ж гэта не найдаражэйшы помнік-вянок на магілу вялікага ваякі за праўду. Ці не пераж ыве ён другіх помнікаў з каменя і гліны? Не, што творыць народ, за гэта няма мацнейшага!

Так беларускія мужыкі абясьсьмерцілі памяць вялікага расійскага пісьменьніка“ [1]).

Гэтак 20 год таму назад стаяў на варце грамадзкасьці наш славуты пісьменьнік Цішка Гартны. Ён высьвятляў у сваіх корэспондэнцыях усялякія хібы жыцьця, якіх было вельмі багата ад тагачаснага царскага ўраду, ад якога гібеў і ня мог спадзявацца на лепшую долю рабочы і селянін-бядняк.

Усяго за гэты час Цішка Гартны напісаў да 70 корэспондэнцый з розных месц, куды закідала яго горкая доля за кавалкам хлеба. Ён зьяўляўся адным з самых актыўных селькораў „Нашае Нівы“ за ўвесь час яе існаваньня. Падпісваў свае корэспондэнцыі найчасьцей сучасным сваім псэўдонімам „Цішка Гартны“, але ўжываў і другія, як, напрыклад, „Капыльскі Бэйгар“, „Цішка“ „Гартны“, „Мешчанін“, Бэйгар“, „Зьміцер“ і інш.

Апрача корэспондэнцый Цішка Гартны вёў даволі частую перапіску з рэдакцыяй „Нашай Нівы“, якая адказвала яму і паасобнымі лістамі і ў сваёй „паштовай скрынцы“.

За паказаны тэрмін Цішка Гартны зьмясьціў у „Нашай Ніве“ багата сваіх вершаў.

Ва ўсіх корэспондэнцыях і наогул ва ўсім тым, што напісана Цішкаю Гартным у „Нашай Ніве“ за 1908—10 г. г., адбіваецца яго пролетарская сьвядомасьць і моцнае імкненьне бачыць Беларусь нацыянальна-вольнай краінай.

У 1909 г. ўлетку Цішка Гартны прыехаў у Вільню, як селькор „Нашае Нівы“. Яго вельмі шчыра спаткалі ня толькі як супрацоўніка, але як і песьняра. Цішка Гартны меў тады магчымасьць пазнаёміцца з іншымі супрацоўнікамі „Нашае Нівы“, са сваімі спаборнікамі-песьнярамі.

Вяртаючыся назад і праяжджаючы праз Менск, Цішка Гартны ня мог не адведаць другога селькора і песьняра „Нашае Нівы“—Якуба Коласа, які тады таміўся ў катаржным Менскім астрозе.

[1]) „Н. Н.“ 1910 г. № 52.

А. ВАЗЬНЯСЕНСКІ

# ЛЯ ВЫТОКАЎ МАСТАЦКАЙ ПРОЗЫ ЯКУБА КОЛАСА [1])

## II

Другое ў колькасным стасунку месца займаюць апавяданьні са зьместам сур'ёзным, бяз жаднага гумору. Гэта група вельмі невялікая. У ёй, аднак, пэўна выступаюць дзьве зусім розныя катэгорыі апавяданьняў. З аднаго боку, мы маем шэраг апавяданьняў з быту тэй-жа самай беларускай вёскі, але яны малююць яе ўжо зусім у іншых фарбах і з боку зусім другіх зьяў яе. Гэтыя апавяданьні становяць сабой дадатак да тых, што ствараюць першую групу, даючы разам з імі больш-менш *усебаковае* апісаньне таго быту беларускага сялянства, які малюецца аўтарам. Калі папярэднія апавяданьні выкрываюць, галоўным чынам, адмоўныя зьявы яго, дык малюнкі другога шэрагу ўжо адбіваюць сур'ёзныя бакі жыцьця. Сюды-ж далучаюцца і творы, прысьвечаныя апісаньню дзяцей. З другога боку, ёсьць некалькі асобных апавяданьняў. З формы яны становяць сабою лірычныя вершы, напісаныя ў прозаічным відзе, а іх зьмест мае ў сабе выклад асабістай філёзофіі аўтара, яго погляды на тое жыцьцё, якое знашло свой конкрэтна-мастацкі адбітак у апавяданьнях папярэдніх груп.

У тэматычным стасунку апавяданьні гэтага роду знаходзяцца ў пэўнай роўналежнасьці з папярэднімі апавяданьнямі; інакш кажучы, таму або іншаму апавяданьню ці шэрагу іх з першай групы тут, у другой, таксама адпавядае адно або некалькі апавяданьняў, са зьместам, блізкім да папярэдніх. Характар тэматыкі твораў гэтай другой групы адбіваецца і на адносінах аўтара да тых зьяў, што ён малюе, а таксама і на яго спосабе абрысоўкі іх. Калі ў першым выпадку яго цікавіў, галоўным чынам, бок літаратурна-мастацкі, гумор твораў, як мастацкае аматарства, а ўжо потым социяльная сутнасьць ды грамадзкая вартасьць зарысовак, то ў другім—яго цікавяць пераважна пытаньні грамадзкага парадку, іх характар ды зьмест, а потым ужо і мастацкае выкананьне іх. Гэта, як будзе відаць з далейшага, знашло свой адбітак і на спосабах мастацкага выяўленьня аўтара.

Роўналежнасьць паміж гэтымі дзьвюма групамі апавяданьняў ідзе і далей. Як там, так і тут у якасьці дзеючых асоб выступаюць і масы—герой колектыўны, і асобныя постаці—герой індывідуальны.

[1]) Гл. „Полымя“ № 8.

У першай групе пісьменьнік дае, як было зазначана, шэраг гумарыстычных малюнкаў больш за ўсё з галіны грамадзка-палітычных настрояў беларускай вёскі ў 1905 годзе. Тут, у другой, процістаўляцца ім два апаваданьні: „Калядны вечар“ і „Бунт“, зьмест якіх датычыць таго-ж самага грамадзка-палітычнага моманту, г. зн. 1905 году, але з свайго характару ён іншы.

У першым з іх—„Калядны вечар“—аўтар дае яскравы малюнак чаканьня ў сям'і лясьніка Тараса прыезду на сьвята яго сына Паўлюка, які вучыўся ў горадзе—у сэмінарыі. Пісьменьнік з вялікай здольнасьцю малюе нарастаньне таго напружнага чаканьня, якое панавала ў сям'і Тараса.

Спачатку ідзе малюнак прыгатаваньня розных страў да сьвята і для спатканьня дарагога госьця.

„Сягоньня Кася раней запаліла ў печы. Белаваты дымок роўна падымаўся ўгару і расплываўся высока ў ціхім марозным паветры. Каля печы ўжо стаяў заслон, накрыты чыстым застольнікам. На адным яго канцы стаяла ражка з цестам, скавароды весела брынчалі па прыпечку, і мяккія, гарачыя аладкі, як ігрушы, кідаліся спрытнай рукою Касі. Уся лава проці печы была застаўлена міскамі, гарнушкамі, гаршчкамі, з усякімі прыпасамі для вячэры... У покуці на сене ўжо важна стаяў гаршчок з куцьцёю. Мужчыны ўхадзіліся і цяпер мыліся ў ночвах. Дзядзька засеў брыцца. Малышы даўно ўжо памыліся, прыбраліся і гатовы былі сесьці за стол... Усе нецярпліва чакалі Тараса і Паўлюка, асабліва Паўлюка“ (43—44).

Потым, пасьля пэўнага адхіленьня, аўтар зноў варочаецца да выяўленьня чаканьня таго самага Паўлюка, але цяпер гэтае чаканьне робіцца больш напружным.

„Усе ў хаце чакалі Паўлюка і аб ім толькі думалі. Дзядзька Андрэй зрабіў яму пекную шафку для кніг і прыбіраў яе каля сьцяны, дзе спаў Паўлюк. Маці паклапацілася напхаць мяккі сяньнік і прыгатаваць чыстую пасьцель. Старшы сын, Алесь, расстараўся другую стрэльбу, каб пайсьці з Паўлюком на зайцоў. А Пятрусь і Міхась вывучылі ўвесь буквар, бо Паўлюк дакляраваў ім за гэта кніжок з малюнкамі“ (44).

Урэшце, зноў пасьля невялічкага перапынку, чаканьне дасягае апошняй ступені.

„На двары забрахаў стары Жук. Усе кінуліся к акну.—Прыехалі! Вот зараз адчыняцца дзьверы і на парозе пакажацца фігура Паўлюка з маленькімі, цёмнымі вусікамі і шчасьлівым тварам. Кася абцерла хвартуком вусны. Лёгкая дрыготка прабегла па яе целу. Міхась з Пятрусём палезьлі на печ. Дзяўчаты стараліся ўзяць што-небудзь у рукі і цікавалі на дзьверы“ (45).

Але настрой раптам і нечакана спадае.

„Цераз некалькі хвілін увайшоў Тарас. Ён быў хмурны. Тарас маўчаў. У хаце зрабілася нудная цішыня. — У турме наш Паўлючок! — як стогн, вырвалася, урэшце, з грудзей Тараса. І ў хаце стала яшчэ цішэй, яшчэ нудней“... (46).

Такім чынам, ёсьць ня толькі пацешныя адносіны да пытаньняў грамадзкасьці і палітыкі з боку беларускай вёскі, але і больш сталыя. Калі першыя выклікаюць толькі ўсьмешку ці нават сьмех і для самых герояў у большасьці выпадкаў праходзяць зусім бяскарна, то другія ўжо выклікаюць сталыя разважаньні і для самое дзеючае асобы канчаюцца цяжкімі вынікамі; сталыя адносіны выклікаюць і сур'ёзныя вынікі. Значыць, ёсьць ня толькі сьмех над жыцьцём, але і барацьба за яго.

Але тут намаляваны лёс толькі аднае асобы, аднаго героя, гэта толькі вузкі кавалак жыцьця, які датычыць толькі асобнага індывідууму, прычым самога малюнку барацьбы, за якую Паўлюка пакаралі, аўтар нават і не падае.

Другое апавяданьне „Бунт" дае ўжо больш шырокі малюнак гэтай якраз барацьбы за соцыяльнае дабро жыцьця, і героем тут зьяўляецца маса, колектыў, а з яе глыбіні выступаюць і асобныя людзі. Ужо зазначалася, што ў апавяданьнях гэтай групы пісьменьніка, галоўным чынам, цікавіць прырода самога зьместу, які ён малюе. З прычыны гэтага, дзеля дасягненьня вядомай поўнасьці ў выяўленьні апісаных ім зьяў, ён больш доўга спыняецца на сваіх героях. Калі раней ён ці зусім праходзіў міма іх, даўшы ім толькі першыя, якія траплялся яму пад руку, імёны, ці-ж кідаў выпадкова некалькі характарызуючых слоў, то цяпер ён зьвяртаецца да іх мінулага, адзначаючы ў іх характары тыя рысы, што знайшлі свой адбітак у падзеях, якія становяць тэму апавяданьня. Часта спосабам характарыстыкі героя цяпер у яго зьяўляюцца ўспаміны, пры дапамозе якіх ён заглядае ў іхнае мінулае.

У названым апавяданьні перад намі выступае дзед Юрка. Ен абмаляваны даволі падрабязна, спачатку ў тэорытычнай характарыстыцы аўтара, а потым і ва „ўспамінах".

„Дзед нікому не баяўся сказаць у вочы праўду; на ўсіх, нават на земскага начальніка, казаў ён „ты". Раз на судзе ў валасным праўленьні земскі сказаў на дзеда, як дзед рэзнуў яму адну праўду:

— Гэта цябе не касаецца, стары бацук!

Гневам заблішчэлі старыя вочы дзеда:

— А што, брат: ня так баліць, як сьмярдзіць?

І, памаўчаўшы, дабавіў з гне́вам, глянуўшы на вусы земскага:

— Ой, падла, хрушч, жабіны начовачкі!—Плюнуў дзед і вышаў з канцыляры" (46—47).

У такім-жа выглядзе характарызуецца і другі герой—Сьцёпка Ляўшун, якому разам з Юркам належыць актыўная роля ў захопе панскай зямлі. Гэта кваліфікуецца з боку ўлады, як бунт, які даводзіць да сумных для сялян вынікаў.

Далей. У папярэдняй групе мы маем цэлую галерэю так званых „п'яных герояў". Сярод іх, як ужо зазначалася, былі і лясьнікі. Гэтым вясёлым пэрсонажам у апавяданьнях другога шэрагу процістаўіцца сталая постаць лясьніка ў апавяданьні пад назвай „Васіль Чурыла". Лёс

гэтага шчырага рабочага глыбока трагічны. Па дарозе з панскага двара дахаты ён замярзае. Малюнак гібелі гэтага героя—псыхолёгію чалавека, які замярзае,—аўтар падае з вялікім мастацтвам. У гэтай сцэне выступаюць у якасьці барацьбітоў Васіль Чурыла ды зімовы сівер. Малюнак гэтай барацьбы запаўняе бадай усё апавяданьне. Ён пабудаваны на звыклым для аўтара спосабе нарастальнай градацыі. Галоўныя этапы яе разьвіцьця наступныя. Васіль вышаў ад пана адзінокі і сумны.

„Сьнег хутка замятаў дарогу, вецер зьбіваў Васіля з ног, а горкія думкі, як пчолы, кружыліся над яго галавою“ (5).

Васіль ішоў далей.

„А вецер усё крапчэў. Васіль адвярнуў каўнер кажушка, глыбей насунуў на вушы круглую шапку, апусьціў стрэльбу руляй уніз, каб не надзьмула сьнегу. Лес скончыўся. Васіль вышаў на адкрытае месца. Ён усё думаў аб сваім жыцьці, аб лясьніковай службе“.

Васіль ішоў ды думаў.

„У тахт думкам Васіля сьпяваў вецер у полі нікому непатрэбныя песьні. Васіль так углыбіўся ў свае думкі, што забыўся, дзе ён, куды ідзе. Васіль стануў, каб разгледзець, дзе ён. Ногі яго па калені ўлазілі ў сьнег... і адразу ахваціў яго страх, самы большы страх чалавечы—страх за сваё жыцьцё. Рукі яго апусьціліся, яму захацелася прысесьці. Але ня сеў Васіль і стаў перабіраць нагамі ў глыбокім сьнягу як спутаны“...

Ён ішоў усё далей і далей.

„Сьнег усё глыбейшы і глыбейшы, а сілы ўсё таюць і таюць. От ён зусім выбіўся з сіл, залез у сьнег па пояс і ня можа ўжо мясіць яго адзервянелымі нагамі“.

Далей паступовая страта прытомнасьці; знадворна яна выяўляецца ў дыялёгу самога з сабою і ў рознастайных зданях, якія праносіліся перад Васілём. Ён нават рвануўся на лясьнічага, твар якога так упарта лез да яго. І ў гэты момант ён адчуў лёгкасьць, „як-бы ён павіс над зямлёю. Ён ціха апусьціўся, стаў лёгка, свабодна ўлазіць у нешта мяккае і халоднае: от як-бы затрымаўся... Чуў ён яшчэ, як лопнуў рамень на яго стрэльбе, як улазіў уніз і... больш нічога ня чуў Васіль. Вецер сьпяваў цяпер „вечны пакой слузе божаму і чалавечаму“ (5—8).

У дадатак да гэтага трагічнага лёсу Васіля і каб эгусьціць цёмныя фарбы ўсяго апавяданьня аўтар падае і некаторыя рысы з мінулага героя (Vorgeschichte). Але ён адзначае ў ім найбольш цяжкія ды трагічныя моманты з жыцьця Васіля. Галеча прымусіла кінуць бацькаву хату і пайсьці за лясьніка. Служыў ён ва ўмовах соцыяльнага прыгнечаньня. Такім чынам, агульнае становішча Васіля ды ўся яго постаць ахутваюцца густым флёрам трагізму. Жыцьцё героя і канец яго цалкам выпраўдваюць гэта. І пісьменьнік трапным спалучэньнем мінулай гісторыі Васіля з лёсам яго цяпер, калі ён увесь праходзіць перад чытачом, надае

свайму апавяданьню, згодна з агульным задумам яго, такую, якраз, трагічную афарбоўку.

Але ёсьць яшчэ адзін момант у апавяданьні, які таксама ўпісаны сюды ня сам па сабе, але для пэўных мастацкіх мэт, г. зн. для ўзмацненьня тых-жа самых трагічных рыс апавяданьня і запаўненьня імі ўсяго яго ад пачатку да канца. Пачынае сваё апавяданьне аўтар з таго, што дае малюнак чаканьня Васіля і непакой у яго сям'і. Гэта надае трывожны настрой апавяданьню з самага пачатку, выклікаючы ў чытача сур'ёзныя адносіны да яго. Vorgeschichte яшчэ больш згушчае становішча і ўпарта падтрымлівае пачуцьцё непакою за героя. Гібель Васіля становіць апошнюю ступень ва ўсім трагізьме апавяданьня.

Лёгкадумнасьці сваіх герояў, як п'яных, так і цьвярозых, іхным павярхоўным адносінам да жыцьця, пра што ён гаворыць так падрабязна ў апавяданьнях першага шэрагу, тут, у другой групе, ён проціставіць свайго героя Андрэя з апавяданьня „Малады дубок“ з яго шырокай ды складанай псыхолёгіяй. Самай бліжэйшай мэтай аўтара тут і зьяўляецца мастацкае выкрыцьцё гэтай якраз псыхолёгіі, бо на яе пэрыпэтыях ён больш за ўсё і спыняецца. Уся фабула гэтага твору надта простая. Андрэй Плех ціхонька сьсек у лесе і завёз дадому малады дубок. Пра гэта даведаліся, і лясьнік Максім, сябра Андрэя, быў звольнены з пасады. Але ўся цікавасьць твору групуецца на ўнутранай барацьбе Андрэя, якую ён вядзе сам з сабой. Нават і лясьнік Максім, як герой, выступае ўсяго толькі, каб больш выразіста ды ярка выставіць постаць Андрэя; увядзеньне гэтага героя, па сутнасьці, можна разглядаць толькі, як мастацкі спосаб, які мае на мэце апісаньне галоўнай дзеючай асобы; сама па сабе гэта асоба, як мастацкі ды ідэолёгічны вобраз, значнай цікавасьці ня мае.

Андрэй пачаў думаць пра свой учынак яшчэ задаўга да таго, як ён зрабіў яго. Ён заўважыў гэты дубок яшчэ даўно—улетку, калі хадзіў па грыбы.

„Як чалавек, каторага агарнулі грэшныя жаданьні, Андрэй наўперад азірнуўся і пачаў аглядаць важнецкае дрэва“ (59).

Ён зараз-жа ўбачыў прыдатнасьць яго для восі ці-ж для паліц на саху. Але страх перад адказнасьцю спыніў яго. Ён пайшоў назад, але зазначыў гэта дрэва. Думкі а дубку не пакідалі яго. Як на грэх, у яго разышліся сьпіцы ў колах, і малады дубок зноў асабліва жыва стаў перад вачыма Андрэя. Праўда, тут прышлі яму на думку яго кіраўнічыя прынцыпы жыцьця, але яны неяк самі сабой былі абыйдзены. Ён кіраваўся ў жыцьці прыказкаю: „не бяры чужога і ня бойся нікога“, але з гэтым дубком так яго „прыперла“, што думкі Андрэя пашлі ў абход гэтаму разумнаму правілу. Курачы люльку, ён разважаў вечарамі:

„Праўда, што ў лесе красьці ня грэх. Гэта ня тое, што залезьці да чалавека ў хату. І хто ў лесе ня злодзей, той удому не гаспадар. Лес—божы, бог яго росьціць і бог гадуе. А князя чорт ня возьме, калі ён,

Андрэй, сьсячэ адзін дубок“ (60). Неяк ён варочаўся з гораду, і ногі самі пашлі па тэй сьцежцы, на якой стаяў гэты „шальмоўскі дубок“. Лес стаяў бяз лісьця, і малады дубок выглядаў цяпер яшчэ раўнейшым, яшчэ прыгажэйшым. Андрэй наважвае яго сьсячы. Выбраўшы зручную часіну, ён падкрадаецца, як злачынца, да таго месца, дзе расьце малады дубок. Перш чым пачаць сячы, ён адчувае складаныя пачуцьці. Яго агартае вялікі страх: „чым бліжэй падходзіў ён да лесу, тым большы чуў ён страх“ (61). Ён адначасна перажывае прыгнятаючае пачуцьцё самоты.

„Ціха, глуха, хоць-бы дзе зык чалавечага голасу. І нейкая жуда ахапіла Андрэя. Пачуваньне маркоты і адзіноты агарнула яго“ (61—62). Да яго прышло разам з гэтым і пачуцьцё каяньня, якое гнала яго назад—дадому; яму здалося, што ён, „як злодзей, крадзецца алзін скрозь гэты змрок, прыхільнага хаўрусьніка кожнага злодзея. Андрэй пачынаў каяцца, што выбраўся на гэту справу... І яму хацелася, каб хто перашкодзіў яму цяпер, каб мець законнае права вярнуцца дамоў“ (62). Але ўсё-ткі ногі самі несьлі яго ў лес. Поўны страху ад жудаснай цішы лесу, Андрэй адважваецца, нарэшце, сьсячы дрэва. Злачынства зроблена. Пачынаюцца новыя пачуцьці. Страх перад адказнасьцю за зроблены ўчынак не пакідае яго. Ён ня можа знайсьці спакою: „спаў кепска і часта абуджаўся, прыслухваўся, што робіцца на дварэ“ (65). Кожны шолах выклікаў у яго трывогу. Яму здаецца, што сьсечанае дрэва дрэнна схавана. Уначы ён выходзіць на панадворак, каб перахаваць яго ў новае месца, але страх перад цішынёй ды цемрай ночы гоніць яго назад у хату. Нарэшце яму ўдаецца заснуць, але ён бачыць цяжкі сон: прышоў лясьнік Максім Заруба і пачаў упікаць яго ў тым, што ён адабраў ад яго кавалак хлеба. З цяжкім стогнам Андрэй прачнуўся. Цяпер упарта пачала стаяць у вачох яго постаць яго сябра Максіма, у дзялянцы якога ён сьсек дубок. Андрэй адчуў, што „нейкая сьцяна“ вырасла між імі. У яго зьявілася пачуцьцё жалю, але чаго—якраз ён і сам ня ведаў. Так праходзіла першая цяжкая і непакойная ноч пасьля злачынства.

Але яшчэ досьвіткам ён ужо схаваў сьсечаны дубок у другое больш надзейнае месца. Пасьля гэтага ў яго пачаўся адплыў прыгнятаўшых яго пачуцьцяў... „Скончыўшы работу, Андрэй акінуў вокам гэты куток, і на твары яго зьявілася ўсьмешка здаволеньня... Ходзячы па дварэ, ён нават мармытаў сабе пад нос нейкую песьню: „Шапка мая магерачка“ (73—74).

Тымчасам пайшлі чуткі аб тым, што лясьніка Максіма Зарубу звольнілі з пасады за сьсечаны дубок. Гэта вестка выклікала новыя складаныя перажываньні ў душы Андрэя. Першая вестка аб яго сябру Максіму прымусіла яго зьбялець: „У сярэдзіне ў яго нешта заныла, як-бы адарвалася, і ён пачуў, як сэрца яго затахтала дробна-дробна“ (74). Яму было зусім ясна, што ён зьяўляецца прычынай Максімавага няшчасьця, хаця адначасна з гэтым ён разважаў сябе тым, што гэта ўсё няпраўда і што ўсё будзе добра. Але чуткі абярнулі ў пэўныя весткі, якія сьцьвярджалі,

што Максіма звольнілі за сьсечаны дубок у лесе. Гэта канчаткова забівае Андрэя, і ў яго робіцца надта дрэнна на сэрцы.

„Моташна было Андрэю слухаць такія гутаркі—проста сьвет здаваўся яму ня мілы. Здаецца, узяў-бы завязаў вочы і ішоў-бы няведама куды, абы знайсьці заспакаеньне, абы ня чуць тэй згрызоты, што была на яго сэрцы“ (76).

Як толькі надышоў вечар, Андрэй бярэ адзін за адным кавалкі дрэва і нясе іх у Нёман.

„Гэта была яго ахвяра сумленьню, гэтым хацеў ён выкупіць свой грэх прад Максімам і вярнуць спакой душы“ (77).

Але, кінуўшы дубок у рэчку, Андрэй толькі „яшчэ больш заблутаўся. Толькі цяпер ён праканаўся, што кідаць дубкі ў ваду была дурная выдумка. І праўда: ці вярнуў ён гэтым Максіма на месца? Ці дастаў сабе спакой?..“ (80). Зноў скруха апанавала сумленьнем Андрэя. Ён вось ужо колькі дзён як туляецца ад усіх людзей і застаўся толькі з самім сабою, са сваімі думкамі, якія так апанавалі яго душой. Убачыўшы неяк у натоўпе Максіма, ён задрыжэў і хацеў быў ісьці ад яго, але „нейкая сіла“ прымусіла яго падыйсьці. Андрэй адчуваў сябе, як злачынца, аднак ён знайшоў у сабе сілы і прызнаўся Максіму ў сваім учынку. Ён пашоў у кантору лясьніцтва і прызнаўся там у сваім злачынстве, просячы вярнуць Максіма на яго ранейшую пасаду.

Аўтар, такім чынам, паказаў у сваім апавяданьні кароткую, але складаную гісторыю рознастайных перажываньняў у душы Андрэя, якая ўсё ўзрастала ды ўзрастала і скончылася пэўным учынкам. У апавяданьне ўведзены і другія героі—лясьнік Максім, аб'езчык, лясьнічы і другія, але ўсе яны, як ужо зазначалася, самі па сабе ня маюць цікавасьці ды ўводзяцца ў апавяданьне, каб стварыць пэўныя абставіны, якія канечна патрэбны для выяўленьня псыхолёгіі злачынца Андрэя.

Вышэй ужо былі адзначаны комічныя бакі ў тым консэрватызьме сялян, які вядзе іх да надмернага прырастаньня да рэчаў. Асабліва, як гаварылася, гэта рэльефна адзначана ў апавяданьні пра кажух дзеда Анісіма. У другой групе апавяданьняў роўналежным папярэдняму зьяўляецца апавяданьне „Старасьць—ня радасьць“. Калі там старасьць набыла пачварна-комічны характар, дык тут яна хаця і сур'ёзная, але ня радасная. Стары дзед Базыль ужо нічога ня бачыць, толькі „вушы яшчэ злучаюць яго з жыцьцём, каторае шуміць і гамоніць усюды, ідзе ды ідзе сваім парадкам, але сам Базыль стаіць з боку, здалёк ад яго... усе, каму яшчэ трэба прайсьці свой круг, шумяць і гаманяць і робяць сваю работу. Адзін толькі Базыль лішні тут і ўсім тут чужы, толькі для аднаго яго міма праходзіць гэтае жыцьцё“ (16—17).

Нарэшце, падлеткам-свавольнікам з апавяданьня „На начлезе“ тут, у гэтым шэрагу, процістаўляюцца вобразы дзяцей, якія выступаюць ужо ў другім выглядзе. Яны праходзяць перад чытачом у апавяданьнях: „У старых дубох“, „Дзеравеншчына“ і „Злучыліся“. Першае з іх дае вобразы

двух сяброў-хлопчыкаў Грышкі ды Базыля. Уся цікавасьць апавяданьня ў псыхолёгічнай абрысоўцы гэтых падлеткаў. Як і ў другіх апавяданьнях гэтай групы, аўтар дае кароткія весткі з іхнага мінулага.

„Базыль і Грышка—найлепшыя дружакі. Даўно ўжо цягнецца іх дружба—як запамятаюць. Дзьве зімы ў школцы сядзелі яны на аднэй лаўцы і трэцяе лета пасуць разам кароўкі“ (20).

Іхнае таварышкаваньне самага пяшчотнага характару; яны дзеляцца адзін з адным пораўну ўсякімі смачнымі ласункамі, якія трапляюць у іхныя торбы; усюль ходзяць разам—лавіць рыбу, купацца; ні з кім яны ня водзяцца: ведаюць толькі сваю кампанію. Часамі яны і паспрачаюцца, але спрэчкі іхныя самага бязьвіннага, хутчэй сьмешнага характару, пасьля якіх яны зноў застаюцца ранейшымі сябрамі. Увесь іх час праходзіць амаль у гутарках; „гаворка ў іх бадай ніколі ня зводзілася, а вакруг было так многа ўсяго, што давала ім страву для гутаркі“ (21). Звычайна іх цікавяць тэмы вышэйшага гатунку—філёзофскія. Іхная дапытлівасьць часта набывае фантастычныя разьмеры. Яны вырашаюць, напрыклад, пытаньне аб тым, ці ёсьць на сьвеце такі волат, што мог-бы падняць цэлы дуб, пад якім яны аддаюцца свамі марам, ды панесьці яго. Але больш займае іх пытаньне аб сьмерці; ім хацелася-б яе—халеру—злавіць ды спаліць: „Тады людзі жылі-б і жылі-б“ (24).

Адзін з гэтых хлопчыкаў Міхалка (апавяданьне „Дзеравеншчына“) трапляе ў горад, дзе ў яго выбіваюць усю дзеравеншчыну і дакладаюць да гарадзкіх парадкаў. Але ён так блізка зросься з непасрэднаю прыродаю, што заўсёды імкнецца пайсьці да яе, на яе прасторы. У яго ўяўленьні яна выступае, як жывая істота, якая ўлівае ў яго сэрца радасьць жыцьця, якая зноў можа злучыць яго з роднымі загонамі. Асабліва яе прывабную сілу ён адчувае ўлетку ды вясной, „калі сіняе неба ласкава сьвеціцца над зямлёю, як маці над калыскаю, дзе ляжыць яе любае дзіцятка. А гэтыя хмурынкі, хто іх ведае, адкуль яны павыпаўзалі і ідуць сабе згодненька, лёгка, такія мілыя, ды прыветныя. От-бы ўзяў ды сеў на іх і паплыў-бы разам з імі, каб толькі далей быць адгэтуль. Сонейка так хорашанька заглядае ў вокны. У садку шчабечуць птушкі. Верабейчыкі з вясёлым чырканьнем снуюць у паветры“ (32—33).

Вобразы гэтых маладых лятуценьнікаў, маленькіх філёзофаў ды романтыкаў, вызначаныя ўсяго ў агульных абрысах у папярэдніх апавяданьнях, набываюць больш закончаны сынтэтычны выгляд у асобе героя апавяданьня „Злучыліся“—Юркі. Гэта тонкая, глыбака поэтычная натура з усімі адзнакамі герояў романтычных твораў. Аўтар малюе яго ў гістарычным разьвіцьці; ён апавядае яго гісторыю ад самага пачатку—зьяўленьня яго на сьвет і даводзіць да канца—да яго заўчаснай сьмерці.

Юрка—хлопчык-сірата. Раньнія гады маленства, з якіх ён пачынае сябе помніць, зьвязваюцца з сумнымі ўспамінамі аб сьмерці маткі. Яго разважалі тым, што „мама пашла далёка-далёка, яна скора вернецца з

гасьцінцамі“... Такім чынам, у Юркі склалася ўяўленьне аб тым, што мама яго далёка, „аж за тым узгоркам, дзе пачынаўся лес і дзе крыжаваліся дарогі“. Але час ішоў, тымчасам у хаце зьявілася мачыха. Неяк ён разьбіў збан з малаком, і страх кары прымусіў яго пайсьці з хаты ў поле і дайсьці да ўзгорка, дзе расла маладая елка. З гэтага моманту, як сапраўдны романтык, ён асабліва блізка зыходзіцца з прыродаю, якая здаецца яму крыніцай радасьці і шчасьця жыцьця. Яна адкрывае перад ім шырокія кругавіды; недарма-ж для яго самае важнае на гэтым узгорку тое, „што адгэтуль можна бачыць усё, што робіцца вакруг“. Яна ўстае перад ім, як гэта зусім звычайна ў романтычных творах, у жывым, адухоўленым выглядзе. Назіраючы за хмаркамі ў блакітным небе, ён пытае сябе пра іх так, нібы іхны лёс такі, як і чалавека: „Адкуль яны ўзяліся? Куды ідуць? Ці ёсьць у іх дзе прытулак на сьвеце?“ (215). Ён знаходзіць сэнс і ў сьпевах дразда; яму здаецца, што той сьмяецца з яго, высьвістваючы песеньку і апавядаючы ў ёй пра яго віну: „Адкуль, малы? З сяла? А што зрабіў? Збан разьбіў? Ага! дадуць! дадуць! Зладзюга-а-а-а-а!“ (216).

Так блізка патаварышкаваўшы з прыродай і так пакахаўшы маладую елачку на ўзгорку, якая была для яго сымболем яго маткі, ён зусім адцураўся сваіх таварышоў маленства; ён замкнуўся, як і належыць романтычнаму герою, у сваёй самоце. У яго быў свой асаблівы сьвет, які знаходзіўся ў ім самым: „То быў сьвет вобразаў, мараў і ўсялякіх думак, сьвет, дзе ён быў поўным гаспадаром“. У шуме сваёй улюбёнай елкі ён чуў жывы і выразны водгалас сваіх настрояў: „У гэту няўцямную людзям мову ўкладаў Юрка свае думкі, сваё сэрца і душу і прыймаў іх ад хвойкі не як творы ўласнай фантазіі, а як праўдзівую мову хвойкі, і задзіўляўся“. У сваю чаргу, ён і сам апавядаў ёй розныя гісторыі. Асабліва „любіў ён часта гаварыць аб тым, як адзін маленькі хлопчык, заснуўшы, пашоў да бога ў госьці, як спатыкаў і як частаваў яго бог, як гулялі з ім сьвятыя анёлы“. Каб суцешыць свайго сябраелку, Юрка паказваў, „як бляюць авечкі, як сьпявае певень,—адным словам, знаёміў хвойку з гутаркаю ўсялякіх жывёлін“ (227—228). Гэтага толькі сябра Юрка ўспамінаў і сумаваў па ім, калі ён, прастыўшы, захварэў і з пакорай чакаў сьмерці: „каб меў крыльлі, здаецца, паляцеў-бы туды ўжываць той сьвежы, чысты і здаровы воздух“ (231). Юрка памёр і крыж на яго магіле быў зроблены з яго улюбёнай елкі.

Усе апавяданьні другой групы, як гэта відаць з папярэдняга, у тэй ці іншай меры даюць шэраг ідэолёгічных выяўленьняў, якія ўвогуле ствараюць пэўнае цэльнае сьветаразуменьне. Паасобныя рысы гэтай ідэолёгіі прымацоўваюцца ў іх да пэўных конкрэтных герояў, і апошнія зьяўляюцца іх жывымі носьбітамі. Больш выразна тыя-ж часьці мастацкага сьветаразуменьня ў іх адзіным абагульненым выглядзе выступаюць у апошняй групе яго апавяданьняў—у апавяданьнях лірычных, але набываюць ужо мастацка-тэорэтычнае асьвятленьне; у іх апавядае ўжо

сам аўтар, і сам ён зьяўляецца выяўнiком ідэолёгічных настрояў, што ляжаць у тым ці іншым творы. Гэта ідэолёгія ахапляе сабою шырокія кругавіды. Аўтар акідае сваім вокам жыцьцё ўсяго сьвету. Аднак у ім больш і часьцей за ўсё яго мастацкую імкнёнасьць прыцягвае родная яму Беларусь. Яна зьяўляецца сымболем і асяродкам яго поэтычнае думкі.

Асабліва ўпарта аўтар спыняецца на ідэях соцыяльнага парадку, сьвет здаецца яму, як гэта падкрэсьліваецца і ў папярэдніх творах, падзеленым на дзьве часткі—сьвет людзей багатых і бедных. Гэтай думкай афарбована ўся лірыка поэты. Яму здаецца, што сама прырода так выразна ды чула адчувае гэту соцыяльную двоістасьць чалавечага жыцьця. У мініятурным прозаічным вершы „Зоркі-анёлы" гэта думка набывае поэтычнае выяўленьне. З аднаго боку, малюнак багацьця, пышнаты і раскошы.

„На скрыдлах лёгкіх быстра панясьліся яны (анёлы) над нашаю сьлёзнаю зямліцаю, над палацамі генэралаў, вялікіх чыноўнікаў, багачоў, над вясковымі хатамі. І ўбачылі яны, як сярод ночы, сярод беднаты людзкой засьвяціліся агнямі, загрымелі музыкаю палацы і самі багачы ў дарагім адзеньні з крыжамі, з мэдалямі на грудзях пасядалі ў салях за шырокімі і доўгімі сталамі—пасядалі есьці дарагія стравы, смагла залiваючыся загранічнымі вінамі" (47).

З другога боку, малюнак процілежны: малюнак галечы, гора ды сьлёз.

„А там, у полі, у полі шырокім, ляжалі пад сьнегам бедныя вясковыя хаты... Дзе-ні-дзе толькі сьвяціліся вузкія маленькія ваконцы. Людзі, замучаныя і прыбітыя цяжкай доляй старога году, спалі—спалі, хто мог, каму не дакучалі раны або голад. Ня было тутака вясельля—няма і цяпер радасьці. Бяда, гора, голад ды холад злучыліся, каб прагнаць з гэтым усякую весялейшую думку, ясьнейшы сон"... (48).

Але мастак думае, што спагада прыроды на баку бедных і абяздоленых:

„І заплакалі зоркі-анёлы над гэтакай доляй, над гэтакім палажэньнем мужыка, бо ўспомнілі яны палацы... заплакалі сьлязьмі скаргі, сьлязьмі жалю"... (48).

Гэта самая думка паўтараецца і ў яго „Думках у дарозе".

Толькі тут яна ўжо выразна зьвязваецца з роднымі для поэты малюнкамі Беларусі; ад выяўленьня агульнага адцягненага характару, якія даюцца ў папярэднім творы, аўтар пераходзіць тут да больш конкрэтных, гаворачы а беларускіх сёлах ды вёсках, а беларускіх панскіх палацах:

„Бедныя вёскі і сёлы без усялякага парадку параскідаліся то там, то сям?.. Пакрывіліся хаты, абвісьлі стрэхі на гумнах, сінія купіны моху таўстою карою ляглі па гнілых саломеных стрэхах... Як нявесела, як няпрытульна пазіраеш ты, мужыцкая вёска, сірата між людзкой будовы!" (5—6). „А поруч з убогімі людзкімі будынкамі ўпёрліся ў неба

панскія палацы, зелянеюць сады, ломяць гальлё яблыкі і грушы; шырока і сьмела раскідаюцца дваровыя палеткі, каласуюцца багатыя панскія нівы, пасуцца сытыя коні, валы-рагалі, тысячы авец рассыпаюцца па полі"... (6).

Гэтыя два процілежныя сьветы, з якіх адзін будаваў свой дабрабыт на няшчасьці другога, у казцы „Жывая вада", калі дазволена будзе бачыць у ім іншасказны сэнс, выступаюць у сымболічным выглядзе, даючы ў той-жа самы час абагульняючы малюнак поглядаў аўтара на сьвет—пэўнага роду соцыяльную філёзофію. Сьвет гуляшчых і багатых людзей у мастацкім уяўленьні поэты выступае ў выглядзе гары, вырасшай на месцы рэчкі, якая давала ўсім людзям свабоднае і поўнае шчасьце; недарма-ж яны і назвалі яе „жывою вадою". З гэтага часу скончыліся радасьці жыцьця: „людзі зьбяднелі; птушкі разьляцеліся, ня чутно ўжо было там вясёлых песень". Уся краіна абярнулася ў „Мёртвае поле".

Але абяздолены народ распачаў барацьбу са сваім ворагам. Ці мала азывалася адважных людзей, якія ішлі на гару ды шукалі жывую ваду; яны бралі рыдлёўкі і абкопвалі гару; „але з гары сыпаліся ў іх каменьні, разьбівалі ім голавы. Каршуны і ястрабы зьляталіся хмарамі, выдзёўбывалі ім вочы. А пугач і сава ўначы сьпявалі ім „вечны пакой" сваім нудным крыкам" (56). Аднак, перамаглі гаротныя. Прырода, як гэта было і раней („Зоркі-анёлы"), стала на іх бок:

„Пралітыя сьлёзы перапоўнілі неба і паліліся назад на зямлю. Ня ў сілах было самае неба стрымаць тыя сьлёзы. Самі яны рваліся туды, дзе радзіліся, патроху падымаліся ўверх. Людзкая жалоба, гора, пакута, усё няшчасьце зямлі, што накапляліся тысячамі гадоў, паліліся цяпер са сьлязьмі аднэю хваляю" (58). Гэта хваля змыла гару, і „Жывая вада" зноў зьявілася, ажывілася „Мёртвае поле".

Крыху збоку стаіць яго апавяданьне пад назвай „Дудар", дзе аўтар выказвае сваё credo а поэце ды аб яго мастацкай рабоце. Яго думкі аб гэтым у поўнай меры адпавядаюць таму, што звычайна разьвівае ў даным выпадку романтычная поэтыка. Той вобраз, што малюе поэта, процістаўіцца таму п'янаму вершавальніку—памоцніку пісара (у апавяданьні „Імяніны"), які профануе поэзію, ставячы яе на ступень вясёлага жарту ды забавы. Перш за ўсё поэзія, на думку аўтара, не дае матэрыяльнага дабрабыту. Дрэнна жывецца „Дудару", меншаму сярод трох братоў, які аддае сябе поэзіі ды сьпявае песьні, доўгія і сумныя, песьні нядолі. Далей, гэта поэзія незразумела для акаляючых людзей; незразумелы ім і мастак, які выклікае ў іх толькі кпіны. Толькі ў прыродзе ён знаходзіць жывы водгук сваім песьням; толькі яна слухае іх: „Ні думак, ні песень яго ніхто ня знаў і ня чуў, ці не хацеў знаць і чуць. Яго жальба прападала, як прападаў туман з усходам сонца, што вісеў над балотам. Разьбіраў яго адзін толькі лес, і лесу адкрываў Меншы Брат свае думкі, бо людзі сьмяяліся з яго слоў і песень"... (8).

Апрача тэмы агульна-літаратурнага характару, у даным апавяданьні бясспрэчна сымболічна выяўляецца і думка чыста нацыянальнага характару—цяжкое становішча беларускага поэты сярод другіх братоў—вялікаруса ды украінца; гэта тое, якраз, становішча, у якім знаходзіцца беларускі мастак дый уся наогул беларуская літаратура ў дарэволюцыйны час, калі, з прычыны пэўнай політычнай сытуацыі, яна ня мела належных магчымасьцяй і спагадных умоў для свайго існаваньня ды разьвіцьця.

Даўшы шэраг малюнкаў ды ідэолёгічных зарысовак сур'ёзнага, станоўчага характару, аўтар, на нашу думку, процістаўіць іх гумарыстычным малюнкам у апавяданьнях першай групы. На гэту думку наводзіць адна байка Я. Коласа: „Зло—не заўсёды зло". Пісьменьнік мо' хоча сказаць, што калі цянёвыя бакі жыцьця, выяўленыя ім у апавяданьнях першага шэрагу, зьяўляюцца злом, дык гэта зло не заўсёды будзе злом, бо, побач з ім, ёсьць і станоўкія вартасьці жыцьця, сталыя бакі яго, якія і становяць прадмет яго апавяданьняў другога шэрагу.

III

Дзьве адзначаныя стыхіі — гумарыстычная і сур'ёзная, — якія так рэзка падзяляюць усіх пэрсонажаў у апавяданьнях Якуба Коласа на два процілежныя лягеры, належным чынам адбіваюцца і ў выяўленьнях тых абставін, сярод якіх дзеюць разгледжаныя намі героі. У гэтай галіне такая-ж самая рэзкая розьніца, як і ў групоўцы дзеючых асоб. Роўным чынам і спосаб выяўленьня гэтых абставін, як і спосабы абрысоўкі герояў, мае розны характар, у залежнасьці ад таго, якой групы апавяданьне—першай ці другой. Тое, што маюцца аднолькавыя адрозьненьні і ў сфэры выяўленьня герояў і фону дзеяньня іх, сьведчыць аб тым, што між гэтымі двума асноўнымі компонэнтамі апавяданьня ёсьць сьціслая сувязь. Яна зусім зразумела, калі прыняць пад увагу тую блізкасьць герояў да наўкольных рэчаў, пра якую ўжо была гутарка раней; у некаторых выпадках, як ужо зазначалася, пэрсонажы зрасьліся з блізкімі ім рэчамі; з прычыны гэтага, усе асаблівасьці іх аблічча знаходзяць свой адбітак і на знадворным фоне іх дзеяньня.

Разглядаючы абставіны, сярод якіх разьвіваюцца падзеі, у агульным аб'ёме канечна трэба адзначыць першую, што кідаецца ў вочы, іх асаблівасьць. У якасьці фону, на якім разьвіваецца дзеяньне, у большасьці апавяданьняў зьяўляецца вясковая прырода. Толькі ў некаторых выпадках на сцэну выступаюць абставіны бытавога характару, з нетраў тэй-жа самай беларускай вёскі. Пры гэтым спосабы рысаваньня мастаком тых ці іншых малюнкаў рэзка адрозьніваюцца. Пры абрысоўцы прыроды ён больш падрабязны, як пры апісаньні бытавой асярэдзіны; тут ён заўсёды абмяжоўваецца толькі пабежнымі адзначэньнямі, ня маючы характару мастацкіх апісаньняў; іх у Якуба Коласа ў разгляданых апавядань-

нях няма зусім. Аўтар ня любіць абмяжоўваць свайго героя ды рух яго рамкамі якой-небудзь штучнай пабудовы, напрыклад, сялянскай хаты ці дому. Яго сапраўдная стыхія ў гэтым выпадку—прырода; тут ён адчувае сябе поўным гаспадаром. У залежнасьці ад гэтага мы дарэмна пачалі-б шукаць у яго апавяданьнях шырокіх малюнкаў, выяўляючых нам быт вёскі ці гораду. Перад чытачом праходзяць толькі пабежныя штрыхі, якія самі па сабе ня маюць вялікага мастацкага значэньня і толькі абазначаюць месца дзеі таго ці іншага апавяданьня.

Апрача таго, кажучы а пашыранасьці ды кароткасьці яго абставінных апісаньняў, канечна трэба адзначыць яшчэ адну характарную рысу. У апавяданьнях другой групы, г. зн. сур'ёзных, ён больш дэталёвы ў апісаньнях малюнкаў прыроды і малюнкаў быту, як у апавяданьнях першага шэрагу. Гэта зусім зразумела, калі прыняць пад увагу, што для гумарыстычных зарысовак падрабязныя малюнкі іхнага фону зусім не дарэчы. Яны, бясспрэчна, скрадалі-б сілу гумору ды распушчалі-б яго напружнасьць; тымчасам, як зазначалася ў свой час, галоўнай мэтай у апавяданьнях першай катэгорыі быў, якраз, гумор, і гумор у самай рэзкай ды яркай форме. Апрача таго, шырокія малюнкі прыроды зусім не гармонавалі-б з характарам тых герояў, што там выступаюць. Для асоб, якія марнуюць час у п'янай весялосьці ці няўмела спраўляючы тую-сюю работу, для асоб бязглуздых і грубых, прырода зьяўляецца незразумелаю і нават непатрэбнаю прыналежнасьцю іхнага жыцьця; пачуцьцё прыроды для іх зусім чужое; наадварот, у апавяданьнях другой групы гэтыя рознастайныя краявіды маюць для сябе поўнае апраўданьне; яны знаходзяцца ў адпаведнасьці як з унутранымі ўласьцівасьцямі героя, так і з агульным спосабам мастака ў гэтых апавяданьнях.

Зарысоўкі бытавога характару, як ужо зазначалася, кароткія ды пабежныя, асабліва ў апавяданьнях гумарыстычных. У іх звычайна аўтар проста адным-двума словамі называе месца дзеі апавяданьня. Гэтая пабежнасьць ды хуткасьць у адзначэньнях суладны з агульнаю хуткасьцю і дынамічнасьцю ўсяго апавяданьня. Сюды належаць, напрыклад, такія адзначэньні-этыкеткі: *хата* старасты Рамана Карэля была паўнютка людзей" („Кантракт"), „Пісар Сямён Гаўрылоўскі даўно ўжо чакаў гасьцей, пахаджваючы па *пакою*, курачы папяросу і пакручваючы вусы" („Імяніны"), „Важна ходзіць па *мястэчку* вураднік" („Соцкі падвёў"), „Загразла ў *балоце* панская брычка" („У балоце"), „Ужо два тыдні, як над *сялом* павіс нейкі страх", „У *хаце* з Мікалаем быў адзін толькі Міхаська"... („Трывога"[1]) і г. д. Пры тым часамі гэта адзначэньне мае малаакрэсьлены характар. Так, у апавяданьні „Калодка пчол" гаворыцца проста: „Тры мужыкі сядзелі за сталом і гаварылі аб пчолах"; заўваг на тое, дзе знаходзіцца гэты стол, зусім няма.

[1]) Таксама ў апавяданьнях: „Андрэй выбаршчык", „Кажух старога Анісіма", „Старыя падрызьнікі", „Сацыяліст", „Выстагнаўся". „Злавіў", „Стараста", „Выбар старшыні", „Так і трэба ашуканцу", „З днеўніка пана Жылка".

Часамі, аднак, аўтар ужывае некаторыя дэталі, але не дзеля об'ектыўнага апісаньня тае ці іншае бытавое зьявы, а з мэтамі іншага характару, агульнымі з тымі, што ляжаць ва ўсім апавяданьні. У апавяданьні „Кірмаш“ мы маем досыць падрабязнае апісаньне кірмаша, на які прыехаў Пятрусь, даваўшы зарок ня піць больш гарэлкі. Але малюнак яго мае тыя-ж самыя мэты гумарыстычнага выяўленьня ўзятай аўтарам тэмы, якія праходзяць праз усё апавяданьне. Гэтае апісаньне толькі падмацняе агульны гумор яго і знаходзіцца ў поўнай адпаведнасьці з характарам дзеючых асоб. У ім ён падтрымлівае тую-ж самую бязглуздасьць, якую так маляўніча выяўляюць героі апавяданьня.

„Мужыкі хадзілі ў лапцях і мясілі балота. Каля вазоў снавалі жыды і жыдоўкі, хто прадаваў масла, хто сала. Тут-жа стаялі цабры, ражкі і вёдры. Усякага было народу. Былі і такія, каторыя нічога ня куплялі і не прадавалі, а прышлі так сабе, „на раздабыткі“... (50).

Перадаючы далей больш конкрэтна той самы малюнак кірмаша, аўтар зноў адзначае дзіўную мешаніну зусім несумяшчальных паміж сабою рэчаў. Гэта акалічнасьць зноў падтрымлівае агульную бязглуздасьць данага малюнку і стварае гумарыстычнае ўражаньне. Аўтар злучае ў адно і прадаўца абразоў, і хадзячую лётарэю, і манапольку.

„Куча народу. У сярэдзіне важна сядзіць рускі, разлажыўшы сваіх багоў. У другой грамадзе народ акружыў жыда з круцёлкаю і пазіраў, як пробаваў хто шчасьця, клаў дзесяткі і грыўні і круціў. Каму пападаўся кубак, каму мыла, каму іншая рэч, а каму, як кажуць добрыя людзі, гула асмаленая. Трэцяя, яшчэ большая грамада народу, стаяла каля дому з вывескаю: „Казённая вінная лаўка № 67“... (50).

Такі-ж самы падрабязны аўтар у апісаньні тых бытавых малюнкаў, што маюцца ў апавяданьнях другога шэрагу. Але гэтыя драбніцы ён ужывае ўжо ня з мэтай гумарыстычнай абрысоўкі, як гэта было ў папярэднім выпадку, але для бесстароньняга выяўленьня тых ці іншых зьяў быту. Сур'ёзнасьць, пашыранасьць ды павольнасьць у гэтых апісаньнях у поўнай меры адпавядае агульнаму характару таго ці іншага апавяданьня.

Вось перад намі хата знаёмага ўжо нам лясьніка Чурылы („Васіль Чурыла“). Апісваючы яе, ён ужывае шэраг яркіх ды шырокіх штрыхоў, якія даюць поўнае і закончанае разуменьне аб ёй.

„З краю лесу стаяла хата лясьніка Васіля Чурылы. Маленькае ваконца хаткі смутным значком пазірала ў поле. Здалёк яно здавалася воўчым вокам. Над самым ваконцам вісла голая вярбіна і глуха шумела, усё роўна як стагнала. Маленькая лямпачка смутна сьвяціла ў хатцы. Агонь баязьліва дрыжэў і чуць заметна скакаў, і пераліваўся змрок па сьцяне. Каля стала сядзела жонка“... (3). Зусім такое-ж падрабязнае апісаньне і хаты лясьніка Тараса („Калядны вечар“, 43).

Гэтым і абмяжоўваюцца малюнкі быту беларускай вёскі. Значна больш малюнкаў прыроды, і гэтыя апісаньні больш рознастайныя

паводле сваіх мастацкіх якасьцяй ды прызначэньняў. Тут зноў у апавяданьнях гумарыстычных мы маем шэраг пабежных малюначкаў, якія называюць толькі месца ці час дзеі.

„Пробаваў Міхась выдумаць песьню пра гарэлку. *У лесе было ціха.* Толькі эха пакацілася і далёка-далёка паняслося „гарэ-э-э-э-лачка"— і прапала недзе за гарою ў „Белых Крыніцах"... („Чорт"); гэтае напамінаньне аб лесе і тое, што ўведзена ўжо пасьля таго, як прайшла пэўная частка апавяданьня, толькі адно і сьведчыць, дзе адбываецца сама дзея апавяданьня. „Трэба было зьехаць з гары. *Гара высокая і прыткая*" („Калодка пчол"). „*Вечар быў хмуры.* Ні зор, ні месяца. Ускаціўшыся на воз, Пятрусь"... ды інш. („Кірмаш").

Часамі гэтыя кароценькія зарысоўкі выконваюць другую задачу, яны ўводзяцца, каб узмоцніць гумор. „Такая была цікавая бойка, што аж месяц залюбаваўся ёй". („Дзяліцьба"). Ці ў больш пашыраным стане гумарыстычны пэйзаж пачынае сабой апавяданьне „Адгукнуўся".

„Ноч была цёмная, ціхая, цёплая. Ні месяца, ні зорак зусім ня было відаць. Праўда, у гэту ноч месяц і не падымаўся, можа і ён пёк сабе дзе-небудзь пірагі і бані к вялікадню, павярнуўшыся сьпіною к зямлі. А што належыць да зорак, то яны хаця і былі на небе, але пазакрываліся хмарамі, можа яны там мыліся ды прычэсваліся—іх дзявочая справа. А ўрэшце ці ня ўсё роўна, толькі ўсюды было ціха і ўсё пазірала ня так, як заўсёды. Неба і зямля абняліся ў змроку і маўчалі. Калі-ні-калі на зямлю спадала колькі капелек дожджыку. Здавалася, што хмарка не магла стрымацца, каб не шапярнуць чагось прыемнага маладой зялёненькай траўцы і маладым лісточкам на дрэвах, каторыя яшчэ нясьмела выглядалі з сваіх калысачак на божы сьвет" (40). Гумор гэтага апісаньня ў тым, што аўтар пераносіць у сваё апісаньне рысы чалавечага побыту, якія мала пасуюць да зьяў прыроды, і надзяляе апошнія такімі дзеямі, якімі займаліся былі людзі ў гэты якраз час— напярэдадні вялікадня. Малюнак ночы, такім чынам, дзякуючы адзінай з усім апавяданьнем эмоцыянальнай афарбоўцы, знаходзіцца ў сьціслай і органічнай сувязі з усім іншым зьместам, становячы адзінае цэлае.

Другі прыклад такога-ж самага гумарыстычнага апісаньня прыроды мы маем у апавяданьні „Недаступны". Зноў малюнак летняга дня, якім апавяданьне пачынаецца, знаходзіцца ў цеснай згодзе з наступным зьместам апавяданьня. Гэты малюнак выпраўдвае і надае сэнсу дзеі героя яго, а само апавяданьне робіць цэльным ды паступовым.

„Быў гарачы летні дзень, адзін з тых дзён, аб каторых гавораць: варыць, як у гаршчку. Далёкая, цёмная палоска лесу абвязалася намёткаю сіняватай смагі, як маладзіца хусткаю, каб ня так пякло сонца. Падыхаўшы зранку вецер сьціхнуў саусім; і здавалася, што ён сьціхнуў не дзеля таго, што гэта так трэба, а з умыслу, на злосьць усім тым сілам, да каторых належала не даваць у зьдзек гарачыні зусім распаранай зямлі і ўсё яе стварэньне. Адным словам, здавалася, што вецер

зазлаваўся, як той дзядзька Пiлiп, каторы, бачачы, што ён адзiн толькi працуе ў хаце, а ўсе туляюцца ад работы, як сабакi ад мух, i што адзiн ён нiчога ня ўскурае,—плюнуў, кiнуў работу i лёг у халадок, сказаўшы: „Чорт-жа вас бяры!“ (126—127).

У паданай вынятцы можна заўважыць той самы спосаб, што i ў папярэднняй. Аўтар ужывае такiя-ж самыя стылiстычныя фарбы, запазычаючы iх з сфэры людзкiх адносiн, якiя мала адпавядаюць характару i духу рысаванага iм малюнку. Гэта спосаб таго-ж самага гумарыстычнага контрасту. Але тут-жа, апрача таго, гумар дасягаецца яшчэ i тым, што пiсьменьнiк карыстаецца спосабам панiбрацкага „сяброўскага“ апiсаньня прыроды („Як той дзядзька Пiлiп“ ды iнш.).

Часамi ў якасьцi гумарыстычнага фактару з рэчаў прыроды ў апавяданьнях Якуба Коласа выступаюць жывёлы. Iхная роля ў даным выпадку, а таксама i характар абрысоўкi знаходзiцца ў сьцiслай сувязi з асноўнай тэмай апавяданьня, становячы асобную галiну адзiнага гумарыстычнага выяўленьня. Так, у апавяданьнi „Старыя падрызьнiкi“ на пэўны час у якасьцi дзеючых асоб выступаюць хатнiя жывёлы, з якiх кожная пасвойму рэагуе на куплю падрызьнiкаў Сьцяпанам, падкрэсьлiваючы ў кожным асобным выпадку недарэчнасьць i непатрэбу гэтага i тым самым наперад зазначаючы, што з яго падрызьнiкаў i ў далейшым ня будзе нiякага толку.

„Чуць толькi паказаўся ён на парозе, як каровы зараз-жа прыветна замыкалi, а конi вясёла загагоналi. Можа яны хацелi сказаць яму: „Дзень добры, дзядзька Сьцяпан! А з чым ты прышоў?“ Убачыўшы падрызьнiкi, усе жывёлы разам пацiхлi. Рыжая карова, зiрнуўшы на лахманы, сумна затрасла галавой i выставiла ногi. Вiдаць, i ёй не спадабалася Сьцяпанава пакупка. Толькi бугай аказаў Сьцяпану як трэба ўвагу. Ведама, мужчына мужчыну заўсёды лепш разьбярэ. Прасунуўшы галаву праз загарадку, ён панюхаў падрызьнiкi, потым прытулiў губы к ноздрам i, задраўшы галаву, доўга стаяў так, выскалiўшы зубы, як-бы *сьмяючыся*.

— Чаго выскаляешся, воўчае мяса? — сказаў нездаволены Сьцяпан i махнуў на бугая рукою. Бык, не апускаючы галавы, адхiлiўся i *сьмяяўся* столькi, колькi лiчыў гэта патрэбным“ (113—114). Як вiдаць з падкрэсьленых намi ў паданай вынятцы слоў (сьмяючыся, сьмяяўся), галоўная мэта аўтара ў даным выпадку была пераважна ў тым, каб, увёўшы ў дзею жывёл, стварыць гэтым яшчэ адзiн спосаб гумарыстычнага выяўленьня ўзятай iм тэмы.

Цi другi прыклад у апавяданьнi „Знайшлi“; тут значную ролю адыгрывае „конiк Мiкалаеў“. Ён выступае з усiмi ўласьцiвымi чалавеку, але мала адпавядаючымi яму, як жывёле, рысамi; такое перанясеньне пэўных уласьцiвасьцяй ды якасьцяй з аднэй галiны зьяў у другую, значна ад яе аддаленую, стварае ўражаньне гумару. На гэтым прынцыпе пабудавана i апiсаньне „конiка“.

„Мікалаеў конік, ня чуючы над сабою цьвёрдай гаспадарскай рукі, пачынаў патрошкі лайдачыць: ён ішоў то адным краем дарогі, то другім, то сярэдзінай, балазе дарога была шырокая; а часамі проста адпачываў і толькі азіраўся, ці зважае гэта гаспадар, ці не бярэцца ён за пугу; або падыходзіў да чужога воза, цягаў сена, смакаваў канюшыну, вялікі быў ласун нашчот торбы з аўсом. Шукаючы аўса, ён скінуў торбу з сольлю з чужога воза. „Купіў-ня-купіў, а патаргаваць можна“,—развважаў Мікалаеў конь. Праўда, ён дастаў сабе па мордзе, ды ці варта на гэта зьвяртаць увагу?“ (145).

Паданыя выпадкі вычэрпваюць усе прыклады скарыстаньня пісьменьнікам малюнкаў прыроды ў апавяданьнях гумарыстычнага характару. Усё-ж другія рысункі пэйзажаў, значна большага ліку і больш вялікія за паданыя, знаходзяцца ў апавяданьнях сур'ёзных. Усе гэтыя апавяданьні ў тэй ці іншай меры насычаны пэйзажнымі зарысоўкамі рознай якасьці. Толькі адно апавяданьне—„Бунт“—зусім ня мае малюнкаў прыроды. Гэта тлумачыцца тым, што самы характар тэмы гэтага апавяданьня—захоп сялянамі памешчыцкай зямлі, кваліфікаваны ўладай, як бунт,—выключае магчымасьць скарыстаньня малюнкаў прыроды; іменна, тэма гэта (бунт) прадпалагае значную дынамічнасьць і хуткасьць у руху апавяданьня; малюнкі прыроды, якога-б характару яны ні былі—контрастуючага ці роўналежнага—зьяўляліся толькі затрымліваючым фактарам у разьвіцьці апавяданьня. Апрача таго, сур'ёзнасьць і небясьпека самой дзеі, натуральна, усе думкі герояў групавалі якраз на ім і выключалі магчымасьць ухіленьня ў бок, напр., любаваньня прыродай ці яднаньня з ёй; таму ўжываньне апісаньняў прыроды магло-б гучэць пэўнай дысгармоніяй.

Агульная ўласьцівасьць, якая характарызуе гэтыя малюнкі ды кідаецца ў вочы перш за ўсё, ёсьць у адухоўленасьці іх. Усе пэйзажы Якуба Коласа выступаюць у жывым выглядзе; яны так сьцісла зьвязаны з чалавекам—героем апавяданьня, што носяць у сабе яго-ж рысы ды ўласьцівасьці. Гэтая адухоўленасьць у кожным асобным выпадку мае свой асаблівы характар, які вызначаецца пераважна індывідуальнымі адзнакамі таго ці іншага твору. Што да самой прыроды і ўласьцівасьцяй пэйзажнага маляваньня, дык яны знаходзяцца ў залежнасьці ад агульных мастацкіх імкнёнасьцяй усяго апавяданьня мастака. Звычайнай зьявай у гэтым сэнсе ёсьць тое, што пісьменьнік свой пэйзаж у стасунку да яго зьместу заўсёды ставіць у цесную гармонічную сувязь з агульнай тэматыкай таго ці іншага мастацкага апавяданьня; пэйзажаў, контрастуючых з асноўным зьместам апавяданьня, у Якуба Коласа няма.

Як відаць з папярэдняга, усе апавяданьні з сур'ёзным зьместам маюць у сабе апісаньне цяжкіх, час-часом сумных зьяў наўкольнага жыцьця. Гэты адбітак тугі ды нуды ляжыць таксама і на малюнках прыроды, з прычыны чаго эмоцыянальная афарбоўка ўсяго апавяданьня ўсюль аднолькавая. У большасьці малюнкаў прыроды нудота іх набывае міс-

тычны, адцягнены характар. У такіх выпадках у іх ёсьць звычайна нейкая таямніца, нейкая сіла, нейкая невядомая дзея.

Што да мастацкіх задач, дзеля якіх пэйзажы ўжываюцца ў тым ці іншым апавяданьні, дык яны двуякага роду. Перш за ўсё малюнкі прыроды служаць у якасьці фону ці абставін, на якіх разьвіваецца дзея апавяданьня. Гэта прызначэньне амаль усіх пэйзажаў. Але гэта задача знадворнага характару, за якою хаваюцца і мэты больш глыбокага ўнутранага характару. Якраз пэйзажныя малюнкі, калі яны папераджаюць дзею апавяданьня сваім зьместам, ствараюць тое эмоцыянальнае ўражаньне, тую эмоцыянальную падрыхтаванасьць чытача, якая потым у далейшым набывае больш шырокае разьвіцьцё. Калі-ж пэйзаж устаўлены ў сярэдзіну дзеі, дык у гэтых выпадках ён падтрымлівае ды працягвае далей ці дапаўняе тую эмоцыянальную настраёвасьць, што маецца ва ўсім апавяданьні.

Так, пэйзаж у апавяданьні „Васіль Чурыла“, якім гэтае апавяданьне пачынаецца, мае ў сабе ўсе адзначаныя агульныя рысы пэйзажнага маляваньня мастака.

„Лес шумеў неяк вельмі нудна. Лес рэдка калі маўчыць. Прывычнае вуха лавіла ў ім галасы, але ніхто яшчэ ня ўнікнуў у тайну яго мовы, толькі сэрца смутна адгадвае ў ім нуду і трывогу. Касматыя яловыя вяршыны трасьліся, як у шалёным танцы. Лапы то апускаліся, то падніаліся, як-бы лавілі нявідзімага ворага, каторы не даваў спакою і застаўляў трасьціся лес“...(3).

У паданай вынятцы лес выступае ў жывым выглядзе, надзеленым уласьцівасьцямі чалавечай прыроды; ён мае свой голас, мае сваю мову, свае душэўныя перажываньні—нуду, трывогу і г. д. Увесь малюнак знаходзіцца ў эмоцыянальнай сувязі з усім іншым мрачным зьместам апавяданьня; яго фарбы такія-ж сумныя, якой сумнай быў і ўвесь лёс Васіля Чурылы. У апісаньні лесу выразна выступаюць элемэнты містычнага характару: лес шумеў *неяк* вельмі сумна, лес уладае *„тайнай“* сваёй мовы, лес змагаецца з якімсьці *„нявідзімым ворагам“*. Прызначэньне гэтага малюнку двуякае. Перш за ўсё, ён адзначае месца, дзе знаходзіцца хата лясьніка Чурылы, куды ён ідзе ад пана. Потым гэты-ж самы малюнак стварае ў чытача зусім пэўны (сумны) настрой, які потым увесь будзе павялічвацца ды разьвівацца. Сум і трывога лесу знойдуць у сьмерці Васіля конкрэтнае апраўданьне.

Гатыя-ж уласьцівасьці пэйзажнага ўяўленьня маюцца і ў другіх прыкладах. Такі вось малюнак паміраючага лета ў апавяданьні „У старых дубох“. Толькі ад паданага вышэй ён адрозьніваецца тым, што мае зусім конкрэтны характар.

„У леце пачыналася ўжо тая чуць значная зьмена, той паварот часу, калі жыцьцё прыроды ідзе на ўбытак. Скошаны луг і раскіданыя курганамі стагі, парыжэўшыя ад дажджоў і сонца, ужо гаварылі аб гэтым уміраньні. Буслы зьбіраліся ў чароды і доўга стаялі па грудах або ляніва

аглядалі лагчыны. Але было заметна, што не на пажытак пазьбіраліся яны сюды, а для якойсьто другой справы. Пастаяўшы, павольна, адзін за адным, уздымаліся яны ўгару, кружыліся там, і кожны круг падымаў іх усё вышэй і вышэй. Там яны спляталіся ў адну фігуру, у адзін шырокі круг, і, не махаючы крыльлямі, плаўна і сагласна, як па камандзе, насіліся ў неаглядным прасторы сініх небясоў... Асірацелыя старыя дубы ў чорных шапках бусьляных гнёздаў спакойна стаялі, не варушачы ніводным лістом, і купалі на сонцы свае адвечныя лапы. На скошаным лузе, недалёка ад дубоў, пасьвіліся сткі... У воздуху было ціха, толькі звон лётнікаў (кузуркі, падобныя да пчол) зьліваўся ў адну доўгую-доўгую аднатонную песьню, і, здавалася, прырода была закалыхана гэтым крыху сумным звонам"... (19—20).

Як і ў папярэднім выпадку, гэты малюнак дае перш за ўсё орыентавальную зарысоўку месца дзеі апавяданьня, а потым характарам сваіх выяўленьняў стварае той сумны настрой, які знойдзе сваю адпаведнасьць ды апраўданьне ў чарговай падзеі з героем аповесьці, Базылём, які ўваліўся ў Нёман.

Часамі мастацкія функцыі малюнкаў прыроды набываюць іншы характар. У апавяданьнях Якуба Коласа ёсьць шэраг прыкладаў, дзе прырода ў выглядзе тых ці іншых зьяў яе выступае ў ролі аднэй з дзеючых асоб поруч з героямі з людзей. У гэтых выпадках ёй надаюцца ўласьцівасьці чалавечай прыроды з усімі яе адценьнямі.

Так у лірычным апавяданьні „Дудар" прырода апынулася ў ролі слухача песень поэты і ў ролі яго протэктара.

„Божыя зоркі, як саромлівыя дзяўчаткі, пазіралі на зямлю праз белыя, тонкія хмаркі і слухалі Меншага Брата, як граў ён на дудцы... Разьбіраў яго адзін толькі лес, і лесу адкрываў Меншы Брат свае думкі, бо людзі сьмяяліся з яго слоў і песень. А з лесам жылося вальней: лес не давіў яго, ня гнаў, як гналі і давілі яго людзі" (8).

Ці ў другім апавяданьні „Злучыліся" ў якасьці аднаго з герояў выступае елка, якая зьяўляецца ў вачох героя, чалавека Юркі, сымболем яго нябожчыцы-маткі. Як да істоты жывой ставіцца да яе і сам аўтар. Ён вылучае цэлы разьдзел (пачатковы) апісаньню гісторыі гэтай елкі, апавядаючы аб тым, як з зернятка, прынесенага ветрам, на ўзгорачку вырасла елка. Яна знаходзіцца ў самых прыяцельскіх адносінах да чалавека—да хлопчыка Юркі. У шуме яе галін яму чулася яе асаблівая мова.

„У гэту няўцямную людзям мову ўкладаў Юрка свае думкі, сваё сэрца і душу і прымаў іх ад хвойкі не як творы ўласнай фантазіі, а як праўдзівую мову хвойкі, і задзіўляўся. А потым сам пачынаў расказываць розныя апавяданьні"... (28).

У паасобных зарысоўках пэйзажаў у Якуба Коласа канечна трэба адзначыць яшчэ адну рысу. Малюнкі прыроды ў прыкладах, паданых вышэй, вызначаюцца статычным характарам. Яны становяць сабой зары-

соўкі, якія зроблены аўтарам з аднаго пэўнага нярухомага месца; у гэтым выпадку яны нагадваюць сабой фотографічныя здымкі, якія перадаюць пэўныя малюнкі прыроды. Але ў некаторых выпадках пэйзажы ў Якуба Коласа набываюць пэўны рух, дынамічнасьць; яны набываюць ужо характар тэй кіноматографічнай стужкі, якая праходзіць перад гледачом. Гэта здараецца ў тых выпадках, калі малюнкі прыроды рухаюцца роўналежна з настроямі ці дзеямі герояў. Найбольш тыповы прыклад такога якраз дынамічнага пэйзажу дае апавяданьне „Думкі ў дарозе“. Тут пэйзаж хутка мільгае перад гледачом роўналежна шпаркаму бегу думкі аўтара.

„Грыміць па карэньнях цялежка, мігацяцца стракатыя вярстовыя слупы, мігаюцца пахіліўшыся абросшыя мхом хваёвыя крыжы наабапал дарогі; бягуць лясы, гаі, мяшаюцца палі, грамадзяцца горы, расьцілаюцца шырокія лугі, блішчаць азёры, срэбрам пераліваюцца рэкі, золотам рассыпаюцца пяскі, глыбокімі, зялёнымі ямамі раскідаюцца балоты“... (3).

Паданыя прыклады маюць у сабе малюнкі пэйзажнага маляваньня, якія цесна зьвязаны з асноўным зьместам апавяданьня, выконваючы ў ім пэўныя мастацкія задачы. Але ў Якуба Коласа, як зазначалася ўжо і раней, маецца шэраг апавяданьняў, у якіх прырода сама зьяўляецца галоўнай дзеючай асобай, запаўняючы сабой увесь іх зьмест. Пры гэтым адухоўленасьць яе дасягае поўнага аб'ёму. Прырода выступае ў выглядзе жывой дзеючай сілы, надзеленай усімі ўласьцівасьцямі адухоўленай істоты. Ужо зазначалася вышэй, як у ролі наглядальнікаў соцыяльнай няпраўды на зямлі выступаюць зоркі („Зоркі-анёлы“), выяўляючы і адпаведныя эмоцыянальныя рэакцыі („І заплакалі зоркі“... і г. д.). У такой-жа ролі жывых дзеючых сіл выступае „Жывая вада“, „Мёртвае Поле“, „Гара“ ў апавяданьні „Жывая вада“, пра што таксама была ўжо гутарка.

Але ня толькі галоўныя зьявы прыроды гэтага апавяданьня зьяўляюцца ў жывым выглядзе, і дробныя рэчы пэйзажу выступаюць у такой самай адухоўленай форме; у ім сьмяюцца кветкі і глядзяцца ў рэчку, як у люстэрка.

„Шырока раскінуліся іх палі, зялёныя травы сенажацяй калыхаліся па ветру, ціха і весела сьмяяліся кветкі, пазіраючы сваімі пахучымі галоўкамі ў раку, каторая паіла ўвесь той уголак і тых, хто жыў і рос там, і давала яму жыцьцё. Усе жылі каля ракі, гэту раку людзі называлі „Жывою вадою“... (55).

Далей прырода ў такім-жа самастойным выглядзе выступае ў апавяданьні „Зло—не заўсёды зло“ і „Казкі жыцьця“, сымболічна ілюструючы тую ці іншую зьяву чалавечага жыцьця з галіны моральных адносін.

У першым яна зьяўляецца ў выглядзе жалуда на старым дубе, які сваім лёсам апраўдвае жыцьцёвую мараль, укладзеную ў самую назву

твору: „Зло—не заўсёды зло“; жалуд трапляе ў тую ямку, што вырыла сьвіньня, якая зьнішчала другіх яго братоў, і вырастае ў дубок.

У другім за герояў выступаюць: адзінокае акінутае дрэва, вецер і ручай. Іхныя дзеі ды ўласьцівасьці, наданыя ім ад прыроды, здаюцца мастацкаму ўяўленьню пісьменьніка, як выраз пэўных унутраных душэўных адносін між імі; яму здаецца, што ўсе яны зьвязаны пачуцьцём каханьня ды зайздрасьці між імі, але пачуцьцём нятрывалым і зьменным у залежнасьці ад акалічнасьцяй. Вецер і ручай моцна пакахалі адзінокае дрэва.

„Вясной і ўлетку часта-часта прылятаў вецер да дрэва, абыймаў яго і сваімі пацалункамі асушаў роску з зялёнага лісьця яго.

Як я люблю цябе маё ты мілае і прыгожае,—гаварыў вецер:—ты слухай толькі мяне і больш нікога“... (235).

Гэтыя прызнаньні выклікалі зайздросныя пачуцьці ў ручайка.

„Ведаеш, рыбка, — журчаў ручаёк:—мне здаецца, што гэты вецер—фальшывы твой прыяцель. Языком ён намеле нямаведама што: ён табе і хмары разгоніць, і сонцу прыкажа,—слухай яго толькі! А ўвосень вунь якія шуткі выкідае! А зімою што робіць?“... (236).

Але становішча зьмяняецца, як толькі зьмяніліся абставіны. Пранеслася навальніца, і тут закаханыя ў дрэва вецер ды ручаёк выявілі свае сапраўдныя пачуцьці. Вецер стаўся „буянам і забіякай“: „Чуць-чуць стрывала беднае дрэва—так рваў і крышыў яго вецер“ (238). Ручаёк таксама „надзьмуўся, насупіўся і выкаціўся з берагоў, запенены ўвесь. Зьняважаны, на яго погляд, дрэвам, ён адышоўся далей“... (239). Тут толькі дрэва праканалася ў крывадушнасьці сваіх прыхільнікаў.

Агляд малюнкаў побыту і прыроды ў поўнай меры пацьвярджае выказанае намі палажэньне аб тым, што цэнтральнае месца ў апавяданьнях Якуба Коласа займаюць героі, а потым ужо зарысоўкі і наўкольных абставін. Калі першыя маюць самаважкае значэньне ў апавяданьнях аўтара, дык другія, наадварот, у большасьці выпадкаў зьяўляюцца ў ролі дапаможных сродкаў, толькі рэдка атрымліваючы самастойнасьць. Пры гэтым малюнкі быту значна больш вузкія ды імгненныя за малюнкі прыроды; першыя даюць усяго толькі некаторыя рысы беларускай вёскі, тымчасам як другія абнімаюць сабой шырокія кругавіды беларускай прыроды.

*Працяг будзе.*

*М. ЗАМЕЖНІК*

# ДА ПЫТАНЬНЯ КУЛЬТУРНЫХ ЗНОСІН З ЧЭХАСЛАВАКІЯЙ

## I

Трэба наперад зазначыць, што ў Заходняй Эўропе надта мала ведалі і ведаюць аб існаваньні беларускага народу, аб яго змаганьнях за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. Толькі ў апошні час пэўныя колы заходня-эўропэйскага грамадзтва, пераважна паступовыя, пачынаюць цікавіцца тымі гістарычнымі падзеямі, якія зараз адбываюцца на ўсходніх і заходніх беларускіх землях. Савецкая Беларусь паступова будзіць у Заходняй Эўропе зацікаўленасьць тым вялічэзным культурным і соцыяльным будаўніцтвам, якое з інтэнсыўнай пасьпешнасьцю адбываецца там дзякуючы Кастрычнікавай рэволюцыі. Заходняя Беларусь зноў будзіць зацікаўленасьць эўропэйскага грамадзтва амаль-што сярэднявяковым уціскам, які ўжываецца ў адносінах да працоўных польскай фашыцкай уладай. Сотні палітычных процэсаў, праз якія прайшлі ўжо за некалькі гадоў у Заходняй Беларусі дзесяткі тысяч найлепшых барацьбітоў за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне беларускага народу, памалу робяць сваю справу. Ня гледзячы на фальшывыя польскія рэляцыі, падаваныя ў друку, эўропэйскае грамадзтва не дае ім веры, і сярод яго памалу ўкараняецца думка, што Польшча—гэта сярэднявяковая катавальня, дзе людзі ня маюць права нават на самыя элемэнтарныя ўмовы для свайго існаваньня. У той самы час прыходзіць па аналёгіі параўнаньне са становішчам працоўных Савецкай Беларусі, і, бязумоўна, гэтае параўнаньне не на карысьць фашыцкай Польшчы. Для такога параўнаньня трэба заходня-эўропэйскаму грамадзтву і прэсе даць адпаведныя факты з жыцьця Заходняе і Савецкае Беларусі. Для інформацыі Заходняй Эўропы аб беларускім жыцьці вялікае значэньне мелі і маюць асабістыя заезды ў заходня-эўропэйскія краіны беларускіх культурных і грамадзкіх працаўнікоў. Такія паездкі далі вялікую карысьць у сэнсе цясьнейшага культурнага збліжэньня з Заходняй Эўропай (я маю тут асабліва на ўвазе Чэхаславакію). Зараз у Чэхаславакіі грамадзкая думка сама пачынае шукаць крыніц для інформацый. Раней гэта цяжка і рэдка калі можна было пабачыць. Пачынаюць пісаць аб беларускім руху ў штодзенных грамадзкіх і літаратурных часопісах, наладжваюць вечары беларускай песьні і музыкі, робяць даклады аб беларускай літаратуры і яе выдатных прадстаўнікох. Так, дагэтуль былі адпаведным спосабам адзначаны

20-гадовыя літаратурныя юбілеі беларускіх пісьменьнікаў: Янкі Купалы, Якуба Коласа і Цішкі Гартнага.

Але найгучнейшым рэхам адбіўся ў чэхаславацкім грамадзтве і прэсе вядомы вялічэзны процэс Беларускай сялянска-работніцкай *Грамады* ў траўні 1928 г. ў Вільні. У траўні месяцы 1928 г. ў найбольшай залі ў Празе на Славянскім востраве адбыўся вялізарны мітынг-протэст проці расправы польскага фашызму над безабароннымі працоўнымі Заходняй Беларусі. Мітынг быў наладжаны Міжнароднай рабочай дапамогай, на які зышлося некалькі тысяч народу. Усе ваколіцы Славянскага востраву былі застаўлены пешай і коннай паліцыяй, якая, пэўна, баялася, каб дэмонстранты не пашлі протэставаць перад польскім пасольствам. На мітынгу быў прыняты протэст і патрабаваньне безадкладна спыніць процэс над Грамадой. Копія рэзолюцыі была паслана польскай уладзе ў Варшаву.

Чэская і нямецкая прэса ў часе процэсу зьмяшчала пэрыодычныя заметкі аб Грамадзе. Некаторыя часопісы нават выдалі спэцыяльныя дадаткі, прысьвечаныя процэсу над Грамадой. Так, напрыклад, нават эндэцкая газэта „Подэбрадзке новіны“ („Подэбрадзкая газэта“) выдала спэцыяльны дадатак аб процэсе Грамады. Апрача гэтага ў Празе была выдана спэцыяльная брошура на францускай мове пад назвай „*Процэс 490*“ з прадмовай проф. Праскага унівэрсытэту Здэнка Нэеўлага. У канцы брошуры быў зьмешчаны протэст проці суду над Грамадой, які падпісала каля 30 выдатных чэскіх вучоных, пісьменьнікаў, рэдактароў газэт і інш. Характэрна, паміж іншым, тое, што гэты протэст падпісаў вядомы чэскі поэта *Махар*, які іграў выдатную ролю ў здабыцьці незалежнасьці Чэхаславацкай рэспублікі. Досыць доўгі час ён быў генэральным інспэктарам чэхаславацкай арміі, на гэтай пасадзе за заслуг атрымаў ад Польшчы вайсковы ордэн. І вось табе—раптам ён падпісаў протэст проці процэсу над Грамадой. Пілюля ня вельмі што смачная для польскага ўраду!

У сучасны момант чэскае грамадзтва больш за ўсё цікавіцца пытаньнямі культурнага будаўніцтва ў Савецкай Беларусі. Так, у вядомым выдавецтве ў Празе „*Покрок*“ мае ў 1929 г. выйсьці „Антолёгія беларускай поэзіі“, у якую ўвойдуць выбраныя творы 10 выдатнейшых беларускіх поэтаў. У зьвязку з 10-годзьдзем існаваньня Савецкай Беларусі „Чэхаславацкае таварыства дзеля культурнага і экономічнага збліжэньня з Новай Расіяй“ рыхтуецца выдаць у студзені 1929 г. спэцыяльны нумар месячнага часопісу „*Новэ Руско*“, прысьвечаны Савецкай Беларусі і яе жыцьцю. У часопісе прымаюць удзел выдатнейшыя чэскія навуковыя і літаратурныя колы. Але апрача гэтага было-б добра, каб да беларускага нумару прыслалі артыкулы аб беларускім жыцьці і выдатныя беларускія вучоныя і літаратары, чым-бы зацікаўленасьць чэскага грамадзтва толькі павялічылася. Аўтару гэтых радкоў самому ў асабістых гутарках давялося пераканацца ў вялікай зацікаўленасьці ў сучасны момант тутэйшых

публіцыстычных і літаратурных колаў у жыцьці Савецкай Беларусі. Такую зацікаўленасьць можна падтрымаць зьмяшчэньнем розных артыкулаў у пэрыодычнай і непэрыодычнай прэсе, надсыланьнем сюды малюнкаў выдатных беларускіх будынкаў, мясцовасьцяй, здымкаў з пастановак беларускіх тэатраў, фільмаў і г. д. Усё гэта можа быць тут лёгка зьмешчана, толькі трэба на гэтую справу зьвярнуць належную ўвагу.

II

Я думаю, што беларускаму чытачу будзе досыць цікава даведацца аб тым, як чэская прэса і грамадзтва адклікнулася цяпер на 20-гадовы юбілей літаратурнай творчасьці нашага пісьменьніка *Цішкі Гартнага* К самаму дню юбілею чэская прэса зьмясьціла шмат артыкулаў аб літаратурнай дзейнасьці Цішкі Гартнага. Два найбольш популярныя літаратурныя часопісы: „Літэрарні новіны“ („Літаратурная газэта“), „Творба“ („Творчасьць“) і ілюстраваны тыднёвы часопіс „Домова сьвет“ („Бацькаўшчына і сьвет“) зьмясьцілі артыкулы з фотографіямі Ц. Гартнага аб значэньні Гартнага для беларускай літаратуры. Таксама рэагавалі на літаратурны юбілей Ц. Гартнага і штодзенныя газэты: „Рудэ право“, „*Prager Presse*“ і „Народні освобозені“. Потым у месячніку „*Слованскі пржеглед*“ пад рэдакцыяй вядомага прыхільніка беларускага народу *Адольфа Чэрнага* будзе зьмешчаны ў нумары за студзень 1929 г. артыкул аб літаратурнай чыннасьці Ц. Гартнага і некалькі яго вершаў, якія зараз перакладае сам Адольф Чэрны. Апрача таго, вядомы чэскі пролетарскі пісьменьнік *Язэп Гора* пераклаў ужо на чэскую мову некалькі вершаў Цішкі Гартнага: 1) „Сялянска-работніцкая рэволюцыя“, „Хто мы?“, 3) „Будаваньне“, 4) „Да Нёмана“, 5) „Песьні гарбара“. Вядомы *проф. Тіхі* ў Брацілаве (былы Прэсбург на Дунаі) пераклаў апавяданьне Цішкі Гартнага „Лайдак“.

Чэскае грамадзтва рэагавала яшчэ і іншымі спосабамі на літаратурны юбілей Ц. Гартнага. Так, напрыклад, вышэйпамянёнае „Чэхаславацкае таварыства дзеля культурнага і экономічнага збліжэньня з Новай Расіяй“ наладзіла ўрачысты вечар—публічнае паседжаньне 17 сьнежня 1928 г. ў вялікай залі „Дому профэсіянальных саюзаў“ у цэнтры гор. Прагі. На гэтым вечары з дакладамі выступалі: вядомы пропагандысты культурнага збліжэньня Чэхіі з Савецкай Беларусьсю *проф. Недлы* на тэму—„Палітычнае і культурнае разьвіцьцё Беларусі“ і пісьменьнік Язэп Гора на тэму—„Значэньне Цішкі Гартнага для беларускай літаратуры“. Вялікі навукова збудаваны даклад проф. Нэедлага меў даць *першы раз* чэскаму грамадзтву (вялікая заля была ўся перапоўнена прадстаўнікамі чэскага навуковага, публіцыстычнага і літаратурнага сьвету, студэнтамі і інш.) агульны нарыс беларускага руху ў мінулым і зараз. Даклад пісьменьніка Горы меў на мэце даць кароткі агляд сучаснага беларускага літаратурнага жыцьця, а галоўнае—разглядзець літаратурную творчасьць Цішкі Гартнага і яго значэньне для беларускай літаратуры. Урачысты

вечар-паседжаньне пачынаецца а 8-й гадзіне дакладам проф. Нэедлага. Як нямінучы атрыбут „дэмократыі“, за сталом побач з проф. Нэедлым сядзіцца ўніформаваны паліцэйскі камісар, які пільна запісвае тое, што гаворыць прамоўца. Даклад проф. Нэедлага, я думаю, будзе цікавы беларускаму чытачу, чаму мы падамо тут кароткі яго зьмест.

„Асноваю програмы сягонешняга вечара зьяўляецца 20-гадовы літаратурны юбілей вядомага беларускага пісьменьніка Цішкі Гартнага. Але перад тым, як гаварыць аб Ц. Гартным, мусімо падаць некалькі інформацый аб самой Беларусі, аб беларускім народзе, аб яго змаганьні за агульнае і нацыянальнае вызваленьне. З Беларусьсю мусімо пазнаёміцца бліжэй. У нас кажуць, што Беларусь ня мае гістарычнага мінулага. У нашых кнігах амаль што ня знойдзеце ніякіх вестак аб Беларусі і беларускім народзе. Праўда, што Беларусь ня мае гэткай гісторыі, як яе разумеюць у буржуазным грамадзтве, г. зн. ня мае ніякіх выдатных каралёў ці князёў, вялікіх ваяўнікоў і г. д. Але калі паглядзімо на гісторыю беларускага народу бліжэй, то пабачым цікавыя рэчы.

У Беларусі працягам цэлых стагодзьдзяў адбываецца вялічэзнае соцыяльнае і нацыянальнае змаганьне, змаганьне між пануючаю шляхтаю і беларускім сялянствам. За ўладу над Беларусьсю з даўных часоў ваююць панская Польшча, царская Расія і ў пэўнай меры—Літва. Беларусь у гэтым змаганьні толькі об'ект. Толькі ў сучасны момант у выніку існаваньня самастойнай беларускай савецкай дзяржавы—БССР, беларускі народ становіцца суб'ектам гістарычных падзей, а не об'ектам.

З культурнага боку Беларусь надзвычайна цікава. Тут якраз праходзіць стык заходняй і ўсходняй культуры. Рэволюцыйны рух на Беларусі пачынаецца ўжо даўно. Вядома польскае паўстаньне 1863 г., якое знаходзіць водгалас і ў Чэхіі. Беларусь таксама ажывае ў паўстаньні проці царскага ўраду. На чале паўстаньня становіцца вядомы Каліноўскі, пасьлядоўнік Герцэна. Польская шляхта, як толькі ўбачыла, што паўстаньне ня будзе мець посьпеху, надта хутка дагаварылася з царскім урадам за кошт беларускага мужыка.

Рэволюцыя 1905 г. адбіваецца вялікім рэхам і на Беларусі. У Вільні закладаецца беларускі часопіс „Наша доля“ рэзка соцыяльнага зьместу. Па зачыненьні яе пачынае выходзіць „Наша ніва“—менш рэволюцыйнага характару, каля якой групуюцца будучыя найбольшыя беларускія пісьменьнікі: Я. Купала, Я. Колас і інш. Надыходзіць сусьветная вайна 1914 г. Галоўны фронт расійска-нямецкі праходзіць праз усю Беларусь, якая ад гэтага дашчэнту руйнуецца. У пачатку 1917 г. пасьля Лютаўскай рэволюцыі ў Менску ўтварыўся Беларускі нацыянальны камітэт. Але рэволюцыя ідзе далей. Якраз тут пад канец 1917 г. ў Менску зьбіраецца каля 1500 чалавек прадстаўнікоў розных беларускіх організацый, якія паставіліся проці волі беларускага працоўнага народу, чаму зьезд быў разагнаны. Пасьля Берасьцейскага міру 25 сакавіка 1918 г. была абвешчана БНР, якая зьяўлялася фактычна зброяй у руках нямецкай

окупацыйнай улады, чаму і ўпала адначасна з яе адходам пасьля рэволюцыі ў Нямеччыне. А 1 студзеня 1919 г. з прыходам Чырвонай арміі ў Менску была абвешчана незалежная Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка, дзесяць гадоў існаваньня якой неўзабаве будзе сьвяткавацца.

Пры маёй паездцы у 1927 г. ў Савецкую Беларусь я заўважыў вельмі цікавыя рэчы. Тут па параўнаўча малой плошчы найлепш відаць усе дасягненьні Кастрычнікавай Рэволюцыі. Наша этнографія колькі часу спрачаецца, ці існуе беларускі народ, ці не. Але навошта гэтыя непатрэбныя спрэчкі. Аб існаваньні беларускага народу найлепш сьведчыць факт існаваньня незалежнай беларускай савецкай дзяржавы, факт існаваньня беларускай культуры, якая разьвіваецца надзвычайна шпаркім тэмпам.

Савецкая Беларусь—вельмі чыстая ў нацыянальных адносінах дзяржава; у ёй ёсьць аж 82 проц. беларусаў і толькі 18 проц. іншых народаў, з ліку якіх каля 10 проц. яўрэяў. Але тэрыторыя Савецкай Беларусі складае толькі палову этнографічных беларускіх зямель. Другая палова—заходняя яе частка—знаходзіцца зараз пад Польшчай.

Вельмі цікава будзе для вас паслухаць, як вырашана ў Савецкай Беларусі нацыянальнае пытаньне. Ва ўсіх навуковых інстытуцыях існуюць яўрэйскія і польскія сэкцыі, існуюць яўрэйскія і польскія школы, сельсаветы, суды і г. д. А што мы бачым у Заходняй Беларусі пад Польшчай?

Вядома ўсім, што польская ўлада не дае беларусам нават вольна дыхнуць, а ня то што мець свае беларускія школы ці самаўрад.

Раней у Беларусі большая палова ўсёй зямлі належала польскай шляхце. Зараз у Савецкай Беларусі амаль што ўся зямля належыць сялянству. Рэволюцыя на Беларусі была даволі жорсткая, бо паны самаахвотна не хацелі аддаць зямлю мужыком. Выгнаныя паны сядзяць зараз у Польшчы і з бясьсільнай злобай глядзяць, як іх маёнткі за блізкай мяжой падзелены між працоўнымі.

Як стаіць зараз культурнае будаўніцтва ў Савецкай Беларусі?

71 проц. усіх школ на тэрыторыі Савецкай Беларусі працуюць на беларускай мове. Ёсьць там каля 30 профтэхнічных школ, на 5 міл. людзей лік даволі вялікі. Ёсьць ужо там і 4 вышэйшых школы. Апрача таго, існаваў там дагэтуль Інстытут Беларускай Культуры, які зараз рэорганізаваны ў Беларускую Акадэмію Навук. Гэта вельмі паважная, хоць маладая, навуковая інстытуцыя, якая для беларускага народу выканала вялічэзную працу.

Музэі знаходзяцца ў квітучым стане. Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка—вялізная ўстанова, у якой ёсьць, між іншым, некалькі праскіх выданьняў на беларускай мове з XVI стагодзьдзя, тады як Прага мае толькі адно падобнае выданьне.

Беларускі тэатр стаіць на вельмі высокай ступені разьвіцьця, ня гледзячы на сваю моладасьць. Савецкая Беларусь мае 4 дзяржаўных тэатры, з якіх адзін—яўрэйскі. У маю бытнасьць у Менску Беларускі Дзяржаўны Тэатр ставіў „Сон у Іванаву ноч“—Шэксьпіра. Пастаноўка была дасканальная. Лепшай я ня бачыў у сваім жыцьці; асабліва выдзяляліся ў пастаноўцы жыцьцёвасьць і організаванасьць. З такой пастаноўкай ня можа нават раўняцца наш найлепшы „Нацыянальны тэатр“ у Празе (гэтыя словы проф. Нэедлага аб беларускім тэатры маюць вялікую вагу тым, што проф. Нэедлы лічыцца ў Чэхіі найлепшым тэатральным і наогул мастацкім крытыкам, да голасу якога ўсе прыслухаюцца. *М. З.)*.

Гэтыя вялічэзныя набыткі, якія цяжка пералічыць у кароткім дакладзе, маюць яшчэ большае значэньне, калі прыняць пад увагу, што ўмовы для разьвіцьця былі надзвычайна цяжкія, чаму нямала прычыніўся драпежны сусед — Польшча, якая душыла ўсе працы беларускага культурнага жыцьця“.

Такімі словамі канчае проф. Нэедлы свой бліскучы даклад. Гучныя воплескі здаволенай публікі спатыкаюць яго, калі ён выходзіць з катэдры. Яго месца займае сучасны найлепшы чэскі пісьменьнік *Язэп Гора*, якога ўся заля сустракае грымотнымі нясьціханымі воплескамі. За катэдрай становіцца высокая постаць чэскага пролетарскага песьняра. Яго змучаны твар паказвае, што ня так соладка жывецца ў буржуазнай дзяржаве змагальніку за пролетарскую культуру. Але цьвёрдая рашучасьць відаць у яго вачох: змагацца да канца за свае соцыялістычныя ідэалы, за дасягненьне аднолькавых умоў жыцьця для ўсіх людзей, а не для кучкі прывілеяванай буржуазіі.

Што-ж цікавага сказаў Язэп Гора аб творчасьці Цішкі Гартнага?

А сказаў ён прыблізна вось што:

„Беларускі народ мае сваю мінуўшчыну як культурную наогул, так і літаратурную. У XVI стагодзьдзі ўжо адбываецца вялікі культурны развой беларускага народу. Але потым надыходзіць заняпад. Беларуская сучасная літаратура—народніцкая, адраджэнцкая. Яна знаходзіцца прыблізна ў такой фазе разьвіцьця, як мы былі перад апошнім дзесяцігодзьдзем. Пачаткам XIX ст. пасьля францускай рэволюцыі пачынае ажываць беларуская літаратура, якая мае сантымэнтальны характар. Беларусь—гэта вёска, якая толькі зараз за савецкай уладай пачынае адраджацца. Пасьля рэволюцыі 1905 г. пачынаецца шпарчэйшы тэмп разьвіцьця беларускае літаратуры. На гэта зьвяртае ў нас вялікую ўвагу часопіс „Славянскі пржеглед“ на чале з Адольфам Чэрным. Ён першы знаёміць нас з творамі Янкі Купалы, найлепшага беларускага пісьменьніка. Я. Купала зьяўляецца выяўніком імкненьняў беларускага народу даваеннае пары, яго думак і песень, яго гора і радасьці. Я. Купала, Якуб Колас і іншыя зьяўляюцца папярэднікамі сучаснай генэрацыі беларускіх пісьменьнікаў. Усе яны групуюцца каля Віленскага беларускага часопісу „Наша ніва“, якая адыграла вялікую ролю ў разьвіцьці беларускай культуры. З групы

„нашаніўцаў“ вышаў і *Цішка Гартны*, 20-гадовы юбілей творчасьці якога мы сягоньня сьвяткуем. У нас у Чэхіі 20-годовыя юбілеі ніхто не сьвяткуе. Але для Беларусі—гэта вялікі юбілей, які паказвае шлях разьвіцьця беларускай літаратуры.

Цішка Гартны—сын беднага селяніна-чорнарабочага. З маленства—пастух. Потым—рабочы-гарбар. Усё гэта адбіваецца выразна на творчасьці Цішкі Гартнага. Між работнікамі ён чуе энэргічны протэст проці зьдзекаў над працоўнымі. Таму ён сьпявае песьні змаганьня з крыўдаю. Героі яго твораў—выхадцы з працоўнага народу, якія ваююць проці гвалту. Найлепшыя вершы Цішкі Гартнага—гэта „Песьні працы і змаганьня“, між якімі асабліва вылучаюцца гармонічнасьцю „Песьні гарбара“, адбіваючыя перажываньні самога аўтара.

Проза Гартнага—рэалістычная, жанравая, у якой адчуваецца мэлянхолічны тон. Мотывы для сваіх апавяданьняў Ц. Гартны бярэ пераважна з беларускай вёскі. У сваіх творах Гартны разьбірае і больш складаныя пытаньні эротыкі, простытуцыі. Цішка Гартны—першы беларускі раманісты, які напісаў роман „Сокі цаліны“—адзін з грунтоўнейшых твораў беларускай прозы. Мушу адзначыць, што беларускі пісьменьнік ёсьць аднача сна і грамадзкі працаўнік. Беларусь—гэта новая, невядомая амаль што нам дагэтуль зямля, у якой жыцьцё буйна кіпіць, дзе ўсе натхнёна працуюць над будаўніцтвам новага соцыялістычнага ладу, новай культуры“.

Даклад Гора прысутныя сустракаюць з такім-жа посьпехам, як і даклад проф. Нэедлага. На гэтым а 10-й гадзіне ўвечары канчаецца ўрачысты вечар. Прысутная публіка разыходзіцца з задаваленьнем, жвава абгаворваючы факты, якія ёй былі паданы аб мала знаёмым народзе, яго культуры, літаратуры і пісьменьніках. Пад канец вечару „Таварыства для культурнага зьбліжэньня з Новай Расіяй“ пастанавіла пасла́ць Ц. Гартнаму сардэчнае прывітаньне.

Вечар 17-XII—28 г. ў Празе быў першым вечарам у Чэхіі, які шырока зацікавіў чэскае грамадзтва культурнымі і соцыяльнымі падзеямі, што адбываюцца зараз у Савецкай Беларусі. Праца, якая была зроблена дагэтуль у кірунку культурнага зьбліжэньня Чэхаславакіі з Савецкаю Беларусьсю і ў якой вельмі актыўны і шчыры ўдзел прымае савецкае і прогрэсыўнае беларускае студэнцтва ў Празе, не прапала дарэмна. Вечар 17-XII-1928 г. паказаў гэта з поўнай навочнасьцю. Працу гэтую трэба вясьці далей, не забывацца на яе, а весьці з яшчэ большай інтэнсыўнасьцю.

Нарэшце, я для цікавасьці хачу адзначыць, як панская Польшча, асабліва пасьля „маёвага“ перавароту „сулеюўскага пустэльніка“, вядзе зараз вялікую пропаганду ў Чэхаславакіі пад заслоначкай культурнага зьбліжэньня, каб апраўдаць шалёны зьдзек над беларусамі і украінцамі. На гэтую справу польскае пасольства выкідае процьму грошай. Арганізавана спэцыяльна некалькі чэска-польскіх таварыстваў у Празе, наладжваюцца вечары зьбліжэньня і г. д. Чэскія ўрадавыя колы падтрымлі-

ваюць гэтае зблiжэньне, але чэскае грамадзтва, трэба аддаць яму справядлiвасьць, у сваёй большасьцi ставiцца да зблiжэньня з фашыцкай Польшчай з вялiкiм недавер'ем, а зблiжэньне Чэхаславакii з Савецкай Беларусьсю вядзецца бяз жаднага протэктаваньня, iдзе зьнiзу, а таму паступова пранiкае ў самыя гушчы чэскага грамадзтва. Трэба толькi працаваць! І да гэтай працы мы заклiкаем усiх, каму дорага сапраўднае iнформаваньне эўропэйскага грамадзянства аб будаўнiцтве новай соцыялiстычнай культуры i ладу на ўсходзе Эўропы!

# КНІГАПІС

**Інстытут Беларускае Культуры. Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук. Кніга 4. Працы Катэдры Этнографії, т. І. Сшыт. 1. Пад рэдакцыяй кіраўніка катэдры, правадзейнага члена В. Ластоўскага.**

*Менск, 1928. Стар. IV+208+58 укладных лістоў з малюнкамі. Кошт не паказаны.*

Зборнік этнографічнай катэдры ІБК мае наступныя артыкулы: проф. Н. Прывалава—„Народныя музычныя іструманты Беларусі"; В. Ластоўскага—„Прочкі і разлучыны"; І. Баршчэўскага—„З гісторыі фальлёктэнізму"; М. Нікіфароўскага — „Напоўпрыказкі - напоўпрыслаўкі"; Ал. Шлюбскага — „Этнографічная дзейнасьць Дабравольскага"; М. Грынблята— „Этнографічнае вывучэньне каўтуна"; М. Мялешкі—„Камень у вераньнях і паданьнях беларуса"; В. Ластоўскага—„Духоўныя вершы 1702 году"; і Ал. Шлюбскага—„Аб беларускай набойцы".

Як відаць са зьместу, зборнік гэты цікавы і каштоўны па сабранаму ў ім матэрыяле. І першым у гэтым шэрагу стаіць артыкул аб народных інструмантах. Аўтар, проф. Н. Прывалаў, пералічвае і апісвае ўсе тыя інструманты, якія пашыраны на Беларусі. Сьпіс гэтых інструмантаў у аўтара дасканалы: ні адзін з ужываных музыкамі Беларусі інструмантаў не прапушчаны. Усе яны вельмі дасканала апісаны, прычым да гэтага апісаньня дадана таксама, калі, пры якіх умовах і як ужываецца той ці іншы інструмант.

Трэба наогул сказаць, што аўтар ня спыняецца выключна на інструмантах, як такіх, а ў сваёй працы ён „дапасоўвае" іх да жыцьця. Ён піша ня толькі аб інструмантах, але, поруч з гэтым, і аб музыках і іх ролі, аб звычаях і г. д. Так, на стар. 19 гаворыцца аб тым, як дудар замяняе бацьку ў сіраты на вясельлі, і як на дудзе ён праводзіць маладую, суцяшае яе; падаецца дыялёг дудара з маладою. І гэта надае артыкулу проф. Прывалава яшчэ большае значэньне.

Праўда, з некаторымі вывадамі проф. Н. П. нельга згадзіцца, асабліва аб гармоніках, аб іх „трафарэтных і пошлых гуках". Відаць, аўтар не пацікавіўся гармонікам, а проста махнуў рукою: эт, варта на гэткае глупства зьвяртаць увагу! А трэба адзначыць, што гармонік вельмі пашыраны і займае досыць значнае месца. Варта адзначыць хоць-бы музычнае трыо (гармонік, скрыпка і цымбалы) Беларускага Дзяржаўнага Вандроўнага Тэатру, у склад якое ўваходзіць сам Галубок, і якая карыстаецца вялізарным і заслужоным посьпехам ня толькі ў вёсцы, але і ў горадзе: усюды, дзе-б ні выступала гэтая музыка,—посьпех забясьпечаны. На гэта трэба было зьвярнуць увагу. І яшчэ адно. Ня ўсюды на Беларусі можна спаткаць гэтыя інструманты. У адным месцы ёсьць адны, у другім—іншыя; у адным месцы ня ведаюць цымбалаў, у другім—жалеек. І вось гэтага, так сказаць, географічнага распаўсюджваньня інструмантаў мы ў працы, на вялікі жаль, не знаходзім.

Але гэта не зьмяншае агульнае вартасьці артыкулу аб народных інструмантах. Аздоблены досыць знач-

ным лікам малюнкаў, ён зьяўляецца тым больш каштоўным, што гэта першая сталая праца ў гэтым кірунку.

Другі артыкул, ня менш цікавы, чым папярэдні, ёсьць арт. В. Ластоўскага аб прочках і разлучынах. Гэтыя абрады ў нас зусім не апісаны, што зазначае і аўтар. Але трэба дадаць, што, як зазначае зноў-ткі сам аўтар, сабраны матэрыял паходзіць з аднаго куточка Беларусі—Дзісеншчыны (Зах. Беларусь). Болей матэрыялу ніадкуль няма, нідзе ніхто ня цікавіўся гэтым. І артыкул В. Ластоўскага тым і каштоўны, што ён высоўвае пытаньне аб вывучэньні „інстытуту прочак і разлучын“. Гэтая галіна этнографіі яшчэ чакае сваіх дасьледцаў.

Калі два папярэднія артыкулы зьяўляюцца вельмі каштоўным па выкладаных у іх пытаньнях і высунутых проблемах далейшага вывучэньня гэтых пытаньняў, то гэтага нельга сказаць аб трэцім артыкуле—„З гісторыі фальлёктэнізму“ (ушанаваньня плоцьных органаў). Праўда, гісторыя фальлёктэнізму тут падана поўнасьцю і са смакам, але да беларускіх умоў гэта не падыходзіць, бо культу фальлёса, як відаць з працы І. Ф. Баршчэўскага, на Беларусі, мабыць, ня было зусім.

Пер-на-перш, з усяе працы ў 32 стар. на Беларусь прыпадае тольпі паўтары, і то, відаць, усунуты яны выключна для таго, каб была зачэпка. Далей, аўтар, лічачы за выяўленьне культу фальлёса на Беларусі Купальскае сьвята, нідзе ня кажа напэўна, а ўсюды—„праўдападобна“. На Купальле ўбівалі ў зямлю кол, а на яго насаджвалі сноп жыта. „Праўдападобна“, што гэты кол уяўляў сабою фальлёс. А на другой старонцы — гэты сноп запальвалі „жывым агнём“ (агнём, які здабывалі, тручы адзін аб адзін два кавалкі сухога дрэва); і зноў „праўдападобна“, што агонь гэты уяўляў сабою фальлёс. Вось і разьбярыся тут. Есьць і яшчэ адзін, па Баршчэўскаму, факт „за“. У вялікім княстве Літ.-Беларускім „жанчыны схадзіліся“ „стадам“ і... аддаваліся абжорству і насалодлівасьці. Рабіць з гэтага вывад, што тут мы маем фальлёктэнізм, па меншай меры рызыкоўна.

Наогул, блытаніны шмат, і мы прытрымліваемся таго погляду, што аб фальлёктэнізьме на Беларусі проста „прышыта“ да працы, якая бяз гэтага „дадатку“ ня мае асаблівае для нас вартасьці.

Наступны артыкул — нябожчыка М. Нікіфароўскага „Напоўпрыказкі-напоўпрыслаўкі“. Тут падаюцца словы і сказы з Віцебшчыны. Матэрыял гэты яшчэ нідзе дагэтуль не друкаваўся і падаецца з рукапісу аўтара, з яго пасьмертных матэрыялаў.

Ал. Шлюбскі ў сваім артыкуле—„Этнограграфічная дзейнасьць Дабравольскага“ дае малюнак працы няўчасна загінуўшага вядомага дасьледца Смаленшчыны і пералічвае яго працы.

Амаль самым надзенным артыкулам зьяўляецца арт. М. Ґрынблята—„Этнографічнае вывучэньне каўтуна“. Проблема вывучэньня каўтуна ня раз усплывала наверх, варушыла мазгі вучоных-спэцыялістых і не спэцыялістых. Ня раз пытаньне аб каўтуне, здавалася, вырашалася канчаткова, а новыя досьледы перавачвалі зноў усё уверх нагамі, ізноў браліся за вывучэньне каўтуна. Цяпер у мэдыцыне аб каўтуне адна думка: дзе несьвядомасьць, бруд і неахайнасьць—там і каўтун.

Як-жа аўтар падышоў да вырашэньня гэтага пытаньня? Трэба сумленна адзначыць, што ў гэтым артыкуле столькі блытаніны, што аж цяжка разабрацца. Перш-на-перш: аўтар сьцьвярджае, што ў „этнографічнай літаратуры аб каўтуне мы знаходзім вельмі мала вестак, ...што гэта не зьяўляецца об'ектам этно-

графічнага дасьледваньня“. У той-жа час сам М. Грынблят спасылаецца ў сваёй працы аж на цэлых 25 выключна этнографічных прац. Ї гэта ня ўсё, бо некаторых прац аб каўтуне мы ў яго зусім не знаходзім. Значыць, аўтар ня зусім мае рацыю ў гэтым пытаньні.

Далей, аўтар ня згодзен з мэдыцынаю ў тым, што каўтун—вынік неахайнасьці, несьвядомасьці і г. д., і прапануе свой вывад: каўтун не залежыць ад вышэйпаказаных умоў, а ёсьць „нешта больш завілае (?!? *Я. Б.*), самастойнае“ (стар. 134). Аўтар нават вінаваціць мэдыкаў у тым, „што ў пытаньні аб каўтуне лекары ня прыкмецілі, што хвароба крыецца ўнутры, у організьме... а шукалі хваробу ў валасох“ (стар. 152). Ї тут-жа, поруч (стар. 153), аўтар сам сябе проста адлупцаваў як сьлед. Ён кажа: „вера ў „каўтуна“ за апошнія часы моцна пахіснулася. З ростам культуры і асабліва лекарскай дапамогі на вёсцы, хворыя ўжо не чакаюць помачы ад каўтуна... Трымаецца каўтун яшчэ ў такіх глухіх кутках Палесься, як Радзілавічы, Тонеж і г. д., дзе лекарская дапамога зусім не на належнай вышыні“. Значыць, каўтун ня ёсьць хвароба; значыць, маюць рацыю дактары, і народ, з ростам культуры, разумее гэта, пакідае „запушчаць каўтун“, ня мыючы і не расчэсваючы валасоў, і ідзе да доктара. А вось аўтар, відаць, ня зусім зразумеў гэта, ці мо‘ не разабраўся сам у тым, што пісаў. Наша парада надалей—наперад азнаёміцца добра з тым, аб чым спрачаешся, каб ня было падобных ляпсусаў. А што М. Грынблят незнаёмы з мэдыцынаю—відаць і з іншых месц яго працы. Напр., ён кажа: „косная сыстэма“ (стар. 130), а гэтакай сыстэмы ў чалавека дагэтуль ня было; альбо „сымпатычнае лячэньне“ (стар. 152). Што гэта за „сымпатычнае“ лячэньне? У мэдыцыне ведаюць „сымптоматычнае“ лячэньне, ці лячэньне паасобных сымптомаў хваробы, а аб „сымпатычным“ нешта яшчэ ня чуваць было.

З боку этнографічнага аўтар мацнейшы. Але і там ёсьць недахопы. Напр.: аўтар падае мясцовыя назвы расьлін, якімі лечаць (так ці іначай) каўтун, а назваў навуковых амаль нідзе не падаў. З тае прычыны, што ў розных мясцох часта расьліны называюць па-рознаму, траціцца вартасьць гэтых вестак, бо нельга сказаць напэўна, чым лечаць. Потым: этнографу трэба ведаць, што „красная субота“, г. ё. субота перад „Вялікаднем“, ніколі ня бывае ў пэўны тэрмін, а кожны год бывае ў розны дзень. А Грынблят нават падае сталую дату гэтае суботы. Няправільна паданы і асаблівасьці мовы сялян Тонежу, Букчы і Радзілавіч, Тураўскага раёну.

Наогул трэба сказаць, што аўтар ня зусім уважліва і недасканала з навуковага боку апрацаваў вельмі цікавы і каштоўны матэрыял, і гэтыя хібы адразу выяўляюцца пры чытаньні гэтае працы. Прыходзіцца, таксама, пашкадаваць толькі, што аўтар, за два гады працы сярод „каўтунаватых“, не падаў аніводнага малюнку, ніводнага фотоздымку.

Зусім іншае ўражаньне застаецца ад чытаньня працы М. Мялешкі—„Камень у вераньнях і паданьнях беларуса“. Праца напісана вельмі добра, стала апрацаваны ўвесь матэрыял, якім толькі мог карыстацца аўтар, і аздоблены адпаведнымі малюнкамі. Вось толькі бяда: два малюнкі (№№ 3 і 4) недзе згубіліся, бо адразу за № 2 ідзе № 5. Трэба сачыць, каб гэткіх здарэньняў ня было. Агульнае-ж уражаньне ад гэтага ня псуецца і застаецца пэўнае ўяўленьне аб ролі каменя ў духоўным жыцьці беларуса.

Далей ідзе артыкул В. Ластоўскага—„Духоўныя вершы 1702 году“, дзе падаецца некалькі вершаў, занатаваных на Беларусі літоўскім проф. Бугам, і, нарэшце, артыкул

Ал. Шлюбскага—„Аб беларускай набойцы“.

Вывучэньнем пытаньня аб беларускай набойцы займаўся ня вельмі значны лік дасьледцаў, хоць гэтае пытаньне і досыць цікавае. Разглядам гэтых досьледаў і займаецца Ал. Шлюбскі ў гэтай сваёй працы, прычым прыходзіць да наступных вывадаў: набойка разьвівалася ў старадаўнія часы пад непасрэдным уплывам беларускіх нацыянальных форм, вяла свой пачатак з XII ст. і скончылася разам з ліквідацыяй набойных цэхаў у канцы XVIII ст.; далейшае разьвіцьцё набойкі ў XIX ст. адбывалася пад непасрэдным уплывам саматужнікаў Цьвярской губ.

Праца, бязумоўна, мае вартасьць. Але сьмешна толькі (не палічэце за анэкдот!), што аўтар у некаторых мясцох спрачаецца... сам з сабою, прычым робіць гэта ў досыць далікатнай форме. Так, ён піша: „ёсьць нявыразныя весткі аб вырабе ў XIX ст. набіўных дошчак на Віцебшчыне і Меншчыне, але яны, як мне здаецца, ёсьць вынік няправідлова паданых вестак“. І тут-жа, у зносцы, паказвае, што гэтыя нявыразныя і няправільныя весткі паданы... Ал. Шлюбскім-жа ў яго брошуры „Крашаніна“. Сьмешна, але гэта факт (гл. стар. 191)!

Да артыкулу дадана шмат (101) малюнкаў, якія адбіваюць розныя ўзоры набойкі.

У канцы зборніку зьмешчаны рэцэнзіі (усе Ал. Шлюбскага) на дзьве працы польскія: „Pisanki“ і „Nowogródzkie“, і тры працы акад. Е. Карскага, а таксама паказьнікі: прадметны, географічны і асабовы.

Агульнае ўражаньне ад зборніка застаецца ўсё-ж добрае; узбуджаецца ахвота да дасьледваньня высунутых пытаньняў, зьяўляецца зацікаўленасьць і чаканьне далейшых зборнікаў.

Але—„кажны раз на эфтом самом месте“. Ах, гэтая мова! Няўжо ў выданьнях ІБК—зараз ужо БАН—нельга сачыць за моваю? Вось прыклады: „кіравецтва“ (=кіраўніцтва); „нагай“ (=голы, разьдзеты); „дасьцігаць“ (=дасягаць); „трэсаваны“ (=вымуштраваны); „чціцель“ (=шанавальнік); „зьне, зьнешні“ (=надворны, вонкавы); „скацежа“ (=зывёла) і шмат іншых. Гэта, так сказаць, „новатворы“. А ёсьць яшчэ шмат і проста перакручаных слоў, як, напр., „раджай, раджайнасьць“, „сьмбель, сямболь“ (=сымболь). Памылкі сустракаюцца амаль выключна ў працах І. Ф. Баршчэўскага і М. Грынблята. У далейшым рэдакцыі трэба зьвярнуць на гэта асаблівую ўвагу, бо пры чытаньні напісаных такім чынам прац зьяўляецца думка, што аўтары некаторых артыкулаў адукаваліся па „доцэнту“, якому „панздравіў“ падабаецца болей, чым „павіншаваў“.

**Яз. Бар—скі**

**Тарас Шевченко. Щоденні записки (журнал). Текст Первістні варіянти. Коментарії. Редакція і вступне слово акад. С. Ефремова. Українська Академія Наук. Комісія для видавання памяток новітнього українського письменства.**

*Державне Видавництво України. 1927 р.—25 крб. 5 к.*

Маючы на ўвазе выдаць акадэмічна поўны збор твораў Т. Шэўчэнка, камісія для выданьня твораў новае украінскае літаратуры выпусьціла ў сьвет пакуль што толькі першую кнігу, уласна—том IV, „Щоденні записки“ (журнал).

Кніга складаецца з наступных частак: „Од редактора“ 4 старонкі, „Передмова“ пад загалоўкам „Літературний автопортрет Шевченка“ XL стар., „Щоденні записки (журнал) Тараса Шевченка“ — 1 — 188 стар. „Дадаткі до тэксту Шевченкового журналу“ („первістні варіянти, виправки“ і інш.) ст. 189—210. З 211 ст. і да 768-й ідуць „Коментарії до Шевченкового журналу“, і з 769-й ст.

і да канца (789 стар.) зьмешчаны „Покажчик імен“.

Ва ўступе да выданьня („Од редактора“) гаворыцца: „В своїй работі редакція виходить із основних вимог для всякого наукового видання будь - якого письменника: певний, перевірений і установлений текст творів по змозі всі варіянти до основного тексту і широкий коментарій у формі матеріялів історичнолітературного і громадського значіння“.

„Журнал“ Шэўчэнка, як і іншыя яго творы, выдаваўся шмат разоў. Так, яшчэ неўзабаве пасьля сьмерці поэты рэдакцыя „Основы“ пачала друкаваць „адрыўкі“ з „запісок“ Т. Шэўчэнка, якія звычайна называюць „дзеньнікам“, „щоденником“[1]). Але ў гэтых адрыўках былі выкінуты ўсе на той час нецэнзурныя месцы, а таксама і ўсе няпрыхільныя заўвагі поэты да асоб, якія яшчэ тады жылі. Вось ад гэтага першага выданьня „дзеньніка“ і да выданьняў самага апошняга часу ў тэкст уводзіліся часта немотываваныя папраўкі і шмат якія пераробкі, якія ў кожным паасобным выпадку выклікаліся пэўнымі прычынамі, і толькі цяпер у акадэмічным выданьні тэкст штодзенных запісаў поэты захованы ў тым выглядзе, як яны былі зроблены самім Шэўчэнкам, бяз жадных уставак, пропускаў і іншых зьмен.

Маючы на мэце ў сваім выданьні аднавіць першатвор у найбольш чыстым выглядзе, камісія па выданьні твораў новае літаратуры пры Украінскай Акадэміі Навук сфотографавала ўвесь „Журнал“, які захоўваецца ў Гістарычным Музэі ў Чарнігаве, старонка за старонкай, прычым у выданьні захоўваліся ўсе асаблівасьці Шэўчэнкавага рукапісу, нават памылкі самага рознастайнага характару, не зьмянялася і ўжытае поэтам няправільная інтэрпункцыя.

[1]) „Дневник Т. Гр. Шевченко. Отрывок первый... і т. д. „Основа“, 1861 г., кн. V—IX, XI і XII; 1862 г. кн. I—VIII.

У гэтым сэнсе цікава падаць некалькі вытрымак з тэксту. Так у запісе ад 30 красавіка чытаем: „Баронъ безъ умысла достигъ цели вылѣпивше эту жалкую статую и барельефи именно для дитей“... Ці далей пра Мікалая І-га: „Покойному нашему Тормозу надо думать очень нравилось это топорное произведение... Принемъ я помню когдато въ петербургѣ оперетка эта исполнялась с большей дисциплиной“... (143 стар.).

На кожнай старонцы дзеньніка зьвяртаюць на сябе ўвагу асаблівасьці мовы і правапісу Шэўчэнка. Усе гэтыя адступаньні ад тагачаснага правапісу і асаблівасьці лексыкі пісьменьніка ў даным выданьні пакінуты, як сказана вышэй, непарушанымі.

Самыя памылкі Шэўчэнкі, якія так старанна захованы ў выданьні, наводзяць рэдактароў на пэўныя адшуканьні ў яго творчасьці і нават даюць магчымасьць зрабіць тыя ці іншыя вывады. „На гэтых нявыпраўленых старонках,—гаворыцца у прадмове, (стар. XXXIII),—адбілася і так выразна столькі непасрэдных рыс, што робяць гэты „брульон“[1]) вельмі цікавым ня толькі для біографа поэты, для гісторыка пісьменства ці грамадзкага жыцьця, але і для псыхолёга, для філёлёга, для тэорэтыка поэзіі. На падставе гэтага „брульону“ мы можам гаварыць ня толькі пра зьмест напісанага, але і пра тое, якімі шляхамі думка аўтара даходзіла да гэтага зьместу“.

Далей робіцца спроба на падставе памылак высьветліць некаторыя бакі Шэўчэнкавай творчасьці. „Гукі мелі для яго (Шэўчэнкі) такую сілу, што часам „запаланялі“ і падбівалі пад сябе правільнасьць вымаўленьня, прыпадабняючы да сябе вакольныя гукі („Прадмова“, XXXIX ст.). Такім чынам Шэўчэнка пісаў: „не *мого* хо*рошо* разсмотрѣть,“ „сочиґение возвотительных (замест возмутительных)

[1]) Нячытэльны рукапіс.

стихов“ і г. д. Вось гэтыя памылкі, калі іх паставіць у залежнасьць ад „інэрцыі гуку“, будуць яснымі, зразумелымі, і нават бязграматнасьць рукапісу, „аномалія, вада свайго роду, набывае выразнасьці, закончанасьці і характва ў тыя моманты, калі пісьменьнік знаходзіўся пад уладаю творчага натхненьня“ („Прадмова“, ibid).

На падставе сваяасаблівасьцяй тэксту акадэмічнага выданьня, які з найбольшай дакладнасьцю адбівае першатвор, ужо сам рэдактар робіць спробу даць некаторыя вывады.

Такім чынам у выданьні „Журналу“ Шэўчэнка „Комісіяю для видавання пам'яток новітнього українського письменства“ паданы ўзор таго, як важна ў акадэмічных выданьнях захоўваць з найбольшаю паўнатою і і дакладнасьцю ўсе самыя рознастайныя асаблівасьці аўтографаў.

Але ў аўтографах часам сустракаюцца неапрацаваныя, няясныя месцы. Захоўваючы іх у выданьні, можна ў чытача выклікаць розныя запытаньні. Каб дапамагчы чытачу высьветліць незразумелыя месцы тэксту і дадаецца да акадэмічнага выданьня твораў пісьменьніка крытычны апарат, у якім у першую чаргу і павінны быць высьветлены ўсе няяснасьці тэкстуальнага і гісторыка-літаратурнага характару. І сапраўды, у „Комэнтарыях“[1]) да „Журналу“ не пакінута без тлумачэньня аніводнае месца, якое магло-б зьявіцца незразумелым для чытача: асобы, з якімі сустракаўся Шэўчэнка, мясцовасьці, дзе ён бываў і аб якіх успамінаў, падзеі і рэчы, так ці іначай з імі зьвязаныя, яго погляды, творчасьць і г. д.— усё гэта ў даным выданьні не пакінута без адпаведнага тлумачэньня.

У дадатках да тэксту рэдакцыя старанна выбрала ўсе першапачатковыя варыянты, якія толькі былі ў аўтографе і не ўвайшлі ў тэкст. У якасьці варыянтаў паданы ўсе закрэсьленыя поэтам месцы „Журналу“. Апроч таго, сюды ўнесены і папраўкі да некаторых слоў, якія ў тэксьце пакінуты нязьменнымі, з памылковым напісаньнем. А калі ў тэксьце падана выпраўленае слова, дык у дадатках яно падаецца ў пачатковым напісаньні. Тут можна знайсьці ўсе розначытаньні да пэўных месц „Журналу“.

Выданьне Шэўчэнкі, такім чынам, з пункту гледжаньня вытрыманасьці прынцыпаў акадэмічнасьці, робіць найлепшае ўражаньне як з боку пастаўленых і прынятых камісіяй па выданьні твораў новае украінскае літаратуры мэт, таксама і з боку выкананьня працы ў падборы матэрыялаў да ўваг, уважнага расчытваньня нячытэльнага рукапісу „Журналу“ ды інш. Шмат якія месцы тэксту толькі зараз у гэтым выданьні ўпяршыню паданы грамадзтву ў правільным напісаньні і высьветлены так, як хацеў аўтар.

Мы на Беларусі з вялікаю зацікаўленасьцю чакаем выхаду ў сьвет наступнага тому акадэмічнага выданьня твораў вялікага украінскага поэты.

**В. Мачульскі.**

[1]) Ва ўкладаньні комэнтарыяў апроч рэдактара, акад. С. А. Ефрэмава, прымалі ўдзел наступныя асобы: акадэмікі А. М. Лабада і А. П. Навіцкі, П. П. Філіповіч, В. В. Маякоўскі, Д. М. Рэвуцкі, П. П. Рулін і М. М. Навіцкі.

## Да выданьня бібліографіі беларускага пэрыодычнага друку

**„Летапіс беларускага друку“, ч. IV**. Пэрыодычны друк на беларускай мове. *Менск, 1927 г.*

Ня буду шмат гаварыць аб тым, якая прыемная зьява—гэтая першая спроба выданьня бібліографіі пэрыодычнага друку на беларускай мове. Бязумоўна, яе трэба толькі вітаць. У гэтым аглядзе мы маем каштоўны даведачнік для кожнага дасьледцы беларускай культуры.

На тытульнай старонцы выданьня адзначана: „выданьне корэктурнае“. Тое-ж самае пацьвярджаецца і ў прадмове: „Беларуская Дзяржаўная Бібліятэка разглядае гэту працу, як

выданьне корэктурнае, якое ў далейшым можа быць дапоўнена і выпраўлена, асабліва пры дапамозе ўсіх зацікаўленых справай беларускага друку“. Кіруючыся такімі адносінамі выдаўцоў да гэтай працы і далучаючы сябе да „зацікаўленых справай беларускага друку“, хачу ў гэтай заметцы прапанаваць некаторыя дадаткі і папраўкі. Падставаю для іх зьяўляюцца матэрыялы, якія ёсьць у Беларускім Аддзеле Славянскага Аддзяленьня Бібліотэкі Акадэміі Навук.

Дадаткі мне прыдзецца зрабіць нязначныя. Для зручнасьці буду прытрымлівацца парадку разьдзелаў і тых парадкавых нумароў унутры, якія прыняты ў разгляданым выданьні.

### I. Беларуская пэрыодыка да 1917 г.

1. *Biełaruś. Tydniowaja katalickaja hazeta. Wilnia.*

Апроч паказаных у аглядзе нумароў, за 1913 і 1914 г.г., мне вядомы газэты 1915 году №№ 4, 5, 6, 8, 9—16, 19—20, 21—22. Месца выданьня і рэдактар (В. Пачобка) былі тыя-ж самыя.

13. *Наша Ніва.* Першая беларуская газэта etc.

Для 1906 г. ведаю яшчэ № 7 звыш адзначаных №№ 1—6.

Для 1912 г. — поўны комплект №№ 1—52, а ня 1—44.

Для 1913 г. таксама №№ 1—52, а ня 1—51.

Для 1915 году звыш паказаных №№ 1—30, ведаю яшчэ № 31.

### II. Выданьні, якія вышлі на тэрыторыі БССР і СССР (1917—1926 г.г.)

14. *Весьнік Цэнтральнага выканаўчага камітэту...* Масква, Крэмль.

За 1923 г. ёсьць яшчэ № 13 (артыкулы 352—366)

30. *Камуніст.* Сялянская газэта Бабруйскага Акругкому. Бабруйск.

За 1925 г., апроч №№ 7—106, ёсьць № 107 ад 31 сьнежня.

36. *Маладняк.* Орган ЦК КСМБ, Менск. У 1926 г. вышлі №№ ня 1—9. а 1—10.

43. *Наш працаўнік.* Орган Калінінскага Акругкому КП(б)Б. Клімавічы.

### III. Выданьні, якія вышлі па-за межамі БССР і ў часы окупацыі

61. *Kryniса.* Biełaruskaja hazeta... Pietrahrad, Miensk, Wilnia.

За 1918 г. мне вядомы, апроч адзначанага № 1, яшчэ № 2 ад 14 studnia.

Вось і ўсе мае дадаткі.

У бібліографіі ёсьць некаторыя пропускі. Сярод пералічаных у разьдзеле I выданьняў чамусь няма часопісаў:

1. *Бюлетэнь Цэнтральнае Статыстычнае Ўправы.* Менск.

За 1926 г. Вып. 1-шы студзень—сакавік. Загаловак на беларускай і расійскай мовах.

2. *Статыстычны лісток.* Выходзіць два разы ў месяц. Менск.

За 1925 г. №№ 1—9, 16—17[1]).

За 1926 г. №№ 1—12.

Падзагаловак—Цэнтральная Статыстычная Ўправа. Загаловак на беларускай і расійскай мовах. Першы нумар вышаў 15 красавіка 1925 г.

Мабыць, прычынай іх адсутнасьці ў нашым аглядзе зьяўляецца тое, што ў гэтых выданьнях няма ніводнага артыкулу на беларускай мове. Але ў такім выпадку яны павінны быць у сьпісе пэрыодычных выданьняў на расійскай мове, якія вышлі на тэрыторыі БССР, у сьпісе, якія прысланы ў нашу бібліотэку адначасова з разгляданай бібліографіяй. Іх там няма. Такім чынам, гэтыя выданьні апынуліся ў бяспрытульных. Ёсьць у нас у бібліотэцы такое правіла: калі пэрыодычнае выданьне на расійской мове, але загаловак ці назва яго на беларускаў ці украінскай мовах,—мы зьмяшчаем яго ў

[1]) Мне вядомы толькі гэтыя №№, а №№ 10—15 напэўна ёсьць таксама.

беларускі ці украінскі аддзел, ведаючы, што калі-небудзь яно такім будзе, і беларуская (ці украінская) мова будуць ня толькі ў загалоўку, але і ў самым тэксьце выданьня. Колькі такіх прыкладаў мы ведаем! Паводле гэтага прынцыну, трэба было-б вышэйпаданыя выданьні зьмясьціць у ч. IV Летапісу Беларускага Друку.

Незразумела для мяне таксама, чаму ў аглядзе няма запісак Беларускага Дзяржаўнага Інстытуту Сельскай Гаспадаркі. Менск, 1923-1925 г. г. і Запісак Горацкага Інстытуту Сельскай Гаспадаркі. Горкі, 1924 г. Загаловак абодвух выданьняў на беларускай і расійскай мовах (і, наколькі памятаю, здаецца, яшчэ на францускай. Зараз я ня маю пад рукамі гэтых выданьняў). Паводле вышэй памянёнага прынцыпу, абодва часопісы ў нас зьмешчаны ў беларускім аддзеле. Мы не памыліліся. „Запіскі Беларускае Дзяржаўнае Акадэміі Сельскае Гаспадаркі", якія зьяўляюцца звычайным працягам абодвух выданьняў, маюць ня толькі беларускі загаловак, але і артыкулы на беларускай мове. У IV ч. Летапісу „Запіскі Беларускае Дзяржаўнае Акадэміі Сельскае Гаспадаркі" зьмешчаны, а іх пачатак,—вышэй адзначаныя часопісы,—далучаны да сьпісу пэрыядычных выданьняў на расійскай мове.

Але-ж ня можна патрабаваць, каб усе аднолькава думалі. Укладчык данага бібліографічнага агляду мае свой погляд, мы маем свой—у адносінах да разьмеркаваньня пэрыодычных выданьняў. Так што я магу застацца пры сваім асобным поглядзе ў гэтым пытаньні. .

Ёсьць яшчэ другое выданьне, якое ня зьмешчана на старонках IV ч. Летапісу. Гэта—

1. *Кніжны бюлетэнь Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі* (пэрыодычны). 1925, № 1, Менск.

2. *Аршанскі Рабфакавец.* Юбілейны часопіс, афяраваны 5-годзьдзю Аршанскага Рабфаку і яго 5-му выпуску. 5-га чэрвеня 1926 г. Рэдколегія: Левонтаў, Пісарэнка, Акулік, Эпштэйн, Сінюкоў, Рыжыкаў, Бурсаў. Ворша.

Мне здаецца, што абодва гэтыя выданьні маюць усе правы на тое, каб быць зьмешчанымі ў Летапісе Беларускага Друку ч. IV: першае—у разьдзеле I, другое—у разьдзеле „Аднаднёўкі, якія вышлі на тэрыторыі БССР".

Пераходжу да паправак, якія хацелася-б зрабіць у гэтай працы. У прадмове сказана: „матэрыял галоўным чынам апісаны de visu (не апісанае de visu адзначана *). Вытрыманы правапіс орыгіналу. Калі [дата або] колькасьць №№ не маглі быць дакладна вызначаны, дык гэта адзначалася кропкамі" Бяруся спрачацца з усімі гэтымі палажэньнямі.

Пачну з апошняга. Калі колькасьць №№ вышэйпаданых мною выданьняў, як „Biełaruś" „Камуніст", „Наш працаўнік" і інш.—ня прыводзіла да думкі аб магчымасьці існаваньня наступных №№, то—ужо бязумоўна, калі справа ідзе аб „Нашай Ніве" і за 1912 г. ёсьць №№ 1—44, за 1913 г. №№ 1—51—мімаволі прыходзіць на думку, а ці ня было тут рэшты №№? гэта зн. для 1912 г.—№№ 45—52, для 1913 г.—№ 52, і для асьцярожнасьці трэба было паставіць шматкроп'е. Гэтага ня бачым. Праўда, у шмат якіх выпадках шматкроп'е сапраўды ўжываецца,

Каб паказаць, што не заўсёды выданьні апісваліся de visu і не заўсёды правапіс вытрыманы, адзначым некалькі заўважаных недакладнасьцяй.

Пачну з драбніц. Зноў прытрымліваюся нумарацыі самога агляду.

### Разьдзел II

7. *Беларуская Работніца і Сялянка.* У аглядзе: 1924 г. №№ 1—2; 1925 г. №№ 3—14; 1926 г.—№№ 1—12;

Сапраўды-ж нумарацыя выпускаў такая:

1924 год—№№ 1—2; 1925 год—№№ 3—14; 1926 г.—№№ 15, 16, 17, 18,5 (19), 6 (20), 7 (21) і г. д. аж да апошняга № 12 (26), а ня № 12 (27).

Там-жа. 36—*Маладняк*

У аглядзе—1923 г. № 1; 1924 г. №№ 2—5; 1925 г.—№№ 6—9; 1926 г.—№№ 1—9 (!).

Сапраўды-ж — 1923 год № 1; 1924 год—№№ 2—5; 1925 год—№№ 6—9; 1926 г. № 10 (1), 11 (2), 12 (3), 4 (13), 5 (14) і г. д. да № 9, якi ўжо без падвойнага нумару, як і наступны № 10.

Разьдзел I

13. *Наша Ніва...* Выходзіць раз у тыдзень рускими и польскими литарами". А павінна быць—литэрами. Гэта, мабыць, друкарская памылка.

12. *Наша Доля*. Рэдактар яе ня И. Тукерсес, як паказана ў аглядзе, а Ян Тукеркес.

37. *Маладняк Барысаўшчыны*. Орган Акружкома ЛКСМБ, а не „Акругкому", як паказана на самай часопісі „Маладняк".

Разьдзел III

60. *Krywičanin*. Biełaruski palityčna literaruny miesiečnik. На самой-жа справе:... miesiačnik.

Разьдзел II.

3. *Аршанскі Маладняк.* Орган Аршанскае філіі ўсебеларускага Аб'яднаньня паэтаў etc. На часопісе —... поэтаў".

Апроч таго—у аглядзе: „Выд.: Акружкомол". Фактычна № 1— „выд. Акругкамола", з № 2—Акружкамолу.

Дарэчы, чаму не адзначана, што з № 3 (5) за 1926 г. месца выданьня ня Ворша, а Горкі.

Разьдзел I

7. *Дэянніца...* 1916 г. Ніводзін яе нумар не завецца „Беларуская штодзённая газэта", а „штотыдньовая". І выходзіць гэта газэта не ў Петраградзе", а „ў Пітраградзі".

Разьдзел II

22. *Дзянніца...* 1918, 1919 г. г. Месца выданьня—не „Петраград", а „Пецярбург".

Магчыма, што што-небудзь з заўважанага—простыя друкарскія памылкі. Калі так, то іх трэба было паправіць. Ва ўсякім выпадку—дватры прыклады—сапраўныя недакладнасьці ў апісаньні часопісаў; яны залежаць ад няўважлівых адносін да матэрыялу, ад апісаньня часта не de visu. Адным з галоўных патрабаваньняў, якія бібліограф павінен ставіць сабе,—зьяўляецца дакладнасьць у апісаньні матэрыялу як у драбніцах, так і ў галоўным. Ды ня толькі правільнае трэба перадаваць дакладна, але і *самыя памылкі* орыгіналу. Прыклад:

Разьдзел II

20. *Вясковая Праўда.* Газэта Барысаўскага Акруговага Камітэту КП(б)Б і Акруговага Спаўняючага Камітэту Саветаў. „[З № 6—і Акр. Савета проф. Саюзаў]". Што з № 6 адбыліся такія зьмены, адзначана. Але затое не заўважаны памылкі, якія трапілі ў падзагаловак газэты. На №№ 11—12 адзначна: „Орган Брысуска (!) Акруговага"..., на № 13 перапраўлена на „Барысускага", што і застаецца на № 14 і № 15, да канца выданьня. Між іншым, слова—„Газэта" мы знаходзім у назьве газэты толькі да № 6, а з № 6—„орган" etc...

Наогул, у часе азнаямленьня з ч. IV Летапісу ў мяне ўзьнікла пытаньне, як трэба даваць апісаньне пэрыодычнага выданьня? Па яго сучаснаму выгляду ці па першаму нумару з паказаньнем паступовых зьмен у далейшым жыцьці выданьня. Другое здаецца мне больш правільным. Цікава, як глядзіць на гэта пытаньне

укладчык данага бібліографічнага агляду. У гэтай працы ёсьць і пэрыодычныя выданьні, якія апісаны па першым нумары, і ёсьць выданьнія, якія апісаны па апошніх ці сучасных укладчыку нумарох. Другіх значна больш.

Так, па № 1 апісана ў разьдзеле II пад № 22 *Дзянніца.* „Вестка Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту...“ etc. Але не паведамляецца, што з нумару саракавога за 1918 г. да гэтай назвы дадаецца—„і Масковскай Беларускай сэкцыі РКП бальшавікоў“.

Па нумары першым апісана вышэйпаказаная „Вясковая Праўда“, і нават зроблены спробы даць гісторыю яе назвы, адзначыўшы зьмены,—але мы бачылі, наколькі ўдала было гэта выканана.

Па апошніх нумарох апісаны „Беларускі Піонэр“—гл. разьдзел II пад № 8.

8. *„Беларускі піонэр.* Штомесячная дзіцячая часопісь“.

Гэта—назва часопісу № 2, а да гэтага № 1 часопісу меў назву—„Штомесячная часопісь для дзяцей“...

Разьдзел II.

21. *„Вясковы Будаўнік.* Орган Слуцкага Акругавага Камітэту КП(б)Б і Акругавага Выканаўчага Камітэту“.

Сапрайды-ж такая назва толькі з № 29 за 1925 г., а раней было не „Выканаўчага“, а „Спаўняючага“.

41. *Малады Комуністы.* Орган Калінінскага Акругавага Камітэту ЛКСМБ.

Першапачатковая-ж яго назва: „Малады Камуніст“, Ворган Калінінскага, etc. І з № 31 за 1925 г.: замест „Ворган“—„Орган“, № 41—„Малады Комуністы“.

51. *Работніцка-Сялянская Беларусь.* Вячэрняя штодзённая насьценная газэта. „Вячэрняй“ яна робіцца з нумару чацьвертага, а да гэтага яна проста „Штодзённая беларуская насьценная газэта“.

38. *Маладняк Калініншчыны.* Орган Калінінскага Акругавага Камітэту ЛКСМБ і Ўсебеларускага Аб‘яднаньня паэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“. У першых №№—„Комітэту“, „поэтаў“. На самым першым выпуску ад 23 лістапада за 1924 г., які нумару ня мае, надрукавана: „Аднаднёўка“, што і належала адзначыць. „З № 3-га,—паведамляе складальнік,—выданьне філіі „Маладняк“. Сапраўды-ж ня з № 3, а з № 2 (1925 г.), з таго часу, калі пачынае друкавацца „Орган Калінінскага Акруговага Камітэту ЛКСМБ і акруговай філіі Ўсебеларускага Аб‘яднаньня Поэтаў і Пісьменьнікаў“.

31. *Комуністычны шлях.* Орган Аршанскага Акруговага Камітэту КП(б)Б, Спаўнаючага Камітэту і савету профэсыянальных саюзаў. Выходит два раза в неделю[1]). Такая назва ёсьць на № 1—2. № 3 таксама, але „выходзе два разы ў тыдзень“, так да № 7-га, у якім замест „Спаўняючага“—зьяўляецца, „Выканаўчага“; з № 11—„выходзіць два разы ў тыдзень“, і, урэшце, з № 16—падзагаловак—„Орган Аршанскага Акругкому КП(б)Беларусі, Выканкому і Савету Профсаюзаў. Выходзіць два разы ў тыдзень“, што надрукавана ў нашай бібліографіі. Да № 16 загаловак—Камуністычны шлях. Між іншым, не адзначана, што перад № 1 вышаў яшчэ „№ дармовы“ ад 26 верасьня 1925 г.

Вось тыя ілюстрацыі, якія мне хацелася падаць. Магчыма, што падобных прыкладаў можна знайсьці і болей, але і гэтых хопіць, каб ахарактарызаваць спосаб ці, правільней, спосабы апісаньня пэрыодычных выданьняў у гэтай працы. Было-б лепш, каб укладчык спыніўся на першым спосабе, гэта значыць на апісаньні выданьня па яго першых нумарох, але з умоваю паказаць тыя зьмены, якія адбыліся на працягу жыцьця часопісі, газэты. У некалькіх выпадках укладчык робіць такія спробы. Апроч вышэй паказанай „Вясковай Праўды“, — прыпомню яшчэ

[1]) Гэты сказ парасійску.

„Маладняк Калінішчыны“, у разьдзеле III-м пад № 61, Krупіса, там-жа пад № 33 Wajskowy, і інш., але гэта адзінкавыя выпадкі.

Нарэшце, пакажу яшчэ на адзін факт. У разьдзеле „Аднаднёўкі“ пад 1924 годам надрукавана:

*Чырвоная Варта* [Аднаднёўка] 15 красавіка, 1924 г. Менск.

Сапраўды-ж на часопісе ёсьць „Чырвоная Варта [Аднаднёўка] красавіка 15“, і больш нічога Надта добра, што ўкладчык здолеў вызначыць дату і месца выданьня. Я вось да гэтага часу далучала „Чырвоную Варту“ да Масквы, а адносна году выданьня наогул нічога ня ведала, бо нідзе ні гораду, ні году няма; трэба было б усё-ткі весткі, узятыя не з часопісу, а з боку, дзеля асьцярогі браць у дужкі.

На гэтым я скончу свае дадаткі і папраўкі. Імі я зусім ня зьбіраюся зьмяншаць вялікія вартасьці гэтага агляду. Бязумоўна, ён заслугоўвае вялікае ўвагі; бязумоўна, ён зьявіцца надта і надта каштоўным падручнікам у руках кожнага, хто цікавіцца Беларусьсю, каму дарага яе літаратура, і яго, як першую спробу сыстэматызаваньня несыстэматызаванага матэрыялу, трэба, паўтараю, толькі вітаць, але самі выдаўцы азначаюць гэтую частку Летапісу Беларускага Друку, як выданьне карэктурнае. Гэта дазволіла мне прапанаваць свае заўвагі. Воля ўкладчыка зьвярнуць на іх увагу ці адхіліць.

**Л. Арасімовіч.**

9 мая 1928 г.
Ленінград

**М. Байкоў. Наша сіла—Саветы.** Лемантар для вясковых лікпунктаў. Дапушчаны Навукова-Мэтодолёгічным Камітэтам Наркамасьветы БССР, як падручнік для лікпунктаў. *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1928 г. Старонак 158, цана 35 кап.*

На 41-эй старонцы зьмешчаны лемантар у вузейшым сэнсе гэтага слова. Далей і да самага канца ідзе пасьлялемантарная частка ў чатырох разьдзелах з дадаткам вельмі цікавае, карыснае, рознастайнае чытанкі з масай малюнкаў і фактычнага матэрыялу, часам і проста даведчага характару. У самым канцы разразная азбука і тры географічныя карты.

Усюды чырвонаю—сапраўды чырвонаю—істужкаю вызначаецца імкненьне ўкладчыка вывесьці чытачоў на правільны шлях. Гэты шлях вядзе да коопэрацыі і колектывізацыі сельскае гаспадаркі, да змычкі гораду з вёскаю, а беспартыйнага грамадзкага актыву—з партыяй, пад чыім кіраўніцтвам толькі і можна ўнікнуць памылак да ўлічваньня ранейшае рэвалюцыйнае практыкі, дзякуючы чаму наш СССР можа быць надзейнаю апораю для працоўных усяго сьвету. Да тэорэтычных палажэньняў дадаецца і ілюстрацыйны фактычны і мастацкі матэрыял. Чыста даведчыя табліцы чаргуюцца з практычнымі ўзорамі (як напісаць ліст, як скласьці заяву ў тую або іншую ўстанову і да г. п.). Гэткі лемантар-чытанка з малюнкамі, з портрэтамі правадыроў працоўнае клясы і пісьменьнікаў—зьява наогул пажаданая, а яго танная цана (за 158 старонак толькі 35 капеек) прымушае нас шчыра дзякаваць Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву, якое раней ня часта нас цешыла гэткімі нечаканасьцямі. Гэта першае чыста знадворнае ўражаньне. Але і з нутранога боку лемантар наогул кажучы—ня кепскі.

Пачнем разгляд лемантара з першае старонкі. Малюнак вёскі з сельсаветам і коопэратывам. Унізе тры гадзіньнікі і лічбы арабскія і рымскія да 12. Па сярэдзіне старонкі знаходзіцца наступнае першае практыкаваньне: Наша сіла—Саветы. Саветы—наша сіла. Сіла наша—Саветы. Саветы—сіла. Сіла—наша. Пытаньні: Разгледзьце гэты малюнак. Што на ім нарысавана? Каму належыць цяпер у нас улада? Ад якога часу існуюць у нас Саветы? Хто выбірае і каго выбіраюць у Саветы?

Мы бачым аналітычна-сынтэтычны мэтод цэлых слоў. Слова, як зрокавы вобраз, і слова, як слыхавое ўражаньне, падмацоўваюцца яшчэ ўяўленьнем самага прадмету знадворным—намалюнку і інтэлектуальным—у гутарцы з слухачамі, плян якое паданы апытальнікам.

Такім-жа самым парадкам вядзецца і далейшая работа. Так, сказ: „Нашы Саветы — Леніна запаветы“ ілюструецца портрэтам Ільліча, які чытае „Праўду“ (зьмяшчаючы якраз гэты, а ня іншы портрэт правадыра, укладчык яшчэ раз напамінае вучням аб чытаньні, аб грамаце, аб навуцы).

На сёмай старонцы словы ўжо падзяляюцца на склады і ёсьць практыкаваньне: „Злажэце самі новыя словы, у якія увойдуць ужо знаёмыя вам склады“. Такім чынам аналіз чаргуецца з сынтэзам. Раіцца таксама адшукваць знаёмыя словы ў газэтах і кнігах, а потым і друкаваць гэтыя словы складамі (адпаведныя склады знаходзяцца ў разразной азбуцы).

Пачынаючы з 10-ае старонкі, вучні знаходзяць у лемантары і практыку ў пісаньні.

Матэрыялам для навучаньня грамаце служаць кароткія выслоўі грамадзнаўчага і сельска-гаспадарчага зьместу: Нашы Саветы—сіла. Наша рада – ары папар рана. Камунай працаваць—ад працы карыстаць. Восем палеткаў на полі—корму і хлеба даволі. Хто быў нічым, той стаў усім. Калі саюз маю,на кулака не зважаю. Горад і вёска—сіла адна і да г. п. Чым далей, тым больш месца займае кожны артыкульчык, які тлумачыць лёзунг. Напрыклад, пад сказам „Гэта бой наш астатні за працоўны народ“ (стар. 34), мы бачым ужо даволі зьмястоўнае і не асабліва кароткае апавяданьне аб тым, „Як змагаліся рабочыя і сяляне за свае правы“. На старонцы 37 мы бачым „Беларускую марсэльезу“, а пасьля беларускае азбукі (на старонцы 38, бо ў лемантарох, укладзеных паводле прынцыпу цэлых слоў, азбука ня бывае ў самым пачатку),—мы знаходзім ужо і правапіснае правіла (аб вялікай літары ў пачатку ўласных іменьняў), якое займае цэлую старонку; на наступнай старонцы ідзе ортографічнае практыкаваньне. Апошняя старонка чыста лемантарнае часьці занята ўзорамі адрасоў на лістох, цалкам практычная і вельмі ўдалая думка. Шкада, што гэты дзелавы падыход да селяніна мае ў лемантары толькі выгляд спробы.

Як бачым, з мэтодычнага погляду ня шмат чаго можна закінуць першай частцы разгляданае намі кніжкі. Амаль усё проста, практычна і выгодна. У другой частцы, побач з некаторымі дасягненьнямі, мы можам знайсьці і даволі важныя недахопы. Адзначым усё гэта.

У чытанцы, якую ўкладчык называе пасьлялемантарнай часткаю, мы знаходзім ужо даволі складаныя заданьні, напрыклад, раіцца прачытаць кніжку „Аб плодазьмене“ і вымеркаваць для сябе саміх, як можна было-б перайсьці на шматпольле. Ёсьць і арытмэтычныя працы: па лічбах, даных у даведчым разьдзеле, вылічыць рост коопэрацыі ў Беларусі (стар. 72), далей—больш простае заданьне—прачытаць у даведчым разьдзеле артыкул аб старым і новым стылі і вылічыць, на якую дату новага стылю прыпадае 9 студзеня (стар. 102); цікава і наступнае заданьне па лічбах, даных ў даведчым разьдзеле,—параўнаць прастору і лік жыхароў паасобных савецкіх рэспублік“ (стар. 107).

Матэрыял для вылічэньняў можна знайсьці і ў схеме жыцьця Уладзімера Ільліча Леніна (задачы на час) і ў табліцы: лік членаў і кандыдатаў УсеКП(б) у розныя гады, пачынаючы з 1905. Асабліва шмат арытмэтычнага матэрыялу знаходзіцца ў апошнім даведчым разьдзеле (старонка 151—155). У гэтых заданьнях было-б пажадана больш плянавасьці.

У канцы гэтага разьдзелу ёсьць веды аб гігіене (стар. 156) і ўзоры дзелавых дакумантаў (стар. 157 і 158). Шкада, што гэтым вельмі важным практычным ведам дана мала месца.

Побач з артыкулам грамадазнаўчага і сельска гаспадарчага зьместу ёсьць і літаратурныя творы,—пераважна—вершы. Выбар добры, але за важны дэфэкт і за саўсім недапушчальную самаволю трэба лічыць тое, што ўкладальнік без патрэбы скарачае часам творы таго ці іншага песьняра (ня робячы аб гэтым ніякіх уваг). Так, верш Я. Коласа „Доля батрачкі“ (стар. 99 і 100) і верш Янкі Купалы „Савецкая Беларусь“ (стар. 115) скарочаны, і, значыцца, абязьвечаны, а чытач можа аб гэтым і ня ведаць. Калі ўкладчык (або рэдактары: П. Капаевіч і Ф. Сьцепановіч) дзеля тых або іншых меркаваньняў палічылі за патрэбнае скараціць пэўны твор, то чытач павінен быць аб гэтым паведамлен. Вельмі ня добра і тое, што ў кніжцы для вясковых лікпунктаў мала прыродазнаўчых артыкулаў.

Наогул-жа кніжка робіць даволі прыемнае ўражаньне, і, здаецца, будзе прыдатнаю і карыснаю для вясковых лікпунктаў. На вокладцы зьмешчан каляндар і сьпіс рэволюцыйных сьвят, а таксама і параўнаўчая табліца мерак. Не забыліся нават і на тое, каб кніжкі дарма ня губляліся: зроблен надпіс: „пісьменны, перадай лемантар няпісьменнаму!“

**Л. Цьвяткоў.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

## Сярод пісьменьнікаў, літаратараў, поэтаў

* Да юбілею Цішкі Гартнага, 17 сьнежня 1928 г., чэска-славацкае таварыства экономічнага і культурнага зьбліжэньня з Новай Расіяй у Празе-Чэскай наладжвала вечарсход, прысьвечаны 20-цігадоваму юбілею Цішкі Гартнага. На вечары *проф. доктарам Зд. Нэедлым* быў зачытаны даклад на тэму *„Палітычныя і культурныя дасягненьні БССР“* і даклад вядомага чэскага пролетарскага песьняра *Язэпа Гора* на тэму *„Значэньне Цішка Гартнага ў беларускай літаратуры“*.

Пасьля дакладаў чыталіся ў перакладзе на чэскую мову Язэпам Гора творы юбіляра. Вечарыну наведала звыш тысячы чалавек. Прэзыдыум вечару-сходу ад імя ўсіх прысутных надаслаў Цішку Гартнаму наступнага зьместу прывітаньне:

**Беларускаму пісьменьніку, таварышу Цішку Гартнаму, Менск**

Паважаны таварыш!

Таварыства экономічнага і культурнага зьбліжэньня з Новаю Расіяй, адзначаючы на ўрачыстым публічным сходзе 17 сьнежня 1928 г. ў Празе лекцыямі проф. Здэнека Нэедлага і песьняра Язэпа Гора значэньне Вашага 20-цігадовага юбілею грамадзкай і літаратурнай чыннасьці, пасылае Вам сардэчнае таварыскае павіншаваньне і найшчырэйшае пажаданьне найлепшых посьпехаў у працы на шляху далейшага разьвіцьця маладое беларускае культуры, якая пры ўладзе саветаў мае столькі прыгожых магчымасьцяй для поўнага разvою ўсіх яе творчых сіл, на посьпех і на чэсьць нам так блізкага і мілага беларускага народу.

Проф. д-р *Здэнек Нэедлы.*
Старшыня таварыства.

Д-р *Ян. Секаніна.*
Кіраўнік справамі таварыства.

Прага,
17-XII—28 г.

* Левая чэха-славацкая прэса аддала значную ўвагу Цішку Гартнаму з прычыны сьвята яго дваццацігадовага юбілею літаратурнай і грамадзкай чыннасьці. Цэлы шэраг газэт і часопісаў зьмясьціў артыкулы, портрэты юбіляра ды яго творы, перакладзеныя на чэскую мову. Так, у № 346 ад 14 сьнежня „Prager Presse“ зьмешчаны артыкул „Літаратурны юбілей“, у якім адзначаецца літаратурная і грамадзкая чыннасьць Цішкі Гартнага і пералічаюцца напісаныя ім творы. У часопісу „Tvorba“ (№ 7 ад 15 сьнежня) зьмешчаны артыкул M. Kavceviča „Да дваццацігадовай літаратурнай чыннасьці беларускага пісьменьніка Цішкі Гартнага. У № 39 ад 13 сьнежня літаратурнае газэты „Literarni Hoviny“ надрукованы артыкул „Дваццаць год літаратурнае чыннасьці Цішкі Гартнага“ з портрэтам юбіляра. Гэтайжа назвы артыкул, так-сама з портрэтам Цішкі Гартнага, зьмешчаны ў № 346 ад 15 сьнежня ў газэце „Narodni Osvobozeni“ і артыкул „Цішка Гартны“ ў № 271 ад 16 сьнежня ў газэце „Rude Pravo“. У літаратурным дадатку да гэтае газэты № 278 зьмешчаны верш „Будаваньне“ ў перакладзе Язэпа Гора. Ці-

кава, што другі верш „Работніцка-сялянская рэволюцыя“ ў перакладзе Язэпа Гора быў сконфіскаваны цэнзурай, і на старонцы газэты асталося белае месца са словамі ўверсе „C. Hartny;“ а ўнізу „Prek. I. H.“. У літаратурным дадатку да тае-ж газэты „Rude Pravo“ № 6 за студзень месяц бягучага году надрукавана апавяданьне Цішка Гартнага „Дойдзем, сынок“ у перакладзе вядомага чэскага профэсара з Братыславы дактара Ф. Ціхага. Нарэшце, проф. Адольф Чэрны ў сваім часопісу „Pregled Slovensky“ зьмясьціў артыкул пра юбілей Цішкі Гартнага, портрэт юбіляра і некалькі вершаў у сваім перакладзе.

Таксама шырака і багата адзначыла юбілей Цішкі Гартнага украінская прэса. Гэтак, у часопісу № 12 за мінулы год „Чырвоны Шлях“ зьмешчаны солідны артыкул тав. Вароніча на тэму „Творчы шлях Цішкі Гартнага“, у якім разглядаецца ўся творчасьць юбіляра і падаецца яго біографія. У № 12 часопісу „Маладняк“ зьмешчаны портрэт юбіляра, артыкул З. Д. „Цішка Гартны — дваццаць гадоў літаратурнай чыннасьці“, і перакладзена на украінскую мову апавяданьне Цішка Гартнага „Праводзіны“. Таксама артыкулы, пераклады і прысьвячэньні зьмешчаны ў часопісу „Авангард“, „Плуг“, „Рабочая Газэта“ ды інш.

* 24 сьнежня адбылося ўрачыстае паседжаньне Беларускай Акадэміі Навук, прысьвечанае юбілею Цішкі Гартнага. З дакладамі на паседжаньні выступілі проф. У. Ігнатоўскі, проф. М. Піотуховіч і Я. Лёсік. Зрабіў кароткі ўспамін аб першых спатканьнях з юбілярам В. Ластоўскі. Паседжаньне вынесла рэзолюцыю-прывітаньне Цішку Гартнаму.

* 28 сьнежня Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт наладзіў паседжаньне, прысьвечанае 20-гадоваму юбілею Цішкі Гартнага. На паседжаньні былі зачытаны даклады проф. М. Піотуховіча, проф. І. Замоціна і Я. Лёсіка, прысьвечаныя літаратурнай творчасьці юбіляра.

* Знайшлася частка рукапісаў Я. Купалы дарэволюцыйнага часу, якія не маглі друкавацца пры царскай цэнзуры і аб якіх аўтар думаў, што ўжо загінулі. Знайшліся гэтыя рукапісы сярод багатага архіву і кніг вялікай бібліотэкі вядомага піонэра беларускага адраджэньня і апякуна ўсіх бел. пісьменьнікаў дарэволюцыйнай эпохі Б. І. Эпімах-Шыпілы. Сярод знойдзеных матэрыялаў ёсьць верш („Перад вісяльняй“), які аўтар, працуючы ў „Нашай Ніве“, друкаваў на нашаніўскім шапірографе бяз ведама кіраўнікоў газэты і размнажаў сярод знаёмых.

Творы гэтыя Купала зьбіраецца з належнымі ўвагамі апублікаваць у адным з бліжэйшых нумароў „Полымя“.

* *Зарэцкі Міхась* зараз пачаў пісаць новы роман з сучаснага жыцьця. Роман пакуль што ня мае назвы.

* *Баран Сымон* напісаў аповесьць „На абрэзках зямлі“, якая мае друкавацца ў часопісу „Маладняк“.

* *Бандарына Зіна* канчае пісаць поэму „Комсамол Беларусі“.

* *Александровіч Андрэй* здаў Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву для надрукаваньня асобнай кніжкай пераклад поэмы „Адыгейскі пясьняр“ украінскага поэты В. Полішчука.

* *Каваль Васіль* напісаў новую аповесьці „Лесавікі“.

* Пастановай Савету Народных Камісараў БССР надана беларускаму вядомаму драматургу, артыстаму Уладыславу Галубку годнасьць народнага артыстага рэспублікі і вызначана пэрсональная пэнсія ў разьмеры стаўкі адказнага політычнага працаўніка.

Уладыслаў Язэпаў Галубок нарадзіўся ў Менску ў сям'і сьлесара чыгуначнага дэпо ў 1882 годзе. Скончыў гарадзкую школу. Потым працаваў каля 20 год на чыгунцы ў якасьці рахункавода. З 1908 году Галубок пачаў друкавацца ў бела-

рускай газэце „Наша Ніва“. Тут, а таксама і ў іншых пазьнейшых беларускіх выданьнях Галубок пісаў кароткія апавяданьні, у якіх у жывой народнай мове адбіваў жыцьцё бедных сялян. З 1917 г. Галубок пачаў пісаць драматычныя творы, і ад гэтага часу вядомы шырокім працоўным масам Беларусі сваімі комэдыямі і драмамі. З прыходам савецкае ўлады ў Менск Галубок організуе беларускі тэатр, якім абслугоўвае фабрыкі, заводы і бліжэйшыя да Менску вёскі. Тэатр адразу ўзяў курс на масавага працоўнага гледача і ўпартай працай заваяваў яго. Цяпер самыя глухія куткі нашай рэспублікі добра ведаюць і любяць гэты тэатр, які зараз называецца Беларускім Дзяржаўным Вандроўным Тэатрам. З маленькага аматарскага колектыву артыстых тэатр, дзякуючы ўпартай і ўмелай працы кіраўніка тэатру Галубка, вырас у буйны колектыў. Пераважная частка рэпэртуару гэтага тэатру складаецца з п'ес Галубка.

Галубок за апошнія гады напісаў шмат бытавых драм і комэдый, сярод іх такія, як „Суд“, „Ганка“, „Пан „Сурынта“, „Плытагоны“ ды інш., карыстаюцца вялізарным посьпехам па ўсёй БССР і ставяцца ўжо шмат разоў ня толькі ў выкананьні Беларускага Вандроўнага Тэатру, але і розных гурткоў.

Усяго Галубок напісаў каля 20 п'ес, але на гэтым яго праца ня скончана; ён продукцыйна працуе ў даны момант над п'есамі з сучаснага жыцьця. Галубок, як драматург, як артысты, мае вялікія заслугі перад працоўнымі масамі БССР.

* Дзяржаўнае Выдавецтва РСФСР у сэрыі „Творчасьць народаў СССР“ канчае друкаваць і ў хуткім часе выпускае ў продаж: „Апавяданьні“ Гартнага Цішкі і „У палескай глушы“, Коласа Якуба ў перакладзе на расійскую мову.

* Беларускія пісьменьнікі Чарот М., Александровіч А., Дудар А. і інш. выехалі ў Маскву і Ленінград для азнаямленьня з дасягненьнямі сучаснай пролетарскай культуры.

* У апошнім месяцы 1928 г. ў памяшканьні Вышэйшых дзяржаўных літкурсаў адбыўся вечар літаратуры народаў СССР, на якім ад сэкцыі нацыянальных пісьменьнікаў „Кузьніца“ выступалі беларускія поэты Дуброўскі і Бэндзік.

* У рукапісным аддзеле Аршанскага акруговага краязнаўчага музэю знойдзен зборнік вершаў на польскай, расейскай і беларускай мовах пад агульнай назвай „Dudka biało-ruskaia“. Зборнік напісаны ў м. Паставы і Падленполь б. Вялейскага павету. У пачатку гэтага зборніка ідуць вершы Ф. Багушэвіча з „Дудкі Беларускай“. У параўнаньні з выданьнем „Дудкі“ Дзяржвыдавецтвам ёсьць лішні верш „Niemiec“ („Немец“). Канчаецца зборнік артыкулам „Стосунак рухоў нашых до справы ўласьцянскай“. Узьнікае пытаньне, паколькі Багушэвіч сам прымаў удзел у паўстаньні 1863 году, якое разьбілася аб неспачуваньне сялянства панам ці паўстанцам, то ці не зьяўляецца гэты артыкул працай Ф. Багушэвіча.

Кніга накіравана ў Бел. Акадэмію Навук для апробацыі.

**Тэатр, мастацтва, музыка**

* Камісія па вывучэньні народнага мастацтва пры Беларускай Акадэміі Навук выпушчае альбом беларускай народнай тканіны Віцебшчыны з зарысоўкамі т. Астрэйкі.

У альбоме будзе зьмешчана каля 67 зарысовак.

* Рэжысэр БДТ-І Міровіч А. зараз піша кіно-сцэнары з рэволюцыйнай эпохі 1905 г. на Беларусі. Кіно-сцэнары выводзіць рэволюцыянэра Пуліхава.

* У памяшканьні Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту 4 студзеня была адчынена трэцяя ўсебеларуская мастацкая выстаўка. На выстаўку прадстаўлена звыш 900 экспонатаў.

Апрача мастацкіх аб'яднаньняў Менску і Віцебску ёсьць карціны

мастакоў-беларусаў Масквы, Ленінграду, Харкаву, Кіеву, Гомелю і Віцебску. Перад выстаўкай мастаком былі разасланы тэмы, якім прысьвечана выстаўка. Выставачны камітэт прасіў выслаць малюнкі, што адбіваюць партызаншчыну, окупацыю, будаўніцтва Беларусі, падпісаньне маніфэсту і г. д.

Малюнкі з жыцьця партызан выстаўлены цэлым радам мастакоў. Зьвяртаюць на сябе ўвагу карціны мастака Волкава і Эндэ (Віцебск), Бразэра (Менск), Бульчава (Ленінград) і Філіповіча (Масква).

Цікава адзначыць надзвычай удалыя портрэты Галубка і Галадзеда і этуд хлопчыка, выстаўленыя мастаком Кругэрам. Цікавыя карціны мастакоў Каўроўскага, Паўлоўскага, Касьцялянскага, Бардзюкоўскага і раду другіх мастакоў.

Графіка прадстаўлена цэлым радам мастакоў. Вызначаюцца работы Астаповіча, Марыкса. У выстаўленых скульптурах прадстаўлены Грубэ, Шыфрын, Шульц. Грубэ даў на выстаўку дзьве новыя скульптуры, з якіх барэльеф „Будаўніцтва" выразаны з дрэва.

Надзвычай цікавыя выстаўленыя мастаком Філіповічам цацкі, якія выяўляюць беларускі вясковы быт.

На выстаўцы быў невялікі аддзел мастакоў-самавукаў і тэатральны аддзел, прадстаўлены макэтамі і зарысоўкамі мастака Марыкса.

3-яя ўсебеларуская мастацкая выстаўка характарна тым, што нагляднa паказвае рост беларускіх мастакоў. У той час, як ранейшыя 2 выстаўкі былі запоўнены этудамі, на гэтай выстаўцы быў рад вялікіх скончаных малюнкаў.

* У хуткім часе Белмузтэхнікум рыхтуе опэру „Тарас на Парнасе". Таксама рыхтуецца опэра „Русалка", якую ставіць Белмузтэхнікум разам з Беларускай Дзяржаўнай Капэляй.

* У другое паўгодзьдзе БДТ-І будзе пастаўлены цэлы шэраг новых і старых п'ес. У канцы лютага 1929 г. будзе пастаўлена п'еса Рамановіча „Мост", якая малюе дзейнасьць адданага савецкай уладзе спэцыялістага. Маюць быць пастаўлены п'есы: Дзяржавіна „Шлак", Шашалевіча і Лахматага. Апроч гэтага, будуць адноўлены п'есы: „Кар'ера т. Брызгаліна" і „Перамога". „Кар'ера т. Брызгаліна" будзе пастаўлена на рухомай сцэне, у новай конструкцыі, з новымі макетамі.

У канцы тэатральнага сэзону будзе пастаўлена адна кляс̧ычная п'еса. На пастаноўку гэтае п'есы будзе запрошаны рэжысэр тэатру Вахтангава, Аляксей Папоў.

* *Беларуская Дзяржаўная Капэля*, як хор, арганізавалася ў верасьні 1926 году па ініцыятыве тагачаснай муз. падсэкцыі ІБК. Дырыжэр А. Егораў і выкладчык сольфэджыо (ён-жа і настаўнік па пастаноўцы голасу) вядомы артысты-сьпявак В. А. Сэлях працуюць у Капэлі і да гэтага часу. Як хор, так і яго мастацкія кіраўнікі са шчырасьцю і адданасьцю вывучаюць і па-мастацкаму выконваюць рад апрацаваных беларускіх песень. У пачатку свайго заснаваньня хор складаўся з 74 сьпевакоў. У апошні час Капэля злучылася з вячэрняй харавой клясай пры Музтэхнікуме пасьля пільнага адбору спэцыяльнай камісіяй лепшых галасоў з абодвух харавых колектываў. Цяпер Капэля складаецца з 55 сьпевакоў. Мэта злучэньня—як чыста концэртныя выступленьні, так і выступленьні ў опэрах, якія паступова падрыхтоўвае опэрная кляса музтэхнікуму. У сучасны момант Капэля, не пакідаючы ўзбагачаць свой концэртны рэпэртуар народнаю песьняю, падрыхтавала хоры да новай беларускай опэры „Тарас на Парнасе".

* А. Вольны і Файнцыпэр распрацоўваюць сцэнары новага гістарычнага фільму „Белы генэрал" (Стрэкапытаўшчына ў Гомелі).

* Белдзяржкіно даручыла Юрыю Тарычу, кіно-настаўніку, „1812 г. на Беларусі“. На фоне гістарычных даных у кіно-карціне 1812 г. на Беларусі будзе дана асабістая драма прыгоннага беларуса-апалчэнца, яго жыцьця, быт, настроі беларускага сялянства ў пачатку XIX стал.

Карціна будзе здымацца пераважна ў Менскай і Бабруйскай акругах.

* У сьвята 10-годзьдзя БССР у Беларускім Дзяржаўным Музэі была арганізавана аддзел-выстаўка навачаснага беларускага мастацтва. У гэтым аддзеле будзе сабрана да 50 экспонатаў.

Да выстаўкі выдаецца монографія-каталёг з падрабязным апісаньнем кожнага экспонату.

### Хроніка беларускай навукі

* Саветам Народных Камісараў БССР зацьверджаны акадэмікамі Беларускай Акадэміі Навук наступныя асобы: Ус. Ігнатоўскі—прэзыдэнт Акадэміі, Жылуновіч Зьм., Матулайціс С., Колас Якуб (Міцкевіч), Купала Янка (Луцэвіч), Некрашэвіч С., Лёсік Язэп, Гарэцкі Г., Ластоўскі В., Дурнаво М., Пічэта Ул., Афанасьеў Я., Блюдухо М., Ясінскі М., Замоцін Ів., Грэдынгэр М., Тарашкевіч Бр., Малюшыцкі М., Дубах А., Вышаўлеўскі С., Пятровіч І., Вольфсон С.

Апроч таго, для сувязі з БАН ад Акадэміі СССР выбраны акадэмікі Карпінскі, Ольдэнбург, Мар, Пакроўскі і Вільямс. Ад Украінскай акадэміі акадэмікі—Забалотны, Туркоўскі, Скрыпнік і Яворскі.

СНК БССР зацьвердзіў прэзыдыум БАН у наступным складзе: прэзыдэнт Акадэміі—тав. Ігнатоўскі, віце-прэзыдэнты—Бялуга і Некрашэвіч, неадменны сакратар—Ластоўскі, члены прэзыдыуму — Малюшыцкі, Аршанскі і Баліцкі.

У зьвязку з перайменаваньнем Інбелкульту ў Беларускую Акадэмію Навук, акадэмічная рада зацьвердзіла проект арганізацыі наступных новых катэдр: катэдры хэміі, фізыкі, катэдры марксызму, клясы прыгожага пісьменства і камісіі для вывучэньня фізыолёгіі.

Гэтымі днямі чакаецца прыезд для працы ў галіне вывучэньня экономікі Беларусі рэктара Самарскага сельска-гаспадарчага інстытуту проф. Сахацкага.

Акадэмія хутка пераяжджае ў новы будынак на рагу Ленінскай і Унівэрсытэцкай вуліц, які адведзены ёй Саўнаркомам. Гэта дасьць магчымасьць лепш паставіць ляораторна-габінэтную работу аддзелу прыроды і гаспадаркі.

Як і раней, Акадэмія будзе трымаць цесную сувязь з краязнаўчымі організацыямі і разьвіваць навуковыя досьледы ў галіне культур нацменшасьцяй у Беларусі (яўрэйскі, польскі сэктары, літоўская катэдра і латыская камісія).

* Культурна-гістарычн. сэкцыя Студэнцкага Навукова-Дасьледчага Краязнаўчага таварыства пры БДУ па вывучэньні Полаччыны зараз апрацоўвае вельмі цікавыя матэрыялы, якія даюць новае асьвятленьне гістарычным падзеям краю, у прыватнасьці мінулага Запалацьця (частка гораду за р. Полатаю, дзе ўперад быў горад).

У Вушацкім раёне вывучаліся вадзяныя і грунтовыя шляхі, якія праразаюць гэты раён. Асабліва цікавую зьяўляецца р. Вуша, якая сваімі прытокамі злучаецца з прытокамі ракі Бярозы. Абапал р. Вуша раскідана шмат могільнікаў, курганоў; гэта сьведчыць аб тым, што даная рэчка, відавочна, служыла ў старыя часы шляхам перасоўваньня славян па Бярозе—Ушачы на Заходнюю Дзьвіну.

Тут-жа сэкцыя дасьледавала вельмі цікавую вёску пад назваю „Славены“. Відаць, што гэта вёска была заселена ў дагістарычныя часы славянамі, якія прынесьлі з сабою шмат каменных прасьніц з чырвонага шыфэру, Прыкарпацкага пахаджэньня. Гэтыя прасьніцы трапляюцца ў Сла-

венах на гародах, на палёх, і сэкцыя сабрала тут за адзін дзень каля паўтара дзесяткаў прасьніц.

Ёсьць думка, што полацкія крывічы якраз і мелі кірунак свайго перасяленьня з Прыкарпацьця, праз Беларускае Палесьсе, Бярозу, Вушач на Заходнюю Дзьвіну.

Між іншым, у м. Кублічах выяўлена вельмі цікавая культура „каменных магіл“, якая сустракаецца на захадзе Беларусі, у Горадзеншчыне ды іншых мясцох.

Адна з магіл была раскапана і ў ёй знойдзена 2 пахаваньні паводле абраду трупапалажэньня. Па рэчах, знойдзеных на касьцякох і пастаўленых у нагах гаршкох, гэтыя магілы можна аднесьці да пэрыоду кургановай культуры.

У Славенах быў раскапаны магільнік-курган, у якім знойдзена на грунце трупаспаленьне, а вышэй яго на тры чвэрці—жаночае трупапалажэньне. На жаночым касьцяку знойдзены ножык, а на шыі—шкляныя пацеркі ды прывеска з арабскай срэбнай монэты „дзіргем“.

* У кастрычніку 1929 г. ў Празе Чэскай адбудзецца ўсеславянскі зьезд філёлёгаў. Беларуская Акадэмія Навук атрымала запрашэньне прыняць удзел у работах зьезду. На зьезд маюць паехаць проф. Замоцін, проф. Дурнаво, проф. Бузук і т. Некрашэвіч.

* Правапісная камісія Беларускай Акадэміі Навук канчае зараз разгляд беларускага правапісу, пасьля чаго ён будзе сыстэматызаваны і выйдзе, як проект для рассылкі ўсім зацікаўленым установам. Пасьля гэтага будзе ўтворана спэцыяльная камісія для канчатковае ўхвалы проекту.

Проект правапісу будзе надрукаваны прыблізна ў лютым.

* У бліжэйшы час мяркуецца арганізаваць на Беларусі рад новых навукова-дасьледчых інстытутаў. Амаль што скончана работа па арганізацыі інстытуту прамысловасьці БССР. Проект складзены Інбелкультам і ВСНГБ і ўносіцца на зацьвярджэньне ў СНК. Інстытут пачне працаваць з 1929 году.

Зараз высунуты проект арганізацыі на Беларусі інстытуту экономікі, які будзе яднаць усю навукова-дасьледчую работу па экономічных пытаньнях Наркамат Аховы Здароўя павялічва ў працягу бліжэйшых 5-ці год лік сваіх інстытутаў з 7 да 12.

* На працягу бліжэйшых некалькіх год адбудзецца рад усесаюзных археолёгічных зьездаў. Першы зьезд будзе скліка765ны сёлета ў РСФСР, другі—на Украіне і трэці зьезд у 1931-32 годзе—на Беларусі. Адным з галоўных заданьняў усесаюзнага археолёгічнага зьезду на Беларусі зьявіцца абсьледваньне вялікага воднага шляху з „Варaг у Грэкі“, які, як вядома, праходзіў праз Беларусь па Дняпры і Бярэзіне.

У Менску створаны організацыйны камітэт па падрыхтоўцы да ўсесаюзнага археолёгічнага зьезду ў Маскве. Беларуская Акадэмія Навук пашле на гэты зьезд рад сваіх прадстаўнікоў.

* Беларуская Акадэмія Навук сабрала багаты матэрыял аб архітэктурных тыпах будоўлі ў розных раёнах Беларусі. Сабраныя зарысоўкі ілюструюць архітэктурныя асаблівасьці старажытных цэркваў, званіц, сінагогаў, мячэцяй, розных тыпаў хат і інш. будынкаў.

Гэтыя зарысоўкі будуць выданы ў выглядзе асобнага альбому.

### Хроніка друку

* Друкуецца Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам і ў хуткім часе выйдзе з друку II том збору твораў Якуба Коласа.

* У хуткім часе будзе надрукованы Бел. Дзярж. Выдавецтвам зборнік фэльетонаў Леаніда Свэна „Чароўная іголка“.

* У Белдзяржвыдавецтве друкуецца зборнік апавяданьняў Гэргарда Поль „Усё-ж такі няма міру“ ў перакладзе з нямецкай на беларускую мову Ю. Зэмеля.

* ЦБ т-ва краязнаўства выпушчае часопісь „Наш Край“ і паасобныя выданьні. За мінулы год выпушчаны 2 зборнікі аб Асіпавіцкім раёне, адзін з іх укладзены выключна асіпавіцкімі краязнаўцамі. Рыхтуюцца да друку і хутка выйдуць у сьвет зборнікі: аб Аршаншчыне—III том, Віцебшчыне — IV том, Магілеўшчыне—III том, Полаччыне, Меншчыне (статыстычныя матэрыялы) і краёвы слоўнік Мазыршчыны. Зборнік прысьвечаны апісаньню прыроды, гаспадаркі і культуры гэтых частак Беларусі.

* А. Оршын здаў БДВ для надрукаваньня сваю вялікую аповесьць на беларускай мове „Цяжкія роды“.

* У Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве друкуецца новая дзіцячая літаратура: Чарняўская—„Кот знайдзён“; Якімовіч—„Дзед—вярні дуб“; Мур—„У бурную ноч“; М. Крыніцкі—„Пра ваўка“; Караблёў—„Каля пяці крыніц“.

* Да 10-годзьдзя БССР БДВ наладзіла ў Доме Селяніна выстаўку беларускае кнігі. Выстаўка навочна паказала рост выдавецкае справы ў Беларусі, рост як колькасны, так і якасны. Тут, на некалькіх шчытох, разьмясьціліся асобныя аддзелы беларускае кнігі: падручнікі, прыгожае пісьменства, дзіцячая літаратура, нацлітаратура ды інш. Тут-жа паказан процэс вытвору кнігі на рознастайных яго ступенях. З пяці назваў у 1919 г. выданьні, пачынаючы з 175 назваў у 1925 г., паступова ідуць уверх, у 1926 г. яны складаюць лічбу 275, у 1927 г.—399 і за 11 месяцаў 1928 г.—400 назваў.

Паказана таксама беларуская графіка. Прадстаўлены працы мастакоў т. т. Хіжынскага, Керчарскага ды іншых. Цікавы портрэт Леніна, зроблены з друкарскіх лінеек, работы Г. Рубінскага.

Афармленьне беларускае кнігі ўжо раней заслужыла пахвальны водгук: у 1927 г. на ўсесаюзнай паліграфічнай выстаўцы ў Маскве Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву прысуджана другая прэмія.

Грамадзтва выявіла даволі значную цікавасьць да выстаўкі. Асабліва шмат было індывідуальных наведнікаў, экскурсій—да 10, сярод іх толькі 2—3 экскурсіі рабочых.

**Хроніка беларускай культуры ў саюзных рэспубліках і за рубяжом СССР**

* У толькі што вышаўшым у сьвет расійскім часопісу „Революция и культура“ надрукованы артыкул проф. М. Піотуховіча на тэму „Беларуская літаратура кастрычнікавага пэрыоду“.

* Рэдакцыя „Большой советской энциклопедии“ запрасіла матэрыял пра беларускіх пісьменьнікаў Цішку Гартнага і Алеся Гаруна.

* У № 11 за мінулы год украінскага часопісу „Молодняк“ зьмешчана кароткая біографія Цішкі Гартнага.

* Вядомы украінскі часопіс „Чырвоны Шлях“ сыстэматычна з нумару ў нумар аддае шмат месца хроніцы беларускай культуры.

* У № 3 за студзень месяц чэскае газэты „Rude Pravo“ зьмешчаны артыкул N. Zingel назваю „Дзесяць гадоў Беларускае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі“.

* Чэскі пролетарскі пясьняр Яраслаў Зэйферт пераклажыў на чэскую мову верш Міхася Чарота „Комсамолец“. Пераклад надрукаваны ў чэскім ілюстраваным часопісу „Reflektor“ № 1 за бягучы год з портрэтам Міхася Чарота.

* 15 студзеня бягучага году паступовае беларускае студэнцтва ў Чэхаславаччыне наладжвала ўрачыстае паседжаньне ў Празе, прысьвечанае дзесяцігодзьдзю існаваньня БССР.

Програма паседжаньня складалася з: 1) нацыянальнага гімну, 2) уступнага слова райцы пасольства СССР М. Калюшніча, 3) дакладу І. Ленскага на тэму: „Дзесяць гадоў БССР“ і 4) концэртнага аддзяленьня.

* Чэскае таварыства экономічнага і культурнага зблізіжэньня з новай Расіяй выдае спэцыяльны нумар свайго часопісу „Nove Rusko“, прысьвечаны цалкам БССР. У нумары будуць зьмешчаны артыкулы пра беларускую літаратуру, тэатр, кіно, навуку, экономіку, законы зямельныя і шлюбныя, карныя ды інш. Таксама будуць надрукованы портрэты вядомых беларускіх дзеячоў з ураду, літаратуры і навукі.

* Чэскі літаратурны часопіс „Literarni Noviny“ у нумары першым за бягучы год са здавальненьнем адзначае наладжаньне культурнае сувязі паміж БССР і Чэха-Славаччынай. Газэта лічыць выточным пунктам у гэтай справе канец 1927 году, калі Чэха-Славаччыну наведалі беларускія пісьменьнікі Янка Купала, Цішка Гартны, Міхась Чарот і Міхась Зарэцкі. Газэта пералічае ўсе пераклады з чэскае на беларускую мову ўзораў чэскае літаратуры, адзначаючы важную ролю ў гэтай справе часопісу „Полымя“, пэрсональны сьпіс рэдакцыі якога падаецца цалкам.

# ХРОНІКА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ ЗАМЕЖНЫХ КРАЇН

* З Бэрліну паведамляюць: 9 кастрычніка адбыўся аукцыён рэчаў—памятак Гётэ. На гэты аукцыён сабраліся ў вялікім ліку шанавальнікі Гётэ і прадстаўнікі музэяў і архіваў. Аукцыён адбываўся толькі 20 хвілін і набытак дасягнуў 300.000 марак. На аукцыёне прадаваліся між іншымі рэчы-памяткі знаёмства Гётэ з аднэй графіняй, з якой ён зышоўся ў Тэпліцы ў 1812 годзе. Гэта—рукапісы некаторых вершаў, пёркі, якімі Гётэ пісаў, і некаторыя з яго малюнкаў. Гётаўскі нацыянальны музэй набыў за 2.150 марак уласнаручны малюнак Гётэ, з відам на Карльсбад. Збор 17 лістоў Гётэ да вышэйпамянёнай графіні, ацэненых у 10.000 марак, не знайшоў пакупніка, бо лісты прадаваліся толькі разам, а не паасобку.

* Канадзкай літаратурай ня цікавіліся доўгі час ня толькі на чужыне, але нават і на яе бацькаўшчыне. Цяпер Чарль Г. Д. Робэртс—цяперашні волат канадзкай літаратуры—зрабіў імя канадзкай літаратуры больш вядомым сваімі романамі з жыцьця паляўнічых і зьвяроў. Яго кніжкі вышлі ў Канадзе, у Злучаных Штатах, апрача таго, у Ангельшчыне, а ў перакладах—у Швэцыі, Даніі, Чэха-Славаччыне, а галоўным чынам у Нямеччыне, але рэдка хто з чытачоў ведае добра, што ён чытае кніжку канадзкага аўтара. Уласна кажучы, гэта зьява ёсьць і цяпер, з тэй толькі розьніцай, што ў даны час адзінокая Канада ўжо сама ведае лепш сваю літаратуру, чым дзесяць гадоў назад.

Прайшло даволі часу, пакуль Канада пачала ўсьведамляць сабе важнасьць мастацтва—асабліва літаратуры—для свайго народнага разьвіцьця. Толькі за апошнія 7 гадоў канадзкія унівэрсытэты і школы ўвялі курсы канадзкай літаратуры, урэшце, у апошнія часы вырашана выдаваць заслужаным аўтарам залатую мэдаль за „Службу канадзкай літаратуры“. Цяпер найбольш вядомымі і найлепшымі аўтарамі сучаснай канадзкай прозы, апрача памянёнага Робэртса, зьяўляюцца Бліс Кэрмэн, Чэмбэль Скотт, Мэбэль Дэнгам, Мак Донайд і Фрыдрых Піліп Грау. З пісьменьнікаў выдзяляюцца асабліва Э. І. Прэт.

1926 г. вызначыўся буйным разьвіцьцём канадзкай поэзіі, 1927 г.—размахам прозы.

Асаблівы посьпех мае „A search for Amerika“ Грау. Гэта роман, які аўтар напісаў ужо ў 1894—95 гадох, калі ўсякія перашкоды для швэцкага эмігранта—а такім тады быў малады Грау—былі яшчэ сьвежымі ў памяці аўтара. Кніга ўласна не зьяўляецца романам, хутчэй гэта аўтбіографія. Доўгія гады кніжка не знаходзіла выдаўца. Толькі пасьля вайны яна была надрукована, а потым пачалі выдавацца далейшыя кніжкі гэтага пісьменьніка. У апошнія часы зьяўляецца „Наш штодзенны хлеб“, рэалістычны роман, напісаны паміж 1902 і 1917 г.

Канаду наогул лічаць маладой краінай, якой належыць вялікая будучыня, але, ня гледзячы на гэта, яна мае за сабой гістарычныя прыгоды. Паселішчы колёністых існавалі ўжо ў Канадзе каля 75 гадоў таму назад, пакуль мораплаўца Гэнрых Гудзон адкрыў затоку, у якой можна было пабудаваць порт—цяперашні Нью-Ёрк. Уплывы французскія і ан-

гельскія змагаліся паміж сабой. Шэраг войнаў з індзейцамі, шэраг рэволюцый,—вось той матэрыял, якім літаратура можа шырока карыстацца, што канадзкая літаратура ў рачаіснасьці і робіць. Вынікае шэраг біографій, апісаньняў прыгод вынаходнікаў, і таму лік романаў і поэтычных твораў з гістарычным зьместам даволі значны. З гэтых гістарычных романаў асабліва выдзяляюцца: „Toward Sodom" і „The Trail of the Conestoga" Б. М. Дэнгана, прысьвечаныя войнам Амэрыкі за незалежнасьць. Далей ідуць: „Царства сонца" А. М. Стэфэна ды „іншыя часы, іншыя шляхі" Георга Бучарда. Роман „Толькі гэта" Джэмса Пэдлея апавядае аб прыгодах канадзкага афіцэра ў часе сусьветнай вайны.

Шэраг паляўнічых кніжак і авантурных романаў канадзкіх аўтараў зьяўляецца даволі значным па сваёй колькасьці, але, апрача адзначанага Робэртса, жадны з іх не дасягнуў такога посьпеху, як амэрыканскія аўтары — Джэк Лёндон, З. Грэй, І. О. Кэрвуд ды інш. Таму прыхільнасьць да сваіх аўтараў павялічваецца, адначасна паляпшаецца якасьць канадзкай літаратуры, і можна чакаць, што канадзкая літаратура зойме ў сусьветнай літаратуры пачэснае месца.

* *Юры Вольтэр—Баляда аб матросе*—твор, які ў колькасьці 200 паасобнікаў выдаў В. Пэтр у Празе. Аб гэтай балядзе Вольтэра, можна сказаць, ужо і няма патрэбы пісаць: вельмі ўжо яна зрабілася популярнай. Ведаюць яе студэнты, працоўныя, дзяўчаты і ўсе, хто хоць трошкі чытае. Гэта поэтычная рэч вабіць да сябе людзей сваёй прыгожасьцю, і няма чаго дзівіцца, што некалькіх мастакоў яна прыцягнула да далейшай творчай працы. Яна цяпер зацікавіла Рыхарда Ляндэра, які ўпрыгожыў гэтую кніжку вокладкай, тытульнай старонкай, а галоўнае трыма гравюрамі. Ляндэр намаляваў, як матрос ідзе ў сьвет, потым матроса ў бары ў Марсэлі, урэшце, зварот матроса дамоў, дзе знайшоў сваю жонку з другім. Ляндэр утварыў гэтым рэч высокай вартасьці, узгодніўшы цалкам гэтыя малюнкі са зьместам твору, так што і твор, і ілюстрацыі ўтвараюць прыгожае адзінства. Але калі-б нават выкінуць гэтыя малюнкі з кніжкі, чалавек, гледзячы на іх, даведаўся-б аб цэлай трагедыі няшчаснага матроса. Вельмі мала такіх выразных малюнкаў, як гэтыя. Тэхніка Ляндэра заслугоўвае ўвагі. В. Пэтр надрукаваў у друкарні Прамысловай 200 паасобнікаў гэтай цудоўнай кніжкі; цана кожнага з іх толькі 100 чэск. кар. Сума зусім невялікая. Кожнаму, хто можа вылажыць такую суму на рэч, што ня траціць сваёй цаны, мы прапануем гэтую кнігу.

* Роман колектыву зусім асаблівага гатунку ў нямецкім перакладзе Гэрмініі цур Мюлэн зьявіўся ў выданьні Рютэн і Лёнінг у Франкфурце на Майне. Называецца ён „Калі фірма абанкруцілася", аўтар – Натан Аш, амэрыканскі апавядальнік, які грунтоўна ведае сваіх землякоў і адначасна здольны да агульнаграмадзкай крытыкі. Уласна, роман гэты толькі відавочна роман колектыву, бо ў той момант, калі фірма банкруціцца, яна ўжо не зьяўляецца колектывам, распадаецца на індывіды, на якіх банкруцтва робіць розны ўплыў. І момант банкруцтва для кожнага з гэтых індывідаў, як для шэфаў, так і для стэнографістак, агентаў, кампаньёнаў і служачых, ёсьць момант лёсу, момант фатальны: кожны з іх, пастаўлены па-свойму перад новым жыцьцём ці перад рашучым канцом старога, перажывае моманты самазамяшаньня, перастае быць машынай ці кіраўніком чалавечай машыны; усе пазнаюць сваё асабістае існаваньне і судзяць—сьвядома ці несьвядома—самых сябе. Натану Ашу ўдалося прасачыць тузіну індывідуальных лёсаў, пачынаючы з цэнтру банкруцтва фірмы і

да кожнай асобы, якія ўспрыймаюць гэты лёс то актыўна, то пасыўна. Ясна, што дробныя служачыя павінны маральна цярпець ад банкруцтва, а шэфы тымчасам горда глядзяць у будучыню. „Фірма банкруціцца і кідае людзей бяз сродкаў, без надзей. Але жыцьцё ня спыняецца“. Таксама і тут жыцьцё ідзе далей на Нью-Ёрскім Вальстрыце і ня інакш, як у іншым якім-небудзь месцы. Усюды банкруцяцца фірмы, каб даць месца другім новым. І рэдка бывае, што шэфы зьяўляюцца пакутнікамі.

* Пауль Лепін, праскі поэта, які з сваіх маладых гадоў належаў да кола супрацоўнікаў „Moderni Revue“, сьвяткуе ў гэтым месяцы сваю 50-ю гадавіну. Нарадзіўся 27 лістапада 1878 г. у Празе, дзе скончыў гімназію і зрабіўся дзяржаўным чыноўнікам. Лепін—пісьменьнік, які ў сваіх раманах распрацоўвае эротычныя тэмы, прычым месцам падзей выбірае праскія колы. Напісаў цэлы шэраг твораў, сярод якіх бачым романы: „Дзьверы жыцьця“, „Данііл Езус“, „Блуканьне Сэверына ў цемры“, „Капялюшы прыяцеляў“, далей, эротычнага зьместу творы: „Вэнэра“, новэля „Рай другога чалавека“. На доўгі час ён змаўкае, але цяпер да яго 50-й гадавіны выйдуць творы: „Стракатая лямпа“, вершы і „Прамова забойцы дзяцей перад сьвітавым судом“ (абодвы творы ў Празе ў „Bücher-stube“), нарэшце, драма—„Блакітны цырк“ (выдае Фр. Коль).

* Альфрэд Вольфштэйн (Нямеччына) выдае новы зборнік поэзіі „Bewegungen“ (Рухі).

* Дзесяць поэтаў Італіі, у тым ліку Бонтэмпельлі і Марынэцьці, організавалі групу пад назвай І Dieci (Дзесяць).

* Вядомы чэскі літаратурны крытык Сальда пачаў выдаваць свой уласны літаратурна-крытычны часопіс пад назваю „Запісная кніжка Сальда“. Супрацоўнікаў другіх Сальда ня мае, усе артыкулы піша сам. Шырока ахапляе літаратурнае жыцьцё Чэхіі.

## ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ.

* Пры інстытуце Шаўчэнкі організуецца літаратурны музэй, у якім будуць сабраны орыгінальныя творы, усе рэчы, а таксама карціны Шаўчэнкі.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны выдае Анталёгію найноўшай нямецкай поэзіі.

* Украінскі поэта Іван Кулік пераклаў і перадаў зборнікам ДВУ для надрукаваньня выбраныя вершы Уітмана.

* Наркамасьветы УССР організоўвае на Украіне цэнтральную ўзорную капэлю кабзароў. Для кіраваньня капэляй запрошаны вядомы знаўца кабзарскай справы Ігнат Хаткевіч.

* У лютым месяцы бягучага году адбудзецца ў Кіеве выстаўка проектаў помніку Т. Шаўчэнку.

* У Парыжы пачаў выходзіць двухтыднёвы часопіс „Новая Украіна“ (Z Ukraine Nouvelĕe) з мэтай азнаёміць Францыю з украінскім жыцьцём.

* Савет Народных Камісараў УССР вызначыў пэрсональную пэнсію вядомаму украінскаму пісьменьніку Васілю Стэфаніку.

* Капэля „Думка“ ў бягучым годзе мае намер паехаць у Парыж і даць некалькі концэртаў.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, Я. Купала, А. Баліцкі, Я. Васілевіч, М. Чарот.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

# ЗЬМЕСТ ЧАСОПІСУ „ПОЛЫМЯ“ ЗА 1928 ГОД

## Мастацкая літаратура



*) Рымскія лічбы азначаюць нумар часопісі, арабскія—старонку.

## Навуковыя, палітычна-грамадзкія і экономічныя артыкулы

## Артыкулы па гісторыі і рэволюцыйнаму руху Беларусі



## Літаратурна-крытычныя артыкулы

## Кнігапіс